ШТОМЕСЯЧНЫ НАВУКОВЫ І МЕТАДЫЧНЫ ЧАСОПІС

# Роднае слова

2010/9
(273)
верасень

ЗАСНАВАЛЬНІК:
МІНІСТЭРСТВА
АДУКАЦЫІ
РЭСПУБЛІКІ
БЕЛАРУСЬ

УСТАНОВА
«РЭДАКЦЫЯ ЧАСОПІСА
"РОДНАЕ СЛОВА"»

Часопіс выходзіць
з 1988 года
(у 1988 – 1991,
№№ 1 – 48,
выдаваўся пад назвай
**"Беларуская мова
і літаратура ў школе"**)



**WWW.RS.UNIBEL.BY**

# Змест




Часопіс уключаны ў Пералік навуковых выданняў ВАК Рэспублікі Беларусь для друкавання вынікаў дысертацыйных даследаванняў па філалагічных навуках, мастацтвазнаўстве, культуралогіі, педагагічных навуках (тэорыя і методыка навучання беларускай мове і літаратуры).



# ЛІТАРАТУРА І ЧАС

*З літаратурнай спадчыны*

Мікола ЗАХАРАНКА

## "ПЕСНЯ ПРА ЗУБРА" МІКОЛЫ ГУСОЎСКАГА Ў КАНТЭКСЦЕ КУЛЬТУРЫ ЕЎРАПЕЙСКАГА АДРАДЖЭННЯ

Усходнееўрапейскія культуры адчулі несумненны ўплыў еўрапейскага Рэнесансу; у XV – XVI стст. гэтыя культуры перажываюць асаблівую эпоху ў сваім развіцці, якая мае некаторыя рысы, агульныя з еўрапейскім Рэнесансам; названая эпоха настолькі своеасаблівая па светаадчуванні і эстэтыцы і настолькі адрозніваецца нават ад паўночнаеўрапейскага Адраджэння, што калі яна і ўяўляе сабой Рэнесанс, то асаблівага тыпу.

У гэтым сэнсе цікава суаднесці светаадчуванне і эстэтыку "Песні пра зубра" Міколы Гусоўскага з класічным (італьянскім) Адраджэннем. Незвычайныя для ўсходнеславянскіх літаратур папярэдніх эпох і несумненна рэнесансныя адносіны Гусоўскага да мастацкага слова і да мастацкай індывідуальнасці. Усходнееўрапейскай культурнай традыцыі было ўласціва ўсведамленне высокага значэння "кніжнай" справы і "кніжнага" слова як служэння найвышэйшай ісціне і яе пачцівага і пранікнёнага адлюстравання і аднаўлення. Гэтыя традыцыйныя адносіны да слова з'яўляюцца ў паэме Гусоўскага толькі адным з аспектаў. Паэт не адчувае сябе адзіна прыладаю Божага Наканавання. Ён усведамляе сябе перш за ўсё аўтарам – асобаю, якая сама за сябе адказвае і ў адзіноце нясе адказнасць за выкананне свядома і добраахвотна ўзятай на сябе творчай задачы, мастаком-дэміургам, гаспадаром над словам, цалкам адказным за створаны ім сілаю слова ў творчай адзіноце свет. Тыпова рэнесансныя ў паэме адносіны да слова як да жывой істоты, капрызнай і цудоўнай, што падпарадкоўваецца толькі ўладнаму майстэрству.

Можна заўважыць у "Песні пра зубра" і такія аспекты адносін да слова і місіі мастака-творцы, якія ўласцівыя менавіта Гусоўскаму. Фінал пачатковага звароту да чытача ва ўласным падрадковым перакладзе гучыць так: *"І цяпер я вымушаны буду або пасці пад такім цяжкім грузам, або распачаць паметы майго нясталага розуму"*. У арыгінале "пасці або распачаць паметы" ёсць усвядомленае адчуванне творчай дылемы, перад якой пастаўлена



***Юрый Якавенка.* Афорт з цыкла ілюстрацый да паэмы "Песня пра зубра" Міколы Гусоўскага.** 2007 г.

асоба і дзе на самай справе няма выбару, бо пісаць паэму – і прызванне, і свабодная воля душы. Затое творчы вынік і сапраўды залежыць ад здольнасці мастака пераадолець страх перад "такім цяжкім грузам". Тут няма таго рэнесанснага адчування поўнай свабоды і высокага свавольства мастака, які нават не сумняваецца ў сваім праве быць дэміургам створанага ім свету. Але тут няма і сярэднявечнай пакорлівасці "пісца", чыёй рукой водзіць Бог, боязі зрабіць апіску, не так перадаць нейкую ісціну, што ад яго асабіста не залежыць. Гусоўскі бярэ на сябе і рызыку, і абавязак ставіць свае "паметы" на кнізе жыцця. Перад намі зачатак адносін да творчасці як сплаву мастацкай волі творцы і аб'ектыўнай праўды жыцця.

На працягу ўсёй паэмы Гусоўскі неаднаразова падкрэслівае прымат жыцця над творчай воляй мастака ў змесце і прымат творчай волі

мастака ў “форме” твора. Ён імкнецца менавіта расказаць праўду пра бачанае і перажытае, але гэтае перажытае (зразумела, адлітае ў вершаваную форму мастацкага твора) з’яўляецца мэтай і героем твора.

Аб’ектыўны свет і суб’ектыўнае яго перажыванне чалавекам-мастаком для Гусоўскага найвышэйшая ісціна, а не проста прадмет адлюстравання. І гэтая ўсвядомленая суб’ектыўнасць перажывання як найвышэйшая ісціна ідзе цалкам ад Рэнесансу, а прымат аб’ектыўнага свету нават над суб’ектыўнасцю не нагадвае ні антычнага “пераймання” натуры, ні сярэднявечнага сімвалізму і адрозніваецца ад таго прымату мастацтва і творчай волі мастака над жыццём, якія так характэрны для класічнага Адраджэння.

Неадназначныя і адносіны Гусоўскага да ідэі акультурвання свету творчасцю, якая заключае самую сутнасць класічнага Рэнесансу. Паэт імкнецца да гарманічнай дасканаласці формы, але не за кошт эстэтызацыі зместу. Гусоўскі захапляецца жывой стыхіяй жыцця зусім па-рэнесанснаму, эстэтычна, але гэтая стыхія дарагая яму сама па сабе – як вітальная сіла, што стаіць вышэй за любую эстэтыку, як грандыёзнасць і, магчыма, нават недасканаласць рэчаіснасці ў яе пачварнасці і велічы, у яе адначасовых прыгажосці і бязладдзі.

У мастацтве класічнага Рэнесансу стыхійнасць жыцця толькі элемент мастацтва, мастацкага твора. У Гусоўскага гэтая стыхійная сіла – адзін з двух полюсаў таго цэлага, дзе другім полюсам з’яўляецца мастацтва: гэта ўжо эстэтыка Байрана з яе тытанізмам і дысгарманічнасцю, гармонія над безданню.

Прымат рэчаіснасці, жыцця чалавечага і грамадскага над форматворчасцю і словатворчасцю ў паэме Гусоўскага ёсць выражэнне яго ўсвядомленай веры не проста ў выхаваўчыя функцыі мастацтва (у гэта ў роўнай ступені верылі і мастакі Сярэднявечча, і творцы Рэнесансу), а і ў высокую выхаваўчую місію рэчаіснасці, што ўсвядомлена і ацэнена – у яе Дабры і Зле, велічы і недасканаласці, трагічнасці і прыгажосці, у яе этычнай і грамадзянскай значнасці – душой чалавека-творцы і свядомасцю чалавека-мастака. Праз усю паэму праходзіць імкненне паэта апяваць толькі праўду. Было б гістарычнай мадэрнізацыяй успрымаць гэтае крэда як погляды мастака-рэаліста XIX ст. ці нават як “рэалістычны” рацыяналізм мастакоў-класіцыстаў XVII ст. Не “праўда” рэчаіснасці сама па сабе і не “суд” над ёю з пазіцый таго ці іншага ідэалу цікавяць Гусоўскага. Паэт успрымае рэчаіснасць як прыклад творчай магутнасці і як – адначасова – нейкую грандыёзную недасканаласць, якія разам падахвочваюць чалавека-творцу і чалавека-дзеяча да спаборніцтва ў творчасці. Тут Гусоўскі выходзіць з “рамак” Рэнесансу, для якога творчасць заўсёды была культуратворчасцю, справай чыста духоўнай.

У захапленні, з якім паэт апісвае жыццё, гаворыць пра кнігі і г. д., адчуваецца рэнесансная прага пазнання, паўната пачуццяў і захопленасць імклівым імгненнем, рэнесанснае ў Гусоўскім і тое непаўторнае пачуццё, з якім ён прызнаецца ў сваіх чалавечых слабасцях. Вясёлая шчырасць чалавека, які верыць у дасканаласць людской прыроды і ўласную здольнасць гэтай дасканаласці дасягнуць. Паэт імкнецца праявіцца і самасцвердзіцца ў жыцці ўсёй паўнатой сваёй асобы: мастака і паляўнічага, суразмоўніка і воіна, чалавека, які прагне асалоды жыцця, ласкі, весялосці, і дзяржаўнага мужа, які заклапочаны лёсам радзімы і ўсяго чалавецтва.

Гусоўскі ў той жа час сумяшчае агульнарэнесансныя рысы з рысамі прадстаўніка ўсходнееўрапейскай культуры свайго часу: рэнесансны інтэлігент у ім суіснуе з рэлігійным кніжнікам, любаванне рэнесанснай культурай і абвостранае пачуццё нацыянальнай годнасці зусім не ўласцівы італьянскаму Адраджэнню, нават для дзеячаў Паўночнага Рэнесансу рэдкі маралізм, які даходзіў да рыгарызму, да этычнай нецярплівасці ў абароне сваіх святынь, без якога нельга ўявіць “Песню пра зубра” і які наскрозь пранізваў усю ўсходнееўрапейскую культуру, што ішла ад традыцый Кіеўскай Русі. Зусім немагчыма для мастака і чалавека Сярэднявечча сцвярджэнне гэтай страсці, гэтага выбуху пачуццяў як высокай чалавечай каштоўнасці і гэткае ж рэдкаснае для тыповага прадстаўніка Рэнесансу супрацьпастаўленне стыхійнасці пачуццяў іх акультуранасці.

І яшчэ адна, незвычайная для Сярэднявечча і Рэнесансу, душэўная якасць. Ні сярэднявечнае адчуванне вечнасці і вера ў аддзяку ў жыцці пасмяротным, ні рэнесансная радасць цяперашняга імгнення і поўнай самааддачы яму не засланяюць ад Гусоўскага цудоўнага і журботнага пачуцця хуткаплыннага існавання і не выцясняюць з яго душы элегічнай тугі па мінулым, дарагім і незабыўным. Аднак Гусоўскі яшчэ цьмяна ўсведамляе сваю сутнасць папярэдніка на шляху духоўна-этычных і сацыяльна-чалавечых пошукаў і спроб аб’яднаць чалавека і грамадства, асобу і народ, пошукаў, якія ўтвараюць аснову асноў, святая святых рускай, беларускай, украінскай і польскай літаратур XVIII – XX стст.

Ужо ў самым пачатку паэмы Зубр паўстае як стыхійная грандыёзная сіла, як цуд прыроды (і цуд тварэння), які цудам жа і захаваўся. Гэта адначасова і нешта міфічнае (накшталт пачвар антычнай міфалогіі), і жывая рэальнасць прыроды, і фальклорнае яе ўвасабленне, і таямніца, якая вабіць і прыцягвае.

Але самае галоўнае – супрацьпастаўленне двух спосабаў быцця – акультуранага гарадскога жыцця і свету, пагранічнага паміж культурай і варварствам, свету проціборства людзей з прыродай і стыхійнымі сіламі, якія пагражаюць патапіць агульнаеўрапейскую культуру. Цывілізацыі Заходняй Еўропы Гусоўскі супрацьпастаўляе той памежны свет Усходняй Еўропы, які забяспечваў параўнальна мірнае развіццё рэнесанснай цывілізацыі і які з прычыны гэтай пагранічнасці не належаў да рэнесанснай цывілізацыі, хоць і быў неад'емнай часткай агульнаеўрапейскай культуры. Гусоўскі ўвесь час балансуе на мяжы прыроднага і чалавечага. Зубр адзіны ў дзвюх іпастасях, ён адначасова і тытан прыроды, які ў сваёй анімальнай сутнасці супрацьпастаўлены чалавеку як істоце цывілізаванай, і – чалавек, які ў сваёй гераічнай аснове выступае ідэалам мастака. Гэтая двухадзінасць вобраза, двухполюснасць яго мастацкай прыроды і з'яўляюцца, бадай што, галоўнай асаблівасцю "Песні пра зубра" і Гусоўскага як мастака таго часу. У сваім героі – і ў зубры, і ў чалавеку – паэт вылучае перш за ўсё яднанне сілы, бясстрашша і адсутнасці неправакаванай агрэсіўнасці.

*Мікола Андрэевіч Захаранка – паэт, празаік, драматург, публіцыст. Друкуецца ў перыядычных літаратурных выданнях Беларусі з 1971 г. П'еса "Паехалі!" пастаўлена ў Нацыянальным акадэмічным драматычным тэатры імя Я. Купалы (1996). Творы ўвайшлі ў анталогію "Апавяданне – 2005", выданне "Кветка для анёла: Зборнік п'ес для аматарскіх драматычных і лялечных тэатраў" (2003), зборнікі "Вясёлка: Апавяданні, казкі, вершы" (2002), "Вясёлка – 50: Вершы, апавяданні, казкі, п'есы" (2007). Настаўнік Швабскай базавай школы Лагойскага раёна.*



Гусоўскі падкрэслівае, што гэтая стыхійная анімальная сіла не ператвараецца ў бяссэнсавае зло, не становіцца беспрычынным парывам да знішчэння жывога.

Рэнесансная эстэтызацыя жыцця, адчуванне яго як жывой суладнасці і мастацкай каштоўнасці адначасова распаўсюджваецца на свет некранутай прыроды: прыроднае тут параўноўваецца з чалавечым і ў сваёй прыгажосці, і ў сваіх правах. Гусоўскі прыўносіць у наскрозь гарадскі дух заходнееўрапейскага Адраджэння імкненне да зліцця стыхійнага і культурнага пачаткаў.

Зубр як "герой" паэм – тытан свету мінулага, велічны і гераічны вобраз сілы натуральнаспрадвечнай (спрадвечнай прыроднай, спрадвечнай чалавечай). Гусоўскі стварае гэты вобраз з любоўю, захапляючыся ўрачыстай веліччу і гарманічнай цэласнасцю гэтай сілы, яе ўнутранай стыхійнай годнасцю і патрыярхальнай жывучасцю, з элегічным смуткам адчуваючы непазбежную гібель гэтага асуджанага на знікненне свету.

Аўтар не ідэалізуе свайго героя. Зубр для яго не толькі цудоўнае, але і жахлівае. Жахлівае звонку чалавека – стыхійны свет прыроднага і сацыяльнага "варварства", якое пагражае яшчэ не памацнелай юнай цывілізацыі. Жахлівае ў сярэдзіне чалавека – стыхійныя сілы, што карэняцца ў яго прыродзе, здольныя разбурыць "культурную абалонку" асобы, якая яшчэ не паспела стаць яе чалавечай існасцю, разбурыць тое зерне гуманнасці, якое ўжо пасеяна ў чалавеку, але не прарасло. Паэта насцярожваюць і тыя парасткі ўсвядомленай свабоды "я", якія ў роўнай ступені могуць даць плады і Дабра, і Зла, новай гармоніі са светам і разбуральнага свавольства. Гусоўскі яшчэ і таму з сыноўнім смуткам развітваецца з мінулым, што ў ім няма ўтапічнай неагляднай веры класічнага Рэнесансу ў будучае: ён адначасова і спадзяецца, што гэтае будучае будзе лепшым за мінулае і цяперашняе, і асцерагаецца, як бы яно не аказалася горшым, чым яны. У гэтым сэнсе Гусоўскі – мастак-гуманіст ужо не так Рэнесансу, як барока. У трывозе яго не толькі пачуцці мысляра, які стаіць на парозе буржуазнай эпохі, але і настальгія чалавека, які належыць эпосе ўсходнееўрапейскага Сярэднявечча, але ўжо развітваецца з родным светам гэтага напалову патрыярхальнага грамадства і напалову чужой, але тым больш мілай яму, мараллю сярэднявечнага хрысціянства.

Зубр – эпічны герой паэмы як ідэал і як сіла, супрацьлеглая ідэалу, як з'ява прыроды і чалавек-тытан ва ўсёй супярэчлівасці. Паляўнічы, так бы мовіць, – ліра-эпічны герой Гусоўскага не столькі *alter ego*, колькі вобраз чалавека-дзеяча ў яго супрацьборстве з прыродай і адначасова ў яго прыродным натуральным жыцці. Паляўнічы – частка прыроды, пакуль ён не атаясамліваецца з рэнесансным інтэлігентам, і ён жа чалавек, здольны супрацьстаяць стыхійнай сіле прыроды – зубру.

Апісанне палявання як часткі жыцця беларускага народа носіць рэалістычны бытавы характар. Да палявання героя Гусоўскага прымушае прыроднае асяроддзе. Іншая прычына, па якой, паводле Гусоўскага, тагачасны беларус не можа не быць паляўнічым – гэта ўжо сацыяльная, гістарычная неабходнасць. У "Песні пра зубра" сцвярджаецца і раскрываецца абавязак славяніна быць паляўнічым, інакш – воінам, які мусіць падтрымліваць і выхоўваць у сабе воінскі дух. Паэт стварае гімн паляванню (спаборніцтву чалавека з прыродай) як спосабу жыцця, што выхоўвае ў чалавеку сілу і мужнасць, прамадушнасць і бясстрашша – якасці адначасова і воінскія, і агульнамаральныя.

Зубр пакідае людзей, якія ў барацьбе з ім прымяняюць “хітрасць”. Інакш – прырода, аказваецца, вучыць чалавека, які знаходзіцца ў пастаянным кантакце і паядынку з ёй, не карыстацца нявартымі сродкамі ў імя дасягнення мэты. Гусоўскі бачыць (ці, ва ўсякім разе, прадбачыць), як з высокай рэнесанснай “мэты” – стварыць ідэальныя ўмовы для ўсебаковага гарманічнага развіцця асобы – выцякае маральная неразборлівасць у сродках. Гэтай небяспецы – ужо і ў часы Рэнесансу не проста патэнцыяльнай – паэт супрацьпастаўляе не адзін толькі “абсалютны маралізм” хрысціянскага Сярэднявечча, але і ўсходнееўрапейскае, жывое адчуванне “прыроднай недазволенасці” амаральных паводзін чалавека. Паляванне тут не толькі школа ваяўнічасці, яно выступае ў паэме “школай” воінства за справу святую, справу праведную, якая выключае магчымасць несумленнай перамогі.

Для Гусоўскага-мастака паляўнічы толькі ўдзельнік вялікага паядынку: не больш і не менш “блізкі” або “чужы”, чым другі гладыятар – зубр. Аўтар параўноўвае з зубром не толькі паляўнічага, але і сябе, як персанажаў “Песні…”, якія аднолькава падлягаюць яго суду. Не сам чалавек і не сама прырода – аб’ект сцэн палявання, а роднасць і барацьба дзвюх тытанічных сіл – чалавека і прыроды.

Уся паэма па задуме і пабудове – “арэна”, на якой разгортваецца паядынак паляўнічага з зубром, чалавека з прыродай, паядынак, поўны велічы і годнасці. Гусоўскі прапануе відовішча і ўрок свайму чытачу: відовішча па-сапраўднаму вартай чалавека барацьбы і паводзін не на пацеху публіцы, не ад “цывілізаванай” сытасці, а прадыктаваных неабходнасцю гістарычнай і быційнай.

Толькі паядынак дзвюх роўных сіл, у якім няма і не можа быць вырашанага наперад выніку і няма карысці, а ёсць страсць, вітальная сіла прыроды, – варты чалавека – вось пра што хоча расказаць, вось якім відовішчам хоча нас захапіць Гусоўскі. “Жахлівае відовішча”, пра якое ён гаворыць, азначае ўзвышэнне, велічна цудоўнае. А паўната жыцця абавязкова ўключае ў сябе і ўсю паўнату выпрабавання чалавечых сіл.

Тэма паядынку, у якім адступаць ганебна, а спрабаваць ашукаць лёс і пагібельна, і сорамна, атрымлівае сваё далейшае развіццё. Страх аказваецца цудоўным, бо пабуджае да пераадолення, і яшчэ больш цудоўны паядынак адзінаборства, калі смерці і іншым пагрозам лёсу чалавек супрацьпастаўляе толькі ўласную сілу, годнасць, бясстрашша. Тут праяўляецца не так рэалізм Рэнесансу, як яго тытанізм: радасць адзінаборства яшчэ болей узрастае ад яго публічнасці (паляўнічы адчувае сябе на арэне, перад поглядамі іншых, такіх жа адзінаборцаў, і перад усёй светабудовай – сведкам гэтага рысталішча), але і гэта ўсяго толькі кампанент той асалоды, якую ён адчувае – асалоды ісці “ва-банк” у гульні з жыццём.

Чым больш апантаны і люты звер, тым больш апантаны і люты паляўнічы. Абодвум (і аўтару разам з імі) уласцівы адзін і той жа азарт, адно і тое ж захапленне ў бойцы. Веліч і магутнасць саперніка нараджае і бязмерна ўзмацняе ў адказ веліч і магутнасць другога акцёра гэтай грандыёзнай гераічнай трагедыі, якая завецца жыццём. У гэтым гераічным тэатры яшчэ можа быць спагадлівасць да слабасці, але абсалютна немагчымая паблажлівасць да яе.

Гусоўскі, як і Шэкспір, зусім не ўзвялічвае “звышчалавека”, але, як і ў Шэкспіра, “маленькі чалавек” для яго раўназначны “нявартаму чалавеку”. Слабасць чалавечая для Гусоўскага сапраўды каштоўная, але толькі як падстава для яе пераадольвання. Паэт і на самай справе парэнесансному абагаўляе чалавека, але толькі ў найвышэйшых яго праявах. Патрабавальнае захапленне – вось як можна было б вызначыць адносіны Гусоўскага да чалавека: патрабавальнае захапленне і такая ж патрабавальная трывога (бо зубр заўсёды зубр, ён заўсёды на вышыні ў адрозненне ад чалавека!). У той жа час стыхійная магутнасць зубра не толькі прыцягвае, але і трывожыць і насцярожвае.

Зубр – волат прыроды: у ім для Гусоўскага велічна, цудоўна і натуральна ўсё, уключаючы лютасць. Але нават у гэтай велізарнай натуральнай сіле, у якой не можа быць злых усвядомленых намераў, паэт празорліва бачыць жудаснасць, не абмежаваную нічым, акрамя роўнай ёй сілы, здольнасць да разбурэння. І ў чалавеку Гусоўскі любуецца перш за ўсё яго стыхійнай магутнасцю, прыроднай адвагай, яго “зубрыным”. Без гэтай стыхійнасці, натуральнай сілы, волі і духу для паэта няма чалавечай велічы. Нават у зубры ён захапляецца гераічным індывідуалізмам, здольнасцю аднаму супрацьстаяць свету. Гэтая ж гераічная здольнасць захапляе Гусоўскага і ў чалавеку-індывідууме. Але ў адрозненне ад “класічнага” Рэнесансу з яго прыманнем і апраўданнем усяго ў чалавечай прыродзе (а значыць, і індывідуалізму ўвогуле) Гусоўскі бядуе ўжо не з прычыны “бездапаможнасці” чалавека з усёй веліччу яго адвагі, а з прычыны небяспекі гэтай стыхійнай магутнасці. Гусоўскі ставіцца да чалавечай прыроды і з захапленнем, і з глыбокай насцярожанасцю. У яе стыхійнасці ён бачыць не толькі крыніцу тытанічнай магутнасці, але і каласальную сілу, здольную ў любы момант прарваць яшчэ тонкую абалонку культуры і знішчыць усё вакол сябе. Мастак прадбачыць прывабліўую небяспеку гэтай бездані не толькі па-за чалавекам, але і ў ім самім.

Адзінства “Песні пра зубра”, якая знешне нібы распадаецца на сюжэтную аснову (паляванне

на зубра) і аўтарскія адступленні з выразным сацыяльна-палітычным і рэлігійна-маралістычным зместам, ствараецца адзінствам тэмы і пафасу. Адзіная "скразная" тэма твора: у чым жа сапраўдная годнасць чалавека, народа, грамадства (чалавецтва)?

Пафас паэмы – сцвярджэнне неабходнасці зліцця стыхійнага і культурнага пачаткаў у жыцці людзей і ў душы чалавека, грандыёзнасці сіл і магчымасцей чалавека, які разумна і добраахвотна абмяжоўвае сваю свабоду і падпарадкоўваецца служэнню найвышэйшай, надасабовай, неэгаістычнай мэце.

Гусоўскі – не ў меншай ступені палітычны мысляр, дзяржаўны муж і сацыяльны прапаведнік, чым паэт і філосаф. Гэтыя яго іпастасі немагчыма раздзяліць.

Творца не выступае супраць войнаў увогуле. Уся яго паэма – гімн духу воінства, воінскага гонару і адвагі, своеасаблівы падручнік духоўнай падрыхтоўкі да барацьбы за праўду і справядлівасць. Асноўная сацыяльная тэма "Песні пра зубра" – неабходнасць аб'яднання ўсіх сіл еўрапейскіх народаў. Твор прасякнуты пафасам болю і захаплення, горычы і схілення перад гістарычным лёсам усходнееўрапейскіх народаў, якія на працягу стагоддзяў не толькі абаранялі сваю незалежнасць, але і спрыялі развіццю, росквіту, дабрабыту ўсёй астатняй Еўропы.

Гусоўскі супрацьпастаўляе эгацэнтрычнаму авантурызму з яго "прыгодніцкай" адвагай мужнасць усходнееўрапейцаў, якія гістарычна прывыклі і духоўна падрыхтаваліся да гатоўнасці аддаць жыццё за свой народ, Айчыну, "за агульную справу хрысціянскую". Тут Гусоўскі выступае як перакананы носьбіт і прадаўжальнік традыцый усходнееўрапейскай культуры і адначасова мысляр, які ўносіць у гэтыя традыцыі новае (спецыфічнае ўжо для ўсходнееўрапейскай культуры XVI і асабліва XVII стст.) усведамленне гістарычнай місіі ўсходнееўрапейскіх народаў у справе абароны еўрапейскай цывілізацыі як місіі агульначалавечага, сусветна гістарычнага значэння. Гусоўскі ўсведамляе еўрапейскую гісторыю як адзінства лёсаў хрысціянскай цывілізацыі і культуры. Ён паўстае супраць войнаў "вар'яцкіх", супраць унутраных звадак і міжусобіц у Еўропе, якія аслабляюць яе перад пагрозай агульнага ворага, забіваюць дух еднасці (для Гусоўскага дух хрысціянскай любові, міласэрнасці і брацтва) у народаў гэтай цывілізацыі. Гусоўскі абвінавачвае "няправеднасць" князёў і іх "беззаконнасць". Але абвінавачвае ён іх у традыцыях усходнееўрапейскай літаратуры, прадстаўнікі якой пачынаючы з аўтара "Слова аб палку Ігаравым" выкрывалі эгаізм уладароў і "пастыраў" народа за невыкананне дзяржаўных абавязкаў і перш за ўсё святога абавязку берагчы мір у Айчыне і супрацьстаяць варварскаму нашэсцю. Інвектывы супраць князёў тлумачацца менавіта іх абыякавасцю да лёсу Радзімы перад асманскай пагрозай.

Хутчэй за ўсё, Гусоўскі спачуваў "простаму народу" і абураўся з прычыны княжацкага свавольства, але не як дэмакрат, а як гуманіст і патрыёт, як дзяржаўны муж, заклапочаны ўнутранай хісткасцю Айчыны.

Справядлівасць ва ўсёй яе суровасці і бязлітаснасці Гусоўскі лічыць галоўнай якасцю Вітаўта і ўвогуле ідэальнага кіраўніка. Дзяржаўная справядлівасць для Гусоўскага неадлучная ад бязлітаснасці і нават лютасці ва ўмовах усеагульнага свавольства, беззаконня, імкнення феадалаў разбурыць закон і парадак у дзяржаве.

Зразумела, не самі па сабе жорсткасць і бязлітаснасць прыцягнулі ўвагу Гусоўскага і нават не сіла сама па сабе. Яго прываблівае менавіта няўхільнае служэнне неабходнасці, тая магутнасць дысцыпліны і арганізаванасці, з якой Вітаўт будаваў і парадкаваў дзяржаву, уводзіў і падтрымліваў адзіны для ўсіх закон і адзіную для ўсіх справядлівасць. Тыповае для ўсходнеславянскіх літаратур XV – XVII стст. усведамленне, што толькі моцная ўлада здольна падтрымліваць у грамадстве парадак і справядлівасць, злучаецца ў Гусоўскага з горкім вопытам "рэнесанснай" свабоды эгацэнтрычнай асобы, якая ўсё сабе дазваляе. Усёдазволу і свавольству ён супрацьпастаўляе хрысціянска-гуманістычную этыку і свядомую самадысцыпліну, а з боку дзяржавы (грамадства) – утаймаванне антыграмадскіх сіл і страсцей "жалезнай аброццю" закону і "мячом караючым" справядлівасці, утаймаванне сілы сілай.

Гусоўскі – дзяржаўнік менавіта таму, што ён патрыёт у гістарычных умовах унутранай і знешняй пагрозы Айчыне. Вось чаму паэт-гуманіст выступае як апалагет моцнай улады. Яго ідэал – мір і спакой, гуманнае развіццё грамадства, дзе кожны мог быць ацэнены па асабістых якасцях і заслугах. Як дзяржаўны мысляр свайго часу, Гусоўскі разумеў, што гістарычна – у блізкаагляднымбудучым – мір і росквіт народа і дзяржавы могуць быць забяспечаны толькі сілай.

Уся паэма – дзіўны сплаў лірычнага выказвання і філасофскага асэнсавання свету, павучання і палітычнай пракламацыі. І ўвесь гэты сплаў ажыўлены адным пачуццём і адной ідэяй: выратавання роднай Міколу Гусоўскаму цывілізацыі. Невыпадкова фінал паэмы – зварот да Дзевы Марыі і ў той жа час да людзей, цароў і народаў – завяршаецца маленнем, марай пра сілу, здольную зберагчы свет ад гібелі і прывесці чалавецтва да справядлівасці.

# УСХОДНЕСЛАВЯНСКІЯ ПАЛОМНІЦКІЯ ТЭКСТЫ

## "ХАРАГРАФІЯ…" АНСЕЛЬМА ПОЛЯКА Ў ПЕРАКЛАДЗЕ АНДРЭЯ РЫМШЫ

Паломніцкая літаратура ўсходніх славян XII – XVI стст. стваралася ў асноўным пад уплывам першага паломніцкага тэксту, напісанага ігуменам Даніілам пасля падарожжа з Кіеўскай Русі ў Святую Зямлю на пачатку XII ст. Цягам часу паломніцкія апісанні, за якімі замацавалася жанравае вызначэнне *хаджэнні*, выяўлялі ўсё больш індывідуальных аўтарскіх рыс у асвятленні тэмы паломніцтва, пры гэтым творцы захоўвалі піетэт да кананічнага тэксту ігумена Данііла. Гістарычныя падзеі садзейнічалі таму, што ў XIII ст. услед за кіеўскай пачала складвацца наўгародская школа жанру хаджэнняў. Ці не апошні твор, дзе найбольш выразна праступае свядомая залежнасць ад першага кананічнага паломніцкага тэксту, – тэкст *"смірэннага Данііла архімандрыта манастыра Корсуньскаго з Белай Русі"*, напісаны ў 1590-х гг. Лічыцца, што Корсуньскі манастыр знаходзіўся на Беларускім Палессі каля Кобрына. У XIV, XV і нават XVI стст. цэнтрам паломніцкай літаратуры ўсходніх славян сталі беларускія землі. Знаходжанне беларусаў і ўкраінцаў у межах адной дзяржавы Вялікага Княства Літоўскага, потым у складзе Рэчы Паспалітай абумовіла блізкасць развіцця некаторых культурных і духоўных працэсаў. Усходняя Валынь у другой палове XVI – пачатку XVII ст. стала эпіцэнтрам украінска-беларускага рэагавання на рэлігійную стратэгію Рэчы Паспалітай. Тут адбывалася найбольш эмацыянальнае асэнсаванне рашэнняў Люблінскай уніі 1569 г. і Брэсцкай уніі 1596 г.

Менавіта на тэрыторыі валынскага рэгіёна Украінска-беларускага Палесся ў XVI ст. склаліся спрыяльныя абставіны для адраджэння даўнейшых хрысціянскіх традыцый, сфарміраваных у Кіеўскай Русі. У 70-я гг. XVI ст. на Валыні ў Ковелі сабраў вакол сябе аднадумцаў князь Андрэй Курбскі, які знаходзіўся ў эміграцыі як палітычны апанент маскоўскага цара Івана Грознага. Пераемнасць агульнаславянскіх праваслаўных канцэпцый назіраецца ў дзейнасці інтэлектуальнай эліты краю, згуртаванай у 1580-я гг. пад крылом князя Астрожскага ў Астрогу. Іх ідэі былі падхоплены львоўскім Успенскім брацтвам (створаным каля 1586 г.), каб потым знайсці далейшы працяг у дзейнасці Кіева-Пячэрскай лаўры.

Паказальна, што біёграфы Астрожскіх выводзілі радавод князёў ад славутага пачынальніка дынастыі кіева-рускіх правіцеляў скандынава Рурыка. Праз польскія хронікі канца XIV – пачатку XV ст. пашыраюцца ў краі легенды пра трох міфічных герояў Чэха, Леха і Руса, якія сталі заснавальнікамі трох славянскіх дзяржаў – Чэхіі, Лехіі-Польшчы і Русі. Князі Астрожскія падаваліся як спадкаемцы Руса. Тэрыторыя валоданняў Астрожскіх (а ім належалі і ўкраінскія, і беларускія землі: на Кіеўшчыне і Галічыне, Валыні, Тураўшчыне, Міншчыне і інш.) нібыта актывізавала ў адзіным масіве гістарычныя ўспаміны пра магутнасць Кіеўскай Русі. Гэта ў сваю чаргу спрыяла "абуджэнню генаў" агульнага ранейшага дзяржаўнага ўтварэння і адзінства "старажытнага рускага народа".

Падзенне Царграда пад націскам Асманскай Порты ўзмацніла рэлігійна-палітычную барацьбу ў Еўропе, абвастрыла праблемы верхавенства Усходу ці Захаду, "грэцкай навукі" ці "лацінскай". Князь Васіль Канстанцін Астрожскі ўспрымаўся сучаснікамі як "некаранаваны кароль Русі". У Астрогу ён арганізаваў дзейнасць групы вучоных, якія здзяйснялі гісторыка-філалагічныя даследаванні багаслоўскага кірунку, з 1578 да 1612 г. падрыхтавалі да выдання і надрукавалі ў Астрожскай друкарні 28 літургічных і патрыстычных твораў. Менавіта тут у 1581 г. убачыла свет Біблія Івана Фёдарава. "Не выключана, што за намерам выдання Бібліі менавіта ў Астрогу стаяла сфарміраванае тады ж меркаванне пра перанясенне сталіцы Канстанцінопальскага патрыярхату ў Астрог" [13, с. 210]. Тэкст Бібліі быў звераны з некалькімі аўтарытэтнымі спісамі: царкоўнаславянскім, так званым Генадзеўскім, атрыманым з Масквы ад Івана Грознага, і грэчаскім, спецыяльна прывезеным архіепіскапам Дыянісіем Палеалогам у Астрог з Ватыкана.

Валоданне мовамі дазволіла вучоным стварыць у Астрогу выдатны цэнтр перакладу. Сучаснікі падкрэслівалі трохмоўнасць Астрожскай акадэміі – функцыянаванне старажытнарускай, грэчаскай і лацінскай моў. Вопыт Астрожскага асяродка ў плане арганізацыі навучання, навукова-даследчай і выдавецкай дзейнасці выкарыстае праз некалькі дзесяцігоддзяў мітрапаліт Пётр Магіла пры арганізацыі Кіева-Магілянскай акадэміі. Паводле трапнага выказвання Івана Франко, кіевамагілянцы, звярнуўшыся да лацiны як мовы навучання, "карысталіся той самай зброяй, якой на іх нападалі ворагі, – навукай і асветай" [11, с. 302]. Відавочна, з'яўленне рукапісу Данііла Корсуньскага, вядомага пад назвамі "Беседа о путі до Іерусаліму", "Перагрынацыя ў Святую Зямлю", неабходна разглядаць у кантэксце адзначаных гістарычных акалічнасцей.

Прыём "рэтрансляцыі" кананічнага стандарту тэксту "Хаджэння ігумена Данііла" (у тым ліку і мовы помніка) быў разлічаны на сцвярджэнне непарушнасці праваслаўнай традыцыі.

Разглядаючы гісторыю развіцця ўсходнеславянскай паломніцкай літаратуры, нагадаем думку рускіх вучоных пра тое, што "Заходні край" выступаў акумулятарам уважлівага стаўлення да паломніцкай тэмы. Як адзначае М. Галубцова, на тэрыторыі Маскоўскай дзяржавы «актыўнасць паломніцтва пасля падзення Канстанцінопаля ў 1453 г. значна зніжаецца. Яшчэ больш цяжкім становіцца доступ да Святой Зямлі ў сувязі з заваяваннем яе туркамі, пастаянна ўзрастае "самаўсхваленне", усведамленне асаблівага прызначэння Масквы як "трэцяга Рыма", нарэшце, падазронае стаўленне да праваслаўя і чысціні веры Богам пакараных грэкаў, – усё гэта не магло не пазначыцца на колькасці і складзе расійскіх паломнікаў у Святую Зямлю ў канцы XV, XVI ст.» [2, с. 4]. М. Галубцова, скарыстаўшыся падлікамі (выкананымі Г. Платонавым у артыкуле "Старажытнарускія паломнікі са свецкага асяроддзя і духавенства") колькасці паломніцкіх вандровак таго часу, вылучае і наступную акалічнасць: "…чым вышэй стаяў той ці іншы клас расійскага грамадства, тым меней ён даваў са свайго асяроддзя паломнікаў у Святыя мясціны Усходу" [2, с. 4]. Падобнага роду сцвярджэнні адлюстраваны ў працах многіх даследчыкаў рускага паломніцтва. Так, С. Жыцянёў адзначае: "…у гісторыі рускага праваслаўнага паломніцтва другая палова XV ст. была пераломнай" [4, с. 245]. Свае меркаванні ён падмацоўвае высновамі аўтарытэтнага філолага XIX ст. А. Пыпіна, сучаснага гісторыка Х. Паплаўскай і інш. Ідэалагічная і палітычная тэорыя "Масква – трэці Рым" спрыяла выпрацоўцы ў людзей Маскоўскай дзяржавы новага светаўспрымання: паломніцтва ў Святую Зямлю адступае на другі план перад новай традыцыяй пакланення айчынным святыням.

Рускія даследчыкі прызнавалі: "…праз заходнерускія і літоўскія гарады ішоў шлях тады з Маскоўскай Русі да Іерусаліма. І зусім верагодна, што маскоўскія паломнікі і пасланнікі, праходзячы праз заходнерускія гарады, спыняліся ў сваіх праваслаўных пабрацімаў, распытвалі іх пра Іерусалім, а адукаваныя заходнія рускія дапамагалі ім – перакладалі з лацінскай мовы цудоўныя апісанні Іерусаліма…" [2, с. 6]. У XVI ст., як адзначае С. Жыцянёў, прыватныя паломніцтвы з маскоўскіх зямель былі адзінкавымі. Пасля заваявання Асманскай імперыяй Канстанцінопаля, Палесціны, Егіпта Маскоўская дзяржава, разлічваючы на падтрымку Порты пры вырашэнні сваіх геапалітычных планаў, пачала актыўна накіроўваць на Усход дыпламатычныя місіі. "Гэтая галоўная задача маскіравалася пад паломніцтва рускіх паслоў да найбольш значных мясцін Усяленскага Праваслаўя і перадачай ахвяраванняў для іх падтрымкі" [4, с. 310]. Больш за тое, навукоўцы, прааналізаваўшы наказныя граматы цара, прасачылі, што фармальныя мэты і задачы паломніцкага тэксту "Хаджэнне купца Васілія Пазнякова па святых месцах Усходу 1558 – 1561 гадоў" вызначаліся загадзя самім царом. Падарункі і ахвяраванні патрыярхам і архірэям усіх усходніх праваслаўных цэркваў былі абумоўлены жаданнем цара "задобрыць іерархаў", якія "менавіта ў гэты час меліся вырашаць пытанне пра вянчанне маскоўскага самадзержца на царскі прастол" [4, с. 310]. Рускія хаджэнні пераходнага перыяду, акрамя названага тэксту, прадстаўлены яшчэ творамі "Хаджэнне Трыфана Карабейнікава" (1593) і "Праскінітарый" Арсенія Суханава (1651). Зазначым, што сюжэтным ядром тэксту Карабейнікава з'яўляецца "Хаджэнне Васілія Пазнякова…". "Праскінітарый" Арсенія Суханава таксама мае характар пасольскай справаздачы, так званага "стацейнага спіска".

Якія ж тэндэнцыі стварэння паломніцкіх тэкстаў назіраліся ў гэты час на заходніх беларуска-ўкраінскіх землях? Існуюць прамыя і ўскосныя доказы сувязей краю з праваслаўным Усходам, Канстанцінопалем, Егіптам. Так, у Астрогу ў 1590-я гг. жыў і працаваў Кірыл Лукарыс, які ў хуткім часе атрымаў высокі сан: у 1602 – 1620 гг. – патрыярх александрыйскі, з 1620 да 1638 г. – патрыярх канстанцінопальскі. Мялецій Сматрыцкі, вучань Кірыла Лукарыса па Астрогу, перадаваў лісты патрыярху праз галіцкіх негацыянтаў, львавян, традыцыйна звязаных з Грэцыяй гандлёвымі справамі. Выкажам меркаванне, што засяроджанасць на вырашэнні канфесійных пытанняў спрыяла актывізацыі ўвагі да ідэй паломніцтва ў Святую Зямлю. Насельніцтва краю цікавілася паломніцкімі сачыненнямі, якія ў жанравых адносінах прынята пазначаць як *путнікі*. Увага вернікаў з тэкстаў-хаджэнняў духоўна-дыдактычнага прызначэння перайшла на паломніцкую літаратуру больш практычнага, даведачнага характару.

Падкрэслім: пераклады грэчаскіх і лацінскіх *путнікаў* узніклі на тэрыторыі "заходнерускіх земель". Сярод твораў папулярнага тагачаснага жанру – перакладныя *путнікі*, што выкарыстоўваліся аўтарамі рускіх паломніцкіх твораў пераходнага перыяду. Так, А. Рэшатава пераканальна паказала, што пры напісанні *пасольскіх хаджэнняў* за аснову браліся менавіта перакладныя *путнікі* [8]. Даследчык С. Далгоў выказаў меркаванне, што адзін з лацінскіх арыгіналаў такіх *путнікаў* належаў пяру абата Хрысціяна Андрыхома і што выдатны пераклад яго здзейснены ў канцы 1590-х гг. на Валыні калі не самім

Андрэем Курбскім, то некім з яго акружэння [3]. Варты ўвагі і тэкст "Путніка пра св. град Іерусалім". Пераклад яго ўвайшоў у літаратуру пад назвай "Галіцка-рускі путнік" і выкананы з грэчаскай мовы таксама прыблізна ў той жа час.

Сярод людзей, якія шмат зрабілі для захавання старажытнасцей краю, неабходна назваць львоўскага каноніка Антона Петрушэвіча (1821 – 1913). У велізарным спісе рукапісаў, сабраных А. Петрушэвічам, быў і згаданы твор Даніїла Корсуньскага. Вучоны з'яўляецца першапублікатарам "Галіцкарускага путніка". У 1904 г. у Львове выданне "Українсько-руський архив" пачынае друкаваць у некалькіх выпусках складзены Іларыёнам Свянціцкім "Опис рукописів Народного Дому з колекцій Ант. Петрушевича". У бібліяграфіі славяназнаўчых публікацый А. Петрушэвіча мы налічылі нямала прац, што маюць дачыненне і да культуры беларусаў. Сярод іх "Историческое дело К. Стадницкого о сынах князя Гедимина", "Familii Litewski", "Букварь, напечатанный Спиридоном Соболею в Кутейне 1631 года", "Франциск Скорина, издатель русской Библіі в Празє чешской", матэрыялы, прысвечаныя Брэсцкай уніі [7]. З усяго відаць, галіцкі вучоны меў сувязі з Вільняй. І трэба прызнаць, што вывучэнне яго спадчыны будзе карысным для беларускіх кампаратывістаў.

Асобнай увагі і ў міжлітаратурным кантэксце тэмы паломніцтва, і ў кантэксце беларуска-украінскіх узаемадачыненняў заслугоўвае асоба Андрэя Рымшы (каля 1550 – пасля 1595). Украінскія даследчыкі прызнаюць беларускае паходжанне Рымшы, які падкрэслена пазначаў пры сваіх публікацыях, што напісаны яны *"ліцвінам Андрэем Рымшам"*, але творы пісьменніка разглядаюць як "стараўкраінскія" (В. Ярэменка, Л. Махнавец і інш.). Адзін з найбольш глыбокіх знаўцаў творчасці Рымшы ва Украіне – М. Сулыма. У Беларусі прыярытэт сярод даследчыкаў спадчыны Рымшы належыць С. Кавалёву, С. Гараніну, творы пісьменніка на сучасную беларускую мову пераклаў А. Бразгуноў. Нягледзячы на ўвагу да даробку пісьменніка з абодвух бакоў, Рымша, як трапна заўважыў С. Кавалёў, для сучаснага чытача застаецца "малавядомым паэтам з-пад Навагрудка" [5, с. 479]. Трэба прызнаць, што няма аднастайнасці ў разуменні біяграфіі Рымшы. Украінскі бок звязвае Рымшу з дзейнасцю Астрожскай акадэміі (М. Сулыма, Н. Якавенка). Так, М. Сулыма лічыць: існуюць падставы меркаваць, што Рымша выкладаў у Астрогу, а яго "Храналогія…", выдадзеная ў Астрожскай друкарні ў 1581 г., напісана для патрэб пачатковых класаў калегіі [9, с. 270 – 271]. С. Кавалёў звязвае Рымшу з Астрогам пераважна толькі на той падставе, што патрон пісьменніка Крыштоф Радзівіл Пярун меў непасрэдныя дачыненні да роду Астрожскіх: жонкай яго ў 1578 г. стала Кацярына Астрожская, у 1593 г. удавец Радзівіл ажаніўся з Альжбетай Астрожскай. Прааналізаваны М. Сулымам і высока ацэнены твор Рымшы "Храналогія…", пра які ўкраінскі даследчык піша як пра "першае ў кірылічным друкарстве асобнае выданне паэтычнага твора", беларускія вучоныя падаюць як "вучнёўскую працу" [1, с. 453]. І ўкраінскія, і беларускія медыявісты канстатуюць той факт, што ў 1595 г. у Вільні выходзіць друкам пераклад Рымшы з лацінскай мовы на польскую кнігі **"Хараграфія ці Тапаграфія… альбо апісанне Святой Зямлі"** Ансельма Поляка. Да разгляду гэтага тэксту (у некалькіх радках) звяртаецца толькі С. Кавалёў [5, с. 480]. Спынімся на гэтай працы Рымшы больш падрабязна.

Дакладная назва працы паводле паказальніка "Bibliografia polska" К. Эстрайхера наступная: *"Chorographia albo topographia to jest osobliwe a okolne opisanie Ziemie Świętej z wypisania onej ludzi pewnych tam bywalych. Teraz niedawno z lacińskego języka na polski przetlumaczona przez Andrzeja Rymszę Litwina"*. М. Сулыма падае назву твора Ансельма Поляка *"Terra sancte et urbis Hierusalem…"*, першапублікацыя якога ўбачыла свет у 1512 г. Сёння дзякуючы "Бібліяграфічным матэрыялам" С. Нікалаева "Польско-русские литературные связи XVI – XVII вв.", выдадзеным у Санкт-Пецярбургу ў 2008 г., мы маем дастаткова поўнае ўяўленне пра запатрабаванасць перакладу Рымшы ў Расіі. У сховішчах Расіі даследчыкі адшукалі чатыры рукапісныя тэксты рускамоўных перакладаў названай працы. У назве твора пазначалася, што тэкст *"от латинскаго і польскаго языка на словенский преложено"*. Складальнік каталога перакладных помнікаў С. Нікалаеў падкрэслівае: "…пераклад не з лацінскага арыгінала, а з польскага перакладу А. Рымшы" [6, с. 33]. Акрамя таго, высвятляецца, што першае выданне рускамоўнага перакладу "Хараграфіі…" друкавалася пад адной вокладкай з перакладам знакамітай "Гісторыі Іудзейскай вайны" ("Повести Иосифа сына Горионового о брани еврейской") Іосіфа Флавія. Адпаведна пераклады абодвух твораў сустракаюцца разам у рукапіснай традыцыі. Гісторыя бытавання Рымшавага перакладу "Хараграфіі…" дазваляе яшчэ раз звярнуць увагу на запатрабаванасць у расіян паломніцкіх тэкстаў, якія ствараліся "заходнерускімі" пісьменнікамі.

Мы маем ксеракопію экзэмпляра "Хараграфіі…", што сёння захоўваецца ў Віленскай бібліятэцы. Параўноўваючы поўныя назвы твора – згаданую К. Эстрайхерам і з віленскага экзэмпляра, – бачым пэўныя адрозненні. У віленскай кнізе няма прысвячэнняў князям Астрожскім, пра якія піша С. Кавалёў, што нельга разглядаць як брак выдання, бо нумарацыя старонак у нашым ва-

рыянце паслядоўная. Гэта прыводзіць да думкі пра існаванне двух асобных выданняў перакладу Рымшы. Скарачэнні маглі быць выкліканы жаданнем зрабіць тэкст больш зручным для практычнага карыстання паломнікаў. На скарочаным экзэмпляры зафіксавана шмат пазнак уважлівага чытача, рукой упісаны асобныя словы, штосьці падкрэслена. Структура тэксту вельмі празрыстая: у першай частцы даецца гісторыя чалавецтва па Бібліі, у наступных разглядаецца тапаграфія Святой Зямлі па чатырох напрамках: на ўсход, захад, поўнач і поўдзень ад Іерусаліма.

Прывядзем цытату з тэксту (у нашым перакладзе), каб раскрыць характар паломніцкага твора. *"Калі ж ісці з Іерусаліма ў заходнім кірунку, крыху на поўнач, знойдзем замак Жмаўс, які ад Іерусаліма на адлегласці двух леўкаў, а нашых паўтары мілі. Там Пан Езус вызваліў двух вязняў у дзень свайго Уваскрэсення і прымаў ежу разам з імі. Цяпер там нічога няма, толькі голыя чатырохгранныя муры без падлогі і страхі. Тут паломнікі, што пакідаюць Іерусалім, звычайна спыняюцца на адпачынак, нічога не ведаючы пра само месца. Бо сарацыны перайменавалі яго і праўды не гавораць. Тая дарога з Іерусаліма да горада Япан, які называюць Яфумам альбо Зафумам* (гаворыцца пра Яфу. – **Э. Д.**), *складае шаснаццаць леўкаў, альбо дзесяць міль нашых, не болей. Там таксама знаходзіцца прыстань карбалікаў для паломнікаў. Цяпер там нічога іншага няма, толькі дзве вежы на марскім беразе, у якіх жывуць сарацыны, што сцерагуць марскі бераг. Калі да таго берага прыплываюць хрысціяне, нельга адразу з карабля сыходзіць, пакуль не паведамяць брацтву нашаму іерусалімскаму, каб ім у пана іерусалімскага старасты выпрасілі пропуск. А калі ўжо будуць мець дазвол сыходзіць на Святую Зямлю, сарацыны ад кожнай асобы возьмуць па пяць чырвоных злотых на Султана"* [12, с. 13 – 14]. Як бачым, у творы змешчаны неабходныя для паломнікаў жыццёва-практычныя парады. Так, мясцовыя меры адлегласці перакладаюцца на польскія мілі, часта сустракаюцца тлумачэнні ў *"рускіх вымярэннях"*. Зрэшты, "Харагpафія..." можа ўспрымацца і як гістарычны дакумент, сведчанне сітуацыі на Усходзе пасля заваявання краю туркамі. Чытач даведваецца пра непавагу мусульман да праваслаўных святынь, абкладанне паломнікаў мытам і інш. Аўтар "Харагpафіі...", а за ім і перакладчык, звяртаючыся да сакральнага матэрыялу, ствараюць амаль свецкі твор. Заўважым, што сам Рымша быў кальвіністам. Інфармацыя ў "Харагpафіі..." падавалася так, што магла быць карыснай для вернікаў усіх хрысціянскіх канфесій. Ідэя паломніцтва ў Святую Зямлю і адпаведна паломніцкая літаратура павінны былі спрыяць тэндэнцыі да збліжэння духоўнага жыцця прадстаўнікоў розных канфесій у краі, католікаў, праваслаўных, пратэстантаў...

Прыведзеныя факты пацвярджаюць меркаванне пра значнасць укладу выхадцаў з украінска-беларускіх зямель у развіццё культуры ўсходніх славян. Грэчаскія і лацінскія паломніцкія тэксты дзякуючы першасным перакладам, ажыццёўленым у краі, станавіліся запатрабаванымі ў Расіі. Яны з'яўляюцца пэўным прамежкавым этапам у развіцці паломніцкай літаратуры, спрыяюць далейшай эвалюцыі хаджэнняў як жанру. Пераклад Андрэя Рымшы, пісьменніка, які выявіў сваю схільнасць да распрацоўкі паломніцкай тэмы, можна паставіць побач з такімі творамі, як "Перагрынацыя..." М. К. Радзівіла, "Апалогія перагрынацыі..." М. Смятрыцкага, цікавасць да якіх у Расіі была вельмі значнай. У пераходны перыяд менавіта на ўкраінска-беларускіх землях адбывалася мадэрнізацыя жанру хаджэння, было сказана новае ў мастацкіх адносінах слова пра паломніцтва.

**Спіс літаратуры**

1. **Анталогія даўняй беларускай літаратуры** : XI – першая палова XVIII ст. / навук. рэд. В. А. Чамярыцкі. – Мінск, 2003.
2. **Голубцова, М. А.** К вопросу об источниках древнерусских хождений в Святую Землю / М. А. Голубцова // Чтение в Обществе истории и древностей российских. – 1911. – № 6. – Кн. 4.
3. **Долгов, С. О.** Русский перевод латинского описания Иерусалима / С. О. Долгов // Труды Императорского Археологического Общества. – М., 1888. – Т. XII.
4. **Житенёв, С. Ю.** История православного паломничества в X – XVII стст. / С. Ю. Житенёв. – М., 2007.
5. **Кавалёў, С. В.** Андрэй Рымша / С. В. Кавалёў // Гісторыя беларускай літаратуры XI – XIX стст. : у 2 т. / навук. рэд. В. А. Чамярыцкі. – 2-е выд. – Мінск, 2006. – Т. 1.
6. **Николаев, С. И.** Польско-русские литературные связи XVI – XVII вв. : библиографические материалы / С. И. Николаев. – СПб., 2008.
7. **Опис рукописів Народного Дому з колекцій Ант. Петрушевича** / зладив д-р Іларіон Свенціцький // Рукописи львівських збірок. – Ч. 1., вип. 1. – Львів, 1906. – Т. 1.
8. **Решетова, А. А.** Древнерусская паломническая литература XVI – XVII вв. (история развития и жанровое своеобразие) : автореф. ... дисс. докт. филолог. наук : 10.01.01. – М., 2006.
9. **Сулима, М. М.** Римша Андрій / М. М. Сулима // Українська література в портретах і довідках : довідник. – Київ, 2000.
10. **Франко, І.** Антін Петрушевич. Ювілейна сильветка / І. Франко // Літературно-науковий вісник. – Львів, 1901. – Т. XIII.
11. **Франко, И.** Южнорусская литература / И. Франко // Энциклопедический словарь Брокгауза и Эфрона. – СПб., 1904. – Т. 41.
12. **Chorographia albo topographia.** To jest osobliwe a okolne opisanie Ziemie Świętej : z wypisania onej ludzi tam tych mieysc swiadomych. Z Lacińskego języka na Polski przetlumaczona. Przez Andrzeja Rymszę Litwina. [без выходных дадзеных]
13. **Яковенко, Н.** Нарис історії середньовічної та ранньомодерної України / Н. Яковенко. – 3-є вид. – Київ, 2006.

**Эла ДЗЮКАВА,**
аспірантка кафедры славянскіх літаратур
Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.

*Артыкул рэкамендаваны да друку кафедрай славянскіх літаратур БДУ.*

Ірына БАГДАНОВІЧ

# "ГЭТА – ВОБРАЗЫ КРАІНЫ БЕЛАРУСІ РОДНАЙ..."

## ДА 100-ГОДДЗЯ ПЕРШАГА ЗБОРНІКА ВЕРШАЎ ЯКУБА КОЛАСА "ПЕСНІ-ЖАЛЬБЫ"

Сто гадоў мінула з таго часу, як у 1910 г. у Вільні выйшла першая паэтычная кніга Якуба Коласа "Песні-жальбы". Я. Колас, які дагэтуль актыўна друкаваўся на старонках "Нашай Нівы", знаходзіўся ў гэты час у мінскім астрозе, адбываючы пакаранне за падрыхтоўку нелегальнага з'езда беларускіх настаўнікаў. Выхад кнігі быў важным і знакавым не толькі для самога аўтара (падсумаванне пачатку творчага шляху), але і для ўсёй тагачаснай беларускай літаратуры: "Жалейку" Янкі Купалы дапоўніў нібыта ўжо знаёмы, ды новы паэтычны тон. Рэчышча беларускай літаратуры з асобных ручаін ператваралася ў магутную ўсёахыўляльную плынь. У нашаніўскай рэцэнзіі, што з'явілася адразу пасля выхаду кнігі, Альгерд Бульба высока ацаніў яе, адзначыўшы перадусім прастату і яснасць выражэння думкі, глыбінную народнасць, цярпенне "за мільённы народ", якое чуецца ў вершах. Адзначыў крытык і надзвычайнае майстэрства Я. Коласа ў стварэнні прыродаапісальных вершаў: "...у момэнт, калі апісывае нам родные абразы, ён стаецца артыстам, зросшымся з прыродай" [2].

Высока, але і даволі крытычна ацаніў коласаўскія "Песні-жальбы" Максім Багдановіч. У артыкуле "Глыбы і слаі" ён назваў кнігу "цэльнай... па светагляду", але аднастайнай паводле тэм і матываў. М. Багдановіч вылучыў тры дамінантныя тэмы коласаўскай кнігі: "...бедныя абразы роднага краю, доля нашага народа, турэмныя думкі і жыццё" [1, с. 189]. Да таго ж паэт-крытык адзначыў, што многія вобразы паўтараюцца, і "гэтакія паўтарэнні яшчэ болей павялічываюць аднатоннасць вершаў, і без таго не блішчучых ані красой формы, ані яркасцю мовы, ані абразнасцю зместу" [1, с. 189]. Галоўная ж каштоўнасць вершаў Я. Коласа хаваецца, на думку М. Багдановіча, "у праўдзівай – далёкай ад усякай фальшы – любві да бацькоўшчыны; гэтая любоў, як цудоўная жывая вада ў казках, ажыўляе іх і робіць роднымі, блізкімі ўсякаму, у кім яшчэ ёсць душа жывая, хто не забыўся аб долі свайго народа, а мо і сам перажывае апісанае ў гэтых вершах" [1, с. 189].

Сучаснае коласазнаўства першую кнігу класіка нацыянальнай літаратуры ўспрымае ў рэчышчы дэмакратычных традыцый айчыннай паэзіі і хрысціянскай філасофіі жыцця. З гэтага гледзішча не такім ужо важным з'яўляецца паўтарэнне, аднастайнасць матываў, тым больш у кантэксце ўсёй творчасці Якуба Коласа. На гэтым фоне адметным становіцца яе асаблівы элегічны лірызм, які паўторыцца хіба толькі ў коласаўскім другім зборніку вершаў "Водгулле" (1922). Аўтар артыкула пра класіка ў акадэмічнай "Гісторыі беларускай літаратуры" Міхась Тычына слушна сцвярджае: "У лірыцы Коласа адгукнуліся знаёмыя беларускаму чытачу настроі і матывы. Песні-жальбы – гэта не толькі назва кнігі, але і асноўны жанр пачатку паэтавай творчасці, калі Колас адчуваў уплыў дэмакратычных традыцый Ф. Багушэвіча, Я. Лучыны, А. Гурыновіча, песняроў народнага гора, долі-нядолі" [3, с. 183 – 184]. Знаёмасць, традыцыйнасць матываў не ўспрымаецца тут як загана ці просты паўторперайманне – гэта натуральны вынік грамадскай сітуацыі, што паклікала сваіх прарокаў-песняроў: Ф. Багушэвіча, Я. Купалу, Я. Коласа, якім належала перадаць і ўвасобіць у вершаваных радках глыбінны драматызм нацыянальнай экзістэнцыі беларусаў. Галоўным і сутнасным у першай кнізе Я. Коласа была, на думку даследчыка, любоў да роднага краю. І ў гэтым ён абсалютна салідарны з М. Багдановічам: "Як мала хто з беларускіх паэтаў, Колас апаэтызаваў пачуццё любові свайго героя, беларуса-селяніна, да роднага кутка, бачачы ў паглыбленні і ўзбагачэнні гэтага пачуцця аснову для станаўлення яго як грамадзяніна свету" [3, с. 185].

Любоў да роднага краю напаўняе душу высакародным святлом і харастввом, якія не можа зацьміць ні ўбогасць паўсядзённага жыцця, ні нара-




**Вокладка першага зборніка вершаў Якуба Коласа.**

*Звесткі пра аўтара змешчаны ў № 3.*

канні на долю. Яна ж, любоў, і загартоўвае душы, даводзячы праз сціпласць малюнка нацыянальнага жыцця, што яно ёсць найперш выпрабаванне на трываласць і чалавечнасць. Вобраз роднага краю, успрыняты праз вочы і сэрца беларуса-працаўніка, і ўвасобіў Я. Колас у першым зборніку "Песні-жальбы", паказаўшы цярпенне і крыж беларуса на шляху ў будучыню. Такі шлях выпрабаванняў і церняў, апеты песняром, мае глыбокую хрысціянскую аналогію. На гэтую акалічнасць звярнуў увагу даследчык Уладзімір Конан, які "прачытвае" першую кнігу Коласа ў кантэксце біблейскай прыпавесці пра Лазара беднага: «Ідэалогія першай паэтычнай кніжкі Якуба Коласа "Песьні-жальбы" бліжэй да філасофіі хрысціянскай дэмакратыі, чым да рэвалюцыйнага радыкалізму. У аснове сюжэтаў і вобразаў яго праграмных вершаў праглядваецца архетып евангельскай прыпавесці пра Лазара беднага і багацея (пар. Лк. 16, 19 – 31), пераўтвораных у аспекце тагачасных сацыяльных рэаліяў Беларусі ў складзе Расійскай імперыі» [5, с. 31]. Цікавыя думкі выказвае даследчык таксама і адносна жанравай спецыфікі вершаў першай кнігі Я. Коласа, называючы іх элегічным "плачам над сваёй старонкай" і падкрэсліваючы тым самым іх уключанасць у еўрапейскую жанравую традыцыю "трэнаў". Гэтая традыцыя была выклікана да жыцця ў эпоху хрысціянскай цывілізацыі і асабліва выразна выявілася ў даўняй беларускай літаратуры.

Такім чынам, з аднаго боку, кніга Я. Коласа ўзнаўляла перарваныя традыцыі, а з другога – крытычныя закіды наконт "плачавай паэзіі" падчас нашаніўскай дыскусіі 1913 г. могуць быць нейтралізаваны і аспрэчаны менавіта з улікам усіх вышэйпазначаных аспектаў. Найважнейшым бачыцца тое, што "плачавая" стылістыка датычыць не толькі семантычна-зместавых пластоў кнігі, але і жанравай спецыфікі, якая сапраўды падкрэслена, як слушна адзначыў М. Тычына, ужо ў самой назве "Песні-жальбы".

Таксама неабходна адзначыць, што ў традыцыі хрысціянскага набажэнства на Беларусі ўжо з XVIII ст. былі вядомыя спецыяльныя "Песні жальбы", якія спяваліся ў храмах у час Вялікага посту. З імі было звязана разважанне пра крыжовыя мукі Хрыста, яны спрыялі пакаянню і навяртанню грэшніка. На пачатку XX ст. такая традыцыя яшчэ, бясспрэчна, існавала, і Я. Колас не мог яе не ведаць. Таму ў канцэптуальным плане, паводле хрысціянскай аналогіі, кніга Якуба Коласа была менавіта разважаннем пра мукі народа, які цярпеў і мусіў праз мастацкае "ўсведамленне" сваёй пакуты адрадзіцца і "навярнуцца" да новага жыцця.

Паэт вершы сваёй першай кнігі размясціў у пяці раздзелах, што надавала ёй у цэлым кампазіцыйную і зместавую завершанасць: 1. Думкі; 2. Родныя абразы; 3. Мужычае жыццё; 4. На разстані; 5. З турмы. Адкрываўся ж зборнік вершам ***"Не пытайце, не прасіце"***, дзе творца насамрэч у багушэвічаўскім стылі дэкларараваў, што вясёлых песень даць не зможа, бо *"на жыцьце як паглянеш, / Сэрца болем зашчыміць"* [4, с. 3]. Адзначым таксама цыклічнасць і "замкнёнасць" цэнтральных вобразаў кнігі, што сапраўды можа часам выглядаць як манатонная паўтаральнасць. Так, *вясна* – гэта не толькі прыгожая жыццесцвярджальная прыродная з'ява, але і сімвалічная алегорыя адраджэння роднага краю, яго шчаслівай будучыні. Такая вобразная інтэрпрэтацыя на той час яшчэ не выглядала трафарэтнай, а ў сутнаснай глыбіні звязвалася з біблейскім архетыпам перамогі над смерцю, уваскрэсеннем. Уступны верш заканчваўся радкамі:

*Нешчасліва наша доля:*
*Нам нічога не дала.*
*Не шукайце кветак ў полі,*
*Як весна к нам не прыйшла!* [4, с. 3].

Тут бачацца два моманты: па-першае, як ужо падкрэслівалася неаднойчы, – выразная арыентацыя на літаратурную традыцыю Ф. Багушэвіча і яго "дудку ад жалю, ад смутку", а па-другое, акцэнтацыя рэальнага становішча беларусаў, дзе традыцыя, закладзеная Ф. Багушэвічам, заставалася актуальнай. Першая нізка "Думкі" заканчваецца вершам ***"Весна"***, дзе гаворка не проста пра пару года, а пра вясну збаўлення ад пакут, доўгачаканую вясну абнаўлення і радасці. У цэлым верш даволі рытарычны паводле сваёй паэтыкі, але зноў жа тут мы бачым не што іншае, як евангельскі архетып уваскрэсення: *"Вясна, вясна / Жаданая! / Ты прыйдзеш зноў, / Ты вернешся"* [4, с. 28].

Думкі паэта – гэта *"сэрца дзеткі"*, яны *"рана засмуціліcь"*, спазнаўшы горыч і боль жыцця. Тым не менш сярод вершаў нізкі часта сустракаюцца творы вясновай тэматыкі: "Весна" (*"Ідзе весна ўжо, дзякуй Богу…"*), "Вясной" (*"З лазурных чыстых небясоў…"*), *"Пташкі ў лесе шчэбеталі…"*. Хараство і дасканаласць багатворнага свету ўзвышаюць душу, цішаць боль, строяць думкі на светлы лад:

*Глядзіць прыветна з неба сонцэ,*
*Якбы матулька на дзяцей,*
*І лёгка, лёгка так бяз конца,*
*І б'ецца сэрцэ весялей…*

Вясной [4, с. 13].

Дазволім сабе не пагадзіцца з крытычнай думкай М. Багдановіча, які ўказваў на беднасць мастацкай палітры аўтара "Песень-жальбаў". Многім вершам кнігі ўласцівая адмысловая вобразнасць, а менавіта метафары, параўнанні, якія характарызуюць аўтара як выбітнага мастака слова, а воклічы, паўторы, звароты афарбоўваюць вершы глыбокім прачулым лірызмам, павышаюць іх эмацыйнасць. Так, у вершы ***"Пташкі ў лесе шчэбеталі…"*** малю-

ецца *"вясёлы вечэр мая"*, неба над Беларуссю – гэта *"Божае поле"*, па якім плывуць белыя хмаркі – *"думкі светлай долі"*. Праз гэтыя вобразы нараджаецца асаблівая настраёвая дамінанта коласаўскай лірыкі: на першы погляд шэры, будзённы вобраз роднага краю, пазбаўлены пышнай, кідкай экзотыкі, скіроўвае думкі лірычнага героя да вечных пытанняў быцця чалавека на зямлі, яго шчаслівай-нешчаслівай долі, сэнсу існавання. У сваю чаргу такі склад думак укладаецца ў хрысціянскую філасофію жыцця, што так трапна заўважыў у ідэйным змесце Коласавай лірыкі У. Конан. Вершы кнігі адпаведна чытаюцца і ўспрымаюцца як спазнанне праўды і паўнаты быцця. Гэтае спазнанне адбываецца не праз нейкія экстрэмальныя звышдзеянні і звышсітуацыі, а праз мерны, суровы, працавіты і скупы на свае плады будзень. Выпрабаванні і церні гэтага будня алегарычна мысляцца таксама і як "крыжовая дарога" беларуса-працаўніка, сына сваёй зямлі, і гэтай дарогай трэба прайсці, каб дасягнуць жаданых Новага Неба і Новай Зямлі.

Яскравай вобразнасцю вылучаецца таксама верш ***"Усход сонца"***, пабудаваны як каскад метафар, пакліканых апісаць урачыстасць нараджэння летняга дня – справы, не падуладнай рукам чалавечым, а таму асабліва ўзвышанай. Ранак, новы дзень даецца як дар нябёсаў чалавеку, перад веліччу гэтага дару замірае душа і славіць у стройных вобразах творчую моц Бога:

*На усходзе неба грае*
*Дзіўным блескам жару,*
*Залацісты сноп купае*
*Ў полымі пажару.*
. . . . . . . . . . . . . . . .
*І ўбірае залатую*
*Сонейку дарогу,*
*Паліць сьвечку дарагую*
*Прад аўтарам Бога…* [4, с. 16].

Такой самай веліччу прасякнуты вобраз ночы, краса і таямнічасць якой таксама абуджаюць у лірычнага героя ўзвышаны строй думак, трапятанне чулага сэрца (верш "Ноч"). Менавіта чулае сэрца здольнае адгукнуцца на хараство прыроды, успрыняць усе яе перамены як дары, перажываць у сувязі з гэтым розныя настроі, адчуваць сябе часткай велічна задуманага і створанага свету. Так, вершы "Адлёт жураўлёў", "Восенны дождж", "Восень" малююць нам зусім іншы пейзаж: маркотны, дажджыста-слязлівы, настроены на адыход, заміранне жыцця. Таму лірычны герой чуе цяпер у небе – *"гэтым Божым моры"* – зусім іншыя гукі, бачыць іншыя колеры: *"Жаласныя крыкі / Льюцца над зямлёю"*, *"Стагі лугавыя / Вежамі жаўцеюць"* (верш "Адлёт жураўлёў").

Арганічна працягваюць прачулую паэтычную гаворку вершы наступнай нізкі "Родныя абразы". Беларускі краявід у гэтых вершах, як ужо адзначалася, не выглядае парадна, ён выклікае смутак і тужлівасць. Тут мы вяртаемся да тэмы плачу, які тычыцца і зместу, і формы твораў. Плач можа быць і бывае ўзвышаны, ачышчальны. Ізноў тут бачым біблейскую традыцыю, у рэчышчы якой стварае свой вобраз Беларусі Якуб Колас. Вядомая старазапаветная кніга "Плач Ераміі" прысвечана жалю з прычыны разбурэння Іерусаліма і іерусалімскай святыні ў VI ст. да н. э. Кніга напісана ў стылі распаўсюджаных у старажытнасці "плачаў" ("лямантаў"), у ёй створана жахлівая карціна разбуранага горада, пакут народа, гучыць малітоўнае спадзяванне на Божую дапамогу і вызбаўленне. У плачах-жальбах Я. Коласа не чуецца роспачы, абурэння, гневу. Сціплая краса вобразаў роднага краю выклікае ў лірычнага героя замілаванне, а вынікі сацыяльна-гістарычнай занядбанасці родзяць у сэрцы смутак і жаль. Ён вылівае гэты жаль, прагаворвае яго, унутрана не згаджаецца з ім, канстатуючы як дадзенасць (вершы "Нашэ сяло", "Наш родны край", "Вёска", "Мужычая ніва", "Жніво", "Дарога", "Могілкі", "Родные песьні"). Вершы ўспрымаюцца нібы замалёўкі з натуры, іх эстэтычны код заведама зніжаны, паэтам акцэнтуецца той вобразны рад, які падкрэслівае пакуту, заняпад, цярпенне:

*Як успомніш кут свой родны,*
*Непрытульны і халодны,*
*Сцісьне сэрцэ горкі жаль.*

Нашэ сяло [4, с. 33].

Прыкладна такі самы вобразны рад акцэнтуецца і ў іншых вершах: *"Край наш бедны, край наш родны! / Гразь, балота ды пясок…"* ("Наш родны край"); *"Многа тут гразі ў нягоду, / Многа пылу ў летні жар! / Тут дабра ня бачыць з роду, / Тут марнее гаспадар…"* ("Вёска"); *"Ой, мужыча ніва! / Ты – сіротка ў полі: / Німа табе шчасця, / Німа табе долі!"* ("Мужычая ніва"); *"Як ты бедна, як ты цёмна, / Родная краіна!"* ("Родные песьні"). Такі эстэтычна зніжаны, непрывабны вобраз роднага краю не сведчыў, аднак, пра крытычнае стаўленне паэта да прадмета сваіх апісанняў, хоць творы такога плана сталі аб'ектам крытыкі падчас дыскусіі 1913 г. у "Нашай Ніве". Аплакваючы *"нешчаслівую старонку"*, нібы прарок Ерамія разбураны Іерусалім, апісваючы непрывабныя ў сваім заняпадзе бакі яе краявіду, Якуб Колас усё роўна поўны любові. Любові, спагады, жалю. Любіць свой край у красе і любіць яго ва ўбогасці – так, відаць, праяўляецца паўната любові і ласкі. І творца шчыра прызнаецца ў гэтым ужо ў першым вершы дадзенай нізкі ***"Я не знаю…"***:

*Я не знаю, я не знаю,*
*Чым я так прыкуты*
*Да тваіх, мой родны краю,*
*Абразоў пакуты* [4, с. 31].

Сапраўды, на нашу думку, варта пагадзіцца з У. Конанам, які ўбачыў у песнях-жальбах Я. Коласа евангельскі архетып беднага Лазара. Сярод народных духоўных песень адной з самых папулярных была менавіта "Песня аб бедным Лазары". У біблейскай гісторыі пра багацея і Лазара беднага, як і ў песеннай версіі гэтага сюжэта, любоў і заступніцтва Бога сыходзяць менавіта на ўбогага і ўсімі пагарджанага чалавека, а не на пышнага ганарлівага багацея. Так і паэт, як прарок-заступнік свайго краю, не адкідвае яго ўбогасці і пагарджанасці, якія дасталіся гэтаму краю праз учыненыя яму на працягу вякоў рознымі заможнымі "багацеямі" крыўды. Праз доўгі час нёс тутэйшы народ крыж пакут, у цярпенні зносіў нядолю, стаў "убогім Лазарам" між народаў. У кантэксце такой аналогіі асабліва зразумелая высокая любоў, якою сагрэты вобразы роднага краю ў зборніку "Песні-жальбы" Якуба Коласа.

Цяплом любові, часам пэўным калівам іроніі вызначаецца ў кнізе і вобраз чалавека працы. Вершы, дзе створаны такі вобраз, сабраны ў нізку "Мужычае жыццё", але прывабныя рысы працаўніка-аратага праглядваліся і ў папярэднім цыкле. Так, верш ***"Хлебароб"*** малюе нам годнага і прыгожага селяніна-гаспадара, які паважна аглядае свой палетак, дзе дружна спее будучы ўраджай. Няма ў вершы ніякіх намёкаў на заняпад, гразь, неўрадлівасць: "*Густа жытцо маладое / Поле ўсё пакрыла, / Расьце добра і прыгожа, / Ажно глянуць міла*" [4, с. 39]. Ды і сам хлебароб – самавіты, "*важны, задуменны*", сапраўдны гаспадар сваёй раллі.

Гэты вобраз кардынальна адрозніваецца ад традыцыйнага вобраза мужыка-бедака, які бачым у вершы ***"Мужык"*** і да якога ўжо нібы прызвычаілася наша свядомасць як да тыповага вобраза селяніна пачатку ХХ ст., створанага нашай літаратурай:

*Я – мужычы сынок.*
*Ні двара, ні кала!*
*Поле – жоўты пясок,*
*Хата ў зямлю вайшла.*

*Не жыву, а гнію,*
*Прападаю, як мыш…*
*Глянь на долю маю,*
*Глянь на цяжкі мой крыж!..* [4, с. 77].

Побач з матывам беднасці, убогасці і занядбанасці жыцця селяніна, якое выклікае шчыры жаль і спараджае песні-плачы над яго доляй, ужо з гэтай нізкі зборніка пачынае гучаць і матыў веры ў надыход праўды. Так, заключны верш цыкла ***"Мы ходзім спатыкаемся"*** напісаны на аснове кантрасту-супрацьпастаўлення: хоць мы "*асьмеяны, абляяны, / Гразёю мы абмазаны*", але ж "*…хоць некалі / А праўды дапытаемся*" [4, с. 82]. Гаворку пра будучае вызваленне, пошук праўды працягвае паэт і ў цыкле вершаў "На розстані". У вершах "Не бядуй", "Сябром", "*Што вы, хлопцы, пахмурнелі…*" упэўнена гучыць матыў адраджэння, які перамагае плач, акрыляе да дзейснай, актыўнай працы дзеля новай будучыні. "*Наша праўда нам паможэ – / Блісьне сьвет і к нам ў ваконцэ!*" – сцвярджаў паэт у вершы ***"Сябром"***, звяртаючыся, пэўна ж, да сваіх аднадумцаў-паплечнікаў, кола якіх найперш тады складалі нашаніўцы і сябры-настаўнікі. Праўда адраджэння абвяшчаецца паэтам і ў вершы ***"Не бядуй"***, дзе яго голас ужо ўзмацняецца да прарочага тону: "*Вер, што жыцьце залатое / Будзе ў нашай старане!*" [4, с. 94].

Асаблівае месца ў кнізе займае "турэмны" цыкл вершаў, дзе адбіліся непасрэдныя ўражанні астрожнага жыцця, а тэма волі і нявольніцтва загучала яшчэ больш трагічна:

*Як моцны гук, прызыў вясны*
*С тваей пачуўся вышыны!*
*Прастор, прастор і воля там,*
*Але не нам яны, не нам!*
*Запёрты мы, прыдаўлены.*
*Рашоткі нам пастаўлены…*

Песьня няволі [4, с. 121].

Ратуюць лірычнага героя-вязня толькі думкі пра родны край. Яго вобразы-краявіды паўстаюць перад вачыма нявольніка, выклікаюць "*смутак і радасць*", даюць наталенне спакутаванай душы, вяртаючы ёй спакой. Менавіта таму ў цыкле паміж вершаў астрожнай тэматыкі з'явіўся верш "Родныя абразы" ("Родныя вобразы"), які стаў вяршыняй лірычнага пачуцця ўсяго зборніка і нібыта лагічна замкнуў увесь яго вобразны строй:

*Толькі я лягу і вочы закрыю,*
*Бачу я вас прэд сабой:*
*Ціха праходзіце вы, як жывые,*
*Зьяючы мілай красой* [4, с. 119].

Першы зборнік вершаў Якуба Коласа "Песні-жальбы" сто гадоў таму паказваў беларускаму чытачу ўсю "*мілую красу*" айчыны, вучыў любіць яе ў жальбе і смутку, пакрыўджаную і пагарджаную, любіць для будучай славы ўваскрэсення і аднаўлення ў Праўдзе, паказваў шлях да Новай Зямлі і Новага Неба.

**Спіс літаратуры**

1. **Багдановіч, М**. Поўны збор твораў : у 3 т. / М. Багдановіч. – Мінск : Навука і тэхніка, 1993. – Т. 2.
2. **Бульба, А.** Песні жальбы / А. Бульба // Наша Ніва. – 1910. – 30 вер.
3. **Гісторыя беларускай літаратуры ХХ стагоддзя** : у 4 т. – Мінск : Беларус. навука, 1999. – Т. 1 : 1901 – 1920.
4. **Колас, Я.** Песні-жальбы / Я. Колас. – Факс. выд. – Мінск : Маст. літ., 1982.
5. **Конан, У.** Хрысціянская філасофія жыцця ў творчасці Якуба Коласа / У. Конан // Наша вера. – 2007. – № 4. – С. 29 – 33.

Жанна ШАЛАДОНАВА

# СЕМАНТЫКА ВОБРАЗА ДАРОГІ Ў ТВОРАХ ЯКУБА КОЛАСА

Паняцце прасторы шматзначнае, яно цесна звязана з геаграфічна-матэрыяльнымі філасофска-культурнымі каардынатамі, аб'ядноўвае іх у адзінае цэлае. "Дзеля таго, каб быць узвышанай, прастора павінна быць не толькі вялікай (ці бязмежнай), але і скіраванай, той, хто знаходзіцца ў ёй, павінен рухацца да мэты. Яна павінна быць дарогай… Са з'яўленнем вобраза дарогі як формы прасторы фарміруецца і ідэя шляху як нормы жыцця чалавека, народаў і чалавецтва" [4, с. 656], – адзначыў Ю. Лотман пры разглядзе мастацкай прасторы прозы М. Гогаля. Дарога – гэта ўніверсалія сусветнай культуры, рэпрэзентатыўны вобраз нацыянальнай прасторы, мадэль чалавечага існавання, ёмістая дэталь мастацкай рэчаіснасці і характаралогіі персанажаў.

Дарога з'яўляецца адным з выразных прасторавых вобразаў у творах Якуба Коласа. Шматстайнасць варыянтаў мастацкага ўвасаблення вобраза абумоўлена сукупнасцю яго эмпірычных і сімвалічных значэнняў. Нягледзячы на тое, што знаходжанне ў цэнтры Еўропы садзейнічала ўзнікненню і актыўнаму функцыянаванню ў Беларусі важных гандлёва-эканамічных і палітычных шляхоў, што звязвалі краіны Захаду і Усходу, Поўначы і Поўдня, на працягу стагоддзяў беларусы выявілі сябе пераважна як аседлы этнас з адпаведнай псіхалогіяй і самасвядомасцю, у якой паняцці цэнтра, дому замацоўвалі ўкаранёнасць у свеце, перадавалі складаныя механізмы асваення, абжывання прасторы і самаідэнтыфікацыі ў ёй. Дарога ў сваім прамым значэнні натуральна ўспрымалася як цяжкая і небяспечная, вымушаная і непажаданая, супрацьпастаўлялася трываламу, абжытаму, роднаму асяроддзю.

У творчасці Якуба Коласа вобраз дарогі поліфункцыянальны, ужываецца ў самых розных значэннях, якія змяняюць адно другое. Матывы блуканняў, падарожжаў герояў прысутнічаюць практычна ва ўсіх коласаўскіх творах. У першых лірычных замалёўках паэта звяртае на сябе ўвагу крывая, вузкая, глухая і цесная дарога, якая параўноўваецца з незайздросным лёсам, цяжкай доляй беднага працоўнага люду, выгнанніка ў сваёй краіне:

*Ой, дарога-сцежка,*
*Вузкая, крывая!*
*І ты, жыццё наша,*
*Ты, доля, такая!* [3, т. 1, с. 28].

Нежаданне кардынальных перамен у лёсе, імкненне да трываласці, устойлівасці побыту, непарушнасці традыцый як жыццёвая філасофія цэлага народа сфармулявана Ганнай, гераіняй коласаўскай паэмы "Новая зямля":

*А там, за светам, на чужыне*
*Ніхто цябе, ой, не прыхіне!*
*…Няпэўна ўсё і невядома,*
*Дык больш пільнуйцеся вы дому!* [3, т. 6, с. 30].

Пазіцыя герояў пададзена аўтарам у адпаведнасці з такой этнавызначальнай прыкметай беларускай нацыі, як аседласць. Звязаныя з дарогай і пераездамі пошукі, блуканні ўяўляюцца героямі як бессэнсоўны рух, што супярэчыць іх сутнасці, больш актуальнай і блізкай успрымаецца ідэя дому, зямлі. Вымушаныя пераезды, звязаныя са зменай месца службы Міхала, пазбаўлялі жыццё стабільнасці, прыўносілі адчуванне хісткасці, нетрываласці, неабароненасці перад лёсам і сталі адной з прычын настойлівага імкнення герояў набыць уласную зямлю. Калі клопаты па набыцці зямельнага надзелу прывялі Антося ў Вільню, далучыўшы да шматлікага натоўпу шукальнікаў лепшай долі, героя непрыемна ўразіла безліч народу, у хаатычным, мітуслівым руху якога не адчувалася ніякага сэнсу. Якуб Колас падкрэсліваў, што ў такім вымушаным драматычна-напружаным блуканні страчваюцца спрадвечныя ідэалы, знікаюць агульныя інтарэсы, губляюцца каштоўнасныя арыенціры.

Ва ўяўленні герояў твора крыніцай распаўсюджвання ўсяго злога ў свеце з'яўляюцца бітыя дарогі:

*А ліха прыйдзе без падмогі,*
*Бо ліху – бітыя дарогі*
*І ўсюды сцежкі яму вольны,*
*То роўна-гладкі, то вакольны…* [3, т. 6, с. 64].

Вобраз *бітага шляху*, тыповы ў лірыцы Якуба Коласа, у скандэнсаванай форме перадае тэндэнцыі нацыянальнага існавання, пазначанага нетрываласцю, няўстойлівасцю.

Звяртае на сябе ўвагу тоеснасць прынцыпаў абмалёўкі вобраза ў творах Якуба Коласа і Тараса Шаўчэнкі, дзе ён выяўлены глыбока і шматпланава ў адпаведнасці са спецыфікай нацыянальнага светаадчування. Раскрыты ў "Кабзары" «сэнс сімвала шляху – гэта нешта неспадзяванае – ён заключаецца, найперш, у тым, што

***Жанна Сяргееўна Шаладонава*** *– літаратуразнаўца. Кандыдат філалагічных навук (1998). Закончыла філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1992) і аспірантуру пры Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук Беларусі (1995). Старшы навуковы супрацоўнік Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы. Аўтар кнігі «Фарбы быту і быцця ў паэме Якуба Коласа "Новая зямля"» (2001), адзін з аўтараў калектыўных зборнікаў "Нарысы беларуска-ўкраінскіх літаратурных сувязей: Культурна-гістарычны і літаратуразнаўчы аспекты праблемы" (2002), "Беларуская літаратура ў кантэксце славянскіх літаратур XIX – XX стст." (2006). Лаўрэат прэміі Прэзідэнтаў Акадэмій навук Беларусі, Украіны, Малдовы (2003).*



шлях – гэта месца гора, журбы, страты, жыццёвай катастрофы, марных спадзяванняў; пэўны "канал", па якім цыркулюе ліха» [2, с. 37]:

*Чорним шляхом запалало,*
*І кров полилася…* [5, с. 71].

Даследчыца Т. Дарэнская тлумачыць такую семантычную афарбоўку вобраза нацыянальна-ментальнымі асаблівасцямі ўкраінцаў, што склаліся ў працэсе гістарычнага фарміравання і развіцця народа, прывязанага да сваёй зямлі і пацярпелага ад агрэсій, якія наступалі на яго менавіта праз "бітыя шляхі". Вобразы дарогі, шляху – атрыбуты казацкіх ваенных паходаў – асацыіруюцца ў паэзіі Тараса Шаўчэнкі з трагічнымі момантамі існавання, са смерцю і разбурэннем.

У рускай літаратурна-культурнай традыцыі з дарогай звязваецца магчымасць асваення вялікай тэрытарыяльнай прасторы, stationоўчыя перамены ў жыцці, дарога – гэта шлях да выратавання, умова творчасці. На думку Т. Шчапанскай, папулярны варыянт расійскай мары пра волю выяўляецца ў матыве і практыцы сыходу і ўцёкаў з тым, каб апынуцца ў дарозе. Разам з тым даследчыца лічыць, што «традыцыя адмаўляецца бачыць дарогу як засвоеную культурай зону, г. зн. уключаць у сферу дзеяння культуры. Культура не бачыць дарогу як сваю частку. Бездараж увайшла ў лік этнавызначальнікаў. Дакладней гаварыць не пра тое, што рускі этнас ідэнтыфікуе сябе з дарогай, але падкрэслена аддаляецца ад яе, вызначае сябе праз яе супрацьлегласць (дом, аседласць) і акцэнтуе яе адсутнасць. Міфалагему "дрэнных дарог" як этнавызначальнік можна разглядаць у выніку як функцыю аседлай этнічнай самасвядомасці» [6, с. 35].

Бездараж звяртае на сябе ўвагу ў коласаўскіх замалёўках у паэме "Новая зямля", трылогіі "На ростанях".

Гэта прыкметная мастацкая дэталь невыпадкова так падрабязна абыгрываецца аўтарам, які часта з гумарам канстатуе і падрабязна распісвае неад'емную, амаль характэрную асаблівасць нацыянальнага ландшафту. *"Пасля абеду Лабановіч збіраўся прайсціся. Ён выйшаў на двор. На вуліцы было столькі гразі, што перайсці яе ў настаўніка не хапіла адвагі, і ён павярнуў на поле і зараз жа выйшаў на вузкую сцежку, якая вяла на чыгунку. Гэта было адзінае месца, дзе можна было хадзіць, не баючыся гразі"* [3, т. 9, с. 41]. Неаднаразовы зварот Коласа да вобраза дарожнай гразі сведчыць пра значнасць яго як дапаможнага ў фарміраванні канцэпту дарогі і нагадвае "пургаментарныя матывы" (цікавасць да гразі, пылу, смецця), шырока выяўленыя ў творах М. Гогаля.

Пераадоленне Лабановічам перашкод, звязаных з непраходнасцю палескіх дарог, можа ўспрымацца як крыніца стварэння камічных сітуацый. З гумарам Якуб Колас апавядае пра тое, як Лабановіч вымушаны басаножперабірацца праз дарожную гразь і лужыны, каб завітаць у госці да калегі, настаўніцы Вольгі Віктараўны: «*Гразь непралазная, клейкая гразь затапляе дарогі. Каляіны заліты вадою. Па нізінах, як азёры, стаяць шырокія лужыны. Ні прайсці, ні абмінуць іх. Халодна, золка, пуста і глуха… Настаўнік выходзіць на больш сухое месца, прыгінаецца, знімае хадакі, падкасваецца: "Ліха яго бяры, лёду няма, а можа ногі не паадвальваюцца, а на пераездзе абуюся", – думае. Раз і два. Ногі ўлазяць у халодную, як лёд, калатушу. Пякучы холад, здаецца, даходзіць да сэрца, але храбра цярэбіцца па гразі*» [3, т. 9, с. 325]. Камічнае апісанне на першы погляд нязначнага пабытавага здарэння адыгрывае ў творы важную характаралагічную функцыю стылю жыцця і побыту беларуса, звязана з агульнай аўтарскай задачай фарміравання вычарпальнай і цэласнай карціны нацыянальнага космасу, у якім дамінантнай характарыстыкай з'яўляецца абжыванне прасторы дому. Звяртае на сябе ўвагу неасвоенасць дарожных топасаў, тая ж "міфалагема дрэнных дарог".

Замацаваная ў этнагенетычнай памяці традыцыя насцярожана-трывожнага ўспрымання канцэпту дарогі трансфармуецца ў шэраг іншых значэнняў, узаемадзейнічае з катэгорыямі *жыццё, смерць, бессмяротнасць*. У філасофска-медытацыйным вершы М. Багдановіча сімвалічная змястоўнасць вобраза дарогі раскрывае яе пасрэдніцкую ролю ў чалавечым лёсе паміж нараджэннем і сумна вядомым, няўмольным канцом:

*Шмат у нашым жыцці ёсць дарог,*
*А вядуць яны ўсе да магілы* [1, с. 134].

Сімволіка шляху як канчатковага выніку жыцця, трагічнай наканаванасці чалавечага лёсу выкарыстоўваецца ў фінале паэмы Я. Коласа "Новая зямля" ў сувязі са смерцю галоўнага героя:

*Беглі сцежачкі*
*Ў свет шырокенькі,*
*Прывялі ж яны*
*К той магіланьцы!..* [3, т. 6, с. 280].

Аднак нягледзячы на трагічную развязку, фінал паэмы гучыць вітальна-аптымістычна. Паэт выходзіць на новы ўзровень метафарычнага асэнсавання прыватных вобразаў, такіх, як *"дарожанькі людскія, / Пуцінкі вузкія, крывыя"*. Пераадоленне трагедыі бачыцца ім праз аб'яднанне цьмяных разрозненых блуканняў па вузкіх і крывых дарогах у новым эвалюцыйным вітку на прасторным, прамым шляху творчасці, гармоніі і справядлівасці, на які можна патрапіць толькі сумеснымі намаганнямі. Таму такое важнае значэнне набывае актыўнае духоўна-сацыяльнае станаўленне і развіццё кожнага асобнага чалавека, яго далучэнне да агульнажыццёвага рытму адзінай нацыі. Прасторны шлях у трактоўцы Якуба Коласа выступае не толькі як "універсальная форма арганізацыі прасторы" (Ю. Лотман), але і як умова і сімвал упарадкаванасці нацыянальнага быцця:

*Прасторны шлях! калі ж, калі*
*Ты закрасуеш на зямлі*
*І злучыш нашы ўсе дарогі?* [3, т. 6, с. 280].

Побач з выяўленнем прамога эмпірычнага значэння вобраза дарогі, звязанага з пераездамі, перамяшчэннямі герояў, Якубам Коласам заўсёды развіваецца вобразна-метафарычнае асэнсаванне шляху як несупыннага працэсу спазнання, экзістэнцыйнага падарожжа ў спасціжэнні ісціны чалавечага існавання, яго адмысловай логікі.

Траекторыя дарогі, тоесная траекторыі думкі, акрэслівае план чалавечага лёсу. У паэме "Сымон-музыка" шматлікасць і бясконцасць дарог у свеце тлумачыцца паэтам у сувязі з уласцівасцямі чалавечага існавання як руху па асваенні жыццёвай і быційнай прасторы, наданні ёй суб'ектыўнага сэнсу, скіраванасці за свае магчымасці, межы сваёй канчатковасці і адпавядае фаўстаўскай "жывога духу вечнай кругаверці". Якуб Колас задумваецца пра рухальныя сілы ўнутранага свету чалавека, вытокі духоўнасці, маральнасці, інтуіцыі. Са знаходжаннем герояў у дарозе, іх фізічным перамяшчэннем аўтар звязвае імкліва-пошукавы рух мыслення і тым самым акцэнтуе яшчэ і такое значэнне вобраза, як выток, сімвал творчасці, неад'емную частку знешняга і ўнутрана-духоўнага, творчага жыцця:

*Выйшла б казка, ды якая,*
*Каб маглі вы расказаць*
*То, што й думка не згадае,*
*Што адным вам толькі знаць!* [3, т. 6, с. 320].

У трылогіі "На ростанях", насычанай энергетыкай руху, для галоўнага героя твора, маладога настаўніка Лабановіча, якому *"добра быць у дарозе, якую ты сам сабе выбіраеш"* [3, т. 9, с. 481], дарога – спосаб і стыль жыцця, сведка яго духоўнага сталення і ўпэўненага самасцвярджэння. З вобразам дарогі звязваюцца і выпрабаванні, якія выпадаюць на долю настаўніка, пошукі самога сябе, свайго шчасця і сэнсу жыцця. Увогуле, дарога непазбежна схіляе да роздумнасці, самарэфлексіі, што ўзмацняе духоўна-эмацыянальнае, этычнае вымярэнне раманнай прасторы: *"Дарога – вялікая яна ці малая – кожны раз хвалявала Лабановіча і настройвала яго мыслі і пачуцці на салодка-журботны лад. Месца, якое ён пакідаў і з якім ужо звыкся, паўставала ў іншым святле і афарбоўцы, і тое, чаго ён раней як бы не заўважаў, станавілася дарагім і блізкім і з ім шкада было разлучацца"* [3, т. 9, с. 478].

Дарога ў коласаўскіх творах – крыніца ўражанняў, якая дазваляе падкрэсліць адметную прыгажосць родных краявідаў, панарамна адлюстраваць стыхію нацыянальнага жыцця, завастрыць вузлавыя моманты народна-гістарычнага лёсу і сацыяльных узаемаадносін, разгарнуць шырокі праблемна-роздумны спектр уражанняў і перажыванняў: *"А дарога мая чуць віднаю шэраю ніткаю ідзе ўсё далей і далей, круціцца, абвіваецца наўкруг курганоў, узбягае на горы, спускаецца ў лагчыны, прападае ў лесе пад жывою страхою высокіх хвой і ялін; трасе цялежка, падкідае па каўдобінах, усё роўна як хоча яна выкінуць мяне пасярод дарогі. Зноў пайшла раўней мая дарога, зноў вачам адкрываюцца новыя абразы свету, іншыя галасы чуе маё вуха, іншыя думкі родзяцца ў маім сэрцы. Куды ты нясеш мяне, няведамая дарога?"* [3, т. 4, с. 16].

Такім чынам, дарога, шлях – найбольш арганічны спосаб асваення і выяўлення нацыянальнай прасторы, адлюстравання самарэалізацыі, самаідэнтыфікацыі ў ёй чалавека. Як адна з асноўных канстантаў нацыянальнай прасторы дарога ў творчасці Якуба Коласа інтэрпрэтуецца ў розных сэнсавых каардынатах, карэлюючы з сусветнымі ўніверсаліямі і беларускімі этнакультурнымі традыцыямі і стэрэатыпамі.

**Спіс літаратуры**


1. **Багдановіч, М.** Поўны збор твораў : у 3 т. / М. Багдановіч. – Мінск : Навука і тэхніка, 1992. – Т. 1.
2. **Даренська, Т. В.** Поетичний символ шляху і специфіка українського образу світу / Т. В. Даренська // Бахмутський шлях : літературний і науковий історико-філологічний часопис. – 2000. – № 3/4 (21/22).
3. **Колас, Я.** Збор твораў : у 14 т. / Я. Колас. – Мінск : Маст. літ., 1972 – 1978.
4. **Лотман, Ю. М.** Художественное пространство в прозе Гоголя / Лотман Ю. М. // О русской литературе. – СПб. : Искусство, 1997.
5. **Шевченко, Т.** Кобзар / Т. Шевченко. – Київ : Веселка, 1998.
6. **Щепанская, Т. Б.** Культура дороги в русской мифологической традиции XIX – XX вв. / Т. Б. Щепанская. – М. : Индрик, 2003.

# ІМПРЭСІЯНІСТЫЧНЫЯ ТЭНДЭНЦЫІ Ў ПАЭЗІІ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

Творчасць Максіма Багдановіча сёння разглядаецца праз прызму розных мастацка-эстэтычных плыней. Часцей за ўсё яна даследуецца ў кантэксце імпрэсіянізму і сімвалізму: «Абодва мастацкія метады прадугледжваюць музычнасць, меладычнасць верша, яго пластычнасць, сканцэнтраванасць на падтэкстах, двух- або шматпланавасць вобразаў, узаемапранікненне "знешняга" і "ўнутранага"» [4, с. 19]. М. Багдановіч фіксуе імгненныя, хуткасныя змены прыроды, перадае тонкія нюансы ў характары. Ён звяртаецца да слова як паэтычнага мастацкага сродку, здольнага перадаць стан душы лірычнага героя, яго перажыванні і адчуванні. Паэт перадае ўражанні асобы пры стварэнні новых, незвычайных вобразаў у імпрэсіяністычным ракурсе: *"Напілося сонца са крыніц сцюдзёных, / Усцягнула ў вышу з іх ваду, як пар; / І, ўзляцеўшы шпарка па праменнях тонкіх, / Пар зрабіўся слічнай чарадою хмар"* ("Напілося сонца са крыніц сцюдзёных…") [1, с. 116].

«Літаратурнаму імпрэсіянізму ўласцівы фрагментарнасць, адрывістасць расповеду, "стэнаграфаванне" асобнага, канкрэтнага, выключная ўвага да дэталі, да найтанчэйшых нюансаў, паўценяў, паўтонаў у характары, з'яве, прадмеце, сапраўды імпрэсіяністычная жывапіснасць у перадачы колеру, каларыту, стану, перавага такіх адчуванняў, як няпэўнасць, расплывістасць, недагаворанасць, зыбкасць, хісткасць» [4, с. 12]. М. Багдановіч раскрывае еднасць музыкі і паэзіі ў імпрэсіі, нават калі пейзажны малюнак выглядае фрагментарным, мазаічным ("Вечар", "За дахамі места памеркла нябёс пазалота…"). Паэт перадае элегічны, мінорны лад твораў ці аптымістычны, мажорны пры наяўнасці аналітычнага пачатку. Здольнасць перадаваць невыказныя грані слова выяўляецца ў рацыяналістычнай скіраванасці многіх паняццяў і іх асацыятыўнасці: *"Месяц выплыў над змрочнай, заснуўшай зямлёй, / І павёў яго ў цёмную даль за сабой, / І прывабіў да мглістай халоднай вады, – / Сэрца білася рыбкай у сеці тады"* ("Самнамбул") [1, с. 66].

Меладычнасць радкоў фарміруе музыку верша ў цэлым. Каб зрабіць акцэнт на ідэі твора і раскрыць яе значнасць, паэт звяртаецца да няпоўных сказаў: *"Блішчыць у небе зор пасеў; / У полі – рунь і ў небе – рунь. / Да рэчкі лецячы, ўзляцеў / Між імі марай белы лунь"* ("Блішчыць у небе зор пасеў…") [1, с. 61]. Аўтар адчувае плыннасць часу і перадае змены ў прыродзе пры дапамозе паўтору слоў, блізкіх па значэнні (напрыклад, *неба* і *нябёсы* ў вершы "Вось і ноч. Нада мной заліліся слязамі нябёсы…").

Кожная імпрэсія М. Багдановіча набывае толькі для яе характэрны настрой (элегічны, узнёслы, журботны). Такім чынам паэт перадае ноты тугі ці радасці, задуменнасці ці ўсхваляванасці ў замалёўках прыроды ("Плакала лета, зямлю пакідаючы…" – журботны настрой; "Перад паводкай" – узнёслы настрой).

Часцей за ўсё, калі гавораць пра музыку слова ў творчасці М. Багдановіча, вылучаюць верш "Па-над белым пухам вішняў…", які «можна разглядаць як дыялог з Верленам, як своеасаблівы водгук на верленаўскае патрабаванне "Музыка перш за ўсё"…» [3, с. 265]. М. Багдановіч і ў гэтым вершы, і ў іншых сваіх творах сцвярджае еднасць ціхай, пяшчотнай музыкі слова і ўзрушанасці элегічнага ладу, тону твора. Паэт выяўляе рытмамелодыку радкоў у імпрэсіях і тады, калі звяртаецца да фальклорна-песенных матываў: *"Скучна мне ў глыбіне, ў ціshыне; / Ўспамінаю я на дне аб вясне; / Я вясною пляснусь-ўскалыхнусь, / Зеляною муравой убярусь"* ("Русалка") [1, с. 205]. Фальклорна-песенны пачатак вызначаецца выкарыстаннем устойлівых канструкцый ("зеляная мурава", "пляснусь-ўскалыхнусь" у вершы "Русалка"). А пры шматразовым ужыванні займенніка *я* ў імпрэсіі "Ой, лясы-бары ды лугі-разлогі!.." увага акцэнтуецца на прэдыкаце: *"Я вазьму – і зноў па ёй пахаджу, / Я ізноў на сцяжынку пагляджу. / А на ёй ўжо трава-мурава…"* [1, с. 276].

На М. Багдановіча і традыцыю яго імпрэсіяністычнага пісьма паўплывалі заходнееўрапейскія (П. Верлен, А. Рэмбо), рускія (А. Фет, В. Брусаў, А. Блок) аўтары. Французскі паэт Поль Верлен уздзейнічаў на працэс фарміравання светапогляду М. Багдановіча ў плане музыкальнасці верша. Нярэдка імпрэсіі М. Багдановіча называюць "пейзажам душы", бо яны выражаюць унутраныя эмацыянальныя зрухі героя (радасць ці сум ад сузірання наваколля; замілаванасць краявідамі; каханне) і перадаюць рацыянальныя памкненні (стан лірычнага героя, змены ў прыродзе: летняя спёка ці зімняя сцюжа, восеньскія халады ці вясенняя адліга): *"Халоднай ноччу я ў шырокім, цёмным полі / Каля агнішча лёг і сціхнуў у паўсне. / Агонь усё слабеў… урэшце знік паволі… / І ўраз зрабілася вясёла неяк мне!.."* ("Халоднай ноччу я ў шырокім, цёмным полі…") [1, с. 109].

Меладычнасць, сугестыўнасць вершаў М. Багдановіча дасягаецца дзякуючы гармоніі гука, рыт-

му і сэнсу. “Імкненне да эмацыянальнай выразнасці і музыкальнасці верша, яго дынамічнасці, асацыятыўнасці паэтычнага мыслення, да разнастайнасці паэтычных формаў, – усё гэта характэрна для Багдановіча, і гэтыя асаблівасці яго лірыкі, бясспрэчна, знаходзяцца ў складаным узаемадзеянні з працэсам развіцця далейшай еўрапейскай паэзіі, у тым ліку і паэзіі сімвалізму” [3, с. 264].

Максім Багдановіч перадае элегічнасць, напеўнасць вершаванага радка, калі ўзгадвае шапаценне ветрыку і шум чароту ля ракі (“Маёвая песня”), прыгадвае спевы завеі, што *“сумна бомамі ў полі звініць”* (“Ноч. Газніца гарыць, чырванее…”). Мастак слова раскрывае гармонію і красу свету, выяўляе значэнне хараства прыроды ў штодзённым турботным жыцці чалавека пры фіксацыі імгнення, калі звязвае між сабою самавыяўленне эмоцый і пачуццяў асобы: *“Сеў хлопчык з шкляначкай ля вулічнага ганку / І выдувае з мыла пузыры. / Вясёлкаю гараць яны ў зіянні ранку, / Ўзлятаючы ў паветра да гары”* (“Сеў хлопчык з шкляначкай ля вулічнага ганку…”) [1, с. 101].

Каб перадаць напеўнасць і элегічны настрой імпрэсій, паэт выкарыстоўвае выразна акрэсленую дэталь (прыдарожная груша ў вершы “Добрай ночы, зара-заранiца!..”; бледны рог месяца ў вершы “Цёплы вечар, ціхі вецер, свежы стог…”), падае дзеянні персанажа праз ураженні і перажыванні лірычнага суб’екта (душэўны боль лірычнага суб’екта пазначаны сумам персанажа – у вершы “Сэрца ные, сэрца кроіцца ад болю…”). Для стварэння замалёўкі ў дынаміцы і выяўлення гамы пачуццяў – ад радасці, захаплення навакольнай рэчаіснасцю да невыказнай словам тугі – паэт звяртаецца да сінтаксічных паўтораў: *“Звярнуў калісь Пегас на вулкі / З прывольных палявых дарог, – / І пракаціўся топат гулкі, / І іскры сыпнулі з-пад ног”* (“Уступ”) [1, с. 95].

Жывапіснасць імпрэсій М. Багдановіча перадаецца ў палітры паўтонаў разнастайных фарбаў, у іх мяккай пераліўчасці. Жывапіснасць як рыса мастацкай сістэмы становіцца дамінантнай, асноватворнай. “Жывапісны пейзаж неаднойчы ўзбагачаў паэзію, паглыбляў у ёй адчуванне разнастайнасці форм прыроды, каларыту, дапамагаў у перадачы прасторы і паветра” [2, с. 60]. М. Багдановіч, які прытрымліваўся прынцыпаў імпрэсіяністычнага пісьма, аддаваў перавагу вечаровым пейзажам (“Вечар на захадзе ў попеле тушыць…”, “Цёплы вечар, ціхі вецер, свежы стог…”, “Ціха па мяккай траве…”). Паэт адухаўляе вечар, надае яму звышрэальныя магчымасці. Так, месяц, які *“хутка стане снегавым”*, – свайго роду пасрэднік паміж вечарам і небам (“Вечар”). М. Багдановіч ужывае тонка акрэсленыя лініі ў раскрыцці колеру прадметаў, пэўных аб’ектаў, каб перадаць каларыт вечара, які непрыкметна надыходзіць: *“Ціха па мяккай траве / Сінявокая ноч праходзіла <…> / Пала раса; у палёх / Загарэліся пацеркі мілых / Жоўта-чырвоных агнёў…”* (“Ціха па мяккай траве…”) [1, с. 64].

Маляўнічы пейзаж у творчасці М. Багдановіча – галоўны аб’ект даследавання сучасных літаратуразнаўцаў. “Беларускі пейзаж вылучаецца акварэльнасцю, празрыстасцю, мяккасцю фарбаў, яму не ўласціва бязмежнасць прасторы, рэзкая акрэсленасць ліній” [2, с. 61]. Жывапіснасць, маляўнічасць беларускіх краявідаў ствараецца ў кантэксце гукавога ўспрымання з’яў. М. Багдановіч паэтызуе беларускі пейзаж у гуках пры дапамозе зычных *р*, *ц*, *ш*: *“…Ве**цяр**ок п**р**ыда**р**ожную г**р**у**шу** / Ледзьве чутна ва**р**у**ш**а-калы**ш**а, / Міла бомы смяю**цц**а у **ц**і**ш**ы, / **Ц**іха с**р**эб**р**ам г**р**укае к**р**ыні**ц**а. / Доб**р**ай ночы, за**р**а-за**р**ані**ц**а!”* (“Добрай ночы, зара-заранiца!..”) [1, с. 63]. Так аўтар імпрэсій спалучае вобразныя малюнкі з гукавымі асацыяцыямі, якія на першы погляд не ўтвараюць адзінства. М. Багдановіч яднае ў сінтэзе неспалучальнае: цішыню і смех (“Добрай ночы, зара-заранiца!..”), шапаценне ветру і маўклівасць прасторы (“Маёвая песня”), шум на вуліцах і бязгучнасць ля старасвецкіх будынкаў (“Вулкі Вільні зіяюць і громка грымяць!..”). Музыкай слова і маляўнічасцю вобраза паэт перадае таямніцы свету (жыццё і смерць, спасціжэнне таемнага і трансцэндэнтнага), іх унікальную змястоўна-вобразную сутнасць.

Для паэзіі М. Багдановіча нехарактэрныя рэзкія кантрасныя колераспалучэнні, нягледзячы на тое, што аўтар звяртаецца да прыёму супрацьпастаўлення (сэнсавы кантраст “святла – цемры”): *“Вільготны месяц стуль на поле / Празрысты, светлы стоўп спусціў / І рызай срэбнаю раздолле / Снягоў сінеючых пакрыў”* (“Зімой”) [1, с. 72]. “Багдановіч – паэт паўтонаў, тонкіх, ледзь улоўных перажыванняў, нюансаў пачуцця, і гэтым вабілі яго імпрэсіяністы” [5, с. 87].

Імпрэсіяністычны светапогляд М. Багдановіча выяўляецца ў апісанні стыхій прыроды – вады, агню, паветра і зямлі. У першую чаргу ён звяртаецца да стыхіі паветра (найперш “паветра мяккага, пекнага”, як у вершы “Раяль цалуе тонкая рука…”), што звязана са спецыфікай успрымання наваколля імпрэсіяністамі: *“А к ночы свой чырвоны веер / У небе сонца развярне, / І разварушаны ім вецер / У даль памкне”* (“Прывет табе, жыццё на волі!..”) [1, с. 60]. Мастак-імпрэсіяніст дае разнастайныя характарыстыкі ветру: “*буйны* вецер” (“Напілося сонца са крыніц сцюдзёных…”), “вецер *звонкі*” (“Маёвая песня”).

Аўра святла і паветра, якая арганічна аб’яднала чалавека і прыроду не толькі ў жывапісе, але і ў літаратуры, спрыяла пашырэнню прасторава-часавых параметраў, рухомасці вобразаў. Выразнасць, дасканалая вытанчанасць кожнай лініі пры апісанні з’явы, прадмета дасягалася пры звароце

да элементаў, да дэталей: *"Добрай ночы, зара-зараніца! / Ўжо імгла над зямлёю лажыцца, / Чорнай рызай усё пакрывае, / Пылам зор небасхіл абсявае"* ("Добрай ночы, зара-зараніца!..") [1, с. 63].

Максім Багдановіч раскрывае сваё непасрэднае бачанне жыцця ў супрацьпастаўленні вечара і раніцы ("Вечар", "Добрай ночы, зара-зараніца!.."), святла і цемры ("Не блішчыць у час змяркання і ў глыбокай цемні ночы…", "Маёвая песня", "Блішчыць у небе зор пасеў…"). Імпрэсіі М. Багдановіча адрозніваюцца па тым, якую пару года апявае аўтар. Часцей за ўсё аўтар звяртаецца да асацыяцый, звязаных з зімовым пейзажам. Большасць замалёвак паэта прысвечаны зіме яшчэ і таму, што дадзеная часіна года ўяўляецца аўтару гаспадыняй снежнага покрыва, ветру, мяцеліцы. М. Багдановіч паказвае завіруху ў канкрэтна-міфалагічным ракурсе: *"Па вулках вее дзікі хмель, / Гудзіць сп'янелая мяцель"* ("Завіруха") [1, с. 100].

Імпрэсіяністычныя замалёўкі М. Багдановіча пабудаваны на аснове канкрэтна-выяўленчых формаў у адлюстраванні рэчаіснасці. Паэт перадае містычнае светаадчуванне звышнатуральнай красы прыроды. «Вершы "Вянка" маюць адметны, непаўторны каларыт. Гэта ў большасці сваёй "начныя" вершы з іх своеасаблівым тонкім псіхалагізмам, унутранай засяроджанасцю, медытацыйнасцю, натурфіласофскімі вечнымі пытаннямі, абвостраным паэтычным зрокам і слыхам» (Т. Чабан). М. Багдановіч паэтызуе вечар ("Цёплы вечар, ціхі вецер, свежы стог…", "Вечар") і ноч ("Ноч", "Асенняй ночай") і перадае жывапісны каларыт прыроды праз эмацыянальныя зрухі ў душы героя і абставіны часу: *"…Бачу я, з прыродай зліўшыся душой, / Як дрыжаць ад ветру зоркі нада мной, / Чую ў цішы, як расце трава"* ("Цёплы вечар, ціхі вецер, свежы стог…") [1, с. 62].

«Своеасаблівы і вячэрні або начны пейзаж, які ўзнікае ў "Вянку": ён напісаны як бы праз вячэрнюю смугу, лёгкім дотыкам, прыглушанымі фарбамі і нават не столькі фарбамі, колькі святлом – пераліваmі святла і ценю» (Т. Чабан). Імпрэсіяністычны малюнак М. Багдановіча нярэдка разглядаецца ў ракурсе эталагічнага светапазнання, і таму "новая паэтычная рэальнасць" фарміруецца згодна з тонка акрэсленай афарбоўкай пейзажу: *"Ноч імглою сізай землю аблівае, / На траве раса, як жэмчуг, зіхаціць; / У сізым небе зорак россып залатая / Ціха іскрыцца – дрыжыць"* ("Ноч імглою сізай землю аблівае…") [1, с. 417].

Напісанне паэтычных імпрэсій М. Багдановічам абумоўлена пэўнымі прычынамі. Па-першае, з'яўленню той ці іншай замалёўкі папярэднічаў уплыў традыцый (фальклорныя матывы, матывы народнай песні ў вершы "Вечар"). Па-другое, умовы і абставіны жыцця фарміруюць светапогляд аўтара, тып мастацкага мыслення (вобразна-асацыятыўнае мысленне ў М. Багдановіча). Па-трэцяе, на вытлумачэнне твора ўплывае асноўная задача, якую ставіць перад сабою аўтар пры стварэнні замалёвак (заклік, роздум і г. д.).

Максім Багдановіч перадае стан лірычнага суб'екта пры дапамозе лексіка-стылістычных сродкаў, напрыклад градацыі: *"Дробны дождж сячэ, ліецца; / Вецер злосна ў хату рвецца, / Ў полі стогнам аддаецца, / Стукне ў дзверы і акно – / Сэрца беднае заб'ецца, / І адразу ў ім прачнецца, / І адразу скалыхнецца / Ўсё, што згінула даўно"* ("Разрытая магіла") [1, с. 69]. Паэт-імпрэсіяніст пашырае межы слова і надае яму экспрэсіўную афарбоўку пры выкарыстанні дапасаваных азначэнняў ("*белыя* бярозы", "*срэбнае* раздолле", "*начная* сінява" – у вершы "Зімой"; "*бахматыя* зоркі", "*срэбныя* ніці" – у вершы "Над возерам").

«Асобныя рысы і рэаліі навакольнага свету, "выпісаныя" імпрэсіяністамі, набываюць сэнс у агульным малюнку – так асобныя мазкі пэндзля мастака, якія пры блізкім разглядванні здаюцца на палатне выпадковымі, зліваюцца затым у цэласны мастацкі вобраз» [7, с. 47]. У літаратурным імпрэсіянізме робіцца акцэнт на гукавыяўленчых прыёмах у раскрыцці вобразаў лірыкі. Мастацкі вобраз становіцца больш дынамічным і выражае рух пачуццяў, думак праз першаснае ўражанне. Тонкі псіхалагізм, медытацыйнасць імпрэсій М. Багдановіча перадаецца ў своеасаблівасці мастацкіх фарбаў. Музыкальнасць, напеўнасць вершаваных радкоў паэта-імпрэсіяніста выяўляецца ў гукаспалучэннях, а фанетычная экспрэсія раскрываецца ў суадносінах з пейзажнымі замалёўкамі. Цэласнасць і фрагментарнасць малюнка ў сінтэзе выяўляе ўнікальны светапогляд Максіма Багдановіча.

**Спіс літаратуры**

1. **Багдановіч, М.** Поўны збор твораў : у 3 т. / М. Багдановіч. – Мінск : Навука і тэхніка, 1992. – Т. 1: Вершы, паэмы, пераклады, наследаванні, чарнавыя накіды. – 752 с.
2. **Бельскі, А. І.** Жывая мова краявідаў : пейзаж у беларускай паэзіі / А. І. Бельскі. – Мінск : БГАКЦ, 1997. – 136 с.
3. **Івашын, В.** У кантэксце мастацкіх культур / В. Івашын // Полымя. – 1998. – № 12. – С. 256 – 269.
4. **Лявонава, Е. А.** Плыні і постаці : з гісторыі сусвет. літ. другой паловы XIX – XX стст. : дапам. для настаўнікаў / Е. А. Лявонава. – Мінск : Рэд. часоп. "Крыніца", 1998. – 336 с.
5. **Навуменка, І.** Максім Багдановіч / І. Навуменка. – Мінск : Беларус. навука, 1997. – 141 с.
6. **Сініла, Г. В.** Максім Багдановіч як перакладчык заходнееўрапейскай паэзіі / Г. В. Сініла // Весн. Беларус. дзярж. ун-та. Сер. 4. Філалогія. Журналістыка. Педагогіка. – 1991. – № 3. – С. 3 – 9.
7. **Тарасюк, Л.** Апалогія красы : кніга пра беларускую паэзію / Л. Тарасюк. – Мінск : ВТАА "Права і эканоміка", 2003. – 141 с.

**Таццяна МАЦЮХІНА,**
аспірантка Інстытута мовы і літаратуры
імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі.

*Артыкул рэкамендаваны да друку доктарам філалагічных навук прафесарам Алесем Бельскім.*

*Новае прачытанне*

# "ЦАЛІНОЮ" ЦІШКІ ГАРТНАГА

*Нашым вольным гоням, дзе лягла пуціна,*
*Даў і ты свой дар,*
*І цябе за гэта, як дбалага сына,*
*Прывітае шчыра родная краіна.*
*Дык жыві ж, пясняр!*

Якуб Колас. *Цішку Гартнаму*.

Нядаўна мы адзначылі 80-я ўгодкі поўнай публікацыі першага беларускага рамана "Сокі цаліны" (1914 – 1929) Цішкі Гартнага (сапр. Зміцер Жылуновіч; 1887 – 1937). Нячаста ўзгадвалі пра яго ад часу напісання: ні ў савецкі, ні ў постсавецкі перыяд лёс не быў спрыяльны да твораў пісьменніка, лаяльнага да савецкага рэжыму або "неналежным чынам", або "залішне". Дагэтуль няма нават цэласнага, арганічна збалансаванага агляду зместу і формы першага беларускага рамана. У прапанаваным матэрыяле праблема не вычэрпваецца, але тут робіцца папярэдні, базавы аналітычны накід, звяртаецца ўвага на анталагічны сэнс твора, які не мог не вызначаць парадыгму далейшага развіцця айчыннай літаратуры, а таксама на прывабнасць мастацкага стылю Цішкі Гартнага, багацце лексічнай палітры і вобразных сродкаў тэксту.

Першы беларускі раман змяшчае бадай галоўны матыў айчыннай літаратуры: адлюстраванне *адзінства чалавека і наваколля* – увогуле матыў быцця чалавека на зямлі. Нібы сам сабой, натуральна ўваходзіць ён у мастацкую тканку твораў амаль усіх беларускіх аўтараў як сведчанне пэўнага светапогляду, характэрнага нацыянальнага светаадчування. Пры агульнай адпаведнай тэндэнцыі айчыннай літаратуры нідзе больш не зафіксавана так яскрава не толькі безліч праяў *адзінства*, але і шэраг падстаў яго адчування, галоўнае ж – яго фундаментальныя сэнсы, бо, вядома, не "адзінства дзеля адзінства" шукае пісьменнік.

Адзін з рэдкіх выпадкаў грунтоўнага стаўлення літаратуразнаўства да прадмета, пра які ідзе гаворка, – згадка пра *адзінства* як вынік адчування героем сэнсу наваколля [1]. Тут закладзена ўяўленне пра еднасць асобы з вонкавым асяроддзем як са сваёй тоеснасцю, часткай уласнай асобы – экзістэнцыяльны план праблемы, надзвычай выразна зафіксаваны ў Ц. Гартнага як памяць пра ўласнае. Узгадаем старонкі, дзе Рыгор паўстае ў досыць не характэрнай для яго ролі сына сваёй зямлі ("стапрацэнтны пралетар" едзе на пабыўку ў роднае мястэчка): «*Трэба было кінуць першым узрокам вакол сябе, як тоненькі туман, зацягнуўшы памяць, раптам распыліўся, знік і ўсе дэталі знаёмага і блізкага вобраза мігам бліснулі-ўваскрослі перад яго вачыма: ляскі, сіратлівыя грушкі ды яблынькі, ядлоўцавыя кусцікі па межах, старыя замшалыя платы, выбітыя да чорнага выганы, рэчкі-жарольцы, мосцікі дзіравыя. Уваскросла, ажыло і, здаецца, загаманіла з ім кожнаю зялінкаю раслін, кожным чвырыканнем пташкі, кожным бульканнем рачулак; ачаравала… уліла ў яго істоту жывільны сок, струмень бадзёрасці.* <…> *…у глыбіні яго нутра забурліла кіпучая хваля любові і нейкага неаказнага натхнення… "Дзіўная рэч – гэта людское жыццё! – пачалі віцца ў яго галаве рэзвыя зайчыкі раздумення. – Пасля разлукі, доўгай, вымушанай разлукі… так радасна ізноў… зліцца з адноўленымі перад табою вобразамі. Быццам бы перш жыў, потым нібы анямеў, адранцвеў, затым ізноў акрыяў, схамянуўся, шырока расплюшчыў вочы, пaглядзеў і ўбачыў: ты тут – там, у другім месцы, нідзе не быў…"*» [2, т. 1, с. 39 – 40].

Досыць аб'ёмнае цытаванне апраўдана надзвычайнай выразнасцю ўрыўка, наяўнасцю ў ім і перажывання *адзінства*, і псіхалагічна-экзістэнцыяльнага выніку гэтага перажывання – адчування волі да жыцця, і як нагадванне пра тое, што праз два дзясяткі гадоў бадай самы ўплывовы філосаф XX ст. М. Хайдэгер назаве "законам гістарычнага быцця", або "законам здабывання роднага" (ein Gesetz des Heimischwerdens); у нашым кантэксце – адзін з законаў узнікнення сэнсу наваколля. «Веданне [гэтага] закону вымагае толькі таго, каб, спачатку рашуча пакінуўшы радзіму, вандраваць у чужым. "Бо не дома знаходзіцца дух / ля пачатку, але не ля вытоку"» [3, с. 268 – 269]. Памятаем, як выразна тая самая метафізіка пададзена ў знакамітай беларускай песні: "Каб любіць Беларусь нашу мілую, трэба ў розных краях пабываць…" – закон, спраўджаны на вопыце самога Ц. Гартнага (вандроўкі па

Літве, Беларусі, Украіне і Расіі на працягу 1909 – 1912 гг.).

Наваколле набывае сэнс і ў абвостраным адчуванні "найбліжэйшага", спрадвеку свайго (паводле Хайдэгера, *спадручнага*, *Zunandene*), – пачуццё, уласцівае *"прывязанаму да зямлі"* Сёмку ў адрозненне ад Рыгора. Адвозячы сябра на станцыю, Сёмка мае нагоду паназіраць за наваколлем і нетаропка паразважаць над яго "сэнсам". Строй яго думак відавочна іншы, чым у Рыгора, – гэта думкі прагматычнага плана, хоць і не аддзеленыя ад назірання "непрагматычнай" красы: *"Сёмка… суздром захапіўся полем і любаваўся ім, як мастак сваім вобразам. Яно родна Сёмкаваму сэрцу, блізка яго разуменню… За якія восем гадоў Сёмкавы ногі пакінулі мільёны слядоў у мяккай глебе… яго праца, што цеплатою і потам пералілася ў мяккі парашок чарназёму і суглінку, напаіла мільёны камялькоў аўса, жыта, грэчкі, ячменю; яго вочы, шустрыя і празрыстыя, афарбаваліся колерам валошкі, нажылі зоркасць птушкі…"* [2, т. 1, с. 243].

Тут перад намі яшчэ адна, таксама экзістэнцыяльная, падстава адчування адзінства асобы з наваколлем: адзінства ва ўзаемадзеянні і ўзаемаажыццяўленні. Найбольш відавочнае яно ў земляробчых стасунках: зямля і земляроб сумесна нараджаюць жыццё, пры гэтым яны – крыніцы жыцця адно для аднаго. Зямля паўстае ў сваім харастве і жыватворных якасцях праз намаганні чалавека, а ён у сваю чаргу рэалізуе сябе – становіцца сабой – у сумеснай з зямлёй жыццятворчасці. У рамане Ц. Гартнага гэты быційны закон невыпадкова адлюстраваны далей як узаемаажыццяўленне падчас гарачай пары земляробчай працы, касавіцы і жніва: *"…трава, падцятая касою, выдыхала сваё зялёнае жыццё густым мядовым водыхам. Дзяцельнік выпускаў белы мёд, мяцёлка – крышталёвыя капелькі сіропу, малачайнік – ліпкую, белую смятанку, казачкі – цукроўку. Кожная травінка… вылівала апошнія сокі, варочаючы іх паветру, касцам, каб пасля пераняла іх зямля дзеля новага ўзросту травы. І шырокімі, бурлівымі пацёкамі разліваўся пахучы водар над паплаўным галам, паіў касцоў, бадзёрыў іх для несупыннай працы, жывільнаю сілаю пераліваўся па разгарачаных постацях, асвяжаў кроў, бунтаваў сэрца, роіў бадзёрыя жыццярадыя думкі і надзеі"* [2, т. 1, с. 274]; *"Жніво! Прыпар! Час, якому няма роўнага ў годзе. Пара, калі жытнія каласы ўбіраюцца думкамі селяніна, як новаю красою, жаўцеюць надзеяй… Жыта – хлебароб: чародны пераплёт жыцця, злука прыроды з чалавекам!"* [2, т. 1, с. 425].

Пры такім харастве тым больш прыкра, што ні селянін не можа да канца аддацца працы на зямлі з-за яе нястачы, ні зямля не можа выявіць напоўніцу свае жыватворныя якасці з-за адсутнасці годных умоў гаспадарання на ёй (з назіранняў Сёмкі: *"Дзе шырэйшая палоска, там збожжа лепшае"* [2, т. 1, с. 244]). Так праз матыў *адзінства* ў першым беларускім рамане на пралетарскую тэму ва ўсёй вастрыні паўстае тэма сялянская, пададзеная як драма зямлі. Мы знарок пазбягаем выразу "зямельнае пытанне", які не перадае ўсяго трагізму акрэсленага становішча: "пытанне" можна ставіць і не спяшаючыся вырашаць, тым часам як селянін кожную хвіліну адчувае боль скасавання ўласнай ідэнтычнасці з-за таго, што магчымасці тварэння-творчасці разам з зямлёй для яго зачынены. Менавіта гэты боль часам робіць з селяніна рэвалюцыянера, чый пратэст у першую чаргу – існасны, экзістэнцыяльны: «*Зламыўшы яго* [Сёмкаву] *з бацькавай сілу, стараннасць і ахвоту – яны б за пяцярых напрацавалі. Але шматок зямлі ў чатыры-пяць дзесяцін… не даваў мажлівасці разгарнуцца. Прыходзілася спыняць размах! Тым часам… Сёмка бачыў цэлыя маёнткі і ведаў, што ўласнікі іх самі не працуюць, а другім не даюць… З гэтымі думкамі… ён падрастаў, аручы зямлю, праз іх дайшоў да сацыялістаў. Але Сёмка стаў сацыялістам асабовым… прыхільнікам "надзелу зямлі, колькі можна апрацаваць уласнымі рукамі". Гэтага надзелу ён ні на момант не выпускаў з галавы… каля яго вярцеліся мары аб сацыялізме*» [2, т. 1, с. 243].

Таксама экзістэнцыяльны модус – пазасвядомае яднанне з наваколлем падчас *утрапення*, моцнага перажывання. *Утрапенне*, асабліва злучанае з перажываннем трывогі, небяспекі, прадвесцем невядомай пагрозы (параўнаем бел. *стрэс*, *страх*, ням. *Angst*), робіць пачуцці і назіранні чалавека надзвычай абвостранымі, і тады наваколле (свет увогуле і сваё становішча ў ім) бачыцца найбольш яскрава і, як гэта ні парадаксальна, найбольш аб'ектыўна. Калісьці гэтая заканамернасць была выкарыстана французскімі пісьменнікамі-натуралістамі, якія стварылі шэраг кранальных замалёвак вонкавага асяроддзя сваіх герояў, дзе план мастацкага выяўлення – уласна жывапісныя якасці (тое, што ў сувязі з раманам Ц. Гартнага мы закранём ніжэй) – цесна стасаваны з планам выражэння, адлюстраваннем эмацыянальна-псіхалагічнага стану герояў у момант іх пэўнай экзальтацыі. Вось як "схематычны пралетар" Рыгор бачыць наваколле праз адчуванне блізкасці фронту Першай сусветнай: *"…цемнаватая рунь з адсветам сталі ў выемках… непрыкметна зліваласся з лясным маладняком.*

*Адсюль нясло прасторам, смачным п'яным паветрам, цяплом квітнеючага лета. Рыгора-*

*вы ногі ўрасталі ў вызвеўшую зямлю, а істота дробілася на часткі, зліваючыся з буяннем прыроды. <…> Не хацелася верыць, цяжка было думаць, што вось гэтымі палямі ды паплавамі, па чыстай, пушыстай руні, вёрст на сто да захаду, прарыты крывыя шнуркі акопаў, працягнуты драцяныя загарадзі і тысячы ног выбіваюць пасевы"* [2, т. 2, 335 – 336].

Асноўнае суб'ектыўнае стаўленне, якім перадвызначаны акрэслены модус *адзінства* і якое, разам з тым, дае магчымасць фундаментальнай ацэнкі гэтай з'явы, – адкрытасць свету, скіраванасць насустрач падзеям, рэчам і людзям. Адкрытасць значыць тут не проста шчырасць, зацікаўленасць, добразычлівасць і г. д.; адкрыцца-разамкнуцца насустрач свету – значыць найперш адкрыцца ўласным магчымасцям, пэўным чынам сказаўшы "так" асабістаму і ўрэшце калектыўнаму, нацыянальнаму быццю. У гэтым і быў вызначальны пафас класічнай беларускай літаратуры: сцвярджэнне пачатку беларускасці ў паўстанні з невядомасці, схаванасці ад светусусвету: "А хто там ідзе?.." – "Беларусы…".

Падстава патэнцыялу быційнасці – тоесная адпаведнасць, ідэнтычнасць *адкрытасці* свету і яго *разумення**. Расплюшчваючы вочы на свет, спазнаваць яго і сябе ў ім – спачатку на інтуіцыйным узроўні, потым у свядомым праектаванні ўласнай будучыні ў гэтым свеце. Рэвалюцыйны праект – сюжэтны цэнтр "Сокаў цаліны" – не спраўдзіў сябе, але расчыненае насустрач свету пазіцыянаванне здольнае шукаць іншае выйсце *быць*. Тут заканамерна паўстае праблема "індэкса" патэнцыйнасці: наколькі жыццяздольны патэнцыял, пра які ідзе гаворка? Ці не ёсць перад намі зноў абстрактнае пастуляванне, якое рэальна нічога не значыць і не вызначае? Ці існуюць нейкія трывалыя падставы захавання і спраўджання *адкрытасці*, злучанай з *разуменнем* навакольнага быцця? Менавіта вакол гэтага і сканцэнтравана наша гаворка пра твор Ц. Гартнага: паўсядзённае адчуванне сувязі з наваколлем (светам) ахоўвае асобу і ўрэшце нацыю ад небяспекі самаразбурэння ў празмерна актыўным *асваенні* вонкавасці, экспансіўным яе і сваім *разуменні*. Сувязь чалавека і наваколля – сведчанне анталагічнай раўнавагі і стымул адпавядаць ёй.

Экзістэнцыяльны план не адзіны ў значэнні даследаванага лейтматыву. Адметная роля належыць таксама плану псіхафізіялагічнаму, калі вонкавае ўражанне пэўным чынам абумоўлівае эмацыянальны стан героя (і само абумоўлена ім), асабліва такога, які адораны адпаведнай вытанчанасцю, чуласцю. Гэта можа быць уласціва нават "стапрацэнтнаму пралетару", дазваляючы яму адкрыць для сябе адзінства неба і зямлі. Такое адзінства нібы прымае ў сябе і чалавечую істоту, агортвае адчуваннем устойлівасці адвечнага ладу быцця. Прыгадаем, як перад адным са спатканняў Рыгор чакае Зосю на ўскрайку лесу: *"Лясная краса так і цягнула яго, жывасіламі, у глыб лесу, у гушчэрныя кусты ядлоўцаў, у падгалісты арэшнік. <…> Ён… пачаў глядзець супроць сябе, то паднімаючы вочы кверху, то апускаючы іх кнізу: блакітны абшар, заліты залатым праменнем сонца, нізка аблягаў над зямлёю, быццам увачавідкі спускаўся ўсё ніжэй і ніжэй, каб зусім сысці з вечнае высі, прыкласціся да зямлі, зліцца з ёю і стварыць вечную, квітуючую вясну…"* [2, т. 1, с. 93].

Нават калі зліццё-адзінства глыбока не кранае персанажа з-за яго часовай эмацыянальнай "адсутнасці" – напрыклад з-за стану тугі і пакуты, – тады адпаведная фіксацыя значная для чытача: пачуццям адчаю, страты і болю, патэнцыйна ўласцівым кожнаму, нібы абяцана гаючае ўздзеянне ў напаміне пра нашу неадзіноту, пра неадменнае зліццё адпаведна тоеснага – зямлі і зямнога. Вось Зося пасля ад'езду каханага стаіць *ва ўтрапенні* і выглядае "след": *"Ужо змрок густою шэрасцю аплёў зямлю, хаваючы сваім полагам абшар прагалу і змяншаючы Зосін вокагляд. За гасцінцам, у дрыгвяніку жабы ўзнялі хор; ім заўтурыла труба, а следам і жалейка пастухоў; са збажыны загукала перапёлка; над дрыгвянікам паднялася кнігаўка; некалькі дзясяткаў варон праляцела над Зосяй, кіруючыся на Сілцы. Белы валь луні распасцёрся над зеленню поплаву, значна астудзіўшы паветра. Промень на захадзе з чырвона-палаючага рабіўся бурачным, а па краях пераходзіў у буланы колер.*

*Гэты вобраз прырода малявала як быццам бы для адной Зосі, якая задуменна, нерухома стаяла пасярод зялёнага поплаву… Яна здавалася дамалёванай, як неабходная часціна цэльнасці вобраза, і без яе ўсё згубіла б сваю прыгожасць…"* [2, т. 1, с. 190].

Неўсвядомленае персанажам *адзінства* адбіваецца ва ўражанні чытача, ствараючы ў яго пачуццё абароненасці і падтрымкі – не "звонку", не! – ад тоеснай сабе цэльнасці і раўнавагі сусвету.

У цытаваных прыкладах добра відаць, што адчуванне *адзінства* ствараюць не толькі малюнкі, але і гукі. Паўнавартасная карціна наваколля заўсёды "агучана", *адзінства* ж з ім "агучваецца"

* Параўнаем у Хайдэгера: "Дзе валадарыць быццё, там суваладарыць… разуменне"; "Толькі пры… сутнаснай суаднеснасці быцця і разумення… вызначаецца быццё чалавека. <…> Разуменне ёсць здарэнне-аднаўленне (Geschehnis), праз якое чалавек… упершыню ўваходзіць у гісторыю" [4, с. 216, 218].

зліццём зыкаў – людскіх і прыродных: *“На дварэ было цёпла, нават парна. З цёмна-машастовага неба глядзелі мільёны зорак. За Стэпінаю хатаю… чвырыкала начніца. З капуснікаў даносіўся жабін крэкт і перагук перапёлкі. Дзесьці… брахаў, завываючы, сабака; каля рынку ляскала бразджотка вартаўніка. Потым данесліся да Стэпы песні начлежнікаў”* [2, т. 1, с. 190]. Такіх прыкладаў у рамане досыць шмат, як і тых, дзе зліццё-адзінства “падрыхтавана” на зрокавым узроўні: так, золата каласоў слепіць вочы, перашкаджаючы ім дыферэнцыраваць вонкавыя рысы; восеньскі лістапад пераўтварае ў адно дрэвы і дол; лясное асяроддзе ўвогуле “не адпускае” ад сябе істоту, агортвае, ахутвае яе, нібы бязмернае ўтульнае ўлонне… безліч прыродных падстаў неадзіноты, якія жывяць чулую да іх душу.

Пры ўсіх гэтых варунках і ўзнікае тое, што завуць імпрэсіяністкай плынню літаратурнага пісьма: фіксацыя адпаведнасці зрокавага ўражання і эмацыянальна-псіхічнага стану асобы. Вербальныя малюнкі паўстаюць нібы жывапісныя, намаляваныя фарбамі, у той самы час яны адухаўлёныя, “дыхаюць” – не толькі паветрам, але і пачуццём. Дзеля стварэння такіх малюнкаў зусім не абавязкова вывучаць вопыт французскіх мастакоў-імпрэсіяністаў, як гэта рабілі іх сучаснікі – пісьменнікі Э. Заля, Ж. К. Гюісманс, Г. Джэймс і іншыя; галоўнае – шчырае адлюстраванне сублімаванай ва ўражанні вонкавасці, якая такім чынам набудзе і жывасць, і сэнс, і пераканальнасць. Дзякуючы перманентнаму перажыванню *адзінства*, неадменнай прысутнасці чалавека не побач, а ўнутры, у самай сарцавіне наваколля, слоўны малюнак, безумоўна, набудзе аб’ём, трохмерную глыбіню; кропка бачання персанажа і яго незастылы, жвавы позірк абумовяць перспектыву і характэрны для імпрэсіяністкіх палотнаў дынамізм; абвостранае адчуванне прыгажосці свету падкажа словы для абазначэння самых вытанчаных адценняў фарбаў, рухомых, як ветрык, што з імі гуляе; імкненне перадаць усю шматстайнасць і веліч сусвету, усё багацце навакольных рыс і фарбаў падштурхне да новага і новага яго ўзнаўлення – у розныя часіны дня, года, у як мага больш шматстайным суб’ектыўным уражанні; псіхалагічная напружанасць бачання прымусіць “спяшацца” з адлюстраваннем, штораз касаваць дробныя дэталі, фіксуючы агульны вобраз убачанага. Адметна, што вопыт пісьменніка-мастака і яго чулых да красы герояў варты праваказаць і адпаведныя чытацкія інтэнцыі: кожны здольны адчуць сябе творцам малюнкаў уласнага, зразумелага і блізкага навакolля – заўважыць яго і такім чынам разам з ім быць.

Натуральна, што першы пралетарскі раман змяшчае і адзін з першых у беларускай літаратуры выразных “гарадскіх тэкстаў” – не толькі ў адлюстраванні характэрных рыс гарадскога побыту-быцця, але і ў стварэнні паўнавартасных “партрэтаў” двух непаўторных гарадоў, Рыгі і Пецярбурга. Пісьменнік акцэнтуе найбольш вызначальныя рысы: шырокія далягляды Дзвіны, якія поўняць паветрам і прасторай рыжскае асяроддзе, і шэры брук пецярбургскіх вуліц, прыцягальных грунтоўнасцю, быційнай сталасцю. У абодвух выпадках падкрэслена своеасаблівасць менавіта гэтага гарадскога быцця, прыярытэтны настрой жыхароў, усвядомлены імі ў большай ці меншай ступені. Зразумела, погляд звонку – уражанне “гасцей горада” – пададзены асабліва рэпрэзентатыўна і пераканальна (напрыклад, Рыгорава знаёмства з тагачаснымі “мегаполісамі”). Бачанне “стапрацэнтнага пралетара” ў другой і трэцяй кнігах рамана аб’ектыўна не падаецца абмежаваным або штучным: назіральныя здольнасці – здольнасці “сваення” з наваколлем – ужо пацверджаны чулым успрыманнем родных мясцін: *“Трамвай хутка нёсся вуліцаю. Рыгор паглядзеў усцяж канавы і пацісnуў плячыма: яна цягнулася вузкаю роўнаю паласою далёка-далёка ў глыб горада. Абапал яе, між гмахамі дамоў, падніmаліся коміны фабрычных будынкаў. …мігам успомнілася Рыга… Шырыня Дзвіны, яе вадзяны прастор, усеяны плытамі, баркамі, параходамі і караблямі, дзясяткі заводаў, набліжаных да берагоў, рабілі куды большае ўражанне… Вунь усяго прамігнуў перад ім невялікі пляцок перад агромным гмахам сабора. На пляцку рэдкія, закаржэлыя раслінкі, мэрам бы іх назнарок пасадзілі тут, каб пераканацца, што камень і чыгун не да твару зелені. Вострая жарства вакол клумбаў выссала ўсе сокі… І далей – той жа камень: тоўстымі глыбамі, роўнымі і няроўнымі, навароchаны дзесьці ў гарах, нават дасціпна не абсечаны, зложаны ў важкія сумныя будынкі… Якое працы каштавала перакінуць яго сюды… пералажыць у сцены, у брук і тратуары, захаваўшы спрэс зямлю і затуліўшы сонца!.. І, можа, таму… Рыгору асалодна імпанаваў увесь гэты цяжар і гаматнасць, гэта сіла і моц людское вытворчасці”* [2, т. 2, с. 96 – 97].

Рэвалюцыйны рух таксама вабіць героя ў Пецярбургу, але не менш, як бачым, чым анталагічная моц, незалежны ад усіх гістарычных катаклізмаў “уздымны настрой”, такі адпаведны ўзнятай насустрач будучыні асобе. Адметна, што ўжо першы беларускі раман – дзіця сялянскай традыцыі – фіксуе не толькі рысы сутнаснага быцця канкрэтных гарадоў, але і сутнасць гарадскога феномена ўвогуле: горад-макракосм, увасабленне быційнай энергіі, сутыкненне з якім надае

волі да жыцця і волі быць сабой; у адваротным выпадку горад адрынае істоту. Нават калі гэтая воля несумяшчальная з гарадскім макракосмам, яна надасць імпэту здзейсніць сябе і па-за яго межамі; у выпадку ж, калі асоба адчувае не толькі прыцягальнасць, але і “свойскасць” горада, яна стане з ім адным пры ўсіх прывілеях *адзінства*, акрэсленых вышэй у сувязі з прыродным (сялянскім) асяроддзем.

Не можа не паўстаць пытанне пра аўтэнтычнасць перажывання адпаведнага вопыту самім Ц. Гартным. Як здарылася, што батракоў сын са звычайнага мястэчка, чалавек без сталай адукацыі схоплівае бадай першасноўныя прынцыпы быцця ў свеце? Здаецца, вызначальным тут мог стаць вопыт працы гарбара: чым больш моцна трымае фактычна вымушаная зачыненасць, замкнёнасць ад свету, тым больш вострая неабходнасць руху за межы ізаляцыі, руху ў блізкі і дальні навакольны свет, тым больш вытанчанае ўспрыманне гэтага свету, на які раптам раскрываюцца вочы, да якога раптам вырываецца душа: душа і вочы бачаць-ведаюць асноўнае.

Вопыт, адлюстраваны ў “Соках цаліны”, безумоўна, значны і на больш шырокім узроўні – у сімвалічным разуменні беларускага феномена, якому таксама ўласціва “гарбарная загартаванасць”. Менавіта таму недарэчна адсоўваць на перыферыю ўвагі сучаснасці “пралетарскі” раман з-за страчанага даверу пралетарскасці, бальшавізму і пад.: нездарма ж кажуць пра сапраўдную наяўнасць цяперашняга і будучага толькі ў памяці пра мінулае. Нават калі яно здаецца скажоным ідэалагічнымі схемамі і класавым падыходам, не варта помсціць мінуламу: клапатлівае ўзнаўленне шмат скажа сучаснасці, тым самым акрэсліўшы перспектыву будучыні.

**Спіс літаратуры**

1. **Шамякіна, Т. І.** Гістарычны ландшафт у вобразнай сістэме трылогіі Якуба Коласа “На ростанях” / Т. І. Шамякіна // Янка Купала і Якуб Колас у сістэме дзяржаўнакультурных прыярытэтаў XXI стагоддзя : Міжнар. навук. канф. : Мінск, Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі, 26 – 27 вер. 2007 г. – Мінск : Беларус. навука, 2007. – С. 362 – 368.

2. **Гартны, Ц.** Сокі цаліны : раман у чатырох квадрах / Ц. Гартны. – Мінск : Юнацтва, 1993. – Т. 1 – 2.

3. **Хайдеггер, М.** Разъяснения к поэзии Гёльдерлина / М. Хайдеггер; пер. с нем. Г. Б. Ноткина. – СПб. : Академический проект, 2003.

4. **Хайдеггер, М.** Введение в метафизику / М. Хайдеггер; пер. с нем. Н. О. Гучинской. – СПб. : Высшая религиозно-философская школа, 1998.

**Таццяна СТУДЗЕНКА,**
кандыдат філалагічных навук, дацэнт.

*Пошукі імя*

# ПСЕЎДАНІМЫ І КРЫПТАНІМЫ ЦІШКІ ГАРТНАГА

У газеце “Наша Ніва” [1908, № 26, 18 (31) снежня] быў змешчаны матэрыял з Капыля, у якім аўтар-дэбютант расказваў пра збор нядоімкі за зямлю з мясцовых жыхароў. Подпіс пад тэкстам стаяў *Цішка Гартны*, хоць аўтарам з’яўляецца Зміцер Хведаравіч Жылуновіч.

З таго часу псеўданім *Цішка Гартны* стаў пастаянным для пісьменніка. Ён увесь час сустракаецца ў “Нашай Ніве” на працягу 1909 – 1915 гг. Як *Гартны*, *Ц. Гартны*, *Цішка Гартны* пісьменнік публікаваўся ў наступных выданнях: “Лучынка” (1914), “Вольная Беларусь” (1917 – 1918), “Маладняк” (1923 – 1932), “Звязда” (1927 – 1934), “Літаратура і мастацтва” (1932 – 1936) і інш. Друкаваўся і ў газетах “Радавая рунь” (1924 – подпіс *Аглядчык*), “Беларусь” (1920 – подпіс *Я. К-ч* ад яго псеўданіма *Янка Кліч*), “Бальшавік Беларусі” (1927 – подпіс *Ж. З.*), “Чырвоная краіна” (дадатак да газеты “Савецкая Беларусь”; 1927 – подпіс *Сымон Друк)*, “Звязда” (1928 – подпіс *Ж. Х.*), “Заря Запада” (1928 – подпіс *Беларус*) і інш.

Пад сталым псеўданімам *Цішка Гартны* З. Жылуновіч выдаў кнігі вершаў “Песні працы і змагання” (Берлін, 1922), “Урачыстасць” (1925), зборнікі апавяданняў “Трэскі на хвалях” (1924), “Выбраныя апавяданні” (1926), “Прысады” (апавяданні і п’есы, 1927), “Гаспадар” (1930), “Гоман зарніц” (1932), раман “Сокі цаліны” (Ч. 1: Бацькава воля. Берлін, 1922; Ч. 2: На перагібе. Мінск, 1926), аповесці “На новым месцы” (1930), “Зялёны шум” (1931), кнігу крытычных нарысаў “Узгоркі і нізіны” (1928), кнігу нарысаў, апавяданняў і вершаў “Наступ на горны” (1932), чатырохтомнік Збора твораў (1929 – 1932) і інш.

Зміцер Жылуновіч у 1937 г. быў рэпрэсаваны, памёр у Магілёве. Пасля вайны выйшлі яго кнігі “Сокі цаліны” (у 2-х т.; 1957 – 1958), “Выбраныя

*Звесткі пра аўтара змешчаны ў № 1. Матэрыялы **Янкі Саламевіча**, прысвечаныя псеўданімам, друкуюцца з мая 2006 г.*

апавяданні" (1962), "Вершы" (1967), Збор твораў (т. 1 – 4, 1987 – 1990) і інш.

У 1918 г. у Маскве надрукаваны пераклад Ц. Гартнага на беларускую мову брашуры "Хто чым жыве" Дыкштэйна, а ў 1932 г. – рамана "Апошні з Удэге" А. Фадзеева.

Максім Гарэцкі ў лісце да акадэміка Я. Карскага ад 30 красавіка 1927 г. расшыфраваў псеўданім З. Жылуновіча *Дорндорф* (з ням. 'вясковая калючка'): у "Полымі" (1926, № 8) Ц. Гартны рэцэнзаваў чарговае выданне "Гісторыі беларускае літаратуры" М. Гарэцкага.

Уладзімір Дубоўка ў лісце ад 29 сакавіка 1968 г. з Масквы пацвердзіў мне псеўданім Ц. Гартнага *Сымон Друк*, пад якім, як піша Уладзімір Мікалаевіч, аўтар «актыўна выступаў супраць "Узвышша"». Ён, праўда, ужо быў расшыфраваны бібліёграфам Юліяй Бібілай у артыкуле "Літаратурныя працы Ц. Гартнага" (у кн. "Цішка Гартны ў літаратурнай крытыцы: Да дваццацігоддзя яго літаратурнай дзейнасці: 1908 – 1928". Мінск, 1928, с. 186 – 212, дзе на падставе інфармацыі самога пісьменніка раскрыты шматлікія яго псеўданімы ў друку). У лісце ад 16 сакавіка 1968 г. У. Дубоўка падаў эпіграму на Ц. Гартнага кагосьці з нашых сатырыкаў (найхутчэй, К. Крапівы). Маючы немалыя дзяржаўныя грошы, Ц. Гартны паехаў у Берлін выдаваць беларускія падручнікі, а надрукаваў свой зборнік вершаў "Песні працы і змагання" і 1-ю частку рамана "Сокі цаліны". Вось тэкст эпіграмы: "Сядзіць дзядзька лысы / ля дзяржаўнай місы. / Капялюш берлінскі, / а характар свінскі".

Сяргей Запрудскі некалі падказаў мне расшыфроўку псеўданіма З. Жылуновіча *Янка Пільны* (Полымя, 1927, № 5). Раскрыты ён быў яшчэ ў "Беларускім зборніку" (Мюнхен, 1956, кн. 8, с. 24). Пазней расшыфроўваўся ў альманаху "Шляхам гадоў" (1993, с. 179), кнізе "Да гісторыі беларускае літаратуры" А. Адамовіча (Мінск, 2005, с. 691, 1458).

Чытач сустрэне такія подпісы З. Жылуновіча ў "Нашай Ніве" (1909 – 1915), як *Б.* (ад псеўданіма *Бэйгар*, бо З. Жылуновіч яшчэ ў Капылі апрацоўваў шкуры, быў гарбаром, або бэйгарам), *Бэйгар*, *Гарт. (не вілкамірскі)*, *Капыльскі Бэйгар*, *Зміцер*, *Зміцер Ж.*, *Гартны*, *Зьміцер*, *Зьміцяр*, *Капылянін*, *Не вілкамірскі* і інш.

У 1910 – 1911 гг. у Капылі выдаваліся рукапісныя часопісы "Заря", "Голос низа". У іх З. Жылуновіч друкаваўся як *Шулятник*. Л. Клейнбарт (капылянін) у кнізе "Молодая Белоруссия" (Мінск, 1928, с. 100) недакладна падае гэты псеўданім З. Жылуновіча ў часопісе "Голос низа" (1911, № 2) як *Шулятиков*. Сустракаецца ў гэтых выданнях і подпіс З. Жылуновіча *Копылянин*.

Як *Давид Скорбящий* пісьменнік друкаваўся ў "Правде" (1912) і кіеўскім часопісе "Огни". Праўда, Р. Булацкі ў кнізе "Первые рабселькоры Белоруссии" (1969, с. 135) і В. Галь у кнізе "Зарождение рабселькоровского движения в Белоруссии" (1977, с. 74) псеўданім З. Жылуновіча ў гэтых выданнях перадаюць як *Д. Скорбицкий*. У "Правде" пісьменнік падпісваў матэрыялы і *Жилунович Д.* (*Тишка Гартный*), і *Копылянец*, *Мещанин*.

Цішка Гартны выдаваў у Петраградзе ў 1916 г. газету "Дзянніца". Дапісчыкаў было мала. Таму яму амаль усе старонкі даводзілася запаўняць уласнымі матэрыялами пад рознымі подпісамі. Чытач сустрэне тут такія: *Д. Ж-ч*, *Змітро* (*Цішка Гартны*), *Капылянін*, *З. Капылянін*, *Зм. Капылянін*, *Змітро Капылянін*.

Пад такой самай назваю "Дзянніцу" ён выдаваў у Маскве (1918 – 1919). У газеце трапляецца вельмі многа псеўданімаў і крыптанімаў пісьменніка: *А.* (ад яго подпісу *Авадзень*), *Авадзён*, *Авадзіон*, *Беларус*, *З. Беларус*, *Беларус камуніст*, *Васа*, *Габрусь*, *Д. Ж.*, *Жыла*, *З. Ж.*, *Зета*, *Зміжыла*, *Змітро*, *Знаіомы*, *Камуніст Беларус*, *Капыльскі*, *Капылянін*, *Мужык*, з памылкамі друку *Мужых*, *Мухык*, *З. Працоўнік*, *Стары С. Д.*, *Стары С.=Д.*, *Твой сын Змітро*, *Хадака*, *Ц. Г.*, *Шчыры беларус*.

За 1920 – 1931 гг. у газеце "Савецкая Беларусь" Ц. Гартны выступаў пад выдуманымі прозвішчамі *Авадзень*, *Авадзён*, *В. Аса*, *Беларус*, *Змітро Беларус*, *Вартавы*, *П. Вартавы*, *Паўлюк Вартавы*, *Васа*, *Г. Ц.*, *Сымон Гляк*, *Габрусь Друк*, *Рыгор Друк*, *Сымон Друк*, *Ж.*, *Ж. З.*, *Ж-ч З.*, *Ж-ч Зміцер*, *З. Ж.*, *З-ж-ч*, *Змітро*, *Зміцер Ж. Ч.*, *Зміцер Ж-ч*, *Капылянін*, *З. Капылянін*, *Зм. Капылянін*, *Кліч*, *Я. Кліч*, *Янка Кліч*, *С. Д.*, *С. Смык*, *Сымон Смык*, *Я. Смык*, *Пятро Смык*, *Уласны дапісчык*, *Ц. Г.*, *Чырвонь*, *Язэп Чырвонь*, *Шчыры*, *Шчыры Беларус*, *Шэршань*.

У часопісе "Полымя" 1920-х гг. З. Жылуновіч друкаваўся не толькі як Цішка Гартны. Падпісваўся як *Аглядчык*, *Ж. З. Х.*, *Ж. Х. З.* (ад прозвішча, імя, імя па бацьку), *З. Ж.* (ад імя і прозвішча), *Я. К-іч* (ад свайго псеўданіма *Янка Кліч*), *Ц. Г.* (ад *Цішка Гартны*).

Пад рознымі прозвішчамі друкаваўся ён і ў газеце 1920 г. "Рабоча-сялянская Беларусь" – *Беларус*, *Вартавы*, *Янка Кліч*, *Шчыры Беларус*.

Нядаўна паэт і літаратуразнаўца Юрась Пацюпа расшыфраваў яшчэ адзін псеўданім Змітра Жылуновіча *Стручок* (Роднае слова, 2007, № 11, с. 91). Гэта папоўніла псеўданіміку пісьменніка, і яшчэ адзін яго твор, верш "Стэп" у часопісе "Вольны сцяг" (1921, № 3), стаў вядомы чытачу.

**Янка САЛАМЕВІЧ.**

*Пісьменнік і вайна*

# СВЕТЛЫ СУМ МІКОЛЫ СУРНАЧОВА

*І так заўжды перад вачыма:*
*Густы хмызняк, разбег дарог…*
*Такою я цябе, Радзіма,*
*У дні суровыя збярог.*

Мікола Сурначоў.



Мікола Сурначоў нарадзіўся ў 1917 г. у вёсцы Слабада Рагачоўскага раёна. Атрымаўшы сярэднюю спецыяльную адукацыю, у 1937 – 1939 гг. вучыўся ў Гомельскім педінстытуце, потым працаваў у газетах "Звязда" і "Чырвоная змена". З першых дзён вайны на фронце. Некалькі разоў быў цяжка паранены. Удзельнічаў у баях за Каўказ, вызваляў гарады Беларусі, Украіны, Польшчы. Берлін штурмаваў камандзірам узвода. У ноч з 19 на 20 красавіка 1945 г. загінуў, прыкрываючы адыход таварышаў. Пахаваны ў нямецкім пасёлку Фрайдэнберг, што за 8 кіламетраў ад Берлінскай кальцавой дарогі, а потым перапахаваны на брацкіх могілках Бад-Фрэенвальдэ.

Першыя вершы юнак пачаў пісаць яшчэ ў сельскагаспадарчым тэхнікуме. Але па-сапраўднаму захапіўся паэзіяй у час вучобы на філалагічным факультэце. Якраз у гэты перыяд ён стаў вядомы абласному і рэспубліканскаму чытачу. Раннія вершы вылучаліся выключнай шчырасцю і цеплынёй, тонкім лірызмам і ўменнем убачыць незвычайныя адценні роднай прыроды. Асаблівая кранальнасць уласцівая вершам пра каханне. Так, верш "На ростані" прысвечаны каханай. Яна таксама загіне ў час вайны. (Падобнае здарылася з маладым польскім паэтам К. Бачыньскім і яго каханай: яны загінулі ў адзін дзень.)

У поўнай адпаведнасці з нацыянальнай традыцыяй у любоўнай лірыцы паэт-юнак паўстае сарамяжлівым, летуценным. Ён згодны перакінуцца ў сасёнку, каб прашумець над каханай; стаць сняжынкай, каб растаць на яе губах. Пра Адзіную ён гатовы спяваць бору, гаю, усяму свету. Як і большасць сусветных паэтаў, М. Сурначоў спявае гімн прыгажосці каханай. Яе вочы – гэта *зоры, ясныя, як дзень маёвы, сінія, нібы азёры*. Лірычны герой, баючыся пагаварыць з каханай, уступае ў размову з нейкай выдуманай, летуценнай, нябеснай істотай. Ён персаніфікуе, паводле народнай традыцыі, прыроду (перадапошні гром можа распавесці, хто аб кім сумуе познім вечарам). Сняжынкі перакідваюцца ў пялёсткі вішань (алюзіі на "Дванаццаты падмурак" П. Труса), што засыпалі, замялі знаёмую сцяжынку, па якой лірычны герой выйшаў да каханай. І калі вішнёвая замець – гэта сімвал пачатку кахання, то валадарства сняжынак – знак, што каханне "не збудзецца". І дарэмна спявае зімовы вецер – *мабыць, і ты яго акрыліла*. Чары дзяўчыны такія моцныя, што могуць ускружыць галаву і ветру:

*Мне здалося, што такіх, як ты,*
*Сонца век яшчэ не грэла,*
*Пра такіх на скрыпках залатых*
*Песняй толькі марыла капэла.*

Услед за Максімам Багдановічам, які прамовіў: "*Ты выдумка маёй галавы*", Мікола Сурначоў паўтарае, што "*скажуць: гэта выдумка мая*". Але ўсё роўна ён носіць яе ў сваім сэрцы. Ад роспачы паэт нават гатовы заплакаць, але яму сорамна перад бярозкамі, бо і ў бярозцы бачыцца мілая.

Ваенная лірыка М. Сурначова цалкам не захавалася. Многія вершы згублены ў шпіталях ці ў баях. Нязменная спадарожніца пісьменніка – палявая кірзавая сумка, набітая вершамі, – не знойдзена. Засталіся ў асноўным творы, дасланыя сябрам і родным у лістах.

Аднак і гэтыя вершы, напісаныя ў акопах, на рэдкіх прывалах, дзе не было часу не толькі адшліфаваць радок, але і пазначыць дату і месца, увайшлі ў скарбніцу нацыянальнай паэзіі. Яны азначылі новы этап творчай эвалюцыі паэта, звязаны з глыбокім спасціжэннем народнай традыцыі, яе песенна- і казачна-рамантычнага падыходу ў раскрыцці скарбаў чалавечай душы, таямніц

жыцця і смерці. Згадаем, што М. Сурначоў, як і кожны сапраўдны паэт, стаў пракорам і сваю долю прадказаў яшчэ ў 1941 г. на Заходнім фронце, у славутым вершы "У стоптаным жыце". Прадчуванне ўласнай смерці зрабілася велічным адкрыццём, прадказаннем трагедыі ўсяго пакалення, якому ніколі ўжо не ехаць *"да блізкага гаю, да роднага дому"*. Невыпадкова А. Твардоўскі перастварыў гэты маленькі шэдэўр на рускую мову, і балада М. Сурначова стала вызначальнай, эпахальнай ва ўсёй славянскай паэзіі, загучала ў суладдзі са славутымі радкамі *"Его зарыли в шар земной"*:

*Ніколі не ехаць*
*Хлапцу маладому*
*Да блізкага гаю,*
*Да роднага дому.*

*Над ім асыпаюцца*
*Слуцкія краскі,*
*Абсмалены колас*
*Схіліўся да каскі.*

*Ляжыць ён, як віцязь,*
*У стоптаным жыце.*
*Маці спаткаеце, –*
*Ёй не кажыце…*

1941, Заходні фронт.

Мікола Сурначоў не першы звярнуўся да вобраза забітага салдата. Можна згадаць шэраг народных балад і твораў міжваеннага перыяду, дзе смяротна паранены салдат просіць свайго каня перадаць апошняе прывітанне маці, каханай, баявым сябрам. Але такога пранікнёнага спалучэння глыбокай чалавечай жальбы і замілаванай спагаднасці прыроды дасягнуў менавіта беларускі паэт. Як згадвае М. Аўрамчык, задума твора ўзнікла ў першыя дні вайны, калі маладыя студэнты, пакінуўшы Мінск, хаваліся ў жыце. М. Сурначоў увесь час паўтараў: *"Які быў ураджай!.. Як на пагібель… Надвячоркам раптам прачытаў мне верш"*. Менавіта такім "схаваным", "патаемным", як у М. Гарэцкага, уражвае верш М. Сурначова. Гэта асабліва прыкметна ў супастаўленні з баладай Яраслава Смелякова "Песня", дзе прысутнічае толькі адзін план – знешні, хоць першы радок амаль даслоўна перастварае сурначоўскі (*"Мать ждала для сына лёгкой доли – сын лежит, как витязь, в чистом поле"*). Ці не таму ў адрозненне ад усіх балад падобнага зместу герой беларускага твора не толькі не просіць перадаць вестку родным, але і заклікае не гаварыць маці пра яго смерць.

Баладная паэтыка надзвычай схільная да антытэзы, да арыгінальнага спалучэння супрацьлеглых паняццяў. *Пагібель – адраджэнне* (як зерне ў евангельскай прытчы); *ураджай – пагібель*; *жыта* (сімвал жыцця) – *смерць*. Невыпадкова жыта становіцца не толькі фонам, але і, па сутнасці, дзейнай асобай многіх ваенных балад: "Іх вядуць па жытняй сцяжынцы" ("Балада аб чатырох заложніках"); на зямлі – "дзе жыта ўрадзіла, бо немцамі ў ёй закапана нячыстая сіла" – гіне араты з жонкай і дачушкай (песня-балада з паэмы "Сцяг брыгады" А. Куляшова); "болей рукам тваім жыта не жаці" ("Надзя-Надзейка" П. Броўкі). Але ёсць і адваротныя прыклады: ад параненых герояў "кръвта се прелива по потрепващите стъбълца на житата" ("Среща" Антанаса Смірнова).

Антытэзу *жыта – смерць* працягвае супастаўленне *вяселле – смерць*. Сватоў, што спяшаліся да маладой у баладзе "Вяселле" М. Сурначова (1944), апярэдзіў карны атрад.

Найбольш поўна спадчына паэта прадстаўлена ў зборніках "На сурмах баравых" (Мінск, 1946), "Барвовая зара" (Мінск, 1959), "Акопны спеў" (Мінск, 1986), "Одна любовь" (Масква, 1971). Пасмяротна М. Сурначоў узнагароджаны мемарыяльным медалём Літаратурнага конкурсу імя М. Астроўскага (1967). Мікола Сурначоў стаў узвышанай легендай нашай літаратуры, толькі з вершаў, прысвечаных яго светлай памяці, можна скласці адметны зборнік.

Прадчуваючы сваю смерць, паэт прасіў:

*Таварыш!*
*Мяне пахавай,*
*Акружы мой курган агарожай,*
*А пасля перамогі вазьмі мой прах,*
*Пранясі праз рэкі і горы…*
*На маёй Беларусі прасторы!*

Парэшткі героя засталіся ў чужой зямлі, але памяць пра яго жывая. У Юдзіцкай васьмігодцы створаны мемарыяльны куток паэта-земляка, дзе захоўваюцца публікацыі пра яго жыццё і творчасць, вершы паэта. Звесткі пра яго сабраны ў літаратурным музеі "Пісьменнікі-землякі" пры Рагачоўскім педагагічным вучылішчы. Вуліца ў Рагачове носіць імя Міколы Сурначова. Пра юнака, а таксама пра яго бацьку, які страціў трох сыноў у вайну, напісаў паэт А. Вярцінскі ў кнізе "Высокае неба ідэалу" і П. Пранузa ў згадках "Яблыкі". Звесткі пра Міколу Сурначова і яго вершы надрукаваны ў анталогіі "Універсітэт літаратурны" (Гомель, 2005), дзе змешчаны біяграфіі выпускнікоў і студэнтаў Гомельскага ўніверсітэта (раней педінстытута). Вядомы таксама верш "Зорка паэта. Сурначоў" У. Немізанскага. Цытуючы радкі з апошняга ліста паэта-героя да родных: *"Яблыкі мне не пакідайце. Пакуль я прыеду, новыя вырастуць"*, ён паказвае смутак роднай зямлі па заўчасна загінулым таленце. Але сум гэты – светлы і ўзнёслы, зорны, бо над светам ззяе зорка Міколы Сурначова.

**Іван ШТЭЙНЕР,**
доктар філалагічных навук, прафесар,
загадчык кафедры беларускай літаратуры
Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта
імя Францыска Скарыны.

Вольга ЖЫЛЕВІЧ

# МАСТАЦКІ СВЕТ ЖАНА-МАРЫ ЛЕКЛЕЗІЁ



Жан-Мары Гюстаў Леклезіё – адзін з найбуйнейшых сучасных французскіх пісьменнікаў, лаўрэат Нобелеўскай прэміі па літаратуры за 2008 г. Вядомы раманіст узнагароджаны за "даследаванне сутнасці чалавека па-за межамі пануючай цывілізацыі і ўнутры яе, адкрыццё новых кірункаў, паэтычныя прыгоды і пачуццёвы экстаз кніг" [1]. У красавіку гэтага года пісьменніку споўнілася семдзесят гадоў.

Гэты незвычайны аўтар пазбягае самарэкламы і парыжскіх літаратурных кланаў, не любіць даваць інтэрв'ю, рэдка бывае ў Францыі, аддае перавагу Блакітнаму берагу, дзе вырас, востраву Св. Маўрыкія, Японіі або Мексіцы. Леклезіё – адкрыты апанент сучаснай цывілізацыі і грамадства спажывання, часам яго лічаць пісьменнікам-эколагам. Індзейцы Панамы або пастухі Сахары для гэтага надзвычай тонкага майстра пяра не ўнікальны падвід homo sapiens, якому пагражае знішчэнне, а людзі, якія змаглі захаваць сваю культуру і цывілізацыю. У пэўным сэнсе ён дысідэнт заходняй цывілізацыі, апошні абаронца плямён, што знікаюць. Здавалася б, грамадства, якое ён адпрэчвае, павінна было падвергнуць яго астракізму, але кожная новая кніга Леклезіё карыстаецца вялікім поспехам у чытачоў, становіцца падзеяй у франкафонным свеце.

Па лініі маці Жан-Мары Гюстаў Леклезіё – выхадзец з брэтонскай сям'і, якая пасялілася ў XVIII ст. на востраве Св. Маўрыкія. Будучы пісьменнік нарадзіўся 13 красавіка 1940 г. у Ніцы. Яго бацька – англійскі вайсковы лекар, падчас Другой сусветнай вайны служыў у Нігерыі. Жан-Мары Гюстаў і яго старэйшы брат у гэтыя гады знаходзіліся на выхаванні маці і жылі ў доме яе бацькоў на поўдні Францыі ў мястэчку Рокебільер. У Афрыку да бацькі сям'я Леклезіё пераехала ў 1948 г. роўна на адзін год, і, як пазней раманіст напіша ў аўтабіяграфічным эсэ "Афрыканец. Рысы і партрэты" ("L'Africain. Traits et portrais", 2004), "сустрэча з амаль незнаёмым мне бацькам з'явілася адной з найважнейшых падзей майго жыцця, прыезд у Афрыку стаў крокам у вітальню дарослага свету" [4, с. 12]. Менавіта ў той час, у васьмігадовым узросце, хлопчык упершыню пачаў складаць вершы, казкі, апавяданні і навелы, а ў сямнаццаць ужо атрымаў ступень бакалаўра ў галіне літаратуры і філасофіі.

Леклезіё вучыўся ў Ніцы, Брыстолі, Лондане, атрымаў доктарскую ступень за вывучэнне мексіканскага штата Мічыякану ў Цэнтры даследавання Мексікі ў Перпіньяне. Выкладаў ва ўніверсітэце ў Альбукерку (Нью-Мексіка, ЗША) і Бангкоку, шмат падарожнічаў па Паўднёвай Амерыцы, Афрыцы, Паўднёва-Усходняй Азіі. Сярод краін, у якіх ён спыняўся надоўга, не толькі ЗША, але і Тайланд, Японія, Нігерыя. Пісьменнік вывучаў культуры гэтых краін, непадобных між сабой, але істотна адрозных ад еўрапейскай, і знаходзіў сапраўдны цэласны свет, у якім чалавек адчувае сябе інакш, чым у звыклай і панурай прасторы цывілізацыі.

Адмысловую ролю ў жыцці і літаратурным лёсе Леклезіё адыграла яго "паглыбленне" ў свет карэннага насельніцтва Мексікі і Панамы. Вынікам знаходжання сярод індзейцаў, далучэння да іх паўсядзённага побыту і старадаўніх вераванняў сталі кнігі, якія ўзнаўляюць міфалогію амерыканскіх абарыгенаў. У даследаваннях Леклезіё блізкі да Клода Леві-Строса, французскага антраполага, які напісаў мноства значных прац па міфалогіі і рытуалах карэнных народаў Амерыкі, аўтара вельмі глыбокага твора "Маркотныя тропікі", у якім апавядаецца пра скалечаны свет, што знаходзіцца за межамі старой і ўтульнай Еўропы.

Пісьменніцкі дэбют Ж.-М. Г. Леклезіё аказаўся ўдалым: раман "Пратакол" адразу быў заўважаны ў літаратурных колах і ўганараваны прэстыжнай прэміяй Рэнадо. Кнігі, якія выйшлі пасля "Пратакола" (зборнік навел "Ліхаманка", 1965; раманы "Патоп", 1966; "Terra Amata", 1967; "Кніга ўцёкаў", 1969; "Вайна", 1970), пастаянна прыцягвалі ўвагу крытыкаў.

Імя маладога раманіста практычна адразу ўвайшло ў літаратурна-крытычныя працы, аўтары якіх аднадушна называлі таленавітага дэбютанта "адным з найзначнейшых, а можа быць, і найзначнейшым пісьменнікам новага пакалення" [5, с. 67].

У перыяд з 1963 да 1975 г. у творах Леклезіё з'яўляюцца рысы экзістэнцыялізму, "новага рамана", а таксама постструктуралізму. Яго раманы і эсэ шмат у чым наватарскія, даследуюць фармальныя і тыпаграфічныя магчымасці мовы ў рэчышчы, зададзеным яго сучаснікамі, такімі, як Анры Мішо, Жорж Перэк, Мішэль Бютор. У навеле "Дзень, калі Бамон спазнаў, што такое боль" (1964) са зборніка "Ліхаманка" Леклезіё стварыў такую мастацкую мадэль, дзе сусветная нуда, экзістэнцыяльны канфлікт чалавека са светам азначаюць невымерна больш, чым, да прыкладу, уздзеянне моцнага холаду або спякоты. Нанізваючы метафары, аўтар дэталёва апісвае пакутлівы зубны боль, але фізічны боль, у выніку, толькі алегорыя пакуты метафізічнай – самоты, невытлумачальнага страху перад жыццём, рэчамі і людзьмі. Герой навелы Бамон раптам усведамляе дзіўную рэч: калі суразмоўца па тэлефоне са спагады згодны слухаць пра яго зубны боль, то гэты боль для яго, Бамона, важны і патрэбны, *"значыць… я нешта ўяўляю з сябе толькі дзякуючы яму…"* [6, с. 16].

Персанажы Леклезіё – Адам Пола ("Пратакол"), Франсуа Бесон ("Патоп"), Аган ("Кніга ўцёкаў") – маюць шмат падобных рыс з героямі А. Камю, Ж.-П. Сартра, Ф. Кафкі. Да прыкладу, Адам Пола, які ўцёк з псіхіятрычнай бальніцы, зачыніўся ў закінутай хаце на беразе Міжземнага мора, харчуецца аднымі кансервамі і марыць цалкам адмовіцца ад ненавіснага яму навакольнага свету. Уцякач амаль увесь час маўчыць і змагаецца з пацукамі. Нечакана адзін з пацукоў быццам бы вырастае да гіганцкіх памераў, а Адам становіцца зусім маленькім і ліхаманкава шукае нару, каб схавацца. Сітуацыя амаль як у Кафкі – бездапаможнасць чалавечай асобы ў велізарным свеце, негасцінным і няўтульным.

Апынуўшыся аднойчы ў горадзе, Адам Пола, перапоўнены ўражаннямі ад убачанага, пачынае занатоўваць іх у жоўты сшытак. Аўтар быццам бы выкарыстоўвае запісы з гэтага ўяўнага сшытка – своеасаблівага "пратакола катастрофы". Адам Пола пастаянна адчувае сцяну паміж сабой і наваколлем, нібыта нехта паставіў на ім кляймо адчужанасці ад астатняга свету.

Жыццё героя рамана **"Патоп"** Франсуа Бесона ўяўляе з сябе ланцуг бессэнсоўных учынкаў, даволі натуральных для існавання таго грамадства, "статка", да якога належыць і сам Франсуа. Герой Леклезіё, як і персанажы Сартра, пагарджае сабой не менш, чым іншымі людзьмі. Франсуа Бесон не столькі ўцякае ад людзей або рэчаў, колькі ад сябе – ад "пустэчы". Каб якім-небудзь чынам запоўніць яе, ён ідзе на нематываваныя забойствы, здзяйсняючы такім чынам акт свабоднай волі, які не растлумачыш нічым, апроч унутранага запатрабавання яго ажыццявіць. Бесон поўны прадчуванняў ці то сусветнага патопу, ці то атамнай вайны. Ён не знаходзіць у сабе сіл існаваць у чаканні няўхільнага апакаліпсіса і пачынае паступова знішчаць сябе фізічна. Для пачатку ўсвядомлена пазбаўляе сябе зроку, шырока расплюшчыўшы вочы насустрач пякучаму сонцу. Бесон як пра збавенне марыць пра той час, калі ён нарэшце ступіць *"па іншы бок"*.



***Вольга Фёдараўна Жылевіч*** *– літаратуразнаўца. Кандыдат філалагічных навук (2009). Дацэнт кафедры замежных моў Палескага дзяржаўнага ўніверсітэта. Закончыла Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт (2001), магістратуру (2002) і аспірантуру (2005) пры кафедры замежнай літаратуры БДУ. Аўтар публікацый па сусветнай літаратуры.*

Леклезіё, застаючыся верным экзістэнцыялісцкай філасофіі, уносіць у яе і дысанансныя ноты. Персанажы Камю або Сартра ніколі не дазволілі б сабе звярнуцца да прахожых на вуліцы або да выпадковага суразмоўцы па тэлефоне з просьбаю пагаварыць з імі, каб пазбавіць ад страшнай самоты. *"Дапамажыце, калі ласка, пакахайце мяне"*, – нема крычыць Аган ("Кніга ўцёкаў"). Знемагаючы ад дакучлівасці жыцця, "экспансіі" гукаў (радыё, грукат аўтастрады, гул галасоў у кавярні, дзе размаўляюць усе, але, па сутнасці, не размаўляе ніхто і да т. п.), маладыя людзі ў творах Леклезіё ўсё ж не губляюць здольнасці марыць: *"Калі б хоць адзін гук ішоў для мяне, калі б мяне, кахаючы, паклікала цяпер жанчына…"* [7, с. 120]. Героі Леклезіё спрабуюць зразумець свет і саміх сябе, у той час як тыповы экзістэнцыялісцкі персанаж ніколі не мае ў гэтым патрэбы, ён адчувае самадастатковасць уласнага ўнутранага свету і ўпэўнены, што іншага чалавека зразумець проста немагчыма. Герой Леклезіё здольны захоўваць у сабе душу рамантыка, які не адмаўляецца ад мары бачыць свет іншым, ён не страціў здольнасці "радасна дзівіцца лісцю, якое распускаецца, беласнежным аблокам, нават цудам тэхнічнага прагрэсу" [5, с. 32].

У творах французскага раманіста персанаж імкнецца запоўніць бездань паміж ім і чытачом "не рэалістычнымі дэталямі, а сімпатыяй, якая захоплівае ў сваю арбіту і гумар, і наіўнасць" [5, с. 43]. Падобная сімпатыя ляжыць па-за сферай экзістэнцыялісцкай эстэтыкі. Леклезіё вяртаўся да паняцця *сімпатыі* неаднаразова, што значна

змяняла танальнасць філасофіі абсурду і адчаю, характэрную для яго кніг 1960-х гг.

Адмысловыя адносіны складаліся ў Леклезіё і з "новым раманам". У творах "Пратакол", "Патоп", "Вайна" можна прасачыць шматлікія рысы неарамантычнага пісьма. У тэкстах адсутнічае скразны сюжэт, героі пазбаўлены характару, учынкі персанажаў псіхалагічна нематываваныя. Для раманаў Леклезіё характэрна высокая ступень экстэмпаральнасці і замкнёнасць прасторы, у выніку чаго мастацкі свет твора выступае як змадэляваны, а таму ідэальны для развіцця абагульняльнай аўтарскай думкі. Раздзелы ў раманах можна адвольна перастаўляць месцамі, больш за тое, раздзелы з рамана "Патоп" можна лёгка ўставіць у раманы "Вайна" або "Кніга ўцёкаў" і наадварот. Ніякай паслядоўнасці, ніякай залежнасці паміж імі не існуе. З неараманістамі Леклезіё лучыць таксама імкненне ствараць раман у рамане. Адам Пола, як мы ўжо згадвалі, занатоўвае ўсё, што бачыў у горадзе, у жоўты сшытак. Франсуа Бесон знаходзіць рукапіс, тэкст якога апавядае пра неграў, моры, далёкія падарожжы. Аган ("Кніга ўцёкаў") увесь час вяртаецца да думкі напісаць раман, а ў раздзеле "Самакрытыка" герой і аўтар разважаюць пра тое, якім яму быць.

З сярэдзіны 1970-х гг. Ж.-М. Г. Леклезіё пераглядае свае ранейшыя эстэтычныя прынцыпы і пачынае працаваць у іншай манеры пісьма. Празаік здзяйсняе паварот у бок рамантызму і неарамантызму, звяртаецца да легендаў, міфаў, паданняў, прыпавесцей, казак. У кнігах "Мандо" (1978), "Незнаёмае на зямлі" (1978), "Вандраванні па тым баку" (1975), "Пустыня" (1980), "Золаташукальнікі" (1985) Леклезіё ўдаецца па-майстэрску зафіксаваць найтанчэйшыя зрухі чалавечай душы.

Эсэ **"Незнаёмае на зямлі"** ўяўляе з сябе своеасаблівы гімн роднаму краю: бляску агнёў вялікага горада, ранішняму туману, скіраванай удалячынь стужцы дарогі, працы пекара і іншых працаўнікоў, што дораць людзям радасць. У рамане **"Вандраванні па тым баку"** гарманічны свет з Зямлі наўзнак перамясціўся на казачную планету, якая знаходзіцца зусім побач з нашым спакутаваным светам. Гераіня твора Ная-Ная здольнаяператварацца ў птушку, у зялёны ліст, здольная прымасціцца на самым сонцы, праліцца дажджом або, стаўшы нябачнай, прыносіць людзям неспадзяваную радасць, не чакаючы падзякі. Аўтар надзяляе сваю гераіню незвычайнымі здольнасцямі для таго, каб яна магла пераадолець разнастайныя заганы *"зямнога прыцягнення"*. Аповед пра жанчыну-фею даецца аўтарам у абрамленні невялікіх па аб'ёме раздзелаў пра пачатак і канец жыцця на Зямлі. Халодныя прасторы, камяні, бязмежныя воды – такі пачатак усяго існага. Падобная карціна і ў фінале, які дэманструе ўжо *"іншы бок"* – ці то пасля атамнай вайны, калі блукаюць цудам ацалелыя людзі, ці то на *"тым свеце"* – далёкім ад зямнога жыцця: *"Ні пажар, ні патоп, ні бітва не пагражалі больш знішчыць дамы, якія захаваліся. Нарэшце запанавалі прыгажосць, спакой, бяскрайнасць. Гэта апошняя краіна, іншых не будзе. Краіна невядома для каго – чыстая, спакойная, без усялякіх межаў"* [8, с. 201].

У рамане-прытчы **"Пустыня"** (за які пісьменнік атрымаў прэстыжную прэмію Французскай акадэміі) Леклезіё адмаўляецца ад казачных і фантастычных сродкаў, як у вышэйзгаданым рамане, але робіць больш выразнай рамантычную лінію. У "Пустыні" дзве сюжэтныя лініі: аповед пра супраціўленне качэўнікаў Сахары экспансіі еўрапейскіх захопнікаў і аповед пра лёс дзяўчынкі-сіраты Лалы Хавы – ледзь не апошняга нашчадка смелых ваяроў пустыні. Лала выпраўляецца на заробкі ў Марсэль, а потым вяртаецца ў родныя мясціны, каб, як і яе маці, нарадзіць дзіця пад старой смакоўніцай ля крыніцы. Нягледзячы на тое, што ў вялікім горадзе Лала становіцца фотамадэллю і яе прыгажосць заваёўвае свет, дзяўчына не прымае падараванага ёй "шчасця" – камфорту цывілізацыі. Гераіня – вышэйшая за свой выпадковы дабрабыт. Яе душа ўвасабляе душу народа, амаль знішчанага каланізатарамі, але вечна жывога і ў чарговы раз адроджанага ў вобразе дзіцяці Лалы. Моц гераіні ў прыродным дары жыцця, захаваным на ўзроўні падсвядомасці, які выступае закладам ратавання ад агрэсіўнага "цывілізаванага" свету.

Тэму бескарыслівага пошуку ісціны пісьменнік развівае ў рамане **"Золаташукальнікі"**. Алексіс, галоўны герой твора, вырас на востраве Св. Маўрыкія, жыў у Еўропе, перанёс тыф у траншэях Першай сусветнай вайны, потым, захоплены памкненнем знайсці скарб, схаваны на адным з астравоў Маскарэнскага архіпелага, пераязджае з месца на месца. Падобна да ценю або мары, нечакана з'яўляючыся і знікаючы, яго суправаджае дзяўчына-туземка Розуму. Са шчырым здзіўленнем яна аднойчы пытаецца ў Алексіса: *"Вы на самай справе так любіце золата?" "Тады я яе не зразумею..."* – не раз вяртаўся думкай да гэтага моманту Алексіс. Ён бачыць, наколькі бяспраўныя цемнаскурыя, *"якія апрацоўваюць зямлю, што ніколі не будзе ім належаць"* [9, с. 289], бачыць, як зневажаюць іх у перасыльных лагерах, як груба асаджаюць, забараняючы пакідаць месца, прадпісанае каланіяльнымі ўладамі. У канцы рамана герой усё ж знаходзіць свой скарб – *"вольна жыць і дыхаць"*. У гэтым скарбе і згода з самім сабой, спакойная пагарда да пагоні за выгодамі, якія вельмі рэдка прыносяць шчасце.

У раманах 1990-х гг. пісьменнік працягвае ўздымаць маральна-этычныя праблемы: страчанага дзяцінства ("Блукаючая зорка"; 1992), беднасці і бяспраўнасці малых народаў ("Каранцін";

1995), адзіноты чалавека ў сучасным грамадстве (“Залатая рыбка”; 1997).

Аўтар у рамане **“Блукаючая зорка”** на прыкладзе лёсу сваёй гераіні – малой дзяўчынкі Эстэр – паказвае трагедыю яўрэйскага народа падчас Другой сусветнай вайны. Эстэр становіцца сведкай жорсткага забойства бацькі, спалення іх дома італьянскімі акупантамі. Дзяўчынка жыве ў стане пастаяннага страху, прыніжэння, небяспекі. Яна пазбягае смерці толькі дзякуючы ўцёкам з яшчэ некалькімі суайчыннікамі ў горы. Калі вайна скончылася, Эстэр і яе маці вырашаюць адправіцца на радзіму сваіх продкаў. Аднак і Зямля Запаветная не прыносіць суцяшэння.

У рамане **“Каранцін”** (назва можа быць перакладзена і як “Сорак дзён”) браты Жак і Леон пасля доўгай адсутнасці вяртаюцца на радзіму – востраў Маўрыкій. Дзеянне твора адносіцца да 1891 г. – перыяду росквіту каланізатарства і гандлю рабамі. У час плавання на караблі некалькі пасажыраў паміраюць ад невядомай хваробы. Порт прызначэння адмаўляецца прыняць карабель, і ўсе пасажыры (жменька еўрапейцаў і вялікая колькасць індыйцаў) вымушаны высадзіцца на адной з вулканічных выспаў за некалькі кабельтавых ад Порта-Луі. Маўрыкійскія ўлады ігнаруюць іх. Людзі кінуты на волю лёсу: без правіянту, медыкаментаў, у атмасферы страху, непаразумення, этнічнай варожасці, нянавісці, здрады – кожны з іх спрабуе выжыць любым коштам. Лёс хлопчыкаў-падлеткаў ускладняецца яшчэ і тым, што адзін з іх, Леон, закахаўся ў індыянку Сіравейці. І калі на дапамогу еўрапейцам прыбывае карабель, Леон вырашае застацца з індыйцамі на востраве, назаўжды парываючы са сваёй сям’ёй, радзімай. Учынак Леона – гэта выразнае “не” этнічнай непрымірымасці, прыгнёту малых народаў.

**“Залатая рыбка”** – раман пра самоту і беспрытульнасць арабскай дзяўчыны, якая змушана бадзяцца ў пошуках працы. Яе жыццё напоўнена нягодамі і стратамі, жорсткасцю і непаразуменнем з боку людзей. Публічны дом у Марока, іспанскія трушчобы, парыжская багема, нарэшце паездка ў Амерыку, дзе здзяйсняецца яе мара стаць джазавай спявачкай.

Леклезіё ўносіць у свае шматлікія творы аўтабіяграфічныя рысы. Часцей за ўсё ён выкарыстоўвае тапонімы, такія, як востраў *Маўрыкій* (адкуль карані аўтара), мястэчка *Рокебільер* (дзе прайшлі дзіцячыя гады пісьменніка). Найбольш насычаны рэальнымі падзеямі з жыцця аўтара раманы “Аніцша” (1991) і “Афрыканец” (2004). Калі ў творы “Аніцша” пісьменнік кладзе ў аснову сваё дзіцячае вандраванне ў Афрыку, то “Афрыканец” – гэта своеасаблівы гімн бацьку, які прысвяціў шмат гадоў жыцця выратаванню карэнных афрыканцаў.

Раманы апошняга дзесяцігоддзя – “Рэвалюцыі” (2003) і “Уранія” (2005) – утапічныя творы. Стваецца ўражанне, што Леклезіё спрабуе ўказаць самотнаму, дарэшты маральна стомленаму сучаснай цывілізацыяй чалавеку шлях да нейкага ідэальнага месца, дзе той нарэшце знойдзе сабе прытулак.

У кастрычніку 2008 г., за некалькі дзён да абвяшчэння Леклезіё Нобелеўскім лаўрэатам па літаратуры, у свет выйшаў чарговы яго твор – **“Вечная песня пра голад”** (2008). Гэтую кнігу Леклезіё прысвяціў маці. У цэнтры аповеду – гісторыя жыцця і станаўлення дзвюх дзяўчынак: Этэль і Ксеніі. Першая нарадзілася ў заможнай буржуазнай сям’і, якая пасля цалкам разарылася. Этэль перажывае драму разбурэння адносін паміж бацькам і маці, становіцца сведкай прыходу нацызму і фашызму. Пазней яна далучыцца да антыфашысцкага фронту разам са сваім мужам Ларанам. У той жа час яе сяброўка Ксенія (руская эмігрантка, якая вырасла ў галечы і бяспраўі) выбірае іншы шлях: выходзіць замуж за багатага прамыслоўца і спакойна сузірае голад і разбурэнне навокал. З дапамогай дзіцячых успамінаў гераінь аўтар маляўніча ўзнаўляе эпоху 1930 – 1940-х гг.: даваенны Парыж, дзе адбылася прэм’ера балета “Балеро” М. Равеля (з Ідай Рубінштэйн у галоўнай ролі), акупаваную нацыстамі Францыю.

Нягледзячы на багаты жыццёвы досвед, падчас аднаго з нядаўніх інтэрв’ю газеце “Le Monde”, пісьменнік прызнаецца, што для яго свет – гэта заўсёды нешта невядомае: *“Я, шчыра кажучы, чалавек без адраса. Мусіць, таму што ў нашай сям’і ўсе мы былі трохі валацугамі. У нейкі момант я вырашыў асесці тут, але надыдзе час, і я зрушуся далей. <…> Гэта важна, напэўна, для тых, хто піша, таму што для пісьменніка свет – заўсёды нешта невядомае, мы адчыняем яго для сябе падчас працы над тэкстам”* [11].

**Спіс літаратуры**

1. **Электронны рэсурс** : http://nobelprize.org/nobel_prizes/literature/laureates/2008/clezio-interview.html.
2. **Электронны рэсурс** : http://evene.fr/…/jmg-le-clezio-763.php.
3. **Электронны рэсурс** : http://le monde.fr/web/recherche-resultats/1,13-0,1-0,0.html.
4. **Le Clézio, J.-M. G.** L’Africain. Traits et portraits / J.-M. G. Le Clézio. – Paris : Mercure de France, 2004. – 103 p.
5. **Brunel, P.** La littérature française aujourd’hui / P. Brunel. – Paris : Vuibert, 1997. – 221 p.
6. **Le Clézio, J.-M. G.** La Fièvre / J.-M. G. Le Clézio. – Paris : Gallimard, 1965. – 237 p.
7. **Le Clézio, J.-M. G.** Le Livre des fuites / J.-M. G. Le Clézio. – Paris : Gallimard, 1969. – 290 p.
8. **Le Clézio, J.-M. G.** Voyages de l’autre côté / J.-M. G. Le Clézio. – Paris : Gallimard, 1975. – 308 p.
9. **Le Clézio, J.-M. G.** Le Chercheur d’or / J.-M. G. Le Clézio. – Paris : Gallimard, 1985. – 332 p.
10. **Le Clézio, J.-M. G.** Ritournelle de la faim, roman / J.-M. G. Le Clézio. – Paris : Gallimard, 2008. – 206 p.
11. **Электронны рэсурс** : http://diplomatie.gouv.fr/…/interview-with-jean-marie-clezio_5092.html.

Мікола ТРУС

# “РЫЦАР СВЯТОГА ГРААЛЯ”

## ЦЯРНІСТЫЯ ШЛЯХІ ЛЕАНІДА МОСЕНДЗА

Ва ўкраінскай літаратуры 1920 – 1940-х гг. Леанід Мосендз (1897 – 1948) пазіцыянуецца як яркі паэт, празаік, перакладчык, эсэіст, арыгінальная творчая асоба, часта даволі неадназначная ў ацэнках даследчыкаў, “рэдкасная і багатая мадыфікацыя людскога духу” [14, с. 20]. Біяграфія пісьменніка цесна звязана з пакручастымі шляхамі гісторыі Украіны першай паловы XX ст.; пры гэтым ён быў і сведкам, і непасрэдным удзельнікам драматычных падзей, якія ахапілі ўсю тагачасную Еўропу.



За апошнія два дзесяцігоддзі ўкраінскае літаратуразнаўства засведчыла пэўны этапны стан працы па выяўленні і асэнсаванні творчай спадчыны Л. Мосендза, поўным і праўдзівым узнаўленні яго жыццяпісу. Да гэтага часу не выдадзены Збор твораў пісьменніка, толькі асобныя матэрыялы передрукоўваліся ў газетах, часопісах ці літаратурных анталогіях. Падобны стан і літаратуразнаўчых напрацовак: “Сінтэтычнага даследавання творчага даробку Л. Мосендза на сёння не існуе. Спарадычныя публікацыі, у якіх разглядаецца яго паэтычная, празаічная спадчына, не ствараюць агульнай карціны, не даюць магчымасці ўбачыць і ацаніць яго літаратурную дзейнасць панарамна” [10, с. 19].

Да творчасці Л. Мосендза звярталіся яго сучаснікі, якія, як правіла, рабілі сінхронны зрэз найноўшай літаратуры ўкраінскай эміграцыі, а таксама даследчыкі з нацыянальнай метраполіі апошніх дзесяцігоддзяў XX – пачатку XXI ст. у ходзе рэтраспектыўнага аналізу. У пераліку імён варта прыгадаць Д. Данцова, М. Мухіна, Ю. Клена, Я. Маланюка, У. Дзяржавіна, Л. Нігрыцкага, У. Шэлеста, Ю. Шэраха, Б. Краўніца, Л. Чэрэватэнку, М. Неврлага, М. Ільніцкага, Т. Салігу і інш.

Прадстаўнік “пражскай школы” Алег Ольжыч у артыкуле “Сучасная ўкраінская паэзія”, аналізуючы зборнікі вершаў “Юнацкая вясна” (1933) і “Задыяк” (1941) Л. Мосендза, у якасці заганных і станоўчых рыс вылучаў тое, што ў аўтара “форма глухая і падкрэслена нядбалая, але тым яскравей праступае шляхетная вытрыманасць і тонкі густ у змесце. Мосендз – паэт філасофскай рэфлексіі. У яго злёгку элегічных і адначасова глыбока мужных, стаічна бадзёрых вершах чуецца дыханне вечнасці. Украінская калектыўная эмоцыя і барацьба знаходзяць сваё ўвасабленне на гэтым шырокім, вечным палатне і гэтым набываюць выключна глыбокае гучанне” [11, с. 182].

Адну з першых спроб аб’ектыўнай, шматаспектнай характарыстыкі творчай індывідуальнасці Л. Мосендза зрабіў выкладчык Драгобыцкага ўніверсітэта імя І. Франко Ігар Набітовіч, які ў 1999 г. абараніў кандыдацкую дысертацыю “Творчасць Леаніда Мосендза. Асаблівасці мастацкага светаадлюстравання”. Наступным крокам вучонага ў гэтым кірунку стала манаграфія “Леанід Мосендз – рыцар святога Грааля. Творчасць пісьменніка ў кантэксце еўрапейскай літаратуры” (2001). Па словах М. Шалаты, аўтара прадмовы да выдання, І. Набітовіч даказаў, што “постаць Мосендза не проста неардынарная, а вельмі важная для ўкраінскай літаратуры. Пасля Лесі Украінкі, мабыць, ніхто так тэмамі, матывамі, вобразамі не лучыў украінскую літаратуру з сусветным пісьменствам і сусветнай гісторыяй” [10, с. 6].

*Звесткі пра аўтара змешчаны ў № 3. Тамсама апублікаваны ўступны артыкул «Творчасць мужнасці і любові: “Пражская школа” ўкраінскай паэзіі» **Міколы Труса** да цыкла, прысвечанага ўкраінскім творцам першай паловы XX ст. У красавіцкім нумары “Роднага слова” надрукаваны матэрыял «Майстроўня “пражскай школы” ўкраінскай паэзіі: “Цытадэль духу” Алега Ольжыча»; у жнівеньскім – «“Княгіня ўкраінскай духоўнасці”: Жыццё і творчасць Аксаны Лятурынскай».*

**З ЖЫЦЦЯПІСУ ЛЕАНІДА МОСЕНДЗА**

Нарадзіўся будучы пісьменнік у Магілёве-Падольскім у сям'і дзяржаўнага службоўца Марка Мосендза, нашчадка грэчаскіх пасяленцаў ва Украіне. Як адзначаецца ў адной з біяграфій, "у родзе Мосендзаў быў цэлы інтэрнацыянал: украінцы, палякі, беларусы, грэкі, мірна суіснавалі праваслаўная і каталіцкая вера" (Вітчизна, 2004, № 3-4). Пісьменнік быў нашчадкам ліцвінска-польскай і ўкраінскай шляхты, абруселай на службе ў Расійскай імперыі.

Сярод сваіх продкаў Л. Мосендз называў ліцвіна, удзельніка Грунвальдскай бітвы 1410 г. Паводле сямейнага падання, якое паэт пераказаў у паэме "Валынскі год", той Мосендз цудам ацалеў у час бою, на яго галаве сагнулася сякера крыжака. Прапрадзед пісьменніка – харунжы Пінскага ваяводства – змагаўся пад сцягамі Касцюшкі; пасля паражэння паўстання яго маёмасць была канфіскавана, а сам ён сасланы ў Сібір. Пасля дазволу цара вярнуцца і пасяліцца на Кіеўшчыне пабраўся шлюбам з мясцовай дзяўчынай і стаў заснавальнікам украінскай лініі Мосендзаў.

Леанід Мосендз закончыў у Вінніцы настаўніцкую семінарыю (1915), непрацяглы час працаваў па спецыяльнасці ў мястэчку Гнівані над Бугам. У гады Першай сусветнай вайны быў на службе ў расійскай арміі: спачатку ў Аляксееўскім ваенным вучылішчы, потым на румынскім фронце. Свой удзел у вайне Л. Мосендз завяршыў у чыне штабс-капітана (найвышэйшы ранг для някадравых афіцэраў).

Украінскі нацыянальна-вызваленчы рух, знаёмства з працамі М. Грушэўскага за кароткі тэрмін цалкам змянілі светапогляд Л. Мосендза: з перакананага русафіла ён ператварыўся ў палымянага ўкраінскага патрыёта, уступіў у шэрагі войскаў УНР.

Пасля няўдалых спроб стварэння незалежнай украінскай дзяржавы, як і тысячы яго паплечнікаў, апынуўся ў эміграцыі: спачатку ў Польшчы, а з 1922 г. у Чэхаславакіі, дзе запісаўся на хіміка-тэхналагічны факультэт Украінскай сельскагаспадарчай акадэміі ў Падэбрадах, за 50 кіламетраў ад Прагі.

У 1928 г. Л. Мосендз атрымаў дыплом інжынера-тэхнолага і застаўся ў акадэміі асістэнтам, спецыялізаваўся на перапрацоўцы нафты. Рада факультэта абрала яго прафесарскім стыпендыятам для падрыхтоўкі да выкладчыцкай працы. У 1931 г. абараніў дысертацыю і стаў адным з першых украінскіх дактароў тэхнічных навук у тагачаснай Чэхаславакіі. Яго дэбютныя крокі як вучонага атрымалі прызнанне ў навуковых колах, пра што сведчаць публікацыі ў спецыялізаваных, у асноўным нямецкіх, выданнях, рэгістрацыя патэнтаў на вынаходніцтвы. Ёсць меркаванне, што вучоны, магчыма, першы адкрыў таямніцы "цяжкай вады" [14, с. 20].

Поспехі Л. Мосендза ў навуцы не вялі за сабой матэрыяльную ўладкаванасць. Жыццё пісьменніка абцяжарвалі вельмі сур'ёзныя праблемы са здароўем: яшчэ ад часу знаходжання ў лагеры інтэрнаваных у Польшчы ў яго пачаў развівацца туберкулёзны працэс; у 1927 г. доктар прагназаваў Л. Мосендзу не больш за 6 гадоў жыцця, але лячэнне і аперацыі адтэрміналі сыход пісьменніка.

Яўген Маланюк пісаў, што «сапраўдным пакліканнем Л. Мосендза была *навука*, а ў ёй ка-






**Леанід Мосендз з жонкай Магдай.**
**Надпіс на адвароце здымка, адрасаваны Людміле Краскоўскай (на ўкраінскай мове): "На ўспамін штодзень".**
Браціслава, 30 жніўня 1941 г. Са збору М. Труса.
Публікуецца ўпершыню.




**Вокладка кнігі Ігара Набітовіча.** 2001 г.

раніўся *вучоны* ў найдакладнейшым значэнні гэтага, на жаль, такога сцёртага за апошні час слова… Навуковыя здольнасці гэтага чалавека проста фенаменальныя… Трэба бачыць яго здольнасці, яго энергію, яго натхнёнасць. Трэба дзівіцца такой самавітай творчай энергіі ў невялікай сухаватай паставе гэтага чалавека, якога – дзіва! – ніколі не прыгадаю сабе ані "стомленым", ані спраглым "адпачынку", ані неакуратна ці неахайна апранутым. Пачынаючы ад яго дакладных, стрыманых адказаў і заканчваючы яго чытэльным, амаль каліграфічным і прытым арыгінальным почыркам, – ён быў чалавекам цалкам завершанага стылю» [цыт. паводле: 14, с. 22].

Эканамічны крызіс, кадравыя скарачэнні ў акадэміі прыводзяць Л. Мосендза ў стан беспрацоўных. Толькі ў 1939 г. ён змог атрымаць месца ў Навукова-даследчым інстытуце вінаробства ў Браціславе.

Са сталіцай Славакіі звязаны рэзкі паварот у асабістым жыцці пісьменніка: тут ён пабраўся шлюбам з чэшкай Магдалінай Папанковай, на 18 гадоў маладзейшай за яго, даўно закаханай у паэта. Яшчэ раней Магда Папанкова на свае сродкі дапамагала ўладкоўваць беспрацоўнага Мосендза на лячэнне, пра што той нічога не ведаў. У Браціславе ў іх нарадзілася дачушка Марыйка.

Адзін з невядомых, каларытных аскепкаў украінскага жыцця ў Браціславе 1930-х гг. знаходзім у лісце Міколы Бучынскага да Людмілы Краскоўскай, выпускніцы Карлава ўніверсітэта ў Празе, якая ў той час перабралася на сталую працу ў Славацкі краязнаўчы музей (сёння Славацкі нацыянальны музей): "Вы павінны яшчэ агледзець ваколіцы Браціславы. Для такога выпадку можна падабраць вялікую кампанію (беспрацоўных). Па дарозе доктар М.[осендз] будзе разважаць сваімі найноўшымі вершамі. (Нядаўна ён параніў нагу, так што не хадзіў, за гэты час, седзячы, напісаў багата вершаў)" [1].

Пасля Другой сусветнай вайны Л. Мосендз перабіраецца ў Аўстрыю, потым у Швейцарыю, робіць апошнія спробы паправіць здароўе, спадзяецца на гаючую дапамогу горнага клімату. У санаторыі "Мотэкс" мястэчка Блёнаў над Жэнеўскім возерам пасля чарговай аперацыі сэрца паэта перастала біцца; верш "Мой шпіталь", напісаны за колькі гадоў да гэтага, аказаўся прарочым. На чужой зямлі хавалі паэта двое землякоў і некалькі дактароў з санітаркамі.

**ПРАЗ ЦЕРНІ ДА ЗОРАК**

Леанід Мосендз належыць да кагорты прадстаўнікоў "пражскай школы" ўкраінскай літаратуры, а таксама да "веснікаўцаў", дакладней "веснікаўскай квадрыгі" (Я. Маланюк, Ю. Клен, А. Ольжыч), – пісьменнікаў, якія гуртаваліся вакол часопіса "Літературно-науковий вісник" (пазней "Вісник"), што выдаваў Д. Данцоў.

Паэт пачаў пісаць яшчэ да прыбыцця ў Чэхаславакію. Вядомы на сёння самы ранні верш "*Бог жебраків, покірности й насилля…*" датуецца 1919 г. У першыя гады эміграцыі Л. Мосендз супрацоўнічае з "Подєбрадкою", неперыядычным украінскім сатырычным часопісам, што выходзіў у 1920-я гг. у Падэбрадах; некалькі ранніх вершаў убачылі свет на старонках букавінскай "Самостійної Думки" толькі ў 1934 г.; адзін з першых санетаў «*Ми кажемо: "Гіркий хліб вигнання…"*» знаходзім у пражскай "Новій Україні" за 1924 г.; гэтым жа годам пазначаны верш "*Подєбрадський замок*" у "Вістнику"; у 1926 г. вершам "*Мені здається: це когорти…*" Л. Мосендз распачынае свае публікацыі ў "Студентському Віснику"; 1927 г. датуецца пачатак цеснага супрацоўніцтва з часопісам "Літературно-науковий вісник", якое будзе доўжыцца да 1939 г., тут у 1928 г. надрукаваны адзін з першых перакладаў – верш Райнера Марыя Рыльке "*Якби хоч раз було цілком так тихо…*".

Другая палова 1920 – першая палова 1930-х гг. пазначаны ў Л. Мосендза найвышэйшым узлётам паэтычнай творчасці. Ад сярэдзіны 1930-х

і да канца жыцця ён значна менш увагі аддае паэзіі, займаецца прозай, выступае як літаратурны крытык.

Леанід Мосендз арыентаваўся на найлепшыя ўзоры еўрапейскай паэзіі, апрабоўваў сілы ў майстэрстве версіфікацыі, аддаваў вялікую ўвагу сістэме арганізацыі паэтычнай мовы, эўфанічным якасцям верша. З-пад яго пяра выходзілі александрыйскія дыстыхі, актавы, санеты, вянок санетаў, рандэлі, рытарнелі і інш. Вершы 1921 – 1936 гг. увайшлі ў зборнік "Задыяк" (Прага, 1941).

Плённым для пісьменніка, але нялёгкім у матэрыяльным плане быў беспрацоўны 1933 год. Гэтым часам датуецца заканчэнне драматычнай паэмы "Вечны карабель", у якой аўтар звярнуўся да падзей XVI ст., паказаў барацьбу жыхароў фландрыйскага горада Бруге супраць іспанскіх заваёўнікаў. Тады ж напісаны цыкл вершаў "Задыяк", вянок санетаў "Юнацкая вясна".

На сярэдзіну 1930-х гг. прыпадае таксама актыўная перакладчыцкая дзейнасць Л. Мосендза. Нацыянальнае засваенне сярэднявечнай заходнееўрапейскай літаратурнай традыцыі пазначана пераспевамі паэзіі кельцкіх бардаў V – VI стст., старасаксонскай хронікі, "Спеву пра Беавульфа" і інш.

Увага да творчасці аўтараў XX ст. рэалізавана найперш праз пераклады вершаў дзвюх амерыканскіх паэтэс: Адэлаіды Крэпсі (1878 – 1914) і Сары Тысдэйл (1884 – 1933). Калі першая з названых прадстаўляла заакіянскую літаратурную класіку, хрэстаматыйныя працы па тэорыі англійскага вершаскладання, то другая была сучасніцай перакладчыка, лаўрэатам прэстыжнай Пулітцэраўскай прэміі (1918) за зборнік вершаў "Love Songs". Чалавек складанага жыццёвага шляху, С. Тысдэйл у 1933 г. выпусціла апошнюю кнігу "Дзіўная перамога" ("Strange Victory"), скончыла жыццё самагубствам.

Тады ж Л. Мосендз захапіўся вывучэннем іспанскай мовы, звярнуўся да творчасці Сервантэса, апублікаваў эсэ "Нараджэнне Дон Кіхота".

Пад уплывам сусветнай класікі фарміравалася творчае крэда ўкраінскага майстра пяра: "*Пісьменнікам быць, ды яшчэ ў нашы часы – гэта штосьці большае, чым пяром вадзіць па паперы. Гэта пакліканне Божае. Як калісьці Джота перад пачаткам напісання карціны маліўся і пасціў, так і цяпер: дух пісьменніка павінен быць чыстым і вартым тых высокіх слоў, якія камбінуе на паперы яго спрактыкаваная рука…*"; "*Пісаць – значыць тварыць. Тварыць – судзіць самога сябе. Таму такія вялікія класікі…*".

Падмацаванне і развіццё гэтай думкі знаходзім у Юрыя Клена, аднаго з прадстаўнікоў "пражскай школы" ўкраінскай літаратуры, які ў артыкуле "Яшчэ раз пра шэрае, жоўтае і пра Веснікаўскую квадрыгу" (Вістник, 1935, № 6), разважаючы пра творчасць Л. Мосендза, Я. Маланюка, А. Ольжыча, А. Тэлігі, заўважыў: "На кожным паэце ляжыць нібы святарны абавязак рыцара Грааля, які ён павінен выканаць перад культурай, атрыманай у спадчыну і даверанай яго дбайнай ахове. Усведамляючы гэта, не смее ён закопваць скарб і на пацеху натоўпу блазнаў круціцца ў вакханаліі славаблуддзя".

Найбольш значным мастацкім творам Леаніда Мосендза, яго запаветам даследчыкі называюць гістарычны раман-трылогію "Апошні прарок", якому папярэднічала вялікая падрыхтоўчая праца і які выйшаў пасля смерці аўтара. У рамках біблійнай тэматыкі Леанід Мосендз звярнуўся да крытычнага агляду краевугольных пытанняў украінскага нацыянальнага руху, раман «напоўнены ідэямі свайго часу, як і "Майсей" Франко, антычныя драмы Лесі Українкі і іншыя "экзатычныя" творы ўкраінскай літаратуры».

**Спіс літаратуры**

1. **Ліст Міколы Бучынскага да Людмілы Краскоўскай** ад 25.07.1933 г. (на ўкраінскай мове). *Захоўваецца ў аўтара артыкула. Цытуецца ўпершыню.*

2. **Мосендз, Л.** Відплата / Л. Мосендз. – Львів, 1939. – 125 с.

3. **Мосендз, Л.** Вічний корабель : лірична драма / Л. Мосендз. – Прага : Колос, 1940. – 32 с.

4. **Мосендз, Л.** Волинський рік : поема / Л. Мосендз. – Мюнхен : Українська трибуна, 1948. – 80 с.

5. **Мосендз, Л.** Засів : повість / Л. Мосендз. – Прага : Колос, 1941. – 2-е вид. – 96 с.

6. **Мосендз, Л.** Канітферштан / Л. Мосендз. – Інсбрук, 1945. – 31 с.

7. **Мосендз, Л.** Людина покірна : оповіді / Л. Мосендз; передм. Л. Нигрицького. – Львів : Вид. І. Тиктора, 1937. – 126 с.

8. **Мосендз, Л.** Останній пророк / Л. Мосендз. – Торонто, 1960. – 456 с.

9. **Мосендз, Л.** Штайн. Ідея і характер / Л. Мосендз. – Львів, 1935. – 96 с.

10. **Набитович, І.** Леонід Мосендз – лицар святого Грааля : Творчість письменника в контексті європейської літератури / І. Набитович. – Дрогобич : Відродження, 2001. – 220 с.

11. **Ольжич, О.** Незнаному Воякові / О. Ольжич; упорядк., післям. і прим. Л. Череватенка. – Київ, 1994. – 432 с.

12. **Празька літературна школа** : ліричні та епічні твори / упоряд. і передм. В. Просалової. – Донецьк : Східний видавничий дім, 2008. – 280 с.

13. **Неврлий, М.** Празька поетична школа / М. Неврлий // Муза любові й боротьби : Українська поезія празької школи; упорядк., стаття й примітки М. Неврлого. – Київ : Український письменник, 1995. – С. 3 – 19.

14. **Неврлий, М.** *"Трохи Дон-Кихот в мені є…"* / М. Неврлий // Україна. – 1990. – № 18. – С. 20 – 23.

Леанід МОСЕНДЗ

# “МЫ БУДЗЕМ, ХОЦЬ БЫ НАС І НЕ БЫЛО”

*Э. По*

Наўкола нас таемнасці туман,
і час увесь, бы ўсходу калясніца,
блакітным шляхам безупынна мчыцца,
таемнае шукаем мы дарма.

Здаецца, што не будзе і няма…
І нават сноў варожка – цуда-птушка –
падманнага пасвечаная служка;
няпэўныя мы зноў, як той Фама.

Адзін толькі знайшоў яго ў цішы
на дне, у раскатурханай душы.
І цэлы век наладавала хмара

усіх страхот і боляў і тугі…
Усё узяў за нас, не тоячы вагі,
самотны дух бяссмертнага Эдгара!

## МОЙ ШПІТАЛЬ

Бясхвілле смерці і бясхвілле
жыцця сышліся на мяжы,
а на лязе яе настылым
ізноў распяты ён ляжыць.

Ляжыць абраная ахвяра,
жрацам аддадзена на глум,
а з абяскроўленага твару
спаўзае усяленскі сум.

Ды у трызненні гарачковым
ён нерухомасцю павек
глядзіць на дні былыя знову
і бачыць наш дваццаты век.

Але няма ні жалю, суму,
што ўсё было, як не было,
і стала толькі зместам думы,
і толькі рэхам прагуло…

Зіяе заўтра. А магілы
ўчарашнія – яго мяжа…
Якая ж мука быць бяссілым
пад лёзам смертнага нажа!..

* * *

Загуў матор у высакосці
і плаўны выклад перабіў…
Спыніўся ты ў бяссілай злосці
і крэйду верную зламіў…

Навошта, кантарэ вучоны,
такая паўза, злосны рух?
Ці ж не тваім пяром натхнёны
Імчыць ў зеніт звыцяжны дух?

Тугую мову інтэгралу
матор ў паэзію змалоў.
Якую хочаш яшчэ славу
укласці ў бледнасць сваіх слоў?

Маўчы!.. на міг!.. хай даспявае,
дасць волю ўпэўненасці крыл:
такая ж песня нас чакае
над морам украінскіх сіл!

* * *

Ноч восеньская… Шчырасці мінутка…
– Нішто не зменіш, мілая, бывай!
– Чакаць я буду. Вернешся ты хутка?
Я буду вернаю!.. Не забывай!..

Быў ясны ранак. Золатам асеннім
блішчэў густы насупраць сонца лес.
Усё здавалася такім нязменным,
як ты сама, пунцовых шчокаў бэз.

І я, блукаючы сярод паданняў даўніх,
мінуў мяжу тваіх здагадных меж!
Яшчэ ты, Пенелопа-Яраслаўна,
снуеш бясплоднасць кілімных мярэж?

* * *

І сам закон наўпрост дакладных ліній
спыняе зноў пралічаны крыштал,
і зоркі снежныя, валошкі сінія,
і мутна адшліфованы апал.

Спіраль стыхій на скрайніх межах неба,
тугі ў арбітным лёце электрон…
Ад зор зеніту да глыбінь Эрэба
адзін у Неабходнасці закон.

Яго спазнаць ад альфы да амегі.
Яму аддаць напружанасць турбот.
Ад кропкі ахапіць і аж да Вегі
матэрыі нястрыманы палёт.

## МЫ БЫЛІ…

*Мы жали хліб, ми вигадали млин,*
*мы знали мідь, мы завжди воювали…*
О. Ольжич.

“Мы ўсім былі калісьці”… Мой пагляд
на жменьках попелу ў нямым музеі.
А там, за шклом, жыццёвы вадаспад
кіпіць жыццём ў жыццёвым апагеі.

Але без нас. Застаўся толькі жаль,
рассыпаны у шэрай папяльнічцы…
Гісторыі засмужаная даль
змясцілася на вузенькай палічцы!

А гарызонты клічуць нам вясну!
Наўзбоч жыцця мінулае вяло –
наступны век страсе абрыўкі сну:
“Мы будзем, хоць бы нас і не было”.

Пераклаў з украінскай **Мікола ТРУС.**

Ева ЛЯВОНАВА

# РАМАНА-ГЕРМАНСКАЯ ФІЛАЛОГІЯ НА КАФЕДРЫ ЗАМЕЖНАЙ ЛІТАРАТУРЫ БДУ

## ГІСТОРЫЯ, СТАН, ПЕРСПЕКТЫВЫ

У 2009 г. кафедра замежнай літаратуры Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта адзначыла юбілей: роўна 70 гадоў таму яна пачала сваю дзейнасць як частка кафедры рускай і сусветнай літаратуры. Сімвалічнае супадзенне: менавіта ў 1939 г. адбылося і адкрыццё самастойнага філалагічнага факультэта ў структуры БДУ; раней, з 1921 г. (калі быў заснаваны Белдзяржуніверсітэт), падрыхтоўка філолагаў вялася ў межах этнолага-лінгвістычнага аддзялення спачатку факультэта грамадскіх навук, з 1922 да 1931 г. – педагагічнага факультэта, якому было перададзена вышэйназванае аддзяленне. Для кафедры ж замежнай літаратуры 2009 год быў знакавы ўдвая: 65 гадоў прайшло з таго часу (1944), як яна стала самастойнай структурнай адзінкай філалагічнага факультэта БДУ.

Захаваліся архіўныя матэрыялы, паводле якіх на пачатковым этапе, з 1944 да 1954 г., кафедра функцыянавала пад рознымі назвамі: кафедра заходнееўрапейскай літаратуры (1944), кафедра ўсеагульнай літаратуры (1944 – 1950), з 1954 г. яна называецца кафедрай замежнай літаратуры. Цягам часу кафедрай кіравалі такія вучоныя, як іспаніст, кандыдат філалагічных навук Д. Я. Фактаровіч; выдатны знаўца заходнееўрапейскіх літаратур (перадусім – бельгійскай і французскай) Б. П. Міцкевіч; вядомы багеміст і кампаратывіст, доктар філалагічных навук, прафесар І. В. Шаблоўская; даследчык англійскай літаратуры, кандыдат філалагічных навук В. В. Халіпаў. Цяпер кафедрай загадвае даследчык славянскіх і беларускай літаратур, кампаратывіст, багдановічазнаўца, кандыдат філалагічных навук, дацэнт М. В. Трус.

Ад моманту заснавання і да сярэдзіны 1990-х гг. кафедрай было зроблена ва ўсіх адносінах нямала, пры тым што гэта быў вельмі нялёгкі для яе час. Абараніць дысертацыю па замежнай літаратуры ў самой Беларусі не мелася магчымасці: у рэспубліцы не было спецыялістаў, а значыць, не існавала і савета адпаведнага профілю. Абараняліся пераважна ў Маскве (у Інстытуце сусветнай літаратуры і Інстытуце славяназнаўства і балканістыкі АН СССР, у МДУ імя М. В. Ламаносава) і Санкт-Пецярбургу. Часта расійскія вучоныя з’яўляліся навуковымі кіраўнікамі нашых спашукальнікаў, апанентамі былі выключна расійскія літаратуразнаўцы. Надрукавацца аспіранты таксама маглі хутчэй у Расіі або ва Украіне, чым у сябе на радзіме; ці не адзіным выключэннем быў навуковы часопіс “Веснік БДУ. Серыя IV”. Цудоўна ведаю ўсё гэта на ўласным вопыце, памятаю недаўменне вучонага сакратара савета па абаронах дысертацый у Інстытуце сусветнай літаратуры імя Максіма Горкага АН СССР падчас разгляду маіх дакументаў перад абаронай: чаму пры дастаткова шырокай агульнасавецкай геаграфіі публікацый – ад Адэсы і Кіева да Горкага (цяпер – Ніжні Ноўгарад) – гэткі мізэрны пералік матэрыялаў, апублікаваных ва ўласна беларускіх выданнях?

Усё відавочней паўставаў разрыў паміж наяўным і належным узроўнямі распрацаванасці пэўных напрамкаў айчыннай філалогіі. Асабліва вострa гэтая праблема праявілася з развалам СССР, хоць гаворка пра неабходнасць адкрыцця аддзялення рамана-германскай філалогіі на філалагічным факультэце БДУ вялася даўно. У кожным разе, такія меркаванні выказваліся членамі нашай кафедры, напрыклад на ўсесаюзным навукова-метадычным семінары, што адбыўся на базе кафедры ў 1981 г.

З сярэдзіны 1980-х гг. кафедра пачала паслядоўную і інтэнсіўную працу над стварэннем серыі вучэбных дапаможнікаў, якія ў сукупнасці ахапілі б замежную літаратуру ад антычнасці да сучаснасці. З 1986 да 1998 г. выйшла шэсць вучэбных дапаможнікаў па замежнай літаратуры (па антычнай літаратуры, літаратуры Сярэднявечча і Адраджэння, XVII – XVIII стст., XIX ст., канца XIX – пачатку XX ст., першай паловы XX ст.), а таксама хрэстаматыя па замежнай літаратуры XX ст., вельмі змястоўная і карысная для навучання студэнтаў-філолагаў.

У пачатку 1990-х гг. прадстаўнікі факультэта наведалі шэраг універсітэтаў Расіі, у тым ліку МДУ імя М. В. Ламаносава, з мэтай вывучэння практыкі выкладання ў іх цыкла дысцыплін рамана-германскай філалогіі. Якраз у сярэдзіне 1990-х гг. беларуская адукацыя ў яе філалагічным (літаратуразнаўчым) ракурсе павярнулася тварам да еўрапейскага і сусветнага літаратурнага вопыту. Нават школьныя праграмы па беларускай літаратуры з гэтага часу прадугледжвалі яе кантэкстуальнае, няхай і вельмі сціплае, вывучэнне; гэтай новай адукацыйнай канцэпцыі



**Кафедра замежнай літаратуры Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.**
Сядзяць: **Е. А. Лявонава, Г. В. Сініла, Н. С. Паваляева, Н. А. Нікішова,**
стаяць: **М. В. Трус, Н. У. Ламека, А. В. Хадановіч, В. В. Халіпаў, А. С. Гінак, В. М. Прастакоў, В. І. Кучароўская-Марцавая, А. А. Барысеева, Г. М. Бутырчык, С. Д. Малюковіч, А. М. Букатая.** 2009 г.

папярэднічалі дастаткова бурныя дыскусіі вучоных вышэйшай школы, настаўнікаў-славеснікаў, метадыстаў. У БДУ былі створаны кафедра славянскіх літаратур (1993; на працягу трох гадоў называлася кафедрай славістыкі), у склад якой увайшлі і выпускнікі аспірантуры пры нашай кафедры, і кафедра класічнай філалогіі (1995), забяспечваць вучэбны працэс на якой, пакуль там не былі падрыхтаваны ўласныя кадры, таксама дапамагала кафедра замежнай літаратуры. З'явілася магчымасць абараняць дысертацыі па літаратурах замежных краін у Беларусі: пры БДУ пачаў дзейнічаць савет адпаведнага профілю, ён працуе ўжо некалькі тэрмінаў.

У 1995 г. было нарэшце акрыта і аддзяленне рамана-германскай філалогіі; з гэтай падзеі пачаўся якасна новы этап як дзейнасці нашай кафедры, так і, без перабольшання, гісторыі беларускай філалогіі. Падрыхтоўка на аддзяленні рамана-германскай філалогіі вядзецца па чатырох спецыяльнасцях: англійская мова і літаратура, нямецкая мова і літаратура, французская мова і літаратура, італьянская мова і літаратура (дадалася ў 1997 г.). Па ўсіх гэтых спецыяльнасцях кафедра з'яўляецца выпускаючай. Прычым першыя два наборы былі ў пэўным сэнсе ўнікальнымі: падрыхтоўка спецыялістаў здзяйснялася па адной з сучасных замежных моў і літаратур і па беларускай мове і літаратуры.

Трэба падкрэсліць, што ў выкладанні раманістыкі і германістыкі як навукова і метадычна збалансаванага поўнага комплексу філалагічных дысцыплін (мовазнаўчых і літаратуразнаўчых) філалагічны факультэт БДУ стаў пачынальнікам, ды і сёння БДУ – адзіная ў нашай краіне вышэйшая навучальная ўстанова, дзе на рамана-германскім аддзяленні філалагічнага факультэта нароўні вывучаюцца замежныя мовы і замежныя літаратуры.

Вядома, трывалы падмурак для працы ў новым кірунку (дакладней – кірунках) існаваў. Тым не менш – асабліва з улікам таго, што ўся нагрузка па выкладанні дысцыплін рамана-германскай філалогіі літаратуразнаўчага характару лягла менавіта і толькі на кафедру замежнай літаратуры і пры гэтым на ёй жа заставалася ўся папярэдняя нагрузка па выкладанні агульнага курса замежнай літаратуры на ўсіх аддзяленнях (з аддзяленнем рамана-германскай філалогіі ўключна), – работа нас усіх чакала цяжкая і надзвычай адказная.

Перадусім былі створаны секцыі па нацыянальных літаратурах: нямецкай, французскай, англійскай, італьянскай (часткова курс гісторыі італьянскай літаратуры будзе пазней чытацца выкладчыкамі кафедры раманскага мовазнаўства, створанай у 2002 г., якую ўзначаліць адзін з супрацоўнікаў кафедры замежнай літаратуры, дацэнт С. В. Логіш). Кожную секцыю курыруе вопытны член кафедры, спецыяліст па адпаведнай літаратуры. Час паказаў, што роля гэтых секцый была і застаецца вельмі важнай: на іх ускладзены найперш функцыі арганізацыйнага кшталту – па наладжванні і падтрыманні міжкафедральных сувязей – з кафедрамі адпаведных моў на факультэце і ва ўніверсітэце, а таксама стасункаў з пэўнымі кафедрамі іншых беларускіх вышэйшых навучальных устаноў, з замежнымі ўніверсітэтамі і асобнымі замежнымі спецыялістамі, якія ахвотна прыязджаюць да нас з лекцыямі з Расіі, Францыі, Германіі і іншых краін. Галоўнае ж, перад кожнай секцыяй паўстала задача па стварэнні высакаякасных вучэбных праграм па розных нацыянальных літаратурах. Унутры кожнай секцыі паміж выкладчыкамі ў адпаведнасці з іх спецыялізацыяй і навуковымі зацікаўленнямі адбылося размеркаванне лекцыйных курсаў. Былі сфарміраваны аўтарскія калектывы па напісанні праграм. Справу ўдалося зрабіць досыць хутка. Вядома, праграмы пастаянна абнаўляюцца і ўдасканальваюцца, карэлююцца з пэўнымі рэаліямі жыцця (да прыкладу, з наяўнасцю электронных рэсурсаў, якія яшчэ паўтара дзесяцігоддзя таму не мелі такога значэння, як цяпер), прымаецца пад увагу з'яўленне новых мастацкіх твораў і літаратурных школ і напрамкаў, новых навуковых прац, што выходзяць у Беларусі, у блізкім і далёкім замежжы. На сёння праграмы па нямецкай, англійскай, французскай літаратурах, а таксама па агульным курсе замежнай літаратуры

выдадзены, яны рэцэнзаваліся спецыялістамі іншых вышэйшых навучальных устаноў як калегіяльна, так і індывідуальна, кожны раз атрымлівалі высокія ацэнкі. Больш за тое, праграмы па агульным курсе замежнай літаратуры і па нямецкай літаратуры маюць ужо статус тыпавых і, такім чынам, павінны ўлічвацца пры выкладанні гэтых дысцыплін у іншых ВНУ краіны.

Паралельна для новага аддзялення распрацоўваліся новыя спецкурсы і спецсемінары. Напрыклад, для студэнтаў-германістаў працуюць спецсемінары адпаведна па прозе і паэзіі; у іх межах вывучаюцца праблематыка і паэтыка нямецкай літаратуры (Германіі, Аўстрыі, Швейцарыі) у шырокім кантэксце еўрапейскага і сусветнага мастацкага слова, яе рэцэпцыя ў беларускай культурнай прасторы, пытанні перакладу нямецкай літаратуры на беларускую і рускую мовы. Варта адзначыць, што многія выкладчыкі кафедры не толькі вядомыя ў рэспубліцы і за яе межамі навукоўцы, але і перакладчыкі, чые беларуска- і рускамоўныя перастварэнні замежнага прыгожага пісьменства рэгулярна друкуюцца ў беларускіх і расійскіх анталогіях і часопісах (у тым ліку ў расійскай "Иностранной литературе"), выдаюцца асобнымі кнігамі. Для студэнтаў-германістаў чытаюцца спецкурсы "Беларуска-нямецкія літаратурныя ўзаемасувязі ў XX ст.", "Гёльдэрлін і яго традыцыі ў нямецкай паэзіі XX ст.", "Магічны рэалізм у нямецкай літаратуры", "Філасофія і паэтыка нямецкага экспрэсіянізму", "Гофман і Ян Баршчэўскі: тыпалогія творчасці" і інш. Не менш разнастайная тэматыка спецсемінараў і спецкурсаў для студэнтаў, якія вывучаюць англійскую, французскую, італьянскую літаратуры. Магістранты-літаратуразнаўцы слухаюць спецкурс "Лаўрэаты Нобелеўскай прэміі па літаратуры". На кафедры праходзяць таксама падрыхтоўку магістранты-замежнікі.

Апрача лекцыйных курсаў па нацыянальных літаратурах, для студэнтаў аддзялення рамана-германскай філалогіі выкладаюцца курсы "Міфалогія рамана-германскіх народаў", "Гісторыя замежнай крытыкі", "Тэорыя і гісторыя сусветнай культуры", "Біблія і культура" і інш. На 5-м курсе студэнтам аддзялення рамана-германскай філалогіі чытаецца, апроч некалькіх спецкурсаў, абагульняльны курс па спецыялізацыі, па якім выпускнікі мусяць здаваць дзяржаўны іспыт.

У 2001 г. да спецыяльнасцей, па якіх на факультэце вядзецца падрыхтоўка, дадалася яшчэ адна – "Усходняя філалогія (кітайская мова і літаратура)", якая карыстаецца ў абітурыентаў вялікай папулярнасцю. У забеспячэнні вучэбнага працэсу па гэтай спецыяльнасці кафедра замежнай літаратуры таксама бярэ актыўны ўдзел.

Зразумела, выкладчыкі кафедры замежнай літаратуры – даследчыкі нямецкай і французскай, англійскай і італьянскай літаратур, спецыялісты ў галінах параўнальнага літаратуразнаўства, славістыкі – максімальна выкарыстоўваюць у сваёй працы вынікі ўласнай даследчыцкай і творчай дзейнасці. Увесь час на кафедры адбываецца інтэнсіўная падрыхтоўка навукова-педагагічных кадраў – і для сябе, і для іншых ВНУ. Ды і ў іншых краінах выкладаюць выпускнікі аспірантуры пры нашай кафедры: у Расіі, Германіі, Канадзе. Толькі за апошняе дзесяцігоддзе паспяхова абаронены падрыхтаваныя на кафедры дысертацыі, прысвечаныя французскаму лібертынажу, творчасці Макса Фрыша, Германа Гесэ, Інгеборг Бахман, Вірджыніі Вулф, Томаса Стэрнза Эліята, Эзры Паўнда, Лоўрэнса Стэрна, Джэймса Джойса, Жарыса Карла Гюісманса, Рамэна Гары, Жана Мары Леклезіё, англійскай літаратурнай утопіі, тыпалогіі творчасці Джона Стэйнбека і Кузьмы Чорнага, Кнута Гамсуна і Максіма Гарэцкага і шэраг іншых. Рыхтуюцца да абароны новыя дысертацыі, чакаюць апублікавання новыя манаграфіі, навуковыя і навукова-метадычныя артыкулы. Студэнты, якія займаюцца ў спецсемінарах выкладчыкаў кафедры, таксама спрабуюць сябе ў якасці навукоўцаў: удзельнічаюць у студэнцкіх навуковых канферэнцыях, друкуюцца ў зборніках навуковых матэрыялаў, пра рэгулярнае выданне якіх кафедра нязменна клапоціцца.

Дзякуючы цесным кантактам філалагічнага факультэта з універсітэтамі Расіі, Украіны, Германіі, Польшчы, Чэхіі, Славакіі, Балгарыі, Кітая, Паўднёвай Карэі выкладчыкі кафедры замежнай літаратуры маюць выдатную магчымасць удзельнічаць у навуковым жыцці Еўропы і свету: стажыравацца ў навучальных установах розных краін, выступаць з дакладамі на міжнародных навуковых канферэнцыях і кангрэсах, а студэнты па праграме ўзаемаабмену не толькі непасрэдна знаёмяцца з культурай, побытам, прыродай краін, мовы і літаратуры якіх вывучаюць на радзіме, але і нярэдка атрымліваюць у замежных універсітэтах другую адукацыю.

Вядома, у выкладанні рамана-германскай філалогіі застаецца нямала праблем (стварэнне новых, сучасных падручнікаў па нямецкай, англійскай, французскай, італьянскай літаратурах розных эпох, больш шырокае ўключэнне беларускага моўна-літаратурна-культурнага кампанента ў практыку выкладання замежных літаратур і інш.). Зрэшты, наяўнасць праблем – бясспрэчнае сведчанне актыўнага жыцця. Галоўнае, што яны вырашальныя і вырашаюцца. Кафедра ж у будучыню сваю і факультэта глядзіць упэўнена, а надзеі ўскладае найперш на прыход новых студэнтаў – няўрымслівых, разумных, дапытлівых.



# МОВЫ РЫСЫ НЕПАЎТОРНЫЯ

*З гісторыі мовы*

Ірына ГАПОНЕНКА

## ЭТНОНІМЫ Ў БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ XIX – ПАЧАТКУ XX ст.

***Этнонімы*** (ад грэч. *ethnos* ‘народ’ + *onyma* ‘імя’) уяўляюць сабой назвы любога этнасу: плямёнаў, народнасцей, этнічных груп, нацый і пад. [5, с. 153; 6, с. 408]. Гэта надзвычай спецыфічныя моўныя адзінкі. Цікава ўжо тое, што сярод вучоных няма поўнага адзінства пры вызначэнні катэгарыяльнага статусу этнонімаў. Адны даследчыкі лічаць іх імёнамі ўласнымі [4, с. 5 – 6], другія – агульнымі [5, с. 153]. Аднак у любым выпадку цесная сувязь этнонімаў з такімі лексічнымі групамі, як антрапонімы (імёны людзей) і тапонімы (найменні геаграфічных аб’ектаў), якія бясспрэчна адносяцца да анамастычнай часткі лексікі, дазваляе выкарыстоўваць пры даследаванні этнонімаў тыя ж метады, што і ў выпадку з іншымі ўласнымі імёнамі.

Этнонімы – навукова значная крыніца пры вывучэнні рыс жыцця і побыту насельнікаў пэўнай тэрыторыі, іх моўна-этнічнай прыналежнасці, характару матэрыяльнай і духоўнай культуры, геаграфічнага пашырэння і размежавання этнасаў, міжэтнічных стасункаў, узроўню сацыяльнага і тэалагічнага развіцця, напрамкаў міграцыі, пэўных моўных асаблівасцей і г. д. [8, с. 5].

Акрамя таго, арыентацыя ў этнанімічнай прасторы – важны элемент агульнай культуры чалавека, бо этнанімічная лексіка актыўна выкарыстоўваецца не толькі ў прафесійным асяродку (сярод лінгвістаў, гісторыкаў, этнографаў), але і пры агульнамоўным апісанні разнастайных грамадска-палітычных і сацыяльных рэалій. Неабходнай умовай адэкватнага і карэктнага ўспрымання этнонімаў з’яўляецца дакладнае веданне іх канкрэтнага зместу. Трэба таксама ўлічваць, што адна і тая ж этнанімічная адзінка з цягам часу можа змяняць сваю сэнсавую напаўняльнасць, прычым іншым разам унутраны змест этноніма ў розныя храналагічныя перыяды будзе адрознівацца вельмі істотна. Гэта заканамерна, бо паняцці ў межах адной этнонімнай назвы не статычныя, яны знаходзяцца ў пастаянным руху, адлюстроўваючы тым самым змены ў этнічным развіцці свету або змены этнічных уяўленняў. Так, этнонім *прусы* зыходна азначаў насельнікаў паўднёва-ўсходняга ўзбярэжжа Балтыйскага мора, балтаў па паходжанні. Пасля таго як у XII – XIII стст. адпаведныя тэрыторыі захапілі германцы, якія вынішчылі карэнных жыхароў, *прусамі* сталі называцца ўжо немцы-захопнікі. У дарэвалюцыйнай Расіі этнонімам *кіргіз* іменавалі сучасных казахаў, а часам і туркменаў, а этнонім *немец* азначаў не толькі немцаў, але і галандцаў, і датчан. У Прычарнамор’і ў XIX ст. сучасных малдаван называлі *цыганамі* або *грэкамі* [паводле 4, с. 9 – 11]. Пры прачытанні, а тым болей пры напісанні тэкстаў на гістарычную тэматыку падобныя сацыякультурныя факты павінны абавязкова ўлічвацца.

Аб’ём паняцця *этнонім* у лінгвістычнай літаратуры яшчэ да канца не вызначаны. Па-першае, самі аб’екты этнаніміі дастаткова няпэўныя, напрыклад, не існуе дакладных навуковых азначэнняў нават для такіх асноўных адзінстваў, як *племя, народнасць, нацыя* [4, с. 5]. Па-другое, чалавечыя калектывы вызначаюцца вялікай разнастайнасцю і ўласцівыя ім назвы не заўсёды лёгка ўключаюцца ў пэўныя класіфікацыйныя схемы. Традыцыйна аб’ектам этнанімікі лічацца наступныя групы назваў этнічных і тэрытарыяльных аб’яднанняў людзей:

- назвы народаў, або *ўласна этнонімы*: *беларусы, рускія, англічане*;
- назвы надэтнічных утварэнняў: *славяне, скандынавы*;
- назвы этнаграфічных груп: *паморы, камчадалы, каўказцы*;
- назвы этнапалітычных груп (грамадзян пэўных дзяржаў і краін), або *палітонімы*: *афганцы, індыйцы, бельгійцы*;
- племянныя імёны і назвы старажытных народаў і народнасцей, уключаючы назвы насельніцтва старажытных дзяржаў: *крывічы, франкі, рымляне*;
- назвы паводле прыналежнасці да разнастайных рэлігійных аб’яднанняў, веравызнання, або *канфесіёнімы*: *індусы, іудзеі* [гл. 4; 1].

У артыкуле будуць разгледжаны асаблівасці функцыянавання і ўзаемаадносіны этнонімаў

менавіта гэтых груп*, а таксама канкрэтны змест некаторых этнанімічных адзінак у беларускай мове XIX – пачатку XX ст.

Адносна **пісьмовага афармлення** этнонімаў у прааналізаваных тэкстах** можна адзначыць іх непаслядоўнае напісанне як з вялікай, так і з малой літары: *з Вэнграў ідуць, народ гэты называецца Сарты, Krywiczy, Radzimiczy*, але *расейцы, літвіны, palaki, biełarusy, žydy****. Правапісны разнабой у гэтым выпадку тлумачыцца найперш тым, што ўжыванне вялікай літары ўмоўнае, характэрнае выключна для пісьмовай мовы. Аднастайнасць пры іх афармленні можа быць дасягнута толькі пры наяўнасці трывалай тэарэтычнай базы і строгіх агульнапрынятых правілаў. У разгляданы ж перыяд гэтыя фактары адсутнічалі, што і прыводзіла да правапіснай стракатасці. Яшчэ адной з прычын паказанай варыянтнасці, відаць, была нявызначанасць статусу этнонімаў як уласных або агульных імёнаў. Акрамя таго, канкурэнтнае ўжыванне вялікай і малой літар у выпадку з этнонімамі можна звязваць з паралельным уплывам на пісьмовае афармленне тагачасных тэкстаў арфаграфіі розных моў – польскай (дзе прынята напісанне этнонімаў з вялікай літары) і рускай (дзе этнонімы вялікай літарай не вылучаюцца).

Паводле **структуры** пераважным тыпам у разгляданы перыяд выступаюць аднакампанентныя этнанайменні. Менавіта такую форму мае большасць зафіксаваных этнонімаў, напрыклад: *альбанцы, англічане, армяне, асеціны, балгары, беларусы, грузіны, грэкі, індусы, испанцы, итальянцы, кітайцы, крыцяне, латышы, літвіны, немцы, палякі, румыны, туркі, украінцы, французы, чэхі, шведы, японцы* і г. д.: *Перэд вачымі сабраўшэйся грамады людзей, мігалі на сцэне ў сваіх нацыональных апратках, вельмі рознючыся сваімі танцамі і песьнямі: беларусы, асеціны, велікарусы, татары, украінцы, фіны, армяне, сыбірцы, палякі і латышы* (НН, 1910, № 6, с. 102); …*толькі гуляшчые галовы – кажэ вядомы расейскі вучоны, Елпатьевскій – могуць даваць такіе рады: палякі, фінляндцы, армяне, грузіны і татары, навучайцесь расейскай мовы і забудзьце сваю! індусы, навучыцесь англійскай мовы! аўстрыйскіе славяне – немецкай…* (НН, 1911, № 4, с. 53).

Значна радзей адзначаюцца двухкампанентныя этнонімы, калі назва народа, племені, супольнасці людзей складалася з двух слоў, аб'яднаных



***Ірына Алегаўна Гапоненка*** *– даследчык мовы. Кандыдат філалагічных навук (1993). Закончыла філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1990) і аспірантуру пры гэтай навучальнай установе (1993). Дацэнт кафедры гісторыі беларускай мовы БДУ. Даследуе пытанні станаўлення графіка-арфаграфічнай, лексічнай і анамастычнай сістэм сучаснай беларускай літаратурнай мовы.*

пераважна па апісальнай мадэлі "прыметнік, утвораны ад хароніма**** + наменклатурны тэрмін". У якасці апошняга выступаюць словы *народ, народнасць, род, людзі* (*Балгарскі народ, Беларускі народ, тыбетскі народ, польскага народу, рускай народнасьці, польскага роду, беларускія людзі*), напрыклад: *Форма у служачых* [фінскіх] *інакшая, як па нашых дарогах, і гукаюць яны шэпеляючы; значна адразу, што ня рускі народ* (НН, 1910, № 29); …*недазваленьне купляць зямлю асобам "польскага роду" і жыдом винавата ў тым, што земля… не магла папасць у руки таких людзей, каторые патрапили бы добра каля яе хадзиць* (НН, 1906, № 6). Назіраецца таксама ўжыванне шматкампанентных абагульняльных этнонімаў, пабудаваных па мадэлі "наменклатурны тэрмін + указанне на геаграфічнае размяшчэнне" (*народы Азіі, народы Сыбіры*) і па мадэлі "назва этнічнай групы + наменклатурны тэрмін" (*славянскіе плямёны, народы славянскаго племені*), напрыклад: *Жылі тут народы славянскаго племені, каторые, як паказываюць народные песьні, здаецца прыйшлі сюды з-над Дунаю* (НН, 1910, № 1).

Двухкампанентныя этнанімічныя формы ў большасці выпадкаў выступалі як узаемазамяняльныя эквіваленты адпаведных аднакампанентных этнонімаў: *балгары* (*болгары, боўгары*) *– балгарскі народ, палякі – польскі народ, беларусы – Беларускі народ* (*беларускія людзі*), *рускія* (*расейцы, расійцы, велікарусы, маскоўцы*) *– рускі народ* (*рускай народнасьці, рускія людзі, маскоўскія людзі*). Пры наяўнасці паралельных ужыванняў па частотнасці фіксацый усё ж пераважаюць аднакампанентныя этнонімы. Напрыклад, на 10 выпадкаў ужывання аднакампанентнай формы этноніма *руская* прыпадае 5 выпадкаў афармлення па апісальнай мадэлі (*рускай народнасьці, рускія людзі, рускі народ*) і г. д.*****

---

* Акрамя таго, да этнонімаў могуць адносіцца назвы жыхароў канкрэтных населеных пунктаў, так званыя *катайконімы* (тыпу *мінчукі, палачане, масквічы*), назвы асоб па этнарасавай прымеце (тыпу *мулат, негр*). Аднак такія назвы ў артыкуле разглядацца не будуць, паколькі яны або вызначаюцца адноснай самастойнасцю на этнанімным полі і заслугоўваюць асобнага даследавання (катайконімы), або вельмі слаба прадстаўлены ў прааналізаваных тэкстах (этнарасавыя найменні).

** Гл. спіс крыніц.

*** Ілюстрацыі з выданняў падаюцца ў арыгінальным кірылічным ці лацінскім напісанні.

**** *Харонімы* – назвы пэўных тэрыторый, абласцей, раёнаў, а таксама прынятыя ў афіцыйных дакументах назвы адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак, якія маюць акрэсленыя межы [паводле 5, с. 145 – 146].

***** Падлікі зроблены паводле дадзеных картатэкі «Слоўніка мовы "Нашай Нівы"» (Інстытут мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі).

Двухкампанентныя этнонімы заканамерна выкарыстоўваліся ў тых выпадках, калі, акрамя інфармацыі адносна этнічнай прыналежнасці той ці іншай групы людзей, неабходна было данесці яшчэ і дадатковыя звесткі, напрыклад, абазначыць факт пражывання прадстаўнікоў той ці іншай нацыі, народнасці на тэрыторыі іншых этнасаў (*Чэшскіх Немцоў, кіеўскіе беларусы, украінскіе казакі, галіцыйскіе палякі*), напрыклад: *…и Amerycy pawinny być chaŭrusy biełarusoŭ, jak heta robiać, naprykład, halickije rusiny* (НН, 1911, № 2).

Адзначана некалькі выпадкаў ужывання этнонімаў, у структуру якіх уключана слова *браты*. Фактычна яно выступае ў функцыі наменклатурнага тэрміна і надае дадатковую эмацыянальную афарбоўку этноніму, дапамагае адлюстраваць адносіны да пэўнай супольнасці (*браты-славяне, браты Украінцы*), напрыклад: *Palacieli dumki… Jak toj brat-biełarus moj žywieć?* (НН, 1910, № 4).

**Значэнне** тагачасных этнонімаў у асноўным супадала з сённяшнім, напрыклад: *Чэхи – гэта славяне, родные браты руских, палякоў, украинцоў, ды нас беларусоў, а так сама иншых славянских народаў* (НН, 1908, № 14, с. 6). Але ў асобных выпадках змест этнонімаў у XIX – на пачатку XX ст. больш ці менш істотна адрозніваўся ад сучаснага. Напрыклад, найменне *літвіны* (*ліцвіны*). Паводле сцверджанняў даследчыкаў, у гістарычных крыніцах XIV – XVI стст. яно выкарыстоўвалася ў цэлым шэрагу значэнняў. Так, А. Латышонак указвае, што беларускі даследчык Г. Галенчанка зафіксаваў у тагачасных тэкстах як мінімум восем значэнняў гэтага этноніма. Найбольш распаўсюджаныя і найменш спрэчныя з іх, на думку многіх навукоўцаў, два значэнні: этнічнае – як найменне ліцвінаў у вузкім сэнсе гэтага слова (фактычна этнічных літоўцаў), г. зн. пераважна жыхароў Аўкштоты, без жмудзінаў, і палітычнае – як экзаэтнонім* для называння грамадзян любой нацыянальнасці старажытнай дзяржавы Вялікае Княства Літоўскае [гл. 3, с. 114 – 116; 7, с. 39]. Сёння найменне *літвіны, ліцвіны* найчасцей ужываецца менавіта ў гэтым апошнім значэнні**. На пачатку ж XX ст. яно рэгулярна і фактычна безварыянтна выкарыстоўвалася ў значэнні ‘этнічныя літоўцы’: *У нас тут* [м. Варняны Віленск. губ.] *граница беларусоў и литвиноў… Жывуць и беларусы и литвины, як браты; некаторые ўжо ня могуць разабраць, ци яны беларусы, ци литвины… нашы литвины умеюць добра гаварыць па-беларуску. Старые меж сабой гаворaць ешчэ па-литоўску, а маладые литвины ўжо па-беларуску* (НН, 1908, № 15); *Літвіны шчыра вітаюць узрост нацыональнай сьведомасьці у беларусоў і жадаюць іх далейшаго развіцьця* (НН, 1910, № 9); *…biełarusy złučylisia z litwinami. Stałasia adno Litoŭska-Biełaruskaje kniaźstwa* (Станкевіч). Характэрна, што пры гэтым рэгулярна ўжываецца адэтнонімны прыметнік *літоўскі*: *…на будоўлю літоўскаго дому у Вільні у каторым будзе памешчацца літоўскае науковае таварыство і літоўскае штукарскае таварыства, ужо літвіны сабралі 16.702 руб.* (НН, 1913, № 9); *Чутна было беларускую, літоўскую, рускую, польскую мовы* (НН, 1910, № 8).

Некаторыя этнонімы, якія ў сучаснай мове стылістычна маркіраваныя, у XIX – на пачатку XX ст. фіксуюцца як нейтральныя найменні. Напрыклад, *жыд* – ‘яўрэй’ (*Цар Іоан прыказаў хрысьціць усіх жыдоў, а тых каторые будуць спраціўляцца, тапіць у Дзьвіне*, НН, 1910, № 6; *Николи турки не чэпали веры хрысьцяноў, ани жыдоў. А жыдоў тольки ў адным горадзи Салониках жыве 90 тысяч…* НН, 1908, № 16); *хахол* – ‘украінец’ (*Нядаўна, як падаець амэрыканская газэта, туды* [у Амерыку] *не дапусьцили колькі хахлоў*, НН, 1907, № 14; *Зышліся гэтак у карчме раз Наш беларус, цыган, хахол… Хахол Маўчба ішоў з работы…* НН, 1910, № 40; *Ў комнатах думскаго палацу ходзяць хахлацкие дэпутаты и вядуць вясёлы разгавор аб выбарах*, НН, 1907, № 10); *маскаль* – ‘рускі’ (*…maskal Rýkaú wiadzie hawórku wiasiółu*, Пан Тадэвуш; *У вечэр – маскаль Кульбіцкі і татарын Якубоўскі, пашлі у лес на спацыр*, НН, 1914, № 18; *Штукарства, ці як маскалі кажуць “іскуство” – як і літэратура адмечаюць… упадак*, НН, 1913, № 37; *…у войску… іосьць и праудзивые москали (кацапы)*, Гуторка). У некаторых выпадках найменне *маскаль* увогуле не з’яўляецца этнонімам і мае значэнне ‘салдат’, напрыклад: [Тацяна:] – *Гэта за Петрыка* [замуж]*? Не ні пайду. Ды яго цяпер восенью ў маскалі бяруць* (НН, 1913, № 14); *Ажно, якраз сядзеў чэлавек у хаці, што ў маскалёх служыў, дык ён кажэ: – гэта ён* [доктар] *табе мусі акуляры загадаў купіць* (Крапіва). Паказальная ў гэтым сэнсе заўвага перакладчыка паэмы Т. Шаўчэнкі “Кацярына” – Напалеона Чарноцкага, які піша: *…на Украйне, як і у нас, “маскалём” называюць кожнаго расейца і салдата. Нават украінец зрабіўшыся салдатам становіцца “маскалём”, як кажэ украінская прыказка: “Як надів московську сумку, то взяв і московську думку”*. Аднак у асобных кантэкстах можна заўважыць элементы ацэначнасці гэтага наймення: *Ні кахайцеся, дзеўчаты, / Вельмі з маскалямі, / Бо маскалі чужы людзі / Жыць ня будуць з вамі. / Маскаль любіць толькі жартам / І на жарты кіне, / Ў сваю бацькаўшчыну пойдзе, / А дзяўчына гіне…* (Шаўчэнка).

У асобных выпадках этнонімы, акрамя асноўнага значэння, валодалі дадатковымі канатацыямі і служылі для выражэння адносін да пэўнай суполкі людзей: *Гадамі таёная ненавісць да чужэ-*

* *Экзаэтнонім* (або *алаэтнонім*) – назва этнасу, якая дадзена яму іншым, звычайна суседнім этнасам. Супрацьстаўляецца паняццю *эндаэтнонім* (або *аўтаэтнонім*) – саманайменне этнасу [5, с. 154].

** Святлана Струкава ўказвае таксама, што этнонім *ліцвіны* ў наш час ужываецца таксама як экзаэтнонім у палякаў для абазначэння літоўцаў і як лакальнае найменне для некаторых груп беларускага насельніцтва (у асноўным на памежных тэрыторыях) [7, с. 39].

*земцоў, каторых індусы гуртам завуць "франкамі", з'еднала ўсіх індусоў…* (НН, 1910, № 2).

У кантэкстах XIX – пачатку XX ст. сустракаюцца невядомыя сёння этнанімічныя адзінкі. Так, этнонім *лесоўчыкі*, як можна меркаваць, выступае аналагам сучаснага наймення *палешукі*: *У жылах яго* [Палуяна] *плыла кіпучая кроў слаўных Лесоўчыкоў – Брагінскіх і Пінскіх казакоў…* (НН, 1910, № 18).

Шырока прадстаўлены ў прааналізаваных выданнях не зафіксаваны ў сучаснай мове этнонім *расеец*, утвораны ад хароніма *Расея*, які стабільна ўжываўся ў беларускім узусе XIX – пачатку XX ст. Прычым на той час яшчэ не была развітая семантычная дыферэнцыяцыя паміж палітонімам і ўласна этнонімам і названае этнанайменне мела некалькі значэнняў: 'рускі па нацыянальнасці' (*Не запішы расейцы у час, у пару сваіх казак, песянь, былін – і цяпер яны ня мелі бы нічога гэтага…* НН, 1913, № 16-17) і 'жыхар Расіі незалежна ад нацыянальнасці, расіянін' (*…кітайскі ўрад хочэ прагледзець усе чыста ўмовы з Расеяй і адабраць ад расейцоў прывілеі ў Харбіне…* НН, 1910, № 13).

Сярод спецыфічных этнанімічных адзінак, якія засталіся прыналежнасцю мовы XIX – пачатку XX ст., можна ўказаць і найменне *інародзец*, якое служыла для абагульненага абазначэння прадстаўнікоў нярускай народнасці, жыхароў ускраін імперыі: *Інородзец, пакуль ён на службе, праз тры гады павінен навучыцца расейскай мовы…* (НН, 1912, № 6).

Адзнакай своеасаблівай ідэалогіі тагачаснага грамадства і недастатковага ўзроўню нацыянальнай самасвядомасці выступаюць выпадкі змяшэння паняццяў рэлігійнай і нацыянальнай прыналежнасці. Існаванне такой грамадскай з'явы адлюстроўваецца ў наступных кантэкстах: *Тут* [у Расійскай Украіне і ў Беларусі] *лічаць, бытцам каталіцтво – гэта польская, праваслаўе – расейская ("руская"), і прыродных беларусоў запісываюць павэдлуг рэлігіі то ў палякі, то ў рускіе*, НН, 1910, № 47; *У Польскай Рэчы-Посполітай зараз пасьля Маскоўскіх воен загараецца ізноў змаганьне розных вер… Каталіцтво за гэты час зрабілося верай польскай і зусім злілося с паняцьцем польскай народнасьці, так што паляк і католік гэта пачалі лічыць ужо за адно*, НН, 1910, № 21; *…у аднэй толькі Віленшчыне 58 тысяч беларускіх селян-каталікоў аб'явілі сябе на валасных сходах палякамі*, НН, 1910, № 49. А апавяданне І. Жывіцы "Пан Шабуневіч", апублікаванае ў "Нашай Ніве" ў 1913 г. (№ 6), цалкам прысвечана гэтай праблеме. Яго галоўны герой, пан Шабуневіч, распавядае так: *Ведаеце, былі гэтые выбары у земства… Запісалі мяне у польскую курыю, а я кажу: "дзякуй вам, я ужо лепей у жыдоўскую пайду, калі вы мяне беларусам ня лічыце…" Прыйшоў у гарадзкую думу. Кажу, я такі то і такі то, ці мяне запісалі на выбары? Паглядзелі у сьпіскі; "а вы якой веры?" – "Каталіцкай атказываю". – "Ну дык вы гэтта у польскую курыю запісаны". – "Як кажу, а чаму не ў беларускую?" сьмяюцца шэльмы: "бо такой, кажуць, німа, а ёсць проста руская, калі хочэце туды, то йшчэ можна". Дык я-ж… ні расеец, ні паляк і ня жыд! Як-жэ беларускай курыі німа? – "А вы каталік?" – "А ўжо-ж!" – "А мы усіх каталікоў у палякі…"*

Цяжкасці працэсу станаўлення нацыянальнай самаідэнтыфікацыі дэманструе наступны кантэкст: *Народ тут* [у с. Бутрыманцы Віленск. губ.] *ведае ўжо, што ён беларус і толькі цяжка яму ўцяміць, як гэта разам выйсці можэ: і паляк, і беларус, і каталік, і літвін?..* (НН, 1912, № 2). Аднак беларусы, прынамсі прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі, усё больш трывала ўсведамлялі сваю этнічную асобнасць. Паказальна, у прыватнасці, тое, што насельнікі Беларусі ў прааналізаваных выданнях XIX – пачатку XX ст. фактычна стабільна называліся менавіта *беларусамі*: *…no jeszcze tam hdzie żyli palaki, litoйcy i biełorusy, zawodziać maskoйskieje szkoły…* (К. Каліноўскі, "Пісьмо з-пад шыбеніцы" [паводле 2, с. 62]); *…cikawy Białarusy Zamoukli* (Дажынкі); *Нима на што беларусу рабицца руским ци палякам: ён можэ астацца беларусам и астанецца* (НН, 1908, № 9); *Націнальнае адраджэньне беларускаго мужыцкаго народу ўжо пачалося. Мужык пачуў сябе чэлавекам, чэлавек – беларусам… Кожын крок упярод на дарозе да адраджэньня беларускай націнальнай культуры набліжае той час, калі беларусы ў сям'і братніх народоў перэстануць лічыцца пасынкамі…* (НН, 1911, № 7); *Узяць хоць нашаго мужыка Беларуса* (Чарноцкі); *Biaromsia da pracy… kab usłužycca rodnym ludzcam Biełarusom dobrym słowam* (Светач); *Dajže Bože, kab skarej adczynilisia woczy naszami Biełarusu…* (Просты). Гэта важная адзнака, паколькі "назва, якая прыкладаецца да пэўнага калектыву, паказвае: ці ўсвядомлена адзінства яго членаў і іх адрозненне ад членаў іншых калектываў. <…> Для кожнага з такіх адзінстваў, вялікіх і малых, імя служыць прыметай, якая аб'ядноўвае ўнутры і адрознівае знешне" [4, с. 5].

Найменне *крывічы* (*крывічане*), якое прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі ў XIX ст. спрабавалі адрадзіць у якасці нацыянальнага [7, с. 38], у прааналізаваных тэкстах XIX – пачатку XX ст. сустрэлася толькі са значэннем 'старажытнае ўсходнеславянскае племяннное аб'яднанне': *Usia hramada dobrych Krywiczan… Swajho Kniaźia radastna streczaje* (Вечарніцы); *Самае вялікае было племя Крывічэй, каторые жылі каля Днепра і Дзвіны* (НН, 1910, № 1); *…žyli… Sławianie: Krywičy, Radzimičy, Šmat Dryйlan, Dryhowičy* (Светач). Я. Станкевіч піша, што *Biełarusy načej zawucca Krywičanami*, але, як відаць, найменне *беларусы* выступае ў якасці асноўнага. Нават у змешчаных на старонках "Нашай Нівы" тэкстах гістарычнай тэматыкі Вацлава Ластоўскага, прыхільніка крывіцкай тэорыі паходжання белару-

саў, аўтара "Падручнага расійска-крыўскага (беларускага) слоўніка" (Коўна, 1924), які ў 20-я гг. ХХ ст. выдаваў часопіс "Крывіч", стабільна ўжываецца менавіта этнонім *беларус*: *Пасьля сьмерці Казіміра… ізноў на неякі час Польска-Літоўскае гасударства раздзелілася: Палякі выбралі за караля Яна Ольбрахта, а літвіны і беларусы – Александра…* (НН, 1910, № 5, с. 78. Власт. Кароткая гісторыя Беларусі).

Для беларускай этнанімнай сістэмы XIX – пачатку ХХ ст. характэрная з'ява варыянтнасці. Асобныя этнонімы ў разгляданы перыяд выступалі ў выглядзе словаўтваральных (тыпу *фіны, фінляндцы*), граматычных (тыпу *англічане, англічанка; немцы, немец*), лексічных (тыпу *расейцы, велікарусы, маскоўцы*) варыянтаў.

Можна вылучыць некалькі прычын варыянтнасці ў тагачаснай этнанімічнай сферы.

1. Неадпрацаванасць абазначэння этнанімных паняццяў на фоне агульнай тагачаснай моўнатэрміналагічнай неўнармаванасці. Пры гэтым розныя этнанімічныя найменні выступалі як цалкам узаемазамяняльныя, напрыклад: *англічане – англікі – англійцы*: *Англічане маняцца прыехаць у Пецярбург у канцы мая* (НН, 1910, № 10); *Англик праз усё жыццё не спатыкаецца ни з яким "начальствам"* (НН, 1907, № 17); *І яна – тая згода* [Англіі і Нямеччыны] – *можэ знайсьці грунт як у думках англійцоў, так і немцоў* (НН, 1912, № 5).

2. Варыянтнасць харонімаў, пакладзеных у аснову этнонімаў. Так, непасрэдным вынікам паралельнага выкарыстання ў XIX – на пачатку ХХ ст. харонімаў *Расея – Велікароссія* (*Вялікарусія, Велікарусь*) з'яўляюцца раўназначныя этнанімічныя варыянты *расейцы – велікарусы*: *…кітайскі ўрад хочэ прагледзець усе чыста ўмовы з Расеяй і адабраць ад расейцоў прывілеі ў Харбіне* (НН, 1910, № 13); *Велікарусы, беларусы, украінцы, палякі, літвіны і жыды – пеялі свае народные песьні…* (НН, 1910, № 10).

3. Суіснаванне розных дыяхронных этнанімічных формаў, як, напрыклад, у парах *расейцы – маскоўцы, палякі – ляхі*. Такія варыянты, як правіла, кантэкстуальна размежаваныя. Этнонімы *маскоўцы, ляхі* сустракаюцца пераважна ў тэкстах на гістарычную тэматыку: *Здача Смаленска Маскоўцам абурыла ўвесь край…* (НН, 1910, № 18. Власт. Кароткая гісторыя Беларусі); *…jak tolki biełarusy wajewali z maskoйcami (rasiejcami), to palaki ŭ toj čas staralisia što-niebudź dla siabie wytarhawać ad biełarusaŭ* (Станкевіч); *Для характэрыстыкі часоў і людзей канца XVI сталецьця не малую вагу мае ніжэй паданая мова каштэляна… Мелешкі… "…нашые гаспадары, проч Жыгімунта Аўгуста Караля (таго нечега і ў людзі лічыці) бо той Подлясе і Валынь вынішчыў Ляхам менючыся…"* (НН, 1910, № 14. Власт. Кароткая гісторыя Беларусі). Але адзначаюцца і выпадкі ўжывання такіх адзінак па-за гістарычнымі кантэкстамі: *No jeszcze tam hdzie żyli palaki, litoйcy i biełorusy, zawodziać maskoйskieje szkoły a u hetych szkołach uczać pa maskousku…* (К. Каліноўскі, "Пісьмо з-пад шыбеніцы" [паводле 2, с. 62]); *Як вядома, у нашым краі верхаводзяць найболей дзве "пануючые" націіі, маскоўцы і палякі* (НН, 1914, № 20).

4. Паралельнае ўжыванне разнамоўных этнанімічных формаў тыпу *яўрэй* (на рускі ўзор) – *жыд* (на польскі ўзор). У прааналізаваных выданнях гэты этнонім ужываўся пераважна ў польскім варыянце і толькі зрэдку адзначаецца яго рускі адпаведнік: *…апошнімі часамі група одэскіх жыдоў зьвярнулася да граданачальніка з просьбай затвярдзіць статут "Общества евреевъ, молящихся Богу за Царя и правительство"* (НН, 1910, № 8).

У цэлым, паводле вынікаў нашага аналізу, этнанімічная сістэма беларускай мовы XIX – пачатку ХХ ст. выглядае дастаткова ўсталяванай: большасць этнонімаў мела стабільную форму і валодала ўстойлівай семантыкай, а варыянтнасць сярод этнанайменняў была нязначнай і ў большасці выпадкаў апраўданай. Унармаванасць этнанімічнага фрагмента дазваляе зрабіць выснову пра высокі ўзровень развіцця тагачаснай беларускай анамастычнай сістэмы.

Этнанімічны матэрыял гэтага перыяду паказальны не толькі ў чыста моўных адносінах. Этнонімы – гэта красамоўныя сведкі гісторыі [4, с. 30]. Яны даюць нам каштоўныя звесткі адносна этнапалітычных поглядаў беларусаў, асаблівасцей сацыяльнага ладу, грамадскіх узаемаадносін на вызначальным у гісторыі нашага народа этапе.

**Крыніцы**

**Вечарніцы** – [Dunin-Marcinkiewicz W.] Wieczernice i obłąkany. Poezye Wincentego Dunin Marcinkiewicza. Mińsk, 1855; **Гуторка** – Гуторка аб тым куды мужыцкие грошы идуць. Лъондын, 1903; **Дажынкі** – [Dunin-Marcinkiewicz W.] Szczeróuskije dażýnki. Pb., 1910; **Крапіва** – газета "Крапіва". Вільня, 1914; **НН** – газета "Наша Ніва". Вільня, 1906 – 1915; **Пан Тадэвуш** – [Mickiewicz A.] Pan Tadeusz. Dwanatcać szlachieckich bylic. Napisáu Adám Mickiéwicz. Piarawiarnúu na białarúskuju hawórku Wincénty Dúnin Marcinkiéwicz. Wilno, 1859; **Просты** – [Piotra Prosty] Na szto Biełarusam hazety? Wilnia, 1914; **Светач** – газета "Świetač". Pïtrahrad, 1916; **Станкевіч** – Piotra z Arleniat (Станкевіч Ян). Što było i što pawinno być. Wilnia, 1918; **Чарноцкі** – [Чарноцки Н.] Якъ будзе з зямлею. СПб., 1907; **Шаўчэнка** – Шаўчэнка Т. Кацярына. Вільня, 1911.

**Спіс літаратуры**

1. **Иванов, С. С.** Этнонимы современного русского литературного языка : автореф. … дис. канд. филол. наук / С. С. Иванов. – Л., 1988.
2. **Крамко, І. І.** Гісторыя беларускай літаратурнай мовы / І. І. Крамко, А. К. Юрэвіч, А. І. Яновіч. – Мінск, 1968. – Т. 2.
3. **Łatyszonek, O.** Od rusinyw białych do białorusinyw. U źrydeł białoruskiej idei narodowej / O. Łatyszonek. – Białystok, 2006.
4. **Никонов, В. А.** Этнонимия / В. А. Никонов // Этнонимы. – М., 1970. – С. 5 – 31.
5. **Подольская, Н. В.** Словарь русской ономастической терминологии / Н. В. Подольская. – М., 1988.
6. **Русский язык** : энциклопедия / гл. ред. Ф. П. Филин. – М., 1979.
7. **Струкава, С.** Старажытныя найменні беларусаў / С. Струкава // Роднае слова. – 2009. – № 8. – С. 37 – 40.
8. **Стрижак, О. С.** Етнонімія Геродотової Скіфії / О. С. Стрижак. – Київ, 1988.

# З ДУМКАЙ ПРА АРЫГІНАЛ

## БЕЛАРУСКІЯ КАМПАЗІТЫ Ў ПЕРАКЛАДЗЕ НА НЯМЕЦКУЮ МОВУ

Словаўтваральныя сістэмы няроднасных моў характарызуюцца як рысамі падабенства, так і значнымі разыходжаннямі. Напрыклад, як у беларускай, так і ў нямецкай мове шырока выкарыстоўваецца іменнае словаскладанне. Прадметам аналізу ў артыкуле з'яўляецца адзін з найбольш прадуктыўных тыпаў словаскладання ў абедзвюх мовах – словы тыпу "аснова прыметніка + аснова назоўніка", ужытыя ў аповесці "Дзікае паляванне караля Стаха" У. Караткевіча, і іх адпаведнікі ў перакладзе на нямецкую мову ("König Stachs Wilde Jagd"), зробленым Інгеборг і Алегам Калінкамі. Пры гэтым ставіцца задача выявіць асаблівасці кампазітаў, утвораных на базе асноў прыметніка і назоўніка, вызначыць прычыны разыходжання паміж беларускімі складаннямі і іх карэлятамі ў тэксце перакладу з пункту гледжання структурна-граматычнага, семантычнага і стылістычнага аспектаў.

У літаратуры па беларускім мовазнаўстве можна знайсці разнастайныя азначэнні складанага слова: а) "слова, якое мае ў сваім саставе дзве ці больш асновы" [5, с. 126]; б) два ці больш словы, аб'яднаныя ў адно, "пры гэтым апорны кампанент (апошні ў слове) роўны цэламу слову, а папярэдні з'яўляецца чыстай асновай, якая далучаецца да апорнага кампанента з дапамогай інтэрфікса" [1, с. 213]; в) аб'яднаныя "дзве граматычна аформленыя лексічныя адзінкі", якія могуць быць "раздзельнааформленыя і цэласнааформленыя" [2, с. 515].

Мы падзяляем пункт гледжання, адпаведна якому складанае слова з'яўляецца лексічнай адзінкай, што "мае не менш дзвюх матывавальных асноў, характарызуецца семантычным, структурным і фанетыка-граматычным адзінствам і суадносіцца з той ці іншай часцінай мовы" [4, с. 33].

У аповесці "Дзікае паляванне караля Стаха" У. Караткевіча намі выяўлены 24 кампазіты тыпу "аснова прыметніка + аснова назоўніка", сярод якіх 8 назоўнікаў і 16 прыметнікаў, а таксама 35 карэлятаў.

Складаныя назоўнікі, утвораныя на базе асноў прыметніка і назоўніка, падзяляюцца на кампазіты з бяссуфіксным другім кампанентам і кампазіты, другі кампанент якіх утвораны пры дапамозе афіксацыі. Сярод прааналізаваных назоўнікаў толькі адзін з бяссуфіксным другім кампанентам (*беларус*), усе астатнія ўтвораны пры дапамозе афіксацыі (*высакароднасць, нераўнапраўе*). У нямецкамоўным тэксце былі вылучаны толькі два тоесныя супадзенні ў структурна-граматычным плане: *беларус* – *Belorusse* і *паўналецце* – *Volljährigkeit*. У астатніх выпадках супадзенняў не назіралася.

Сярод складаных прыметнікаў беларускай мовы таксама вылучаюцца кампазіты з вытворнай і невытворнай асновамі. Кампазіты з невытворнай асновай характарызуюць прадметы або з'явы, пры гэтым іх другі кампанент называе прадмет, які з'яўляецца часткай азначаемага прадмета. Першы кампанент выступае як азначэнне (часта як эпітэт) у суадносным словазлучэнні, таму складанні такога тыпу асабліва выразныя і вобразныя. Параўн.: *белавалосы, белазубы, даўгавусы, макраносы*. Большую частку складаных прыметнікаў утвараюць кампазіты з вытворнай асновай назоўніка, якая называе прадмет у агульных рысах, і гэты прадмет не з'яўляецца часткай таго, што характарызуецца складаным словам. Падобныя кампазіты, як правіла, выражаюць адносіны моўніка да азначаемых прадметаў. Параўн.: *дабрадушны, высакародны, раўнадушны, хладнакроўны* і інш.

Аналіз кампазітаў дазваляе адзначыць, што ў структурна-граматычным плане сярод 4 складаных прыметнікаў з невытворнай асновай не было выяўлена ніводнага супадзення ў тэксце перакладу. Параўн.: *белавалосы* – *helle Haare*, *белазубы* – лакуна, *даўгавусы* – *schnauzbärtig*, *макраносы* – лакуна. У 8 з 12 лексічных адзінак назіраюцца супадзенні ў прыметніках, утвораных па мадэлі "аснова прыметніка + аснова назоўніка + суфікс". У перакладзе на нямецкую мову ім адпавядаюць лексічныя адзінкі, утвораныя па гэтай мадэлі пры дапамозе суфіксаў ***-lich***, ***-ig***, ***-isch***. Параўн.: *сярэдневяковы* – *mittelalterlich, хладнакроўны* – *kaltblütig, старамодны* – *altmodisch*. Гэта сведчыць, што як у беларускай, так і ў нямецкай мовах вялікую ролю выконвае дэрывацыя. У астатніх выпадках беларускім складаным прыметнікам адпавядаюць простыя прыметнікі, словазлучэнні, цэласныя структурныя пераўтварэнні, у тым ліку з наяўнасцю лакун – адсутнасцю адпаведнікаў увогуле. Параўн.:

*…апошні прамень сонца прабіўся ў акно і зайграў у шкле, запаліў у ім дзясяткі **рознакаляровых** агеньчыкаў* [3, с. 254] – *Ein letzter Sonnenstrahl… drang durchs Fenster und entzündete im Glas Dutzende von **farbigen** Flämmchen* [6, с. 32].

*Я зразумеў, што дай таму ў рукі пісталет, і ён, усё з той самай шчырай **белазубай** усмешкаю, падыдзе да тырана…* [3, с. 290] – *Ich begriff, daß**

* Захоўваецца арфаграфія тэксту арыгінала.

*so einer, gäbe man ihm eine Pistole in die Hand, mit dem gleichen offenen Lächeln auf einen Tyrannen zugehen… würde…* [6, с. 75].

Адметнасць беларускай мовы ў параўнанні з нямецкай – прадуктыўнае ўтварэнне адносных прыметнікаў. Граматычнае значэнне беларускага адноснага прыметніка захоўваецца і перадаецца першым кампанентам нямецкага складанага назоўніка тыпу "назоўнік + назоўнік". І адносны прыметнік, і першы кампанент складанага назоўніка паказваюць на адносіны не да канкрэтнага прадмета ці з'явы, а да прадмета ці з'явы ўвогуле – як сукупнасці пэўных прымет і ўласцівасцей. Параўн.:

*Амаль з сярэдзіны прыхожай шырокія **беламармуровыя** сходы вялі на другі паверх…* [5, с. 241] – *Fast in der Mitte der Diele führte eine breite **weiße Marmor**treppe hinauf in den ersten Stock* [6, с. 16].

Такім чынам, другі кампанент адноснага складанага прыметніка беларускай мовы (*бела**мармуровы***) роўны першаму кампаненту складанага назоўніка ў нямецкай мове (*weiße **Marmor**treppe*). Адпаведна, адносныя складаныя прыметнікі беларускай мовы будуць перакладацца канструкцыяй "прыметнік + складаны назоўнік" у нямецкай мове.

Прычына выбару лексічных адзінак, што не супадаюць у структурна-граматычным плане, знаходзіцца, хутчэй за ўсё, у імкненні максімальна адэкватна перадаць лексічнае значэнне. У гэтым выпадку задача перакладчыка – дакладна перадаць семантыку слова без захавання адпаведнай структуры. Акрамя гэтага, несупадзенне лексічных адзінак у структурна-граматычным плане звязана і з характарам словаскладання ў беларускай і нямецкай мовах, з інтэнсіўнасцю ўжывання ўтвораных кампазітаў. Як паказваюць прыведзеныя прыклады, складаным словам беларускай мовы ў нямецкай мове могуць адпавядаць не толькі кампазіты. І гэта нягледзячы на тое, што яны значная частка слоўнікавага складу нямецкай мовы. Спецыфічная рыса нямецкай мовы – спантаннае ўтварэнне складаных слоў. Аднак пры аналізе перакладу гэтая з'ява амаль не назіраецца. Знайсці фармальна-граматычныя адпаведнікі надзвычай няпроста, таму што спантанныя складанні ўзнікаюць у працэсе маўлення і, як правіла, слоўнікамі не фіксуюцца. Можна меркаваць, што перакладчык не ўжывае такіх утварэнняў, арыентуючыся менавіта на свой суб'ектыўны выбар. Таму перадача беларускага кампазіта на нямецкую мову адбываецца з дапамогай іншых структур (простае слова, словазлучэнне, апушчэнне лексічных адзінак і г. д.) з мэтай захаваць сэнс.

З пункту гледжання марфалагічных асаблівасцей паміж беларускімі і нямецкімі кампазітамі існуюць пэўныя адрозненні паводле граматычнага афармлення роду і ліку. У большай ступені эквіваленты ў тэксце арыгінала і перакладу належаць да адной часціны мовы (*высакароднасць – Größe*), тым самым перакладчык спрабуе захаваць марфалагічную структуру і значэнне слова-арыгінала. Прычынай жа несупадзення эквівалентаў з'яўляецца немагчымасць дакладнага перакладу некаторых беларускіх кампазітаў, для якіх адсутнічаюць слоўнікавыя адпаведнікі, і звязаная з імі дыстрыбуцыя – сукупнасць кантэкстуальных канструкцый, у якіх выкарыстоўваецца пэўная моўная адзінка. Параўн.: ***беламармуровыя*** сходы (прым.) – ***weiße Marmor**treppe* (прым. + наз.).

Часцей за ўсё разыходжанні датычацца катэгорыі роду, што тлумачыцца, па-першае, несупадзеннем слоў гэтай катэгорыі ў беларускай і нямецкай мовах (*паўналецце*, н. р. – *Volljährigkeit*, ж. р.), па-другое, удзелам у словаскладанні словаўтваральных элементаў – афіксаў, якія не толькі дапамагаюць аднесці лексічныя адзінкі да пэўнага семантычнага класа слоў, але і выступаюць маркерамі для вызначэння роду. Напрыклад, абстрактныя назоўнікі жаночага роду ўтвараюцца з дапамогай суфікса ***-асць***: *высакароднасць, паўнацэннасць* і інш. У нямецкай мове для кожнага роду таксама характэрны пэўны набор афіксаў, ад значэння якіх залежыць аднесенасць лексічнай адзінкі да таго ці іншага семантычнага класа слоў. Напрыклад, суфікс ***-keit*** абазначае якасць, уласцівасць або прымету прадмета і з'яўляецца маркерам жаночага роду: *Volljährigkeit, Ungerechtigkeit*.

Адрозненні прааналізаваных лексічных адзінак у катэгорыі ліку не былі выяўлены.

Паводле семантыкі сярод кампазітаў і іх адпаведнікаў выяўляюцца як поўныя, так і частковыя супадзенні, несупадзенні і адсутнасць адпаведнікаў. У прааналізаванай групе слоў назіраюцца ў асноўным поўныя супадзенні лексічных значэнняў кампазітаў, якія можна падзяліць на дзве групы:

а) лексічныя адзінкі з аднолькавай структурай (якія супадаюць па значэнні і форме) – складаныя словы: *паўналецце – Volljährigkeit, беларус – Belorusse, высакародны – edelmütig, сярэдневяковы – mittelalterlich, хладнакроўны – kaltblütig*;

б) лексічныя адзінкі з рознай структурай (якія супадаюць па значэнні, але розныя па форме): *ліхалецце – eine schwere Zeit, белавалосы – mit hellen Haaren, прастадушны – aufrichtig*.

Частковыя супадзенні датычацца тых лексічных адзінак, якім у нямецкім перакладзе адпавядаюць простыя словы. У гэтым выпадку мы назіраем звужэнне семантыкі. Параўн.: *рознакаляровы – farbig* 'каляровы'.

Варта таксама адзначыць прыклады семантычнага несупадзення кампазітаў і іх адпаведнікаў у прааналізаваных прыкладах. Параўн.: бел. ***высакародны*** 'ўзвышаны, асвячоны высокай мэтай' – ням. ***fair*** 'прыстойны, сумленны'. Параўн.:

| | Беларуская мова | Нямецкая мова | Супадзенні | | Несупадзенні | Лакуны | Часціна мовы |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | поўныя | частковыя | | | |
| | | | па значэнні і форме | па значэнні | | | |
| 1. | *беларус* | – | | | | + | Назоўнік |
| 2. | | *Belorusse* | + | | | | |
| 3. | *высакароднасць* | *Größe* | | | + | | |
| 4. | *Высакароднасць!* | *Das nenn ich fair!* | | | + | | |
| 5. | *ліхалецце* | *eine schwere Zeit* | | + | | | |
| 6. | *нераўнапраўе* | *Ungerechtigkeit* | | | + | | |
| 7. | *паўналецце* | *Volljährigkeit* | + | | | | |
| 8. | *паўнацэннасць* | – | | | | + | |
| 9. | *разнатраўе* | – | | | | + | |
| 10. | *старасвеччына* | – | | | | + | |
| 11. | | *Erbe* | | | + | | |
| 12. | *белавалосы* | *helle Haare* | | + | | | Прыметнік |
| 13. | *белазубы* | – | | | | + | |
| 14. | *беламармуровы* | *weiße Marmortreppe* | | + | | | |
| 15. | *беларускі* | *belorussisch* | + | | | | |
| 16. | | – | | | | + | |
| 17. | *высакародны* | *fair* | | | + | | |
| 18. | | – | | | | + | |
| 19. | | *edelmütig* | + | | | | |
| 20. | | *edel* | | + | | | |
| 21. | *дабрадушны* | *gutmütig* | + | | | | |
| 22. | *даўгавусы* | *Schnauzbärtige* | | + | | | |
| 23. | | *schnauzbärtig* | | + | | | |
| 24. | *макраносы* | – | | | | + | |
| 25. | *прастадушны* | *aufrichtig* | | + | | | |
| 26. | *раўнадушны* | *teilnahmslos* | + | | | | |
| 27. | | *gleichgültig* | + | | | | |
| 28. | | – | | | | + | |
| 29. | | *gleichmütig* | + | | | | |
| 30. | *раўнамерны* | *gleichmäßig* | + | | | | |
| 31. | *рознакаляровы* | *farbig* | | + | | | |
| 32. | *старамодны* | *altmodisch* | + | | | | |
| 33. | *старасвецкі* | *altes Gutsherrenhaus* | | + | | | |
| 34. | *сярэдневяковы* | *mittelalterlich* | + | | | | |
| 35. | *хладнакроўны* | *kaltblütig* | + | | | | |
| **Усяго:** | | | 12 | 9 | 5 | 9 | |

*– Маўчы! – крыкнуў я. – А на адну дзяўчыну дваццаць коннікаў выпускаць* ***высакародна****?!* [3, с. 399] – *“Halt`s Maul! – rief ich zurück, – Zwanzig Banditen gegen ein Mädchen – ist das* ***fair****?”* [6, с. 200].

Многія складаныя словы зусім не маюць адпаведнікаў у перакладзеным тэксце, хоць для некаторых з іх існуюць адэкватныя слоўнікавыя эквіваленты. Параўн.: *Я разумею вашу* ***высакародную*** *тугу…* [3, с. 354] – *Ich verstehe Ihren Kummer* [6, с. 148].

У некаторых выпадках наяўнасць лакун тлумачыцца адсутнасцю цэлых сказаў або абзацаў у перакладзе. Параўн.: ***Старасвеччына*** *глядзела з кожнага кута* [3, с. 298] – Адсутнічае сказ [6, с. 84]. *Ён ішоў па гэтым карнізе так* ***раўнадушна****, як мы часам, забаўляючыся, ідзём па чыгуначнай рэйцы* [3, с. 385] – Адсутнічае абзац [6, с. 184].

Прычынамі частковага супадзення або несупадзення суадносных лексічных адзінак з пункту гледжання семантыкі з’яўляюцца:

1) немагчымасць дакладнай перадачы некаторых беларускіх лексічных адзінак, для якіх адсутнічаюць слоўнікавыя адпаведнікі: *…нявера ў каштоўнасць сваёй справы, бяссілле, глухі боль – асноўныя прыкметы* ***ліхалецця****…* [3, с. 233] – *Da waren Zweifel am Nutzen der eigenen Sache, Ohnmacht, ein dumpfer Schmerz – die Hauptmerkmale* ***einer schweren Zeit****…* [6, с. 8];

2) нядольнасць адных асноў спалучацца з іншымі асновамі для ўтварэння адпаведнага кампазіта. Параўн.: *высакароднасць* (ад: *высокі род* – літар. *hohes Geschlecht*) – *Größe* ‘1) велічыня; 2) славутасць; 3) веліч’. Нельга зрабіць дакладны пераклад шляхам спалучэння асноў *hoch* + *Geschlecht* →

*Hochgeschlecht*, бо яны семантычна несумяшчальныя. У некаторых выпадках адбываецца карэнная змена спосабаў апісання сітуацыі, замена вобраза, якая ўключае ў сябе некалькі трансфармацый. Перакладаецца не сама лексічная адзінка, а перадаецца пэўны канцэпт (пэўная канатацыя), што дазваляе перадаць сэнс выказвання. Параўн.: ***Высакароднасць!*** [3, с. 399] – ***Das nenn ich fair!*** 'Гэта я называю прыстойным, чэсным' [6, с. 200];

3) розная валентнасць – здольнасць лексічных адзінак спалучацца з іншымі ў залежнасці ад сэнсу, што часцей за ўсё суправаджаецца ўжываннем іншых кантэкстуальных канструкцый: *прастадушны твар – aufrichtiger Blick* 'шчыры погляд' (нельга сказаць *aufrichtiges Gesicht*). Параўн.: *Твар быў **прастадушны**, дзіцячы* [3, с. 245] – *Ihr Blick war **aufrichtig**, kindlich* [6, с. 23];

4) стылёвыя асаблівасці перакладу. Выбар іншых эквівалентаў дазваляе, напрыклад, пазбегнуць паўтораў. Параўн.: *Непадалёк ад мяне стаяў танклявы, але, відаць, моцны малады чалавек, **белавалосы**, з вельмі прыемным і шчырым тварам…* [3, с. 287] – *Nicht weit von mir stand ein hagerer, aber kräftiger junger Mann mit **hellen Haaren** und offenem Blick, einfach, jedoch betont sorgfältig gekleidet* '…малады чалавек са светлымі валасамі…' [6, с. 72];

5) канатацыя або лексічны фон, які паказвае на адрозненні ў культурных традыцыях. Параўн.: *Ён усміхнуўся шырокай **белазубай** усмешкаю* [3, с. 287] – *Er lächelte **übers ganze Gesicht*** 'Ён расплываўся ўсмешкай' [6, с. 72].

Вынікі аналізу кампазітаў тыпу "аснова прыметніка + аснова назоўніка" ў структурна-граматычным і семантычным плане паказаны ў табліцы.

Такім чынам, сярод кампазітаў як у тэксце арыгінала, так і ў тэксце перакладу найбольшай колькасцю прадстаўлены супадзенні з пункту гледжання іх структурна-граматычнага і семантычнага аспектаў – 34%. Частковыя супадзенні складаюць 26%, несупадзенні – 14% і лакуны – 26%. Падабенства (супадзенне) структурных асаблівасцей лексічных адзінак садзейнічае і больш поўнаму захаванню іх семантыкі, што тлумачыцца імкненнем перакладчыка максімальна дакладна перадаваць тэкст арыгінала згодна з нормамі мовы перакладу і сведчыць пра высокае майстэрства перакладчыка, яго разуменне моўных асаблівасцей арыгінала, добрае веданне культурных традыцый і нацыянальна-этнічнай спецыфікі беларускай мовы.

**Спіс літаратуры**


1. **Беларуская граматыка** : у 2 ч. – Мінск : Навука і тэхніка, 1985. – Ч. 1.
2. **Беларуская мова** : энцыклапедыя. – Мінск : БелЭн, 1994.
3. **Караткевіч, У.** Дзікае паляванне караля Стаха : аповесці, апавяданні / У. Караткевіч. – Мінск : Маст. літ., 1995.
4. **Прыгодзіч, М. Р.** Словаскладанне ў беларускай мове / М. Р. Прыгодзіч. – Мінск : БДУ, 2000.
5. **Сцяцко, П. У.** Слоўнік лінгвістычных тэрмінаў / П. У. Сцяцко, М. Ф. Гуліцкі, Л. А. Антанюк. – Мінск : Выш. шк., 1990.
6. **Karatkewitsch, U.** König Stachs Wilde Jagd / U. Karatkewitsch; ins Deutsche übertragen von Ingeborg und Oleg Kolinko. – Berlin : Verlag Neues Leben, 1985.



**Іна КАВАЛЁВА,**
аспірантка кафедры гісторыі беларускай мовы
Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.


*Артыкул рэкамендаваны да друку кафедрай гісторыі беларускай мовы БДУ.*

## КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТАЎ І ЮБІЛЕЙНЫХ ДЗЁН на 2010 год

ЛІСТАПАД

**1 лістапада –** 95 гадоў з дня нараджэння Міхася Кавыля (сапр. Язэп Лешчанка), паэта, празаіка, крытыка. Жыве ў ЗША

85 гадоў з дня нараджэння Клаўдзіі Каліны (сапр. Капелян, дзяв. Лукашэвіч; 1925 – 1994), празаіка

70 гадоў з дня нараджэння Валянціна Пакаташкіна, жывапісца, педагога, заслужанага настаўніка Беларусі

**2 лістапада –** 80 гадоў з дня нараджэння Аляксандра Баршчэўскага (псеўд. Алесь Барскі), паэта, літаратуразнаўцы, публіцыста, перакладчыка, фалькларыста, педагога, грамадска-культурнага дзеяча. Жыве ў Польшчы

50 гадоў з дня нараджэння Алеся Наварыча (сапр. Трушко), празаіка

**3 лістапада –** 120 гадоў з дня нараджэння Канстанціна Пушкарэвіча (1890 – 1942), гісторыка літаратуры, перакладчыка, славіста-педагога

**5 лістапада –** 90 гадоў з дня нараджэння Сямёна (Самуіла) Асновіча (1920 – 2005), скрыпача, заслужанага артыста Беларусі

**6 лістапада –** 210 гадоў з дня нараджэння Леанарда Ходзькі (1800 – 1871), выдаўца, гісторыка, публіцыста, бібліёграфа

140 гадоў з дня нараджэння Якава Прохарава (1870 – 1942), расійскага і беларускага кампазітара, музычнага этнографа, педагога

**7 лістапада –** 80 гадоў з дня нараджэння Людмілы Царанковай (дзяв. Сцяфанава), спявачкі, заслужанай артысткі Беларусі

70 гадоў з дня нараджэння Васіля Жуковіча, паэта, празаіка, перакладчыка

**8 лістапада –** 120 гадоў з дня нараджэння Янкі Пачопкі (1890 – 1977), паэта, празаіка, фалькларыста

**10 лістапада –** 100 гадоў з дня нараджэння Антона Каржанеўскага (1910 – 1991), жывапісца

**11 лістапада –** 135 гадоў з дня нараджэння Альберта Паўловіча (1875 – 1951), паэта-гумарыста, драматурга

85 гадоў з дня нараджэння Алены Чабярук (1925 – 2007), мовазнаўцы

*Заканчэнне на с. 71, 83.*

# БЕЛАРУСКІЯ АНТРАПАНІМІЧНЫЯ СЛОЎНІКІ: ТЫПАЛАГІЧНЫ АСПЕКТ

Другая палова XX – пачатак XXI ст. характарызуюцца заўважным уздымам даследаванняў у галіне анамастыкі. Многія беларускія даследчыкі звярнуліся да пытанняў нацыянальнай тапанімікі і антрапанімікі. У 60-я гг. XX ст. пачалі актыўна выдавацца анамастычныя слоўнікі, паступова фарміравалася пэўная традыцыя сістэматызацыі онімнай лексікі. У сувязі з пастаянным развіццём лексікаграфічнай справы ў галіне беларускай анамастыкі з'явіліся слоўнікі новых тыпаў, удасканаліліся формы падачы онімаў, адкрыліся новыя магчымасці па эксперыментаванні над стуктурай слоўнікавых артыкулаў, выкарыстанні і інтэрпрэтацыі крыніц інфармацыі.

Вынікам названых працэсаў у анамастычнай лексікаграфіі стала значнае пашырэнне тыпалагічнай разнастайнасці слоўнікаў і ўзнікненне істотных адрозненняў паміж імі на ўзроўнях мега-, макра- і мікраструктуры. У тэорыі лексікаграфіі пад мегаструктурай разумеецца ўзаемаразмяшчэнне асобных частак слоўнікавага выдання. У антрапаніміцы адрозніваюць два тыпы слоўнікаў: выданні, якія змяшчаюць беларускі онімны матэрыял непасрэдна ў слоўнікавым корпусе – уласна антрапанімічныя слоўнікі [11; 12; 17], і выданні, што фіксуюць онімы паралельна з іншай лексікай [1; 3; 15], а таксама даведнікі, што ўключаюць яго ў якасці дадатку [8; 10; 14]. Спецыфічнай мегаструктурай вызначаюцца працы М. Бірылы [5; 4] і Г. Усціновіч [16], дзе падборкі антрапонімаў уключаюцца ў манаграфічны тэкст у якасці пашыраных ілюстрацый.

На ўзроўні ***макраструктуры*** – парадак размяшчэння лем у слоўніку – вылучаюцца два тыпы арганізацыі лексікаграфічных выданняў: алфавітны і алфавітна-тэматычны. Пры *алфавітнай* арганізацыі макраструктуры рэестравыя словы ў выданні знаходзяцца строга ў алфавітным парадку (большасць антрапанімічных слоўнікаў). Пры *алфавітна-тэматычнай* макраструктуры рэестравыя словы групуюцца па семантычных асаблівасцях. Такім тыпам макраструктуры вызначаецца, напрыклад, праца М. Федароўскага "Люд беларускі на Русі Літоўскай" [18], дзе антрапонімы фіксуюцца па тэматычных групах: асобна індывідуальныя найменні людзей, мянушкі і інш.

Нетыповая макраструктура працы М. Бірылы "Беларуская антрапанімія. Прозвішчы, утвораныя ад апелятыўнай лексікі". У слоўнікавым артыкуле выдання рэестравым словам выступае словаўтваральная аснова, а да яе падаюцца онімы-дэрываты:

АБЛАМ "футра, шкурка з ворсам" (Нас.). – Абла́м, Абла́маў, Абла́менка, Абламе́йка. СРП. Абла́мов [4, с. 15].

Пад ***мікраструктурай*** разумеецца пабудова і інвентар звестак, якія выкарыстоўваюцца ў пэўных слоўнікавых артыкулах, а таксама структура слоўнікавага артыкула ўвогуле. Паводле мікраструктуры сучасныя антрапанімічныя слоўнікі значна адрозніваюцца. У слоўнікавым артыкуле анамастычных выданняў вылучаецца розная колькасць зон, у залежнасці ад чаго значна пашыраецца і іх тыпалагічная разнастайнасць. У мікраструктуры беларускіх анамастычных слоўнікаў вылучаюцца зона намінацыі, зона варыянтаў, зона памет, зона ідэнтыфікацыі, зона экстралінгвістычнай інфармацыі, зона дэрыватаў і зона ілюстрацый.

**Зона намінацыі (ЗН)** звычайна ўключае лему (загаловачнае слова, вакабулу). Для большасці антрапанімічных слоўнікаў характэрна фіксацыя лем у адпаведнасці з нормамі літаратурнай мовы: *Кацярына* [12, с. 67], *Вадзім* [6, с. 216], *Аблавушка* [4, с. 15]. У слоўніках мовы пісьменнікаў падаюцца формы антрапонімаў, зафіксаваныя ў творы ці перыядычным выданні: *Ілыч* [15, с. 95], *Нечас* [1, с. 423], *Jaśko haspadar s pad Wilni* [11, с. 147].

Акрамя лемы, да ЗН належаць таксама іншамоўныя адпаведнікі антрапонімаў, напрыклад у перакладных слоўніках: МІКОЛА м. ўл. – Николай [3, с. 169].

**Зону варыянтаў (ЗВ)** у антрапанімічных выданнях складаюць размоўныя формы антрапоніма, якія фіксуюцца ў розных пісьмовых помніках, або аўтарскія варыянтныя найменні (пераважна ў слоўніках мовы пісьменнікаў), што адносяцца да аднаго дэнатата: "ЛУКИАН… Лукиан (**Лукиян**, **Лукьян**, **Лукъян**, **Лукен**)…" [16, с. 52]; "МАЦЕЙ (3), **Мацейка**…" [15, с. 140].

Варыянты ўласных імёнаў у большасці выданняў падаюцца ў слоўнікавым артыкуле пасля рэестравага слова [5; 16] ці змяшчаюцца ў якасці дадатковай інфармацыі да лемы [1; 15; 17]: "КОСМА правасл., 39 разоў у форме **Кузьма** (**Кузма**). Форма Кузьма (Кузма) з'яўляецца ўсходнеславянскай… Эмацыянальна-ацэначныя формы: **Куземка**, **Кузя**, **Кузи**. У БА І – **Козма** (Маг.), **Кузюта** (Слон. п.)…" [16, с. 50].

Варыянтныя найменні часта фіксуюцца і пры перакладзе ўласнага імя: "ГЕННА́ДИЙ, Генна́дьевич, Генна́дьевна – Гена́дзь, Гена́дзевіч, Гена́дзеўна ***і*** Гена́дзій, Генадзьевіч, Генадзьеўна" [6, с. 217]; "РЫГО́Р, Рыго́равіч, Рыго́раўна і Грыго́рый, Грыго́р'евіч, Грыго́р'еўна – Григо́рий, Григо́рьевич, Григо́рьевна" [13, с. 76].

**Зона памет (ЗП)** у антрапанімічных слоўніках вызначаецца разнастайнасцю. Яна можа ўключаць

граматычныя паметы роду: “МАШЭКА (26) **м.**” [15, с. 141]; “ЛЯВОНІХА -и, **ж.** (10)” [7, с. 19].

Дастаткова часта ў выданнях, што змяшчаюць антрапанімічны матэрыял, падаецца стылістычная памета *разм.* (размоўнае), паметы *вытв.* (вытворнае), *ул.* (уласнае) і паметы, што ўказваюць на крыніцу запазычання: “ЗІНАЇДА (***вытв***. Зіна)” [12, с. 66]; “МІКОЛА м. ***ўл***. – Николай” [3, с. 169]; “АСЛАЙ… Аслай (***тат.***)” [13, с. 154]; “ПАЎЛО, ***разм.***, гл. Павел” [12, с. 48].

Яшчэ адзін від памет, што падаюцца да антрапонімаў, – этымалагічныя (указваюць на паходжанне наймення з пэўнай мовы): “ПАЎЛІНА (*лац.*) – малая; ідаць, варыянт ад мужчынскага імя Павел” [15, с. 237]; “ХАКИ́М ***тат.*** Хаки́мовна, Хаки́мович; Хаки́м – Хакімаўна, Хакімавіч” [13, с. 226].

У “Беларуска-расійскім слоўніку” М. Байкова і С. Некрашэвіча сустракаецца памета *ўл.* (уласнае), наяўнасць якой абумоўлена падачай антрапанімічнага матэрыялу ў рээстры побач з іншымі (няўласнымі) лексічнымі адзінкамі: “СІЛІВОН м. **ўл.** – Силуан” [3, с 286].

Часам пры фіксацыі ў слоўніках іншамоўных уласных імёнаў да іх падаюцца паметы *нязм.* (нязменнае) [8; 14]: “ДАНТЭ АЛІГ’ЕРЫ, нязм.” [8, с. 244]; “СЯДЫХ, нязм.” [14, с. 114].

У асобных антрапанімічных слоўніках каля ўласных імёнаў змешчаны таксама паметы, што ўказваюць на прыналежнасць найменняў да праваслаўнай або каталіцкай традыцый намінацыі [5; 16]: “ИАКОВ… Якуб ***каталіцк***. … Зарэгістрыравана ў XVII ст.” [5, с. 77]; “ТИХОН ***правасл.***, 1 раз у форме Тихон…” [16, с. 72].

**Зона ідэнтыфікацыі (ЗІд)** у антрапанімічным слоўнікавым артыкуле ўключае слова ці спалучэнне слоў, што ўказвае на асобу (персанаж твора), якой належыць уласнае імя, зафіксаванае ў рээстры слоўніка: “ПАЛЯШУК, ЯКУБ. = **Панчанка Пімен Е.**” [11, с. 76]; «СТАХ (2) м. **Персанаж верша “Як кароль у паход выходзіў”**» [15, с. 209].

Для антрапанімічных выданняў зона ідэнтыфікацыі – неабавязковы кампанент слоўнікавага артыкула. Так, яна поўнасцю адсутнічае ў антрапанімічных дадатках да перакладных і арфаграфічных слоўнікаў, а таксама ў выданнях, у якіх да антрапонімаў падаецца адзін агульны ідэнтыфікатар тыпу *жаночыя імёны*, *мужчынскія імёны*, *мянушкі* і г. д.

У выданнях, дзе няма размежавання антрапанімічных адзінак, у якасці ідэнтыфікатара можа выступаць слова, што вызначае прыналежнасць наймення да пэўнага класа антрапонімаў: “РАЗЫНБЛЮМ (2) **Мянушка** каня…” [15, с. 183]. Часам указанне на прыналежнасць лексічнай адзінкі да канкрэтнага класа онімаў можа быць дастаткова разгорнутым: “АДАМ… **Адно з найбольш папулярных на Беларусі імёнаў**” [17, с. 13]; «СТАНІСЛАЎ м. **Імя ў сцэнічным жарце “Прымакі”**» [15, с. 208].

**Зона экстралінгвістычнай інфармацыі (ЗЭІ)** у антрапанімічных слоўніках звычайна ўключае звесткі пра крыніцы матэрыялу: “КОЗУРА Василий Козурка 1750 Віц., **ИЮМ XVIII 440**” [5, с. 223]; «НАТАША (21, V 79 – 86) **У ап. “Крывавы вір”.** Пакаёўка старой пані…» [1, с. 420].

Для сучасных антрапанімічных слоўнікаў характэрна таксама выкарыстанне этымалагічнай характарыстыкі онімаў. Асабліва часта такая інфармацыя сустракаецца пры фіксацыі антрапанімічных адзінак іншамоўнага паходжання: “КАМІЛА – **лацінскае *camilla*, дзяўчына беззаганнага паходжаньня**, з паважнай сям’і, якая слугавала ў часе складаньня ахвяры…” [17, с. 53].

У некаторых выпадках да антрапонімаў можа падавацца матывацыйная інфармацыя, часцей за ўсё – да мянушак людзей і жывёл: “ZAWARAT. – W. Człowiek niestateczny, ciągle zmieniający swe zdanie” [18, с. 447]; “КАЎБУХ. Дзядзька з вялікім жыватом. Маг.” [9, с. 123].

**Зону дэрыватаў (ЗД)** у антрапанімічных слоўніках складаюць імёны па бацьку, якія падаюцца да ўласных мужчынскіх імёнаў: “САВЕ́РЫЙ, Саве́р’евіч, Саве́р’еўна – Саве́рий, Саве́рьевич, Саве́рьевна” [13, с. 77]; “ТАРА́С Тара́сович, Тара́совна – Тара́с, Тара́савіч, Тара́саўна” [6, с. 221].

**Зона ілюстрацый (ЗІ)** уключаецца ў мікраструктуру антрапанімічных слоўнікаў, прысвечаных мове твораў аднаго аўтара. Звычайна гэта імя, ужытае ў адпаведным кантэксце: «ІГНАТ (4) м. Персанаж верша “Ігнат і п’яўкі”. ***А толькі, як даць раду ім, / Варожа ўсё Ігнат!..***» [15, с. 94].

З усіх пералічаных зон, на наш погляд, да абавязковых складнікаў слоўнікавага артыкула ў антрапанімічным выданні належаць ЗН, ЗІд, ЗЭІ. Астатнія зоны (ЗВ, ЗП, ЗД, ЗІ) – факультатыўныя. Таму зыходзячы са спецыфікі мікраструктуры вылучаюцца тры тыпы антрапанімічных слоўнікаў: 1) выданні стандартнай мікраструктуры; 2) выданні звужанай мікраструктуры; 3) выданні пашыранай мікраструктуры.

I. *Стандартная* мікраструктура лексікаграфічных прац у галіне антрапанімікі адпавядае мадэлі **ЗН|ЗІд|ЗЭІ**. Зоны намінацыі, ідэнтыфікацыі і экстралінгвістычнай інфармацыі неабходныя для выканання слоўнікам у поўным аб’ёме інфармацыйна-кадыфікацыйнай функцыі. Таму, на наш погляд, яны з’яўляюцца тыповымі для мікраструктуры анамастычнага выдання. Стандартную мікраструктуру маюць “Анамастычны слоўнік Магілёўшчыны” В. Рагаўцова і “Слоўнік беларускіх псеўданімаў і крыптанімаў (XVI – XX стст.)” Я. Саламевіча.

II. Выданні *звужанай* мікраструктуры характарызуюцца адсутнасцю адной ці некалькіх абавязковых зон. Пры гэтым у структуру слоўнікавага артыкула могуць уключацца некаторыя факультатыўныя зоны. Такі тып мікраструктуры характэрны для боль-

шасці анамастычных выданняў. У межах дадзенага тыпу можна вылучыць наступныя падтыпы.

Падтып *A*: **ЗН** адрозніваецца наяўнасцю толькі адной з абавязковых зон, што вызначаецца ў асноўным мэтай стварэння выданняў – для перакладу онімаў з пэўнай мовы на іншую [6]: "НАДЕЖДА Надзея" [6, с. 223].

Падтып *B*: **ЗН|ЗП** прадугледжвае наяўнасць адной абавязковай зоны анамастычнага слоўнікавага артыкула (зоны намінацыі) і адной факультатыўнай (зоны памет) [3; 8; 13; 14].

Падтып *C*: **ЗН|ЗД** вызначаецца наяўнасцю ў мікраструктуры абавязковых намінацый факультатыўнай зоны дэрыватаў [6; 8; 13; 12]: "ЯКУ́Б Яку́бавіч, Яку́баўна – Якуб" [12, с. 60].

Падтып *D*: **ЗН|ЗВ**. У яго ўваходзяць адна абавязковая зона (зона намінацыі) і адна факультатыўная (зона варыянтаў): "ЕФРАСІННЯ, Ефросинья и Ефросиния" [2, с. 353].

У мікраструктуру падтыпу *E*: **ЗН|ЗД|ЗЭІ** ўваходзяць абавязковыя зоны намінацыі і экстралінгвістычнай інфармацыі, а таксама факультатыўная зона дэрыватаў: "АРХИП Архипович, Архиповна – Архіп (гр. старший всадник)…" [10, с. 463].

Падтып *F*: **ЗН|ЗП|ЗВ|ЗЭІ** характарызуецца наяўнасцю дзвюх абавязковых зон (намінацыі і экстралінгвістычнай інфармацыі) і дзвюх факультатыўных: зоны памет і зоны варыянтаў [4; 16]: "СТЕФАН правасл., СТЭФАН, ЩЕПАН каталіцк., польск. Stefan, 148 разоў у формах Стефан (Степан), Стэфан, Щепан (Счепан). Усходнеславянская форма Степан утварылася ад імя праваслаўнага календара ў выніку замены ф←п… Стефанъ Бурей 1751 АГЗС, АИК І 111…" [16, с. 70 – 71].

III. Выданні, слоўнікавыя артыкулы якіх уключаюць, акрамя ўсіх стандартных зон, адну ці некалькі факультатыўных, належаць да слоўнікаў *пашыранай* мікраструктуры. Да названых належаць выданні, слоўнікавыя артыкулы якіх адпавядаюць наступным мадэлям.

Падтып *A*: **ЗН|ЗП|ЗІд|ЗЭІ** вызначаецца пашырэннем стандартнай мікраструктуры за кошт зоны памет: "КАЎБУХ. М. Дзядзька з вялікім жыватом. Маг." [9, с. 123].

Падтып *B*: **ЗН|ЗІд|ЗВ|ЗЭІ** характарызуецца наяўнасцю ўсіх абавязковых зон і ўвядзеннем факультатыўнай зоны варыянтаў [17; 18]: «ПІЛІП – грэцкае Philippos "той, хто любіць коней"… ***Пілі̱пка, Піліпо̱к, Пілі̱пчык, Лі̱пень, Лі̱пась, Піліпчу̱к, Лі̱паш***…» [17, с. 37].

У падтып *C*: **ЗН|ЗВ|ЗІд|ЗІ|ЗЭІ** дадаткова ўводзяцца факультатыўныя зоны варыянтаў і ілюстрацыі [1, 15]: "МІХАСЬ (46, Х 118 – 119…), Міхаська (2, Х 118, 168). У драме ВВ. Сын дзеда Мікіты, салдат запасу, гадоў пад 30, якога забралі ў царскую армію на вайну з немцамі… *Міхаська, родны, за што цябе, што гэта робіцца?!*" (168) [1, с. 402].

Да падтыпу *D* належаць выданні, мікраструктура якіх, акрамя стандартных зон, уключае зоны варыянтаў, памет і ілюстрацый: **ЗН|ЗВ|ЗП|ЗІд|ЗІ|ЗЭІ** [7]: «МАГОМЕТ -а, м. (Магомед, Муккамед) В мусульманской традиции мифологический образ основателя ислама. *В Коране – посланник Аллаха и его пророк.* В переводе с арабского означает "Прославляемый"…» (МБ И, 374) [7, с. 37].

Такім чынам, сёння назіраецца значная тыпалагічная разнастайнасць анамастычных выданняў. Кожны слоўнік характарызуецца асаблівай навуковай канцэпцыяй, якая абавязкова закранае пытанні тыпу, памеру выдання, распрацоўкі ў ім разнапланавых лексікаграфічных параметраў (адбор матэрыялу, сістэма памет і інш.). Відавочная тэндэнцыя да ўключэння ў слоўнікі максімальнага аб'ёму інфармацыі не толькі пра лексічную адзінку, змешчаную ў рэестры, але і пра рэалію, ёй названую. Гэты працэс сведчыць пра трывалае развіццё, удасканаленне і пастаяннае пашырэнне слоўнікавай справы ў галіне анамастыкі.

**Спіс літаратуры**


1. **Анамастычны слоўнік твораў Якуба Коласа.** – Мінск : Навука і тэхніка, 1990.
2. **Арфаграфічны слоўнік** / скл. Н. Лявер. – Мінск : Конкурс, 2005.
3. **Байкоў, М.** Беларуска-расійскі слоўнік / М. Байкоў, С. Некрашэвіч. – Менск : Дзярж. выд. Беларусі, 1926.
4. **Бірыла, М.** Беларуская антрапанімія : прозвішчы, утвораныя ад апелятыўнай лексікі / М. Бірыла. – Мінск : Навука і тэхніка, 1969.
5. **Бірыла, М.** Беларуская антрапанімія : уласныя імёны, імёны-мянушкі, імёны па бацьку, прозвішчы / М. Бірыла. – Мінск : Навука і тэхніка, 1966.
6. **Грабчиков, С.** Словарь белорусско-русский, русско-белорусский / С. Грабчиков. – Минск : Парадокс, 2005.
7. **Гурская, Ю.** Словарь имен собственных в поэзии М. Богдановича / Ю. Гурская. – Минск : БГПУ, 1997.
8. **Лобан, М.** Арфаграфічны слоўнік / М. Лобан, М. Суднік. – Мінск : Нар. асвета, 1990.
9. **Рагаўцоў, В.** Анамастычны слоўнік Магілёўшчыны / В. Рагаўцоў, С. Кечык. – Магілёў : Выд-ва МДУ імя А. А. Куляшова, 2000.
10. **Русско-белорусский словарь** / З. Бадевич, А. Басова, В. Ляшук [и др.]. – Минск : Совр. слово, 1998.
11. **Саламевіч, Я.** Слоўнік беларускіх псеўданімаў і крыптанімаў (XVI – XX стст.) / Я. Саламевіч. – Мінск : Маст. літ., 1983.
12. **Слоўнік асабовых уласных імён** / уклад. М. Суднік. – Мінск : Беларус. навука, 2005.
13. **Слоўнік асабовых уласных імёнаў** / уклад. У. Сарока. – Мінск : Тэсей, 2000.
14. **Слоўнік лексічных формаў** (сінонімы, амонімы, антонімы, паронімы, амографы, амафоны) / уклад. У. Хвалей, У. Шарпіла. – Мінск : Парадокс, 2004.
15. **Слоўнік мовы Янкі Купалы** : у 8 т. / Мінск : Беларус. навука, 2003. – Т. 6 : Анамастыка.
16. **Усціновіч, А.** Антрапанімія Гродзеншчыны і Брэстчыны (XVI – XVIII стст.) / А. Усціновіч. – Мінск : Навука і тэхніка, 1975.
17. **Чыж, А.** Беларускі іменьнік / А. Чыж. – Гомель : Collegium sarmaticum, 1998.
18. **Federowski, M.** Lud białoruski na Rusi Litewskiej. Materjały do etnografji słowiańskiej zgromadzone w letah 1877 – 1905 / M. Federowski.– Warszawa : Towarystwo naukowe warszawskie, 1935. – T. IV.


Святлана **ПАЛАШКЕВІЧ,**
аспірантка кафедры беларускага мовазнаўства
БДПУ імя Максіма Танка.

*Артыкул рэкамендаваны да друку кафедрай беларускага мовазнаўства БДПУ імя Максіма Танка.*

*Малады даследчык прапануе*

# ІМЁНЫ БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА КАЛЕНДАРА З ХАРАКТАРЫСТЫЧНЫМ КАМПАНЕНТАМ

Цікавая старонка гісторыі функцыянавання ўласных імёнаў у межах фальклорных тэкстаў – народныя прыкметы і павер'і, звязаныя з пазнаннем рэчаіснасці, рэлігійнымі ўяўленнямі і скрупулёзнымі назіраннямі над прыродай і навакольным светам. Пазбаўленыя навуковых ведаў, людзі абапіраліся ў сваім паўсядзённым жыцці на старадаўнія назіранні, якія, дарэчы, выкарыстоўваюцца і сучаснай навукай. Амаль да кожнай даты ў народным календары даюцца парады, якія накіроўваюць на пэўныя дзеянні дома, у полі ў той ці іншы час. Такія практычныя рэкамендацыі знайшлі адлюстраванне і ў шматлікіх прыказках і прымаўках з антрапанімічным кампанентам. Апорнае слова прыказак гэтага цыкла – імя святога, замацаванае за канкрэтнай датай. Такія імёны ўвайшлі ў светапогляд беларусаў з новым значэннем: народ пачаў звязваць дні, прысвечаныя таму ці іншаму святому, з пэўнымі падзеямі ў сельскагаспадарчым жыцці, з'явамі прыроды і г. д. Святыя персаніфікуюцца: яны не толькі апякуюць людзей, але і "працуюць" поруч з імі, "дапамагаюць" ім у штодзённых клопатах, актыўна ўплываюць на змены ў прыродзе. У сувязі з гэтым узнікла неабходнасць у дадатковых сродках для абазначэння ўсіх сэнсавых адценняў антрапоніма. Такімі сродкамі сталі дадатковыя празванні, выражаныя пэўным характарыстычным назоўнікам ці прыметнікам: *Ларыён-**палольнік***, *Фёдар-**жытнік***, *Тарас **Бяссонны***, *Якаў **Зорнаночны***, *Афанасій **Цёплы*** і г. д. У некаторых выпадках такія характарыстыкі маюць структуру словазлучэння: *Акуліна – **крывыя агуркі***, *Іван – **"медзвяныя" травы***, *Мар'я – **пустая капуста***, *Фядора – **намачы хвост***, *Дар'я – **забрудзі палонку****.

Часцей унутраная матывацыя імёнаў-характарыстык даволі празрыстая: *Сямён-**ранапашац***, *Максім-**бярозасок***, *Макей **Мокры***, *Фёдар-**памінальнік***, *Яфрэм-**ветрадуй***, *Сямён-**летаправодзец***, *Варфаламей-**жытасей***, *Ціт-**лістападнік***, *Параскева-**гразіха***, *Пракоп **Зімовы***, *Кацярына **Марозная***, *Клім **Халодны***, *Мікола **Сцюдзёны***.

Па такіх празваннях лёгка вызначыць, якія парады адносна абавязковых і пажаданых дзеянняў па гаспадарцы звязваліся з канкрэтным днём месяца. Так, на *Святапуда-**пчаляра*** / *Пуда-**пчаляра*** (28.04) гаспадары аглядалі і раманталі пчаліныя вуллі: *У дзень святога Пуда вымай пчол з-пад спуда*. А на *Зосіму-**пчаляра*** (30.04) ставілі вуллі на пасеках: *Зосіма вуллі ставіць*; *На Зосіма-пчаляра расстаўляй вуллі з пчальніка*. У дзень *Ерамея-**запрагальніка*** (14.05) і *Ерамея-**распрагальніка*** (13.06) пачыналі або завяршалі сяўбу: *Ерамей сяўбу пачынае, Ерамею яе і канчаць*; *Прыйшоў Ерамей – больш не сей*; *Усякі Ерамей пра сябе разумей: калі сеяць, калі жаць, калі ў сцірты збіраць*. На *Пахома-**агурочніка*** (28.05) раілі садзіць агуркі: *Сей агуркі на Пахом – будзеш насіць мяхом*; *Пахом носіць агуркі мяхом*. А ўжо 2, у некаторых раёнах 5 чэрвеня, у дзень *Фалалея-**агурочніка*** і *Лявонція-**агурочніка***, руплівыя гаспадары раілі: *Прыйшоў Фалалей – дасявай агуркі хутчэй*; *На Лявонція заканчвай пасадку гуркоў*. Дзень 29 мая (*Фёдар-**жытнік***) лічыўся апошнім тэрмінам для пасеву яравых: *У Жытніка клопаты – ячменныя палеткі забаранаваць*. З *Ларыёна-**палольніка*** (19.06) звычайна пачыналася праполка палеткаў: *Прыйшоў Іларыён – дурную траву з поля вон*. На *Ракопа-**жняца*** (21.07) вязалі першы зажыначны сноп: *Ракоп летні жніво пачынае*. У дзень *Аксінні-**паўхлебніцы*** (24.01) і *Пятра-**паўкорма*** (29.01) лічылі запасы хлеба: *Аксіння дарогу перамяце, а хлеб падмяце*; *Пётр-**паўкорма** – выйшла палова зімняга корму* (лічылася, што з дня святога Пятра да новага ўраджаю хлеба патрэбна столькі ж, колькі ўжо было з'едзена).

Большасць антрапанімічных спалучэнняў з характарыстычным кампанентам сталі вынікам мудрых назіранняў нашых продкаў за навакольнай рэчаіснасцю і светам прыроды. Так, восеньская *Фядора* (24.09) прыносіла вільгаць і гразь, за што яна і атрымала назву *Фядора – **намачы хвост***. Пра *Фёклу-**зорніцу*** (17.10) казалі: *З Фёклы-зорніцы дні ўбываюць, ночы цямнеюць і зоркі становяцца барвовымі і халоднымі*. На *Восія-**гразніка*** (30.10), калі пачынаецца непагадзь паміж восенню і зімой, спынялі летні шлях, зацягвалі калёсы пад павеці: *Восій-гразнік: ні калёсы, ні палазы не любіць*. На *Міхайлу-**гразніка*** (21.11) прыпадала кароткачасовае пацяпленне, так званыя Міхайлавы адлігі: *З Міхайлы зіма не стаіць, зямля не мёрзне*.

* Фактычны матэрыял даследавання выбраны з каляндарных зборнікаў розных гадоў (гл. спіс літаратуры).

Хрысціянскі *Феадор Студзіт* (24.11) у сувязі з адпаведным надвор'ем і сугучным празваннем у народзе атрымаў характэрнае прозвішча – ***Студзянец***, або ***Студзіт***, што зафіксавана ў прыказках: *Фёдар-студзіт на двары студзіць, у хаце цёпла, калі гаспадыня добрая*; *З Фёдара сцюдзёнага пачынае студзіць і маразіць*; *З Фёдара студзіта – зіма сярдзіта*; *Ад Студзіта сцюжа што ні дзень, то мацнее. Андрэй **Гадальны*** (13.12) атрымаў у народзе і іншае празванне – *Андрэй – **ціхая вада*** (13.12). У гэты дзень слухалі ваду ў рэках, азёрах пад ільдом, а таксама ў калодзежах: *Калі не хвалюецца, ціхая вада – будзе роўная зіма, а шумная вада – сцюжа ды завірухі*; *Калі ціха ў калодзежы на дне – быць цёплай зіме, а пачуеш дзіўныя гукі – на маразы і завірухі*. Пра *Варвару **Заваруху*** (17.12) гаварылі: *Варвара варыць*, значыць, у гэты дзень магчыма параўнальна цёплае надвор'е напярэдадні вялікіх маразоў. Існуюць і іншыя прыказкі, звязаныя з гэтым днём: *Прыйдзе Варвара, заварварац і маразы*; *Як стукне Варуха, сцеражы нос ды вуха*; *Да Варварынага дня зіма дарогу заварoціць, масты замосціць*. На *Фядота-**ветраноса*** (15.03) асцерагаліся моцных вятроў: *Фядот-ветранос паўсюль тыча нос, задзірае курам хвост.* На *Фядула-**ветраніка*** (18.04) чакалі добрых вятроў. На святога *Мірона* (21.08) вецер гоніць восеньскае лісце па дарогах, пра яго казалі, што ён цяпло замятае, таму – *Мірон-**ветрагон***. Людзі прыкмячалі, што на *Яўстафія-**ветрака*** (03.10) вятры кожны сваё надвор'е прадказваюць: паўночны вецер – сцюжу, холад, паўднёвы – цеплыню, заходні – дождж, усходні – сухое, добрае надвор'е. Пра *Афанасія-**ламаноса*** (31.01) казалі: *Прыйшоў Афанасій-ламанос – беражы шчокі і нос*; *Хавай нос у апанасаўскі мароз*.

Назіранне за нябеснымі свяцiламі і зменамі ў прыродзе дазваляла дапытліваму чалавеку сцвярджаць, што пасля *Спірыдона-**сонцаварота*** (25.12) дзень прыбаўляецца: *Пасля Спірыдона хоць на вераб'ёвы скачок, але прыбудзе дзянёк.* Па назіраннях, з 25 чэрвеня паварочваецца на зіму сонца: *Пётр-**паварот** – сонца сцішае свой ход.* 29 чэрвеня – *Ціхан-**суцяшальнік***, 30 чэрвеня – *Мануіл-**сонцастой***. У гэтыя дні зямля запавольвае свой рух на арбіце, таму ў народзе *Ціхан* і *Мануіл* асацыіруюцца з ціхім днём: *На Ціхана і пеўчыя птушкі сціхаюць*; *На святога Ціхана сонца ледзьве дыхае*; *На Мануіла сонца завісае ў зеніце.*

Калі па стане надвор'я ў пэўны дзень меркавалі пра надвор'е на зіму ці лета, да імёнаў далучаліся адпаведныя прыдаткі з часткай *-указчык*, *-паказальнік*: *Кірыла-**летапаказальнік*** / *Кірыла-**паказальнік*** (27.02), *Лазар-**зімаўказчык*** (30.11) – у гэты дзень назіралі за надвор'ем і казалі: *Які дзень на Лазара, такая і зіма.*

Асобныя святы народнага календара абазначалі пэўны этап каляндарнага года. Дзень *Цімафея-**паўзімніка*** (04.02) атрымаў такую назву таму, што лічыўся паловай зімы; дзень *Данілы-**навічка*** (01.03) названы такім чынам, магчыма, таму, што з увядзеннем новага стылю ён стаў першым днём вясны. У некаторых раёнах Беларусі лічылася, што вясна пачынаецца ў дзень *Аўдоцці-**вясноўкі*** (14.03). *Цімафей-**веснавей***, *Цімафей-**вяснік*** (06.03) таксама быў вестуном цёплых дзён: *Цімафей-веснавей: як ні сцялі мяцель – усё вясной патыхае*; *Цімафей-веснавей – ужо цяпло ля дзвярэй.* Дзень *Аляксея* – ***чалавека божага*** (30.03) у народным календары атрымаў назву *Аляксей **Цёплы***, *Аляксей **Вясняны*** – з гэтага дня, па назіраннях нашых продкаў, усталёўвалася веснавое цяпло, сыходзіў снег, з'яўляліся ручаі: *Аляксей – з кожнай гурбы снегу жбан вады пралей.* Надыход доўгачаканага цяпла адлюстраваўся ў назве свята, што адзначаецца 4 красавіка, – *Васіль **Цёплы***. У гэты дзень існаваў звычай назіраць за ўзыходам сонца і прадказваць будучы ўраджай і надвор'е на наступны год: калі ёсць чырвоныя кругі вакол сонца – год будзе пладаносны. Адсюль яшчэ адна назва гэтага дня – *Васіль-**сонечнік***: *Васіль-сонечнік ледзяшы са стрэх здымае.*

Нягледзячы на даволі празрыстую матывацыю большасці такіх характарыстычных кампанентаў у складзе антрапанімічных словазлучэнняў, некаторыя празванні застаюцца незразумелымі без дадатковага тлумачэння, вызначыць іх сэнс дапамагаюць прыказкі і прымаўкі, а ў асобных выпадках толькі факты народнага календара. *Навум-**граматнік***, *Навум* – ***настаўнік на вум*** (14.12) такую назву, напэўна, атрымаў ад сугучнасці: Навум – "ум". Пра яго гаварылі так: *Навум розуму навучыць*; *Навум наставіць на вум.* Таму дарослыя імкнуліся з гэтага дня вучыць грамаце дзяцей, спадзеючыся, што яны дзякуючы Навуму хутчэй і лепш засвояць навуку. З *Іванавага дня* (07.07) звычайна пачыналіся шкодныя росы, якія называлі "медзвянымі". Ад іх расліна пакрывалася налётам, быццам іржой, сохлі агуркі і гарбузы. Каб адвесці шкодныя росы ад ураджаю, сяляне маліліся святому *Іаану Хрысціцелю*. Адсюль і назва дня – *Іван* – ***"медзвяныя" травы***, *Іван* – ***"медзвяныя" росы***. Свята *Кірылы-**катаніка*** (03.04) лічыцца днём ушанавання свяціцеля Кірылы, які быў родам з горада Катаніі. Разам з тым, да гэтага дня звычайна спыняліся дзіцячыя гульні (катанне на санках

з гор) – так святы Кірыла ў народным календары атрымаў да свайго імя дадатак *Катанік*. Пра *Фядору* (09.06) казалі: *Фядора-**безразважная***, *Фядора – **на язык калючая***. Жанчыны ў гэты дзень не заставаліся каля студні пагаварыць, не пачыналі ў хаце сварак, баяліся, што Фядора пачуе і разнясе па вёсцы, у якой хаце нелады. *Трафім-**бяссоннік*** і *Пуд-**бяссоннік*** (05.08) сваім празваннем нагадваюць пра пару найбольш актыўных работ на полі, фізічна складаныя справы па гаспадарцы.

За імем *Іван* (11.09) у вераснёўскім народным календары замацавалася некалькі розных азначэнняў-характарыстык: *Іван **Посны*** (дзень адзначаўся праваслаўнай царквой вялікім постам); *Іван-**галавасек***, *Іван-**крываўнік*** (назва замацавалася ад царкоўнага наймення дня "Усекнавення главы Прарока, Прадцечы і Хрысціцеля Гасподня Іаана"); *Іван-**калінавік*** (дзень лічыўся днём пачатку актыўнага збору каліны, журавін).

Некаторыя імёны ў народным календары маюць некалькі розных празванняў. Так, святая *Акуліна* (26.04) атрымала некалькі дадаткаў да свайго імя: *Акуліна-**задзярыхвост***, ці *Акуліна – **кароўі язык*** (на тую пару з'яўляецца шмат аваднёў, мошак, мух, камароў, каровы на пашы пакутуюць, бегаюць, задраўшы хвост); *Акуліна – **крывыя агуркі*** (агуркі, пасаджаныя ў гэты дзень, называлі крывымі, бо часцей, пасеяныя позна, яны набывалі няправільную форму з-за халодных жнівеньскіх начэй). Дзень *Дар'і **Вясновай*** / ***Вясенняй*** (01.04) мае іншую назву – *Дар'я – **забрудзі палонку***, бо ў гэты час на вадаёмах, куды ўсю зіму ганялі жывёлу на вадапой, вытайваў гной. За *Матронай* / *Матрунай* (09.04) у народным календары замацаваліся два розныя азначэнні-характарыстыкі – *Матрона-**паўрэпніца*** (жанчыны выбіралі прыдатную для насення рэпу) і *Матрона-**шарпаковіца*** (у гэтыя дні замярзае ад ранішніх замаразкаў адталы снег, так што можна хадзіць па шарпаку). У сувязі з паводкамі святая Мар'я (14.04) атрымала яшчэ некалькі дадаткаў да свайго імя: *Мар'я – **запалі снягі***, *Мар'я – **гуляй яр***. Імя *Ірына* (29.04) ужывалася з прыдаткамі -***расадніца***, -***капусніца*** – у гэты дзень садзілі расаду ранняй капусты: *На Арыну сей капусту на расаду*; *Ірына – **раскапай берагі***, ***зайграй яр*** (так казалі, калі бачылі, як вада веснавой паводкі размывае берагі рэк). За святам 7 ліпеня таксама замацавана некалькі назваў: *Іаан Хрысціцель*, *Іван Купала*, *Іванаў дзень*, *Іван **Купальны***, *Іван **Летні***, ***Вялікі***, *Іван **Посны***, *Іван **Злосны***, *Іван **Ведзьмін***, *Іван – **"медзвяныя" травы***, *Іван – **"медзвяныя" росы***, ***Пятроўскі*** *Іван*.

З каляндарнымі імёнамі звязваліся парады адносна абавязковых магічных дзеянняў у канкрэтны дзень месяца. На *Івана-**маўчальніка*** (16.12) па царкоўным календары ўшаноўвалі святога *Іаана Маўклівага*, мабыць, адсюль у народзе з'явілася забарона шмат размаўляць у гэты дзень, каб не назвалі "балбатунамі". У дзень *Фёдара-**памінальніка*** (08.02) паміналі нябожчыкаў. У дзень *Агаты-**кароўніцы*** (18.02) выконвалі шэраг перасцерагальных дзеянняў, жывёле давалі асвечаныя ў гэты дзень хлеб з соллю: *Хлеб святой Агаты не пусціць бяды да хаты*; *Соль святой Агаты бароніць ад агню хаты*. У народзе *Тараса* празвалі ***Бяссонным*** (10.03), бо з гэтага дня забаранялася спаць удзень: *Тарас – адкінь матрас*; *Хто спіць адвячоркам на Тараса, той наспіць сабе Кумоху* (Кумоха, або Кумаха, – раптоўныя нястачы, беды і цяжкасці, ліха).

Як сведчыць прааналізаваны матэрыял, антрапонімы складаюць неад'емны пласт моўнай тканіны фальклорных тэкстаў і беларускага народнага календара ў прыватнасці. У спалучэнні з самымі рознымі характарыстычнымі назоўнікамі і прыметнікамі яны адыгрываюць надзвычай важную ролю пры перадачы каляндарных фактаў, дапамагаюць данесці цікавыя і каштоўныя этналінгвістычныя звесткі.

**Спіс літаратуры**

**Беларускі каляндар "Нашае Нівы".** – Вільня : Друк. М. Кухты, 1911.

**Беларускі народны каляндар** / аўт.-уклад. А. Лозка. – Мінск : Полымя, 1992.

**Беларускі сялянскі настольны каляндар на 1928 год.** – Мінск : Выд. усёбеларускай сялянскай газеты "Беларуская Вёска", 1928.

**Васілевіч, У.** Беларускі народны каляндар / У. Васілевіч. – Мінск : Ураджай, 1993.

**Дзень за днём** : Прыметы надвор'я, а таксама народны каляндар-месяцаслоў : для дашк. і малодш. шк. узросту / сабр. і апрац. А. Русецкі. – Мінск : Юнацтва, 1997.

**Каляндар "Заранка".** – Мінск, 1919.

**Крук, Я.** Коладзённік / Я. Крук, А. Катовіч // Звязда. – 2003. – № 133-134; 2004. – № 313.

**Кухарэнка (Сотнікава), Т.** Уласныя імёны ў беларускім народным календары / Т. Кухарэнка (Сотнікава) // Роднае слова. – 2006. – №№ 6, 7, 9 – 12; 2007. – №№ 2 – 7.

**Сысоў, У.** З крыніц спрадвечных / У. Сысоў. – Мінск : Выш. шк., 1997.

**Таццяна СОТНІКАВА,**
аспірантка кафедры гісторыі беларускай мовы
Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.

*Артыкул рэкамендаваны да друку кафедрай гісторыі беларускай мовы Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.*

*Жывая мова*

Алесь КАЎРУС

# *“І ТАК, БЫВАЛА, НАЯСІСЯ…”*

## УЖЫВАННЕ ДЗЕЯСЛОВАЎ *НАЕСЦІСЯ, ПАД’ЕСЦІ, З’ЕСЦІ, ПАЕСЦІ*

За гэтым радком з энцыклапедыі сялянскага жыцця – “Новай зямлі” Якуба Коласа – на памяць узбягаюць і іншыя.

*А для дзяцей найбольша свята / Абы* ***наесціся*** *багата*; *– Ну, што?* ***Наеліся*** *аладак? – / Жартуе дзядзька тут з малымі…*; *– Эх, – цмокнуў дзядзька: –* ***наямося****! – / Зірнулі хлопцы на Антося / І сліну ўсе яны глынулі.*

Увогуле слова *наесціся* ў мове літаратуры і фальклору адлюстравана шырока: ***Наеўся*** *смачна, лёг, адпачыў* (Ф. Багушэвіч); *І быў я вельмі здаволены, што так* ***наеўся*** (М. Гарэцкі); *На чужую работу гледзячы, не* ***наясіся*** (Прыказка).

Стан задавальнення патрэбы ў ядзе перадаецца таксама словам *пад’есці*. Згадаем некалькі прыказак: *Дзякуй за абед, што* ***пад’еў*** *дармаед*; *З гутаркі хлеба не* ***пад’ясі***; *Не еўшы нудна, а* ***пад’еўшы*** *трудна*; *Папрацуй да поту,* ***пад’ясі*** *ў ахвоту*.

Вядома ж, нельга думаць, што нашы продкі елі (імкнуліся есці) толькі да адвалу. Была і меншая мера. Калі чалавек з’ядаў (збіраўся есці) крыху ці частку чаго, дык так і казалі: *Прыляцеў аж у дом, бурачкоў трохі* ***з’еў*** (Ф. Багушэвіч); ***Пад’еўшы*** *трошкі, думаю: падбягу да Барткі храмога…* (Ф. Багушэвіч); [Кобяк:] *Ты што цягнешся, як сонная муха? Есці хочаш? Давай* ***з’ямо*** *троху чаго* (М. Гарэцкі); *І печанае рэдзькі* ***з’ясі****, калі выгаладаешся* (Прыказка).

Апошнімі дзесяцігоддзямі пашырыўся дзеяслоў *паесці* са значэннямі ‘пад’есці, наесціся’; ‘з’есці крыху, перакусіць’ (у гэтым слове семантычныя адценні слаба размяжоўваюцца).

*Мой старац* [сляпы], *вядома, не адставаў ад іншых, а толькі і рабіў, што даставаў новыя кавалкі. Нарэшце, ён наталіў голад, спытаў:*

*– А ты? Ты хоць* ***паеў****?*

*Дзе там паеў! Калі мне было? Ды і грэблівасць усё роўна як перашкаджала.*

***– Паеў****, – тым не менш адказаў я* (ЛіМ. 7.04.1995).

Як бачым, слова *паесці* тут заняло месца спрадвечнага сэнсава акрэсленага дзеяслова *пад’есці*.

А што засведчылі лексікаграфічныя працы?

“Практычны расійска-беларускі слоўнік” (Мінск, 1926) М. Байкова і М. Гарэцкага падае: *покушать – пад’есці*. А “Расійска-беларускі слоўнік” (Мінск, 1928) С. Некрашэвіча і М. Байкова перакладае рускі дзеяслоў *покушать* двума беларускімі: *пад’есці, наесціся*. Змешчаны таксама і словы *подъедать*, *подъесть*, якія перакладаюцца: *пад’ядаць*, *пад’есці*; *падсілкоўвацца, падсілкавацца*. Характэрна, што гэтыя слоўнікі не фіксуюць дзеяслова *паесці*. Яго ўпершыню змяшчае “Руска-беларускі слоўнік” (Мінск, 1937) пад рэдакцыяй А. Александровіча як адзін з адпаведнікаў (другі – *пад’есці*) дзеяслова *покушать*. Дарэчы, К. Крапіва атэставаў гэты слоўнік як “прымітыўны па распрацоўцы значэнняў слоў”.

А вось пасляваенны “Руска-беларускі слоўнік” (М., 1953) перакладае *покушать – паесці*. Так паказваецца лексікографамі шлях у беларускую мову слову *паесці*, якое ўкараняецца пад уплывам рускіх дзеясловаў *покушать*, *поесть*.

Дзеля справядлівасці трэба адзначыць, што пры стварэнні РБС-1953 яго ўкладальнікі сутыкнуліся з аб’ектыўнымі цяжкасцямі. “Цяжкасць гэтай задачы”, зноў працытуем К. Крапіву, была ў тым, “што сам аб’ём такой працы надзвычайна вялікі; што пад кіраўніцтвам П. Глебкі працавала ўсяго пяць маладых мовазнаўцаў, якія ніколі раней над слоўнікам не працавалі; што не было ніякай слоўнікавай картатэкі…”

Немагчыма знайсці паслядоўнасць, сістэму ў рэкамендацыях акадэмічных слоўнікаў наконт перакладу гэтых слоў (*покушать*, *поесть*) і ўжывання іх беларускіх адпаведнікаў. Калі ў “Словаре русского языка” (т. 3, М., 1983) *покушать* тлумачыцца: “**поесть** (употребляется обычно с оттенком вежливости или ласки), то “Руска-беларускі слоўнік” (Мінск, 1993) таксама перакладае: *покушать – паесці*, (многа, неаднаразова) *папаядаць*, *папаесці*. А тым часам дзеяслоў *поесть* гэтым слоўнікам перакладаецца: *з’есці* (крыху), *пад’есці* (наесціся). Слова *паесці* ў гэтым артыкуле не падаецца (і слушна). Звернем увагу на ілюстрацыі: *поел супу – з’еў супу*; *поешь перед дорогой – з’еш (пад’еш) перад дарогай*. Выходзіць, і *покушать* – па-беларуску *з’есці*, *пад’есці*.

“Тлумачальны слоўнік беларускай мовы” (1977 – 1984), які змяшчае слова *паесці*, падае і *пад’есці*, у тым ліку са значэннем дзеяслова (пазычанага) *паесці*. Але пры ім (слове *пад’есці*) стаіць пазнака “размоўнае”, што не адпавядае сапраўднаму стылістычнаму статусу гэтага слова і вядзе да звужэння яго ўжывальнасці. Тут адбыўся механічны перанос (перапісванне) з рускага слоўніка, дзе да слова *подъесть* у другім і трэцім значэннях дадзена памета “простамоўнае”. Але гэтыя значэнні далёкія ад рэальнага значэння беларускага дзеяслова *пад’есці*, які ў беларускай мове стылістычна нейтральны.

Разгляданы прыклад, як і шматлікія іншыя, сведчыць, што ўкладальнікі беларускіх слоўнікаў былі цесна прывязаныя да слоўніка рускай мовы, нярэдка пераносілі з яе стылістычную і семантычную характарыстыку слоў.

Напэўна, адыгрывала ролю побытавая і рабочая мова лексікографаў. Дзеясловы *пад'есці*, *паесці* ў ліку іншых слоў на літару "П" распрацоўвала мовазнаўца, якая на працы, кантактуючы з калегамі, гаварыла заўсёды па-руску. Нават міжволі навыкі рускага маўлення маглі паўплываць на ацэнку слоў і іх формаў, якія падаваліся ў ТСБМ. Наколькі яна ў нашым выпадку аб'ектыўная, можна заўважыць, калі звярнуцца да крыніц літаратурнай і жывой народнай мовы.

У зборніках прыказак і прымавак Я. Рапановіча (1958), Ф. Янкоўскага (1962), у "Беларускіх народных песнях" (т. 2, 1960, запіс Р. Шырмы), у творах Ф. Багушэвіча, Цёткі, у "Новай зямлі" Якуба Коласа, у "Выбраным" (1993) Максіма Танка, у зборніку "У сям'і" (1976) Янкі Брыля, у Зборы твораў (т. 5, 1971) І. Мележа слова *паесці* не сустрэлася (ужываюцца *пад'есці*, *з'есці*). Не занатаваў гэтага слова з разгляданым значэннем і "Краёвы слоўнік усходняй Магілёўшчыны" (1970) І. Бялькевіча (дадзены: *пад'есць*, *з'есці*, *наесца*).

Ужывальнасць слоў *пад'есці*, *з'есці*, *наесціся* (адпаведна рускім *поесть*, *покушать*) як **стылістычна нейтральных** пацвярджаецца шматлікімі аўтарамі і выданнямі.

***Пад'еў** як належыць, / а потым з крыніцы / празрыстай, сцюдзёнай / напіўся вадзіцы* (У. Дубоўка); *Дзеці мае! Вы **пад'елі**, заснулі, / І я вам спакою хачу...* (А. Куляшоў); – ***Пад'еш**, бацюхна, удосталь, – сказала Марыя* (У. Караткевіч); *Адно – любіў добра апранууца і смачна **пад'есці*** (І. Навуменка); *Узяла з сабою* [кабета] *30 долараў, сала, каўбасу і нават хлеб. Правільна, думаю, галоўнае і ў Версалі – добра **пад'есці*** (Полымя. 1999. № 5); *Адпачыць, пакупацца ў азёрах ці парыбаліць, **пад'есці** і пабавіць час у Паставах не праблема* (Наша Ніва. 12.08.2009); *...дай **пад'есці** свабодзе трошкі апалага лісця / дайце мне **пад'есці** трошкі вашай свабоды* (В. Трэнас).

[Паўлінка:] *Мамка, дастаньце з куфра настольнік, а я прынясу вам **з'есці*** (Я. Купала); *Была ў Капушы і адна слабасць: ён вельмі любіў добра **з'есці**, любіў і пачаставаць* (М. Лынькоў).

*Людзі па-рознаму адносяцца да свайго існавання на планеце. Адным хапае біялагічнага жыцця: папрацаваў, **наеўся**, паспаў. Больш іх нічога не турбуе* (С. Законнікаў).

У гэтых сказах з тэкстаў мастацкага, публіцыстычнага і гутарковага стыляў вылучаныя дзеясловы на сваім месцы, ужыты дарэчы, са значэннем 'наталіць голад, спажыць якую-небудзь страву'. І няма ніякай патрэбы "прыцягваць" на дапамогу ў падобных кантэкстах дзеяслоў *паесці*. Апошні ў беларускай мове выконвае сваю функцыю: *Паедзем, госцейкі, дадому: / **Паелі** конікі салому* (З народнай песні).

Варта яшчэ адзначыць. Для абазначэння працэсу спажывання ежы, апрача слоў *пад'есці*, *з'есці*, *наесціся*, *паесці* (усё, многа), існуюць іх сінонімы *падсілкавацца*, *падмацавацца*, *перакусіць* ды іншыя, а таксама дзеясловы, што абазначаюць яду ў пэўны час сутак: *паснедаць*, *паабедаць*, *папалуднаваць*, *павячэраць*.

Сказанае вышэй адносна ўжывання дзеяслова *паесці* 'пад'есці' стасуецца і да дзеяслова *папіць*: *Мусіць, Максім прыдрамаў, бо нечакана прахапіўся, калі пачуў матчын голас:*

– ***Папі** сырадою, сынок* (ЛіМ. 30.09.1983).

Традыцыйна ў такіх выпадках у беларускай мове ўжываюцца дзеясловы *выпіць*, *напіцца*.

*Паштальён прывёз газету, ліст з Амерыкі ад сына Янко, **выпіў** кавы і паехаў на келках далей* (Цётка); [Піліп Сямёнавіч] *пачаў агітаваць нас **выпіць** у вясковай цётачкі смятаны* (Я. Брыль); *Рыгор зайшоў* [у кавярню] ***выпіць** кавы* (Ц. Гартны); *Зайшоў у хату **напіцца** вады* (М. Танк); *Гэта тое самае, / Што, у Рыме будучы, / Не стрэцца з папам рымскім, / у Японіі – / Не **выпіць** чаю з гейшай* (М. Танк); *Пад поўдзень пачалі на хаду забягаць салдаты, каб **напіцца*** (Я. Маўр); *Калодзеж глыбокі, пырскі, падаючы, аж звіняць, і вада халодная – зубы ломіць. А панадворак пусты, душы жывое няма. Можна і яшчэ трошкі **напіцца*** (М. Лобан); – *Пойдзем піва **вып'ем**, – гаворыць Захар* (І. Навуменка).

Спадзяюся, што гэтыя назіранні (далёка не драбніцы) зацікавяць людзей, якія дбаюць пра захаванне роднай мовы, яе самабытнасці.

Што да майго стаўлення да дзеяслова *пад'есці*, то яно выявілася яшчэ ў 60-я гады мінулага стагоддзя.

Нядаўна, гартаючы свае публікацыі, звярнуў увагу на рэцэнзію "У бібліятэку школьніка" (Полымя. 1966. № 1), у якой я разглядаў "Руска-беларускі слоўнік" С. Грабчыкава. Сярод зробленых заўваг была і наконт неадэкватнага перакладу рускага дзеяслова *покушать* беларускім *паесці* (замест яго мною прапаноўвалася слова *пад'есці*).

Рэцэнзія пісалася ў той час, калі я толькі яшчэ пачынаў свой шлях у беларускую філалогію. І, як на сённяшняе разуменне, гэтая заўвага рабілася калі не зусім інтуіцыйна, дык проста на падставе свайго маўленчага досведу, а не ў выніку даследавання.

Але згаданы факт каштоўны нават тым, што ён адлюстроўвае ацэнку слова адным з носьбітаў беларускай мовы (беларускамоўцам з вышэйшай філалагічнай адукацыяй) у сярэдзіне 1960-х.

Цяпер жа, калі я спецыяльна звярнуўся да разгляду ўжывання дзеясловаў *пад'есці*, *наесціся* ды іншых, то пра падтрымку першага з іх у рэцэнзіі, шчыра кажучы, забыўся. І не магу сказаць, ці паўплываў на гэтую публікацыю той даўнейшы водгук на школьны слоўнік.



# МЕТОДЫКА І ВОПЫТ

*Новае ў правапісе*

Віктар ІЎЧАНКАЎ

## БЕЛАРУСКІ ПРАВАПІС У АПОРНЫХ СХЕМАХ

*Працяг. Пачатак у №№ 5 – 8.*

Увазе чытачоў прапануюцца апорныя схемы па новай рэдакцыі беларускага правапісу. Правілы падаюцца пакрокава ў выглядзе стандартных фігур рознай формы. Схемы адпавядаюць структуры правіл (Правілы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі. – Мінск: Нацыянальны цэнтр прававой інфармацыі Рэспублікі Беларусь, 2008). Новае і тое, што патрабуе асаблівай увагі, у апорных схемах пазначана клічнікам.

**ПРАВАПІС НЕКАТОРЫХ МАРФЕМ**

Схема 29

### ПРЫСТАЎКІ *ДЭЗ-* І *ДЫЗ-*

**Увага!**
**У прыстаўцы *дыз-* перад галоснымі (у тым ліку ётаванымі) пішацца *з*, а перад зычнымі – *с*:** *дызасацыяцыя, дызартрыя, дыз’юнкцыя, дысгармонія, дыспрапорцыя, дыскваліфікаваць, дысфункцыя, дыскрэдытаваць, дыскамфорт.*




**Увага!**
**Прыстаўка *дэз-* пішацца нязменна:** *дэзактывацыя, дэзарыентацыя, дэзынфекцыя, дэзынтэграцыя, дэзурбанізацыя.*

Схема 30

### СПАЛУЧЭННІ ЛІТАР *СЧ, СШ, СШЧ, ЗЖ, ЗДЖ*

**На стыку прыстаўкі і кораня перадаюцца нязменна:** *расчахляць, расчэсваць, расчыніць, счысціць, счапіць, счэп, усчаць, счакацца, бесчалавечны, бясчулы, расчапіць* (раз’яднаць), *усчапіць* (павесіць)*; расшыць, расшырэнне, сшытак, сшарэлы, расшумецца, расшпілены, бясшкодны, бясшлюбны; расшчапіць* (раскалоць), *расшчапленне* (расколванне), *расшчэп* (раскол) (не блытаць *счапіць* і *шчапаць*)*, расшчаміць* (разняць)*, расшчодрыцца, расшчоўкацца; зжыцца, разжаць, разжаліць, разжаніць, разжыва, безжурботна, безжыццёвы; зджаліць.*

**Увага! Выключэнні:** *рашчыніць* (паставіць цеста), *ушчуваць, нішчымны*, а таксама вытворныя ад іх: *рошчына, ушчуванне, ушчунак, нішчымніца.*

Схема 31

# ПРЫСТАЎКІ ПЕРАД ПАЧАТКОВЫМ *І*

**Пасля прэфіксоідаў (*звыш-, між-, пан-, супер-, транс-, контр-*) *і* захоўваецца:**
*звышімклівы, звышіндустрыяльны, звышінфляцыя, міжірыгацыйны, міжінстытуцкі, панісламізм, контрідэя, контрігра, суперінтэлект, трансіндыйскі.*

**У складанаскарочаных словах, першая частка якіх заканчваецца на цвёрды зычны, пачатковае *і* другога слова пішацца нязменна:**
*педінстытут, дзяржінспектар, палітінфармацыя, санінструктар, цяжіндустрыя, медінструменты, спецінструктаж, гарінспекцыя, гасінвентар.*

!

**Пры спалучэнні прыставак (*аб-, ад-, над-, пад-, раз-, з- (с-), уз-, спад-, перад-, дэз-, суб-*) са словамі, што пачынаюцца з *і*, у адпаведнасці з вымаўленнем замест *і* пішацца *ы*:** *абыграць, абынтэлігенцыіцца, зымправізаваць, зыначаны, зысці, сысці, адыграць, адыменны, адыходзіць, сыграцца, сышчык, узыход, спадылба, спадыспаду, перадынфарктны, падынтэграваць, разысціся, перадымперскі, перадыспытны, субынспектар, дэзынтэгратар, дэзынфармацыя, дэзынфіцыраваць.*

**Прэфіксоід *экс-* пішацца праз злучок, і *і* не пераходзіць у *ы*:**
*экс-інжынер, экс-імператар.*
**Некаторыя словы з коранем *-ход-* маюць варыянтныя формы:**
*адыходлівы – адходлівы, адыходнае – адходнае, адыходы – адходы, адыходнік – адходнік.*

**ПРАВАПІС НЕКАТОРЫХ МАРФЕМ**

Схема 32-а

# СУФІКСЫ *-АВА- (-ЯВА-), -ІРАВА- (-ЫРАВА-)*

**Дзеяслоўны суфікс *-ірава- (-ырава-)* ужываецца:**
**калі без гэтага суфікса ўзнікае аманімія дзеясловаў з дзеясловамі з суфіксам *-ава- (-ява-)*:**
*буксіраваць – буксаваць, парадзіраваць – парадаваць, візіраваць – візаваць, будзіраваць – будаваць, газіраваць – газаваць, камандзіраваць – камандаваць, пазіраваць – пазаваць, пасіраваць – пасаваць, тушыраваць – тушаваць, парыраваць – параваць, паніраваць – панаваць, фарміраваць – фармаваць, апаніраваць – апанаваць*;
**калі дзеяслоў без *-ір- (-ыр-)* губляе сваю фармальную і семантычную акрэсленасць:**
*шакіраваць, бісіраваць, бравіраваць, гарманіраваць, драпіраваць, лабіраваць, грасіраваць, курыраваць, лавіраваць, дэкарыраваць, сервіраваць, фантазіраваць, лакіраваць, штудзіраваць, мусіраваць, татуіраваць* і інш.;
**калі дзеяслоў мае вузкатэрміналагічнае значэнне:**
*манціраваць, пасівіраваць, аксідзіраваць, зандзіраваць, дэкаціраваць, сталіраваць, дэмпфіраваць, юзіраваць, юсціраваць, парафіраваць, дыфундзіраваць*.

**!**

**Пераважная большасць запазычаных дзеясловаў ужываецца з суфіксам *-ава- (-ява-)*:** *дэградаваць, фальсіфікаваць, арыентаваць, прагназаваць, балансаваць, цытаваць, аналізаваць, іранізаваць, культываваць, кантактаваць, планаваць, групаваць, нацыяналізаваць, прыватызаваць, дэклараваць, ліквідаваць, акліматызаваць, перафразаваць, кваліфікаваць, інфармаваць, урбанізаваць, каталізаваць, функцыянаваць, ваенізаваць, кантраляваць, тыпізаваць, паразітаваць, фінансаваць, тыражаваць, ігнараваць, рэагаваць, кансультаваць, прафіляваць, ангажаваць, нерваваць, абстрагаваць, імпартаваць, дэбатаваць, дэбютаваць, інспектаваць, экспартаваць, рэканструяваць, дыскутаваць, правакаваць, фінішаваць*.

**!**

**Увага!**
**У некаторых выпадках паралельна ўжываюцца дзве формы:**
*дэмаскіраваць – дэмаскаваць, акупіраваць – акупаваць, курсіраваць – курсаваць, калькіраваць – калькаваць, базіраваць – базаваць*.

Схема 32-б

# СУФІКСЫ *-АВА- (-ЯВА-), -ІВА- (-ЫВА-), -ВА-*

**Суфікс *-ава- (-ява-)* пішацца ў неазначальнай форме і формах прошлага часу тых дзеясловаў, якія ў першай асобе адзіночнага ліку губляюць гэты суфікс і заканчваюцца на *-ую (-юю)*:**
*галасую – галасаваць, галасаваў, галасавала, галасавалі, начую – начаваць, чаргую – чаргаваць, малюю – маляваць, камандую – камандаваць, пакутую – пакутаваць, даследую – даследаваць, будую – будаваць, рэкамендую – рэкамендаваць, характарызую – характарызаваць.*

**Суфікс *-іва- (-ыва-)* пішацца ў неазначальнай форме і асабовых формах цяперашняга часу дзеяслова, а таксама ў формах прошлага часу незакончанага трывання пасля збегу зычных, апошні з якіх *л, р* або *н*:**
*падкрэсліваць, падкрэсліваю, падкрэсліваў, падкрэслівалі; падтрымліваць, адыгрываць, выветрываць, запэўніваць, адрозніваць.*

**Суфікс *-ва-* пішацца ў астатніх выпадках:**
*выконваць, выконваю, выконваў, выконвалі; адказваць, вымешваць, адмерваць, заканчваць, загадваць, адорваць, разбэшчваць, падстрэльваць, раздумваць, заваёўваць, зацярушваць, дагульваць, размяркоўваць, забінтоўваць, распілоўваць.*

**Калі неазначальная форма дзеяслова закончанага трывання заканчваецца на *-іць* або *-яць* з папярэдняй галоснай, то ў незакончаным трыванні перад суфіксам *-ва-* пішацца *й*:**
*утаіць – утойваць, супакоіць – супакойваць, засвоіць – засвойваць, узброіць – узбройваць, напаіць – напойваць, склеіць – склейваць, абнадзеіць – абнадзейваць; засеяць – засейваць, абсмяяць – абсмейваць, запаяць – запайваць, настаяць – настойваць.*



**Увага!**
**У дзеясловах *выйграваць* і *прайграваць* пішацца суфікс *-ава-*.**

**ПРАВАПІС НЕКАТОРЫХ МАРФЕМ**

Схема 33

# СУФІКСЫ *-ЕН-, -АН-, -Н-*

**Суфікс *-ен-* пішацца ў дзеепрыметніках, утвораных ад дзеясловаў на *-іць, -ці*:** *адчынены, выбелены, згублены, супакоены, споены, накормлены, куплены, спаганены, скрыўлены, запылены, дазволены, зроблены, пазнаёмлены, асілены, заклеены, спалены, схілены, разяўлены, прастрэлены; звезены, прынесены, растрэсены, заведзены, спрадзены, пакрадзены, аплецены, мецены*.

**Пры чаргаванні ў аснове дзеяслова [с’] – [ш], [з’] – [ж], [ц’] – [ч], [дз’] – [дж] у дзеепрыметніках пішацца суфікс *-ан-*:** *насіць – ношаны, уразіць – уражаны, запрасіць – запрошаны, круціць – кручаны, апярэдзіць – апярэджаны*.

**Спалучэнне галоснай *я* дзеяслоўнай асновы з суфіксам дзеепрыметнікаў *-н-* пішацца ў тых дзеепрыметніках, якія ўтвораны ад дзеясловаў на *-яць-*:** *пасеяны, развеяны, змуляны, абляяны, абстраляны, павыдумляны, абмяняны* (ад *абмяняць*).

!

**Увага!**
**Пашырэнне атрымліваюць дзеепрыметнікі з суфіксам *-т-*:** *апрануты, пераапрануты, сагнуць – сагнуты, крануць – крануты* і інш.

*Новая рэдакцыя правіл беларускага правапісу*

# БЕЛАРУСКІ ПРАВАПІС: ДЫДАКТЫЧНЫ МАТЭРЫЯЛ

### ПРАВАПІС ГАЛОСНЫХ У СКЛАДАНЫХ СЛОВАХ

**Заданне 1.** Запішыце ў два слупкі словы з прапушчанымі літарамі *а* і *о*.

Агар…днінасушылка, агр…меліярацыйны, агр…пр…м, адн…кампанентны, аз…тнавадародны, бал…таўтварэнне, б…ртурач, бр…нетранспарцёр, в…енінжынер, в…ентэхнік, в…сьміног, в…семсот, в…цатнакіслы, гал…вакружэнне, к…нусападобны, к…нтратака, м…лалетні, мал…чнатаварны, м…напалізацыя, м…натонны, м…тацыкл, м…ватворчы, м…накультура, м…такалона, м…такрос, п…ўфіналіст, пр…ціўдарны, р…б…тадавец, р…б…татэхніка, т…ксафон, т…нкадром, т…капрыёмнік, ф…ртэпіяна, ф…таграфія, ф…накардыяграма, ф…ндасховішча, ф…татавары, ф…сфарнакіслы, хвар…батворны, шт…раніцы.

**Заданне 2.** Устаўце прапушчаныя літары *а, о, ы*.

Бав…ўнасеяльны – бав…ўнакамбайн, б…гаслоўскі – б…гаслужэнне, б…мбасховішча – б…мбакідальнік, б…яздольны – б…екамплект, в…днаэнергетычны – в…днасалявы – в…днатранспартны, в…дапомпавы – в…даправодны, в…семдзесят – в…сямнаццаць, в…ўнаткацтва – в…ўначасальны – в…ўнаапрацоўчы, в…страсюжэтны – в…страдэфіцытны – в…страносы, выс…камерны – выс…каактыўны, г…рнарудны – г…рнарабочы, д…браволец – д…брасуседскі – д…брасардэчнасць, др…бнаплодны – др…бнапамесны, ж…ўтагаловы – ж…ўтакрылы, з…ахімія – з…агеаграфія, ільн…водства – ільн…камбайн, кар…ткатэрміновы – кар…ткашэрсны, кр…вацячэнне – кр…вацёк, мн…галюдны – мн…гасямейны, п…ўнаўладны – п…ўнаводдзе, п…ліглот – п…ліфанія, р…знашэрсны – р…знакаліберны, с…нцалюбны – с…нцалюбівы, т…нкалісты – т…нкалістэвы, ш…ўкапрадзільны – ш…ўкаткацтва, ч…рнакніжнік – ч…рнагаловы.

**Заданне 3.** Устаўце прапушчаныя літары *е, ё, я*.

**Варыянт 1.**

Б…тонамяшалка, брон…цягнік, в…лакамерны, в…траўстойлівы, вільгац…любівы, вугл…драбілка, в…лікагаловы, граз…водалячэбніца, два…верац, жыв…лагадоўля, жыцц…апісанне, л…гкадумны, л…наапрацоўка, м…даносны, м…лкаводдзе, св…жазамарожаны, св…тлабоязь, св…тлафор, см…хатворны, сол…прамысловасць, сярэдн…сутачны, тэл…вежа, ус…беларускі, ус…дараванне, ус…міласцівы, ц…плагенератар, цыбул…ўборачны, чэрв…падобны.

**Варыянт 2.**

Бран…бойшчык, в…лікамучанік, в…равызнанне, вільгац…мер, вугл…носны, два…борац, дзе…здольнасць, жыцц…ўстойлівы, жыцц…здольны, земл…знаўства, камен…ломня, л…тапісанне, м…даварэнне, музе…знаўчы, пуц…абходчык, св…жавымыты, св…табачанне, св…тлолюбівы, сол…ўстойлівы, с…белюбівы, сярэдн…вяковы, ус…ахопны, ус…ўкраінскі, ус…светны, хвал…ўтварэнне, хвал…мер, ц…плалюбны, чарв…точына.

**Заданне 4.** Запішыце словы паводле ўзору.

*Узор: (15)метровы – пятнаццаціметровы.*

(100)метровы, (100)тысячны, (18)гадовы, (10)гадовы, (9)цікратны, (3)хбор'е, (300)годдзе, (5)цівугольнік, (50)ты, (7)метровы, (70)ты, (17)ты, (3)церазрадны, (3)класнік, (6)цікратны, (60)годдзе, 80.

### АДКАЗЫ

**Заданне 1.**

| *а* | *о* |
|---|---|
| аграпрам, аграмеліярацыйны, аднакампанентны, ваенінжынер, ваентэхнік, васьміног, галавакружэнне, малалетні, манапалізацыя, манатонны, матацыкл, паўфіналіст, таксафон, танкадром, фартэпіяна, фатаграфія | агароднінасушылка, азотнавадародны, балотаўтварэнне, бортурач, бронетранспарцёр, восемсот, воцатнакіслы, конусападобны, контратака, малочнатаварны, моватворчы, монакультура, мотакалона, мотакрос, проціўдарны, работадавец, робататэхніка, токапрыёмнік, фонакардыяграма, фондасховішча, фотатавары, фосфарнакіслы, хваробатворны, штораніцы |

**Заданне 2.**

Баваўнасеяльны – бавоўнакамбайн, багаслоўскі – богаслужэнне, бамбасховішча – бомбакідальнік, баяздольны – боекамплект, воднаэнергетычны – водна-салявы – ваднатранспартны, вадапомпавы – водаправодны, восемдзесят – васямнаццаць, ваўнаткацтва – воўначасальны – воўнаапрацоўчы, вострасюжэтны – вострадэфіцытны – вастраносы, высакамерны – высокаактыўны, гарнарудны – горнарабочы, дабраволец – добрасуседскі – добрасардэчнасць, драбнаплодны – дробнапамесны, жоўтагаловы – жаўтакрылы, заахімія – зоагеаграфія, ільнаводства – ільнокамбайн, кароткатэрміновы – караткашэрсны, крovaцячэнне – крывацёк, мнагалюдны – многасямейны, поўнаўладны – паўнаводдзе, паліглот – поліфанія, разнашэрсны – рознакаліберны, санцалюбны – сонцалюбівы, танкалісты – тонкалістэвы, шоўкапрадзільны – шаўкаткацтва, чарнакніжнік – чорнагаловы.

**Заданне 3.**

**Варыянт 1.**

Бетонамяшалка, бронецягнік, велакамерны, ветраўстойлівы, вільгацелюбівы, вугледрабілка, вялікагаловы, гразеводалячэбніца, дваяверац, жывёлагадоўля, жыццеапісанне, легкадумны, лёнаапрацоўка, меданосны, мелкаводдзе, свежазамарожаны, святлабоязь, святлафор, смехатворны, солепрамысловасць, сярэднясутачны, тэлевежа, усебеларускі, усёдараванне, усяміласцівы, цеплагенератар, цыбулеўборачны, чэрвепадобны.

**Варыянт 2.**

Бранябойшчык, велікамучанік, веравызнанне, вільгацямер, вугляносны, дваяборац, дзеяздольнасць, жыццеўстойлівы, жыццяздольны, землязнаўства, каменяломня, летапісанне, мёдаварэнне, музеязнаўчы, пуцеабходчык, свежавымыты, светабачанне, святлолюбівы, солеўстойлівы, сябелюбівы, сярэдневяковы, усёахопны, усеўкраінскі, усясветны, хвалеўтварэнне, хвалямер, цеплалюбны, чарвяточына.

**Заданне 4.**

Стаметровы, статысячны, васямнаццацігадовы, дзесяцігадовы, дзевяцікратны, трохбор'е, трохсотгоддзе, пяцівугольнік, пяцідзясяты, сяміметровы, сямідзясяты, трэцеразрадны, трэцякласнік, шасцікратны, шасцідзесяцігоддзе, восемдзесят.

**ПРАВАПІС СПАЛУЧЭННЯЎ ГАЛОСНЫХ У ІНШАМОЎНЫХ СЛОВАХ**

**Заданне 1.** Выпішыце: а) словы, у якіх правапіс спалучэнняў галосных не залежыць ад націску; б) словы, у якіх правапіс спалучэнняў галосных залежыць ад націску.

Ав…пошта – ав…пасажыр, аказ… – аказ…нальны, акард…н – акард…ніст, ак…н – ак…налогія, анестэз…логія – анестэз…лаг, арф…пія – арф…пічны, арх…лаг – арх…логія, ар…нцір – ар…нтацыя, аўд…тэхніка – аўд…візуальны, аўкц…нны – аўкц…ніст, бібл…графія – бібл…граф, від…карта – від…сістэма, гам…пат – гам…патычны, г…логія – г…лаг, глад…лус – глад…тарскі, грац… – грац…знасць, дывіз… – дывіз…н, д…та – д…толаг, д…хранія – д…хронны, …насфера – …наабмен, …рархія – …рархічны, к…ск – к…скёр, лег…н – лег…нер, матэр…льны – матэр…лізм, мет…р – мет…рыт, панс…н – панс…нат, пер…д – пер…дычны, псіх…тр – псіх…трычны, рад…аператар – рад…вежа, рад…хімічны – рад…хімія, рэг…н – рэг…нальны, спец…ліст – спец…лізацыя, стэр…метрыя – стэр…труба, т…логія – т…лагічны, т…лаг – т…лагічны, фіз…логія – фіз…лаг, фіз…логія – фіз…лагічны, хар…графія – хар…граф, чэмп…н – чэмп…нат.

**Заданне 2.** Выпішыце, устаўляючы прапушчаныя літары: а) словы, у якіх спалучэнні гукаў вымаўляюцца як два склады; б) словы, у якіх спалучэнні вымаўляюцца як адзін склад.

Аз…цкі, алімп…да, ал…нс, батал…н, біл…рд, б…дабаўкі, валяр…н, вар…тэ, вар…нтнасць, ва…ж, в…дук, в…ланчэль, г…батаніка, ген…льны, гіг…нічнасць, гідраав…цыйны, гіл…ціна, гранд…знасць, д…д, д…ганальны, д…бал, …гатэрапія, …гурт, …дзісты, …зуіт, еўрап…ід, …нізатар, ід…лізаваць, …раманах, …рогліф, інтэр…р, …н, к…пcallатыў, канв…р, кур…зны, ма…р, ман…кальны, мантыл…, ман…к, марс…нін, мар…нетка, матр…рхат, мац…ла, мерыд…н, міл…н, пал…нталогія, п…ніна, пл…да, пра…кт, прывіл…ваны, пр…рытэт, пр…мбула, прэтэнц…зны, рац…нальны, ра…ль, р…ніраваць, рышэл…, р…лістычны, рэл…ф, саква…ж, с…нс, сін…р, скал…з, тампл…р, тар…дор, трыл…н, трэл…ж, ун…цкі, фа…, фал…нт, фаміл…рны, фартэп…на, ф…тон, фа…нс, ф…дал, фе…рверк, фе…рыя, фел…тон, філ…л, ф…лка, фр…н, ц…нід, шампін…н.

**Заданне 3.** Устаўце прапушчаныя літары і спалучэнні літар.

**Варыянт 1.**

Рад…ла, д…гназ, хар…графія, …сіф, гранд…зны, мет…р, рад…цыя, энтуз…зм, шп…н, Эф…пія, …ан, стад…н, адаж…, Нью-…рк, кл…нтура, …гурт, ал…нс, д…та, ід…л, ав…цыя, сімб…з, баст…н, д…грама, т…рыя, пед…тр, пац…нт, асац…цыя, Ток…, акард…ніст, зад…к.

**Варыянт 2.**

Б…лаг, патр…тызм, акард…н, …нічнае мора, …даформ, акс…ма, рэг…н, панс…нат, бібл…графія, грац…зны, ак…н, …нны, рац…н, Ватэрл…, …фе, …рархія, …д, мадз…р, кл…нт, ід…ліст, спец…льны, атракц…н, г…цынт, б…токі, т…рэма, ініц…тар, мемар…л, тры…, абітур…нт, д…лект.

**АДКАЗЫ:**

**Заданне1.**

| а) не залежыць ад націску | б) залежыць ад націску |
|---|---|
| авіяпошта – авіяпасажыр | акардэон – акардэаніст |
| аказія – аказіянальны | анестэзіялогія – анестэзіёлаг |
| акіян – акіяналогія | археолаг – археалогія |
| арфаэпія – арфаэпічны | аўдыётэхніка – аўдыявізуальны |
| арыенцір – арыентацыя | аўкцыённы – аўкцыяніст |
| відэакарта – відэасістэма | бібліяграфія – бібліёграф |
| гамеапат – гамеапатычны | геалогія – геолаг |
| дыета – дыетолаг | гладыёлус – гладыятарскі |
| дыяхранія – дыяхронны | грацыя – грацыёзнасць |
| іерархія – іерархічны | дывізія – дывізіён |
| матэрыяльны – матэрыялізм | іанасфера – іонаабмен |
| перыяд – перыядычны | кіёск – кіяскёр |
| псіхіятр – псіхіятрычны | легіён – легіянер |
| радыёаператар – радыёвежа | метэор – метэарыт |
| спецыяліст – спецыялізацыя | пансіён – пансіянат |
| стэрэаметрыя – стэрэатруба | радыехімічны – радыяхімія |
| тэалогія – тэалагічны | рэгіён – рэгіянальны |
| фізіялогія – фізіялагічны | тэолаг – тэалагічны |
| | фізіялогія – фізіёлаг |
| | харэаграфія – харэограф |
| | чэмпіён – чэмпіянат |

**Заданне 2.**

| а) два склады | б) адзін склад |
|---|---|
| азіяцкі, алімпіяда, біядабаўкі, варыянтнасць, віядук, віяланчэль, геабатаніка, геніяльны, гігіенічнасць, гідраавіяцыйны, грандыёзнасць, дыёд, дыягальны, еўрапеоід, іанізатар, ідэалізаваць, іераманах, іерогліф, іон, кааператыў, маніякальны, марсіянін, марыянетка, матрыярхат, мацыёла, мерыдыян, палеанталогія, піяніна, прывілеяваны, прыярытэт, прэамбула, прэтэнцыёзны, рацыянальны, рэалістычны, сеанс, скаліёз, тампліер, тарэадор, уніяцкі, фаліянт, фартэпіяна, фаэтон, феадал, філіял, фіялка, фрэон, цыянід | альянс, батальён, більярд, валяр’ян, вар’етэ, вяжж, гільяціна, д’ябал, ёгатэрапія, ёгурт, ёдзісты, езуіт, інтэр’ер, канвеер, кур’ёзны, маёр, мантылья, маньяк, мільён, плеяда, праект, раяль, раяніраваць, рышэльe, рэльеф, саквяж, сіньёр, трыльён, трэльяж, фае, фамільярны, фаянс, феерверк, феерыя, фельетон, шампіньён |

**Заданне 3.**

**Варыянт 1.**

Радыёла, дыягназ, харэаграфія, Іосіф, грандыёзны, метэор, радыяцыя, энтузіязм, шпіён, Эфіопія, Іаан, стадыён, адажыа, Нью-Ёрк, кліентура, ёгурт, альянс, дыета, ідэал, авіяцыя, сімбіёз, бастыён, дыяграма, тэорыя, педыятр, пацыент, асацыяцыя, Токіа, акардэаніст, задыяк.

**Варыянт 2.**

Біёлаг, патрыятызм, акардэон, Іанічнае мора, ёдаформ, аксіёма, рэгіён, пансіянат, бібліяграфія, грацыёзны, акіян, іонны, рацыён, Ватэрлоа, Ёфе, іерархія, ёд, мадзьяр, кліент, ідэаліст, спецыяльны, атракцыён, гіяцынт, біятокі, тэарэма, ініцыятар, мемарыял, трыа, абітурыент, дыялект.

*Працяг будзе.*

**Ірына САВІЦКАЯ,**
кандыдат філалагічных навук.

*Новая рэдакцыя правіл беларускага правапісу*

# БЕЛАРУСКІ ПРАВАПІС І ГРАМАТЫКА: ТЭОРЫЯ І ЗАДАННІ ДЛЯ ШКОЛЬНІКАЎ

*Працяг. Пачатак у №№ 7, 8.*

## ПРАВАПІС У І Ў

**У (складовае) пішацца**

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| у пачатку сказа, пасля знакаў прыпынку і пасля слоў, што заканчваюцца на зычную літару: ***У** вачах адлюстравана тое, што ў душы хаваецца на дне* (Я. Непачаловіч). *Лугі, выганы, старыцы, сухія летам азярынкі – **у**сё залівала вада* (С. Грахоўскі). *З Навагрудка Міхась пайшоў **у** свет, які завецца дарослым* (А. Кажадуб). | у пачатку і ў сярэдзіне слоў, калі [у] знаходзіцца пад націскам: *Люблінская **ў**нія, вялікая **ў**рна, сакса**ў**л, ба**ў**л*; у выклічніках у (***у**, які ты смелы!*), ух (***у**х ты, як прыгожа!*), уй (***у**й, які смешны!*) | у запазычаных словах, якія заканчваюцца на -*ум*, -*ус*: *соцы**у**м, кансілі**у**м, ваку**у**м, стра**у**с, со**у**с*, і вытворных ад іх словах: *ваку**у**мны, стра**у**савы, со**у**снік* | у пачатку ўласных назваў: *на **У**краіне, ва **У**руччы, на **У**шачы, для **У**сяслава, за **У**ладзіміра* | у канцы запазычаных слоў: *фра**у**, ток-шо**у**, но**у**-ха**у**, Шо**у**, Ланда**у**, Даха**у**, Цэміртa**у*** |

**Ў (нескладовае) пішацца**

| | | | |
|---|---|---|---|
| у пачатку слова пасля галосных: *на **ў**сё жыццё, прыгожы **ў**бор, моцна **ў**дарыць, скласці **ў**двая, гучнае “**ў**ра”, на **ў**ніверсіядзе, для **ў**ніята, каля **ў**ніверсітэта, ва **ў**ніверсаме, пайсці **ў**наймы, з лёгкасцю **ў**здыхнуць* | у сярэдзіне слова пасля галосных: *а**ў**кцыён, па**ў**за, фа**ў**на, а**ў**дыяапаратура, джо**ў**ль, ра**ў**т, са**ў**дзел, тра**ў**лер, кло**ў**н, ска**ў**т*, але: *тра**у**р* | пры чаргаванні [в] з [ў] і [л] з [ў]: *попла**ў** (паплавы), ма**ў**ленне (мова), по**ў**ны (повен), кро**ў** (крыві), А**ў**стрыя, А**ў**доцця, А**ў**рора, Ка**ў**каз, Бо**ў**ш, Ро**ў**да, змо**ў**кнуць, во**ў**к, шо**ў**к, по**ў**заць, та**ў**стун*; але: *краіна В’етнам, рака Влтава, армія В’еткoнга, палка, памылка, Алжыр, Албанія, Волга, Валдай, Балгарыя* | пасля дэфіса і двукосся, калі папярэдняе слова заканчваецца на галосную: *па-**ў**чарашняму, паўднёва-**ў**сходні, класна-**ў**рочны, медаль “За адвагу” **ў**ручылі на афіцыйнай сустрэчы, опера “Кастусь Каліноўскі” **ў**разіла школьнікаў* |

**АЛЕ!**
У вершаваных творах з мэтай захавання рытму можа пісацца ў замест у і наадварот: *Ты прыйдзі ка мне **у**восень, зоркаю прыйдзі; / **Ў** свет далёкі з шумам сосен думку павядзі…* (Янка Купала); ***Ў** дарозе будзеш ты ці дома, я аб адным цябе малю: / нібы аб нечым невядомым, згадай, што я цябе люблю* (М. Шабовіч).

**Заданне 1.** Прачытайце, растлумачце напісанне *у* і *ў*. Карыстаючыся тлумачальным слоўнікам, вызначце сэнс незразумелых слоў.

Абно**ў**лены, архі**ў**-музей, а**ў**ра, а**ў**таралі, баво**ў**на-**ў**борка, вак**уу**м-фільтр, ва**ў**калак, дапа**ў**ненне, жа**ў**на, ко**ў**дра, ла**ў**р, ла**ў**сан, натары**у**с, на**ў**цёкі, па**ў**а**ў**тамат, па**ў**лін, па**ў**ночна-**ў**сходні, пла**ў**нік, ра**ў**нд, шо**у**, са**ў**гас, тра**ў**лер, **у**верцюра, для **У**ладзіславы, на **У**рале, смачны **ў**рук, моцны **ў**ціск, ці**ў**-ці**ў**.

**Заданне 2.** Спішыце, устаўце прапушчаныя літары, растлумачце іх напісанне.

**Варыянт 1.** 1. Звярыная сцежка навяла зубра на дубняк, што цягну…ся кіламетры з два …здо…ж балота (В. Казько). 2. Пяюць, заліваюцца …сюды птушкі – … іх свая радасць і надзея (Б. Сачанка). 3. Пра…да, сярод пнёў …біраліся …жо ў сілу і дубкі, некаторыя з іх былі зусім яшчэ маленькімі, каранём і ствалом у жалудах, як у матчынай далоні (В. Казько). 4. Глядзіш на ваду і быццам сам некуды імчышся – …сё хутчэй, хутчэй, аж галава кружыцца (А. Казаннікаў). 5. Птушкі прачнуліся …жо: цёхкае салавей, прысвістае дрозд і, як за…сёды, …кладае некага спаць перапёлка (Б. Сачанка). 6. Стракозы яшчэ недзе хаваліся, але …ладзіславу здалося, што і яны – жа…тлявыя, аксамітава-чорныя – …жо таксама ведаюць, што ён тут (У. Арлоў). 7. Васіліна даехала да лесу на а…тобусе і до…га шукала сваіх сяброўак у вялікім, па-святочнаму стракатым нато…пе людзей, што сабраліся на гэтае лясное свята (А. Савіцкі). 8. Ся…ба ў калгасе закончылася, вясна стаяла дружная, цёплая, і гэта …лівала …пэўненасць, што восень будзе шчодрая (Т. Хадкевіч). 9. Схілі…шыся на калені, дзя…чына мо…чкі глядзіць перад сабой. Перад носам та…чэ мак машкара (М. Ракітны). 10. Нават грыбы-дажджавікі – белыя пругкія шарыкі – …жываюцца ў ежу, яны смачныя і вельмі карысныя (В. Стома).

**Варыянт 2.** 1. Жо…тыя сонцы нівянніку. Белакветкавыя то…стыя та…качы гірчо…ніку. Кмен, цімафее…ка, казялец, лісахвост, а…сяніца, каласо…нік (Я. Сіпакоў). 2. …стрывожаная нечаканым шумам, вылецела са шпако…ні шпачыха, спалохана касіла вочкамі на зямлю (У. Рубанаў). 3. На скрыжаванні дзвюх шырокіх людных вуліц за…сёды стаіць дзяжурны а…таінспекцы (Ф. Янкоўскі). 4. А …восень таго ж года я …першыню …бачы… казулю ў Велькім балоце, куды хадзілі з маці ў журавіны (У. Рубанаў). 5. Вось чаму ён паступі… і сконча… гісторыка-філалагічны факультэт наста…ніцкага інстытута, затым гістарычны – ва …ніверсітэце (І. Навуменка). 6. Зінаіду Па…ла…ну я …спамінаю за…сёды з душэ…ным болем і лёгкім шчымлівым сумам (Б. Сачанка). 7. Праз нейкі час адварочваешся, каб пакласці ў кашэль яшчэ аднаго баравіка, і не верыш вачам сваім: …сё днішча …жо …крыта грыбамі – белакурымі, паджарымі, з чорнымі то…стымі шапкамі (Б. Сачанка). 8. …скочы…шы знадворку ў хату, ён спешна распрану…ся, хукну… на рукі і хвацка крутну…ся каля …льяны, якая даставала нешта з печы (М. Ракітны). 9. Прыязджалі найбольш …восень ці …зімку, а …летку чаргавалі работу з адпачынкам (Я. Скрыган). 10. Да пе…ніка часта і вельмі ахвотна цягнецца пацешна маленькая рука маёй ня…рымсты-…нучкі (Я. Брыль).

**Заданне 3.** Спішыце, устаўце прапушчаныя літары, растлумачце іх напісанне.

**Варыянт 1.** Глядзець …бок, прысутнічаць на авіяшо…, пільная …вага, …бачыць …версе, кансультацыя натары…са, тэрыторыя …эльса, моцны …дар, брацць …дзел, правесці …заемаразлікі, князь …ладзімір, …заранае поле, цёплыя …нты, Леся …краінка, схадзіць ва …нівермаг, апрануць …ніформу, мера вагі – …нцыя, есці …прыкуску, вялікая …рна, прыгожая …смешка, цікавая кла…нада.

**Варыянт 2.** Ісці …брод, гало…ны …ваход, …сходне-Сібірскае мора, цікавіцца бо…лінгам, імкнуцца …вcovысь, святкаваць …годкі, …дыхаць паветра, …збегчы на гару, гарачы …звар, …лан-Батар, смачная рыба – хары…с, …дзельнічаць ва …ніверсіядзе, быць …нікумам, …сясла… Чарадзей, гаварыць …схвалявана, працаваць …траіх, правесці …тылізацыю, за…ючаны вярблюд, фіна-…горская група мо…, спяваць ва …нісон.

**Заданне 4.** Устаўце прапушчаныя літары *у* і *ў*. Запоўніце табліцу. Сэнс незразумелых слоў вызначце па слоўніку.

| словы, у якіх пішацца *у* | словы, у якіх пішацца *ў* |
|---|---|
| | |

**Варыянт 1.** А…дыенц-зала, а…чына, шлагба…м, індывіду…м, сто…п, байк-шо…, халада…стойлівы, Гуанчжо…, прэзіды…м, традыцыйна-…рачысты, Барна…л, тайм-а…т, бра…ншвейгскі, бакала…р, кло…н, мя…каць, А…стрыя, ваку…м, ва …ніверсаме, акіянары…м, ка…чук, змо…кнуць, ліноле…м.

**Варыянт 2.** Рады…с, Карата…, меды…м, а…л, а…каць, каля …фы, архівары…с, кансілі…м, ка…чук, Наталля …ладзіміраўна, а…торак, соцы…м, а…т, на…цёкі, шо…-бізнес, Кейпта…н, но…-ха…, Ка…каз, сло…нік, …нікум, педагагічны …ніверсітэт, ма…зер, тры…мф.

**Заданне 5.** Прачытайце ўрыўкі з паэмы "Новая зямля" Якуба Коласа. Растлумачце напісанне вылучаных *у* і *ў*. Ці адпавядае такое напісанне правілу? З якой мэтай Якуб Колас выкарыстаў у паэтычных радках *у* замест *ў* і наадварот?

Ў лясах, гаях дразды спявалі,
Ў балотах кнігаўкі крычалі;
А ў небе ўдзень і вечарамі
Высока роўнымі шнурамі
Злятаўся вырай жураўліны,

І амярцвелыя даліны
Будзілі звонкім сваім крыкам,
Як бы прыветным гэтым зыкам
Віталі родныя балоты,
Густыя лозы і чароты.

Вагон біткам набіт народам.
Імчыцца поезд поўным ходам,
І толькі пыл ён падымае,
Як ад табакі, дзядзька чхае.
Пайшоў кандуктар і вачамі
Шукае торбу з кутасамі.
Стхарыўся дзядзька *у* куточку,
І торба з ім на тым кіёчку,
З якім наш дзядзька пехатою
Учора йшоў адзін душою.

– Эй, хлопцы, хлопчыкі! Ўставайце!
Кароў на пашу выганяйце!
Даўно пара ўжо пасвіць статка! –
Алеся, Ўладзю будзіць матка,
А хлопцы толькі ўзварухнулісь
І на другі бок павярнулісь.
Тут маці трошкі пастаяла
І галавою паківала:
– Шкада будзіць – ох, сон салодкі!
Няхай пасьпяць яшчэ блазноткі.

Усход жыве, гарыць, палае,
Слупы-праменні падымае,
Бы тыя рукі блаславення
У часе шчырага малення.
І вось яна, жыцця крыніца,
Сама багіня-чараўніца,
Ўзышла на небе і міргнула,
Расу ў брыльянты абярнула,
Глядзіць прыветна, *ў*сіх кахае,
Па свеце стрэлы рассыпае
І песціць шчыра ўсіх, як матка…
Хіба забудзеш міг той, братка?

**ПРАВАПІС ПАДОЎЖАНЫХ ЗЫЧНЫХ**

У становішчы паміж галоснымі зычныя гукі [з’], [дз’], [л’], [н’], [с’], [ц’], [ч], [ж], [ш] вымаўляюцца падоўжана і на пісьме абазначаюцца падвоеным напісаннем адпаведных літар (падоўжанае вымаўленне [дз’] на пісьме перадаецца спалучэннем літар *ддз*): *ма**зз**ю, асяро**ддз**е, навако**лл**е, Ната**лл**я, Аксі**нн**я, Усці**нн**я, паднябе**сс**е, двуко**сс**е, пачу**цц**ё, васьмюдзеся**цц**ю, Та**цц**яна, лама**чч**а, роспа**чч**у, падаро**жж**а, узме**жж**а, Пабу**жж**а, заці**шш**а, Замо**шш**а.*

**Падоўжаныя зычныя**

Падаўжэння зычных звычайна не адбываецца ў запазычаных і вытворных ад іх словах, а таксама ва ўласных імёнах і назвах: *а**л**ея, ка**м**ентарый, ма**с**іў, гру**п**а, ка**л**ектыў, і**м**унітэт, ка**с**ір, тэ**р**ыторыя, пі**ц**а, са**м**іт; А**л**а, Ге**н**адзь, І**н**а, Кіры**л**, Адэ**с**а, Ма**р**ока, Ні**ц**а*. Выключэнне: *бо**нн**а, до**нн**а, ма**нн**а, па**нн**а, ва**нн**а, мадо**нн**а, сава**нн**а, ме**цц**а-сапрана; Га**нн**а, Жа**нн**а, Сюза**нн**а, Ме**кк**а.*

Не адбываецца падаўжэння зычных у некаторых уласных імёнах: *І**л**ья, Емя**л**ьян, У**л**ьян, У**л**ьяна, Ю**л**ьян, Ю**л**ьяна, Ка**с**ьян, Тра**дз**ьякоўскі* – і вытворных ад іх: *І**л**ьін, І**л**ьіч, І**л**ьінскі, І**л**ьічоўка, У**л**ьянаў, У**л**ьянаўск, у**л**ьянаўскі.*

**АЛЕ!**
Ад фанетычнага падаўжэння гукаў трэба адрозніваць марфалагічнае падваенне зычных – напісанне дзвюх аднолькавых літар на стыку марфем: *бе**сс**ардэчны* (бе**с-с**ардэчны), *ра**сс**макаваць* (ра**с-с**макаваць), *ажы**нн**ік* (ажы**н-н**ік), *дружы**нн**ік* (дружы**н-н**ік), *асе**нн**і* (асе**н-н**-і).

**Заданне 1.** Прачытайце сказы. Выпішыце словы з прапушчанымі літарамі, устаўце, дзе трэба, на месцы пропуску літары, растлумачце іх правапіс.

**Варыянт 1.** 1. Памяць народа – гэта самае вялікае багац…е, якое і называецца спадчынай (В. Вітка). 2. Якуб Колас нарадзіўся ў маляўнічым лясным прывол…і, дзе векавечныя хвоі і кашлатыя елкі падпіралі сіняе неба, а непадалёку бруіліся хвалі нястомнага Нёмана (С. Александровіч). 3. Потым мы разбегліся па клас…ах, дзе было чыста і так добра пахла крэйдай і фарбамі (Б. Сачанка). 4. Над развод…ем з крыкамі праносіліся чароды гусей і качак і знікалі ў блакітнай смузе (С. Грахоўскі). 5. Ад моста адразу пачынаецца паркавая ал…ея (М. Ракітны). 6. Яна як быццам паменшала, толькі вочы значны на абліч…ы (М. Лужанін). 7. Аксін…я, Якубава жонка, пачала поркацца ля печы, дастаючы вячэру (М. Зарэцкі). 8. Прыходзілі і адыходзілі ак…упанты, і сляды іх знікалі з твару зямлі, а мова жыла, бо карані яе ў глыбінях, бо народ стагод…ямі песціў, шліфаваў яе (У. Караткевіч). 9. На вільготным вец…і набрынялі, большалі вялікія і чыстыя кроплі, зрываліся, стукаліся аб учарнелае лісце (А. Кажадуб). 10. Ясевіч выцягнуў з каляскі гумавыя боты, шырокі брызентавы плашч з капюшонам, адвязаў вуды і спін…інг (А. Дзятлаў). 11. Для Беларусі яно [возера Свіцязь] высакагорнае: размешчанае на Навагрудскім узвыш…ы, 258 метраў над узроўнем мора (М. Дубровін). 12. Ноч…у ішоў дождж. Каля лаўкі стаяць лужыны вады (М. Лужанін).

**Варыянт 2.** 1. Сярод Рагвалодавых унукаў у XII стагод…і вылучаецца наша першая асветніца Ефрасін…я Полацкая (К. Тарасаў). 2. Неяк ноч…у мне здалося, што я чуў, як трубілі, летучы над горадам, жуеравы (М. Стральцоў). 3. Скончылася вясел…е, пачаліся будні (А. Гурскі). 4. Пад-

няў яго, хворага, позняй восен…ю (М. Капыловіч). 5. Вузкіх шляхаў выгіб ломкі машастовай рун…ю ўбраны, і шнуруюць скокам ёмкім німфы-ведзьмы, феі-пан…ы (Ц. Гартны). 6. Францішак таксама, бывала, спрабаваў клікаць буслоў, як Ган…ачка, але буслы чамусьці на яго кліч не ішлі (В. Хомчанка). 7. Яны ішлі па свежай рал…і, і Антон жменя за жменяю браў з сявёнкі збож…а, шырокімі ўзмахамі рукі сыпаў яго перад сабою; зерне суха шарахцела, падала ў ноч і нячутна рассыпалася па рал…і (А. Савіцкі). 8. На самы верх узвыш…а вылезла царква (М. Лужанін). 9. Аказваецца, гэта быў малады бабёр, відаць, аднесены моцнай плын…ю ад дома (Р. Ігнаценка). 10. Стаялі адліжныя дні, і снег набрыняў вадою, быў цяжкі і сіні, з яго тырчалі аранжавыя лустачкі кары і шыгал…ё (У. Рубанаў). 11. Я дапамагаў ім, счышчаў рыдлёўкаю дзе трэскі і смец…е, а дзе – пясок (В. Жуковіч). 12. Якое раздол…е начлежніку! Дарога ў гарох табе адчынена (А. Васілевіч).

**Заданне 2.** Прачытайце сказы. Выпішыце са сказаў спачатку словы з фанетычным падаўжэннем зычных, пасля – з марфалагічным падваеннем. Абгрунтуйце свой выбар.

**Варыянт 1.** 1. Гэта былі нізінныя мясціны. …Трапляліся даўнія лесасекі, зарослыя дрэўцамі, малліннікам, скрыпенем. Белы туман шматкамі выпаўзаў з нетраў. Было бязлюддзе. І цішыня. Залаты і шафранны захад шырокай паласой дагараў за ляснымі волатамі (У. Караткевіч). 2. “Не, Антоля, бессардэчны быў не я. І можа якраз табе пра гэта не варта ўспамінаць” (Я. Скрыган). 3. Вось тады і быў выдадзены строгі загад: не ўпускаць у Лоск ні пешага, ні коннага без камянёў. …Калі камянёў набралася цэлыя горы, іх рассартавалі па памерах, па колеры і пачалі ўзводзіць сцены (А. Гурскі). 4. Дзяўчынка засмяялася, шырока разявіўшы свой яшчэ зусім бяззубы роцік, і так зморшчыла трошкі сіняватае пераноссе, што здавалася, нібы яна сама хацела пазабаўляць незнаёмага дзядзьку (А. Кулакоўскі). 5. Адхінаючы рукою шырокія лапы ляшчынніку, Уладзіслаў ішоў з вудамі па ўтравелай сцяжынцы, якую, пэўна, пароўну білі звяры і людзі (У. Арлоў). 6. Госці заварушыліся; Аўгіння выціскала слёзы і цёрла далонню сухія вочы (К. Чорны). 7. Птушкі, мусіць, такім чынам развітваліся з роднай зямлёй, з мілым і любым ім Палессем, бо наперадзе іх чакаў далёкі і нялёгкі шлях (В. Гардзей). 8. Самы плённы перыяд у жыцці кампазітара, паўстанца, дзяржаўнага дзеяча Міхала Клеафаса Агінскага звязаны з Залессем, што на Смаргоншчыне (А. Ліс). 9. Патыхала струхлелым дрэвам, зямлёй, вільгаццю (А. Кажадуб). 10. Міхась быў цвёрда ўпэўнены: калі горад прайшоў праз стагоддзі, не знік у іх, не згарэў у пажарах войнаў, ён набывае асаблівую высакароднасць свайго аблічча (А. Кажадуб). 11. І так шкада ўсяго таго, з чым звыклася, без чаго не ўяўляла свайго жыцця (Б. Сачанка).

**Варыянт 2.** 1. Майская зеляніна пад дрэвамі адлівае чырванню бяды, шэранню папялішчаў, далягляд і акрайчык неба трывожна пунсавеюць, майская прозелень і просінь не змылі апёкаў. Яблынькі цвітуць нясмела, бель квецені як сівы туманок, як першае вяселле ў спаленай вёсцы (В. Карамазаў). 2. Тут нарадзілася і пражыла сваё самаадданае жыццё выдатная асветніца, адна з самых адукаваных жанчын свайго часу Ефрасіння Полацкая (С. Панізнік, В. Дышыневіч). 3. Так у Наднямонні з’явіўся свой сейбіт – пясняр сялянскай нядолі. Пачынаць паэтычны спеў яму дапамагалі хвалі Нёмана, гоман лесу, лугавое раздолле, якое настойліва стукалася ў акенца ціхай і глухой леснічоўкі (С. Александровіч). 4. Пакаленне, да якога належыць паэт [П. Панчанка], выпрабавана на грамадзянскую сталасць найперш вайной (М. Стральцоў). 5. Пад густой навіссю лістоты, праз якую ледзьве прабіваліся сонечныя промні, я вырашыў трохі адпачыць (З. Бяспалы). 6. Аднак цела ўжо звыклася з новым асяроддзем, і Тоня пераконвалася, што небяспекі няма (А. Кажадуб). 7. Пацякла вада з крыніцы па рове да Сажа, і ажыў роў безжыццёвы: зазелянелі яго схілы, а паабапал паўсталі бярозкі белыя (К. Кірэенка). 8. Мы, напэўна ж, ведаем, як прыемна пахне зацвілы асот. Але для нас гэта – пустазелле (Я. Сіпакоў). 9. Ён [гром] сапраўды не забавіцца, агалосіць сваім магутным голасам амярцвела-прыціхлае наваколле (І. Навуменка). 10. У сярэдзіне лета, часцей пад вечар, а то і ноччу, нечакана аднекуль падплывалі даўжэзныя плыты з тоўстага смольнага бярвення (С. Грахоўскі). 11. Купалле – бронзавыя дзяўчаты, якія пускалі на ваду бронзавыя вянкі, – ёй таксама спадабалася (Я. Сіпакоў).

**Заданне 3.** Запоўніце табліцу.

| Словы з фанетычным падаўжэннем | Словы, у якіх не адбываецца фанетычнага падаўжэння | Словы з марфалагічным падваеннем |
|---|---|---|
| | | |

**Варыянт 1.** Аблічча, абяссольваць, аддзячыць, Ала, асенні, баранеса, Аўдоцця, беладонна, бессмяротны, бясслёзны, ваколле, вецце, гама-апарат, граматыка, донна, досвіцце, Жанна, журавіннік, закуцце, Залессе, застрэшша, зелле, калектыў, карэспандэнцыя, колле, манна, Марока, піца, свацця, узмежжа, Фядосся.

**Варыянт 2.** Аддаць, аддзяліць, аднагалоссе, басейн, бессардэчны, бяссуфіксны, вазонны, верхаводдзе, водгулле, гама-дэфектаскоп, Ганна, група, дыяграма, завуголле, замужжа, застолле, Ілья, калекцыянер, карозія, касір, куцця, Ніца, Нона, панна, саванна, саміт, сасоннік, транссібірскі, тэрыторыя, фотаружжо, Юльян.

*Працяг будзе.*

Падрыхтавалі
**Дзмітрый ДЗЯТКО,**
**Наталля РАДЗІВАНОЎСКАЯ,**
**Вольга УРБАН.**

*Настаўнік прапануе*

# ДРАМАТЫЧНЫ ЛЁС АХВЯР СУСВЕТНЫХ ВОЙНАЎ. НЯЗДЗЕЙСНЕНЫЯ МАРЫ СТАРЭЙШАГА ПАКАЛЕННЯ АБ ШЧАСЦІ

## УРОК БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ ПА РАМАНЕ "ПОШУКІ БУДУЧЫНІ" КУЗЬМЫ ЧОРНАГА Ў X КЛАСЕ

*Працяг. Пачатак у № 7.*

**Мэты і задачы ўрока:** прааналізаваць фактычны літаратурны матэрыял і даць супастаўляльную характарыстыку вобразам Нявады і Сымона Ракуцькі, адзначыць агульнае і адрознае ў іх лёсах, раскрыць майстэрства аўтара ў стварэнні псіхалагічнага партрэта сваіх герояў; развіваць уменне аргументаваць, матываваць, даказваць, карыстацца фактамі з тэксту, характарызаваць вобразы; выхоўваць непрымірымае стаўленне да вайны як да вялікай пагрозы чалавецтву, да праяў жорсткасці і бесчалавечнасці.

**Тып урока:** камбінаваны.

**Абсталяванне:** мультымедыйная ўстаноўка.

**Эпіграф:** *Пладзіцеся, і размножвайцеся, і напаўняйце зямлю.*

З Бібліі.

### ХОД УРОКА

**I. Арганізацыйны момант.**

**II. Праверка ведаў, уменняў і навыкаў.**

**• Літаратурны дыктант па змесце 2-га і 3-га раздзелаў часткі "Украдзенае маленства".**

1) Нявада вяртаецца дамоў да Волечкі ў … годзе *(1920)*;

2) У першыя месяцы пасля вайны з Польшчай гэтая карчма была … *(тым пунктам, на які арыентаваўся кожны)*;

3) У карчме Нявада пачуў гісторыю пра … *(графа Паліводскага)*;

4) Сымон Ракуцька ўратаваў ад смерці … *(графа Паліводскага)*;

5) "Пamажы мне, божа, знайсці дзверы ў маю будучыню", – напісаў на сцяне карчмы … *(граф Паліводскі)*;

6) Калі пачалася вайна, Нявада пайшоў … *(на фронт)*;

7) Калі пачалася вайна, Сымон Ракуцька з бацькам і дзвюма сёстрамі апынуўся … *(сярод бежанцаў у абозе)*;

8) У гады вайны Нявада страціў … *(жонку)*;

9) У гады вайны Ракуцька страціў … *(бацьку, сясцёр)*;

10) Пасля вайны Нявада жыў з … *(дачкой, зяцем і ўнучкай)*;

11) Пасля вайны Ракуцька жыў … *(адзін у выгнанні)*;

12) У мірны час … "паглыбіўся ў шчасце жыць тут, дзе жыў з малых і маладых год, і займацца тым, да чаго праз усе апошнія цяжкія гады імкнулася яго душа" *(Нявада)*;

13) У мірны час … жыў марай, чаканнем, надзеяй, упартасцю думкі і фантазіяй *(Ракуцька)*.

**• Узаемаправерка.**

**III. Вызначэнне тэмы, мэт і задач урока.**

*Для рэалізацыі гэтага этапу вучні абапіраюцца на мэты і задачы мінулага ўрока.*

**IV. Этап падрыхтоўкі да актыўнага і свядомага засваення матэрыялу.**

**• Пытанні і заданні класу.**

Назавіце галоўных герояў рамана.

У чым драматызм лёсу старэйшага пакалення?

Ці здзейсніліся мары герояў рамана аб шчасці?

Выдзеліце найбольш важныя эпізоды, якія дапамагаюць раскрыць характары герояў старэйшага пакалення і маральна-этычны сэнс вобраза "ўкрадзенага маленства".

Назавіце мастацкія дэталі, якія дапамагаюць напоўніць раман псіхалагічным зместам.

**V. Вывучэнне новага матэрыялу.**

**• Літаратурнае даследаванне.**

Хто стаў ахвярай сусветных войнаў? *(Фактычна ўсе.)*

Каму ўдалося "абезгаловіць страшнага злодзея"? *(Кастусю, Волечцы, Няваду, Ракуцьку, іншым сумленным грамадзянам нашай Радзімы.)*

Хто з герояў застаўся верным сваім прынцыпам, поглядам на жыццё? *(Кастусь, Волечка, Нявада, Ракуцька.)*

Для чаго аўтар уводзіць у твор двух герояў – прадстаўнікоў старэйшага пакалення, лёс якіх склаўся надзвычай драматычна? *(Каб паказаць мужнасць, нязломнасць, стойкасць аднаго і слабасць, скоранасць, страх другога.)*

Якія ключавыя рысы характару выдзяляе пісьменнік у сваіх герояў?

**• Складанне кластара.**

**Партрэт**

| адносіны да падзей, да Радзімы, да сям'і, да людзей | | |
|---|---|---|
| імкненні і мары | пачуцці, думкі | учынкі |
| | вывады | |

*На аснове кластара настаўнік прапануе правесці даследаванне: вучні павінны знайсці неаб-*

*ходныя ўрыўкі з тэксту, супаставіць іх, а вывады запісаць у табліцу назіранняў. (Старонкі ўказваюцца.)**

| Нявада | Сымон Ракуцька |
|---|---|
| **Пра што гаворыць знешні выгляд герояў?** | |
| С. 191. | С. 194 – 195, 202. |
| **Пра што марылі героі, што было для іх самым дарагім?** | |
| С. 192. | С. 203. |
| **Як героі паставіліся да праблемы і бяды Паліводскага?** | |
| С. 193. | С. 195. |
| **Што значыла для герояў твора Радзіма?** | |
| С. 196 – 197. | С. 213 – 215. |
| **Як бачылі героі сваю будучыню і будучыню сваіх дзяцей?** | |
| С. 198. | С. 204. |
| С. 199. | С. 207, 211. |
| **Ці разумелі яны, хто адабраў маленства іх дзяцей? Ці гатовы яны былі змагацца з "Вялікім Злодзеем"?** | |
| С. 200. | С. 220, 223. |
| **Што героі лічылі багаццем, як яны ставіліся да золата?** | |
| С. 201. | С. 195. |
| **Чым было напоўнена жыццё герояў? Чым яны жылі?** | |
| С. 201. | С. 212. |
| **Калі героі адчувалі сябе шчаслівымі, а калі – няшчаснымі?** | |
| С. 201. | С. 209. |
| С. 202. | С. 215. |

• **Хвілінка адпачынку.**

*Гучыць музыка да к/ф "Сямнаццаць імгненняў вясны", адначасова дэманструюцца слайды з выявамі перадваеннага жыцця, дарогі, скрыжаванні, беларускія краявіды.*

| Як героі паводзяць сябе ў час Другой сусветнай вайны? | |
|---|---|
| С. 241. | С. 270. |
| С. 249. | С. 275. |
| С. 254. | С. 276. |
| С. 259. | С. 276. |
| С. 287. | С. 300. |

* Старонкі ўказаны паводле хрэстаматыі па беларускай літаратуры для XI класа агульнаадукацыйнай школы. Складальнікі: У. Дзіско, М. Мішчанчук, Т. Саўчук. – *Заўвага рэд.*

**VI. Замацаванне.**

• **Абагульняльная эўрыстычная гутарка.**

*Пасля аналізу табліцы настаўнік прапануе адказаць на наступныя пытанні:*

Як героі асэнсоўвалі падзеі вайны?

Чаму паводле задумы аўтара застаўся жыць Ракуцька, а не Нявада?

Каго параўнаў Кузьма Чорны з вобразам дрэва на скрыжаванні і чаму?

У чым, на ваш погляд, быў сэнс жыцця Сымона Ракуцькі і Нявады?

**VII. Падвядзенне вынікаў урока.**

Растлумачце сэнс біблейскага выказвання, узятага ў якасці эпіграфа да рамана і ўрока?

Які, на ваш погляд, самы важны абавязак у жыцці чалавека?

Якая для людзей самая вялікая каштоўнасць у жыцці?

З чым вы асацыіруеце сваё жыццё – з галінкай, лістом, камлём, парасткам, жолудам, кветкай? Абгрунтуйце свой выбар.

*Вучням прапануецца набор малюнкаў, на аснове якіх яны робяць калаж.*

**VIII. Дамашняе заданне (1-2 – на выбар).**

1) Скласці сінквейн да слоў *вайна, Густаў Шрэдар, граф Паліводскі, Кузьма Чорны.*

2) Скласці параўнальную характарыстыку Нявады і Ракуцькі.

3) Падрыхтаваць вусныя паведамленні пра ролю пейзажу, бытавых замалёвак, вобразаў-сімвалаў у рамане "Пошукі будучыні".

**Таццяна АПАЦКАЯ,**
настаўнік беларускай мовы і літаратуры
вышэйшай кваліфікацыйнай катэгорыі
сярэдняй агульнаадукацыйнай
школы № 43 г. Мінска.

*Працяг будзе.*

## КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТАЎ І ЮБІЛЕЙНЫХ ДЗЁН на 2010 год

ЛІСТАПАД

*Працяг. Пачатак на с. 50.*

**12 лістапада –** 125 гадоў з дня нараджэння Міхайлы Грамыкі (1885 – 1969), празаіка, драматурга, вучонага

90 гадоў з дня нараджэння Андрэя Макаёнка (1920 – 1982), драматурга, народнага пісьменніка Беларусі

70 гадоў з дня нараджэння Георгія Скрыпнічэнкі, жывапісца і графіка

**13 лістапада –** 80 гадоў з дня нараджэння Валянціны Крыкавай, артысткі балета, народнай артысткі Беларусі. Жыве ў Санкт-Пецярбургу

**14 лістапада –** 110 гадоў з дня нараджэння Нічыпара Чарнушэвіча (1900 – 1967), паэта, перакладчыка, драматурга

105 гадоў з дня нараджэння Міхася Васілька (сапр. Касцевіч; 1905 – 1960), паэта

**15 лістапада –** 80 гадоў з дня нараджэння Тамары Стагановіч, жывапісца, графіка, манументаліста. Жыве ў ЗША

75 гадоў з дня нараджэння Георгія Кісялёва, графіка, мастака па медалях

**16 лістапада –** 105 гадоў з дня нараджэння Яна Скрыгана (1905 – 1992), празаіка, паэта, заслужанага работніка культуры Беларусі

85 гадоў з дня нараджэння Кастуся Акулы (сапр. Аляксандр Качан; 1925 – 2008), празаіка, паэта, драматурга. Жыў у Канадзе

**17 лістапада –** 115 гадоў з дня нараджэння Ісака Платнера (1895 – 1961), ідыш- і беларускамоўнага паэта, празаіка

85 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Ясючэні (1925 – 1945), паэта

*Заканчэнне на с. 83.*

*Вытокі*

# БІБЛІЯ. НОВЫ ЗАПАВЕТ. ВЫВУЧЭННЕ "ПРЫТЧЫ ПРА БЛУДНАГА СЫНА"

## УРОК БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ Ў VI КЛАСЕ

**Мэты і задачы ўрока:** прааналізаваць змест і вобразы "Прытчы пра блуднага сына"; сфарміраваць паняцце пра прытчу; развіваць уменне вучняў характарызаваць герояў твора, вусна выражаць уласныя думкі і пачуцці, абгрунтоўваць сваю ацэнку прачытанага твора; фарміраваць уяўленне, што Біблія – найвыдатнейшы помнік сусветнай культуры і літаратуры, невычэрпная скарбніца маральнага і духоўнага багацця чалавецтва; спрыяць выхаванню ў вучняў пачуцця спачування і суперажывання героям, павагі да старэйшых, пачуцця адказнасці за свае ўчынкі.

**Абсталяванне:** Біблія, рэпрадукцыя карціны "Вяртанне блуднага сына" Рэмбранта, ТСБЛМ, мультымедыйная прэзентацыя.

**Асноўны метад работы:** праблемна-пошукавы.

**Эпіграф:**

*…Да любові, да чысціні,*
*Да святла, да святога ўлоння,*
*Усявышні, і заўтра і сёння*
*Заблуканыя душы вярні!*

Рыгор Барадулін.

### ХОД УРОКА

**І. Арганізацыйны момант.**

**ІІ. Праверка дамашняга задання.**

**• Франтальнае апытанне.**

1. Што ў перакладзе з грэчаскай мовы абазначае слова *Біблія*?

2. Як доўга пісалася гэтая кніга?

3. Пракаменціруйце модуль № 1.

*На экране – слайд № 1.*

**Модуль № 1 "Біблія"**

| | |
|---|---|
| Стары Запавет (пра стварэнне Богам Сусвету) | Новы Запавет (пра жыццё Ісуса Хрыста) |

4. Колькі дзён Бог ствараў Сусвет?

5. Раскажыце, што было створана ў кожны з шасці дзён. Пры неабходнасці карыстайцеся модулем № 2 "Стварэнне Сусвету".

*На экране – слайд № 2.*

**Модуль № 2 "Стварэнне Сусвету"**

| | | |
|---|---|---|
| святло і цемру | **І стварыў Бог** | свяцілы (сонца і месяц) і зоркі |
| цвердзь і неба | | паўзуноў, рыб і птушак |
| жывёльны свет і чалавека | | сушу (зямлю), раслінны свет і мора |

6. Як называюцца старадаўнія спевы і малітвы?

7. Як называюць вучняў Ісуса Хрыста?

8. На якой мове напісана Біблія?

9. Хто ўпершыню пераклаў Біблію на адну са славянскіх моў?

10. Хто першым пераклаў Біблію на старабеларускую мову?

*Дома школьнікі рыхтавалі пераказ аднаго з біблейскіх апаведаў з "Дзіцячай Бібліі". Настаўнік прапануе выступіць 2-3 вучням, пасля падагульняе іх адказы.*

Хочацца, каб гэтыя творы сталі вашым першым урокам на шляху да разумення мудрай Кнігі.

**ІІІ. Тлумачэнне новага матэрыялу.**

**• Уступнае слова настаўніка.**

Як ужо згадвалася, у Новым Запавеце апісваецца жыццё Ісуса Хрыста, які быў пасланы Богам-Айцом на зямлю вучыць людзей дабру, міласэрнасці, паслушэнству, праўдзівасці. Вучыць праз слова, праз свае ўчынкі.

Сёння мы з вамі пазнаёмімся з біблейскім апаведам, які называецца "Прытча пра блуднага сына".

*Вучні запісваюць тэму ўрока ў сшыткі.*

Што ж такое прытча? Звернемся да азначэння ў падручніку.

Прытча – гэта невялікае іншасказальнае апавяданне з павучальным сэнсам, і сёння на ўроку мы з вамі паспрабуем адказаць на пытанне *(фармулюецца праблемнае пытанне)*: якія жыццёвыя ўрокі дае нам твор "Прытча пра блуднага сына"?

Як вы лічыце, якія задачы на сённяшнім уроку мы з вамі павінны вырашыць, каб адказаць на прапанаванае пытанне?

*Вучні фармулююць задачы ўрока.*

Давайце праверым, ці ўсе задачы мы вызначылі.

*На экране – слайд № 3.*

**Задачы ўрока:**

– зразумець змест твора;

– паназіраць за паводзінамі герояў, іх учынкамі;

– вызначыць, у чым заключаецца павучальнасць прытчы.

Эпіграф да ўрока – словы з верша "Божа, вярні!" Рыгора Барадуліна.

*На экране – слайд № 4 (словы эпіграфа).*

**• Пытанні да вучняў.**

1. У якой форме напісаны верш?

2. Запішыце ў сшытку асацыяцыі да слова *заблуканы*.

3. Звернемся да тлумачальнага слоўніка і паспрабуем раскрыць значэнне слова *заблукаць. (Блукаць, зайсці куды-небудзь; ад блукаць: бязмэтна*

*хадзіць, гуляць; пераходзіць, пераязджаць з месца на месца ў пошуках каго-небудзь ці чаго-небудзь.)*

4. Аб чым просіць аўтар Бога?

"Прытчу пра блуднага сына" нельга чытаць без глыбокага хвалявання, таму што гэты твор змяшчае ў сабе дзівосную Божую любоў і замілаванне. Пры слуханні тэксту звярніце ўвагу, як мякка, як пакорліва расказвае Гасподзь пра здарэнне паміж сынам і бацькам, як Ён ціха, з болем і пяшчотай гаворыць пра тое, што часам здараецца паміж намі і нашымі роднымі, сябрамі.

**IV. Чытанне "Прытчы пра блуднага сына".**

**V. Арыентацыйная гутарка.**

1. Які эпізод вам найбольш запомніўся? Чаму?

2. Хто з герояў вам спадабаўся і чым?

3. Чые ўчынкі вам не спадабаліся? Чаму?

4. Ці заўважылі вы, што ў тэксце ёсць шмат сінонімаў да слова *бацька*? Давайце адшукаем іх. *(Ойча, айцец, тата.)*

5. Як вы разумееце словазлучэнне *блудны сын*?

6. Чым будуць з'яўляцца ў дачыненні да слова *блудны* словы *дрэнны*, *распусны*, *непрыстойны*?

**VI. Аналіз твора.**

Скажыце, калі дзеці звычайна атрымліваюць спадчыну ад бацькоў? А што мы бачым у прытчы?

*Вырас юнак у бацькоўскім доме, назапасіліся ў ім маладыя сілы, і падалося яму, што вузка, цесна яму ў тым доме, дзе ён вырас, у той атмасферы, у якой яму наканавана пражыць усё сваё жыццё, калі ён застанецца пры сваім бацьку, у вёсцы, у вузкім асяроддзі людзей, якія хоць і любяць яго, але не захапляюцца ім. І вось ён ідзе да бацькі і гаворыць яму: "Дай мне, бацька, тое, што мне будзе належаць пасля тваёй смерці…" Гэта сказана так коратка і так жорстка.*

Чаму ж сын звярнуўся да бацькі з такімі словамі?

Як, на вашу думку, успрыняў бацька словы малодшага сына: "Ойча! Дай мне з маёнтка тую частку, якая мне належыць"?

*Дзіўна, але на просьбу сына бацька адгукнуўся бясконцай міласцю: ён сына не папракнуў, ён яго не прасіў апомніцца – а даў усё, што той прасіў.*

Як вы лічыце, ці правільна зрабіў бацька? У гэтым учынку выявілася яго сіла ці слабасць? Абгрунтуйце сваё меркаванне.

Як жылося сыну ў далёкай краіне?

Жыццё будуецца па законе бумеранга, і нанесеныя крыўды вяртаюцца. Хто і калі абышоўся з сынам так, як ён абышоўся з бацькам?

Што тады, можа быць, упершыню адчуў сын?

*Ад голаду, тугі, пакінутасці, ганьбы, сораму ён апомніўся. Аказваецца, жыў, быццам у ім самім нічога няма і быццам усё ёсць: багацце, прыгажосць, сябры… І нічога не засталося, акрамя ўласнага гаротнага і загубленага жыцця. І тады ён успомніў, што недзе ў яго ёсць бацька, ад якога ён некалі адмовіўся: "Бацькі мне не трэба, мне трэба свабода!" А цяпер гэтая свабода стала рабствам, абяздоленасцю, жахам. І ён успомніў, што значыць слова бацька, і зноў гэтае слова вымавіў з глыбокай пашанай і са слязьмі сораму і раскаяння.*

Якое ж рашэнне прымае сын? Ці лёгка яно яму далося? Чаму?

*І сын ідзе дадому. А бацька ніколі не пераставаў яму быць бацькам. Колькі разоў, напэўна, ён выходзіў на дарогу з надзеяй, што вернецца яго хлопчык, што не мог ён пайсці назаўсёды…*

Як сустрэў сына бацька? Пра што гэта сведчыць?

На біблейскія сюжэты напісана шмат твораў. "Прытча пра блуднага сына" не раз натхняла мастакоў, у тым ліку і галандца Рэмбранта, які стварыў карціну "Вяртанне блуднага сына" (1668). Давайце параўнаем біблейскі твор і яго асэнсаванне мастаком.

*На экране – слайд № 5 з выявай карціны "Вяртанне блуднага сына" Рэмбранта.*

Які эпізод перададзены на карціне? Скажыце, чаму Рэмбрант адлюстраваў менавіта гэты эпізод.

Звярніце ўвагу, якія колеры пераважаюць.

Каго мы бачым у цэнтры карціны? А на другім плане?

Якім мы бачым сына, а якім – бацьку? Пры дапамозе якіх сродкаў аўтар перадае пачуцці бацькі і сына?

Якія словы з біблейскай прытчы можна падабраць да гэтай ілюстрацыі? Знайдзіце іх у тэксце і зачытайце.

*Вучні зачытваюць урывак з тэксту.*

Звярніце ўвагу: бацька загадаў прынесці сыну не толькі адзенне, але і пярсцёнак. У старажытнасці пярсцёнак быў не проста ўпрыгожаннем. У тыя далёкія часы, калі мала хто ўмеў пісаць, пярсцёнкам запячатвалі, як пячаткай, усялякі ліст ці дакумент. А той, хто трымаў у руцэ пярсцёнак іншага чалавека, меў уладу над яго жыццём, над яго маёмасцю, над яго гонарам. І вось бацька даў сыну пярсцёнак – таму, хто ўсім даказаў, што ён не варты ні любові, ні даверу. А чаму? Не таму, што сын доўга яму расказваў пра цяжкасці свайго жыцця на чужыне, а таму, што вярнуўся. Бацька радуецца: "Ён вярнуўся!" Чаму выклікае такую радасць у бацькі вяртанне сына? Чаму бацька не папракае за растрачаныя грошы, за тое, што сын некалі так пакрыўдзіў яго?

Як часта, калі мы з кім-небудзь пасварымся, чалавек прыходзіць да нас саромеючыся, не ведаючы, як мы яго сустрэнем, толькі з надзеяй, што калі мы адчынім дзверы на яго стук, то твар наш заззяе радасцю. І як часта мы бываем суровымі з вінаватым.

У бацькі быў яшчэ адзін сын, старэйшы. Як ён успрыняў радасць бацькі?

Як вы разумееце словы бацькі: "…брат твой гэты быў мёртвы і ажыў, прападаў і знайшоўся"?

Параўнайце паводзіны абодвух братоў. Ці лепшы за малодшага быў старэйшы сын? Чаму?

Скажыце, ці будзе працягваць крыўдзіцца на бацьку старэйшы сын пасля таго, як бацька растлумачыць яму, чаму дараваў яго брату?

Якога, на вашу думку, сына можна лічыць добрым, прыстойным, паслухмяным? А якога – дрэнным, "блудным"? Свае разважанні падмацуйце прыкладамі з твора.

Шчасце бацькоў у дзецях. Ці шчаслівы гэты бацька? Чаму?

Давайце перачытаем апошні абзац прытчы. Як вы разумееце гэтыя словы? Чаму хацеў нас навучыць гэтай прытчай Ісус Хрыстос?

Хто паказаны ў прытчы ў вобразе бацькі, а хто – у вобразе сына?

Якая галоўная думка прытчы? Ці даруе Бог людзям іх дрэнныя ўчынкі, калі яны прыносяць пакаянне, пачынаюць разумець, што жылі не так, як трэба?

Параўнайце "Прытчу пра блуднага сына" і ўрывак з верша "Споведзь блуднага сына" Змітра Марозава. Чым яны блізкія, а чым адрозніваюцца?

*На экране – слайд № 6 (вучань зачытвае на памяць урывак з верша "Споведзь блуднага сына" Змітра Марозава).*

**VII. Замацаванне.**

Давайце звернемся да нашага пытання: якія жыццёвыя ўрокі дае нам прытча? Ці дапаможа нам эпіграф адказаць на гэтае пытанне? Давайце яшчэ раз перачытаем яго. Вызначце асноўную ідэю верша.

*Настаўнік звяртае ўвагу вучняў на слайд № 4.*

Ці робім мы ў жыцці такія ўчынкі, за якія нам потым сорамна? Як жа трэба паводзіць сябе ў такіх сітуацыях?

Ці заўсёды вы слухаеце старэйшых, у тым ліку і сваіх бацькоў? Ці разумееце іх перасцярогі?

Ці дапамагла вам гэтая прытча змяніць свае адносіны да слоў і парад дарослых?

Як вы разумееце выраз *перамога над самім сабой*? Да якога героя прытчы і чаму яго можна аднесці?

**VIII. Падагульненне вывучанага на ўроку.**

Ведаеце, у Святым Пісанні ёсць запаведзі, і калі іх выконваць, то жыццё будзе шчаслівым і прыгожым. Яны перад вамі на экране – маральныя і духоўныя законы, дадзеныя Богам людзям.

*На экране – слайд № 7 – "Запаведзі Божыя".*

Знайдзіце і выпішыце сабе ў сшытак тую запаведзь, якая вучыць правільным адносінам да бацькоў і старэйшых.

Гэтая запаведзь мае вельмі шырокае значэнне. Сапраўды, яна вучыць любіць і паважаць бацькоў, слухаць іх карысныя парады, быць удзячным за ўсё тое добрае, што яны зрабілі для нас. Наш абавязак – клапаціцца пра іх, тым больш калі яны захварэюць ці пастарэюць, а таксама аказваць любую неабходную дапамогу і бацькам, і сваякам, і проста старэйшым. Запаведзь патрабуе павагі і да настаўнікаў, і да пажылых людзей, што побач з намі. Ды і бацькі на больш доўгі час застануцца з намі, калі мы жывём з імі ў згодзе, не скарачаем іх дні сваімі дрэннымі ўчынкамі.

Пашана да бацькоў – гэта і памяць пра продкаў, і любоў да роднай зямлі.

Жадаю вам, каб вы ў сваім жыцці кіраваліся народнай мудрасцю: "Шануй бацьку ды Бога – будзе табе паўсюль дарога". Помніце, што жыццё нам дадзена на добрыя справы.

**IX. Падвядзенне вынікаў урока, выстаўленне адзнак.**

**X. Рэфлексія.**

**XI. Дамашняе заданне.**

Падрыхтаваць паведамленне на тэму «Над чым прымусіў мяне задумацца аповед "Прытча пра блуднага сына"?».

**Ірына ХВЯСЮК,**
настаўнік беларускай мовы і літаратуры
першай кваліфікацыйнай катэгорыі
сярэдняй агульнаадукацыйнай школы № 3 г. Пінска.

*Цікава ведаць*

Цяжка злічыць усіх творцаў, якіх натхнялі біблейскія (і ў прыватнасці евангельскія) сюжэты.

Сярод найбольш вядомых мастакоў, што звярталіся да прытчы пра блуднага сына, Якопа Пальма Малодшы ("Блудны сын"; каля 1600); Альбрэхт Дзюрэр ["Блудны сын пасвіць свіней (Раскаянне блуднага сына)"; каля 1496; Масква]; Рэмбрант ("Вяртанне блуднага сына"; 1668; Санкт-Пецярбург); "Аўтапартрэт з Саскіяй на каленях"; 1635; Дрэздэн; гэты твор таксама звязваецца самім аўтарам з гісторыяй блуднага сына і адлюстроўвае эпізод разгульнага жыцця юнака); Барталаме Эстэбан Мурыльё ("Вяртанне блуднага сына дадому"; каля 1671; Вашынгтон); Іеранім Босх ("Блудны сын"; 1500-я гг.; Ратэрдам). Серыя "Прытча пра блуднага сына" лічыцца вяршыняй мастакоўскай творчасці славутага ўкраінскага паэта і мастака Тараса Шаўчэнкі.

*Прапануем план-канспект*

Святлана МАРОЗ
Марына РЖАВУЦКАЯ

# САЧЫНЕННЕ-АПАВЯДАННЕ З АПІСАННЕМ ПАМЯШКАННЯ

## УРОК РАЗВІЦЦЯ МАЎЛЕННЯ Ў VI КЛАСЕ

**Мэта і задачы:** вучыць спалучаць розныя тыпы тэкстаў: актуалізаваць і паглыбіць тэарэтычныя веды пра асаблівасці тэкстаў-апавяданняў і тэкстаў-апісанняў і ўменне адбіраць моўныя сродкі ў адпаведнасці з тыпам тэксту; вызначаць істотнае і заўважаць адметнае; развіваць вуснае і пісьмовае маўленне вучняў; садзейнічаць выхаванню павагі да роднага слова.

**Абсталяванне:**

1. Урывак з твора "Домік на ўскраіне Ялты" Сяргея Грахоўскага.

2. Запіс на дошцы магчымых варыянтаў назваў сачынення:

"Я хаце абавязаны прапіскаю..." (Аркадзь Куляшоў);

"Напоўнены сонцам пакой" (Анатоль Астрэйка);

"Толькі сніцца мне пакой у дамку драўляным" (Пімен Панчанка);

"Тут кожны шорах песціць слых" (Рыгор Барадулін);

"Няма нічога лепшага за раніцу ў матчынай хаце" (Анатоль Кудравец);

"Мой светлы дом расчынен для гасцей" (Мікола Шабовіч);

а таксама эпіграфаў:

"Таму шануй людскую столь і сцены для жытла парадкуй, – няхай бядота, сум і золь праходзяць міма тваёй хаткі" (Анатоль Астрэйка);

"Той домік нізкі нехта любіў, з тым домікам звязаны нечы лёс" (Анатоль Вярцінскі);

"Хоць ён не надта, можа, і вялікі, а ў ім жыву – і лепшага няма" (Мікола Шабовіч);

"...цэнтр Сусвету знаходзіцца не недзе там, за гарамі і лясамі ў трыдзявятым царстве, а тут, у нашым двары, у нашай хаце..." (Васіль Гігевіч);

"У гасцях добра, а дома лепш" (Прыказка);

"Дарагая тая хатка, дзе радзіла мяне матка" (Прыказка);

"У сваёй хаце і сцены памагаюць" (Прыказка).

**Тып урока:** урок развіцця маўлення.

### ХОД УРОКА

**I. Арганізацыйны момант.**

*Цыкл матэрыялаў па падрыхтоўцы і правядзенні сачыненняў розных тыпаў друкуецца з 2005 г. Пра падрыхтоўку да напісання сачынення-апавядання з апісаннем памяшкання* ***С. Мароз і М. Ржавуцкая*** *распавялі ў чэрвеньскім нумары.*

**II. Паведамленне тэмы, мэты і задач урока.**

**• Уступнае слова.**

**Настаўнік.** Сёння на ўроку мы будзем працягваць вучыцца апісваць памяшканне. Нам неабходна апісаць пакой так, каб той, хто будзе чытаць напісанае, не толькі ўбачыў яго наяве, але і многае даведаўся пра гаспадара. А для гэтага трэба перадаць тыя пачуцці, той настрой, якія выклікала ў нас убачанае.

**III. Тлумачэнне новага матэрыялу.**

**• Гутарка па тэарэтычным матэрыяле.**

**Настаўнік.** Які тып тэксту адносяць да апавядання?

**Вучні.** Апавяданне – гэта такі тып тэксту, у якім у пэўнай паслядоўнасці паведамляецца пра якія-небудзь факты, падзеі. Апавяданне часта спалучаецца з апісаннем і разважаннем.

**Настаўнік.** Які тып тэксту адносяць да апісання?

**Вучні.** Апісанне – гэта такі тып тэксту, у якім пры дапамозе пералічэння асноўных і адметных прымет характарызуецца аб'ект апісання.

**Настаўнік.** Якія моўныя сродкі (часціны мовы) павінны абавязкова прысутнічаць у апісанні?

**Вучні.** Апісанне любога аб'екта фарміруецца, як правіла, пры дапамозе прыметнікаў, што абазначаюць колер, форму, памер, матэрыял, з якога зроблены прадмет, і да т. п.

**Настаўнік.** Якія часткі ўваходзяць у кампазіцыйную схему апавядання?

**Вучні.** Кампазіцыйная схема апавядання мае наступныя элементы: уступ, асноўную частку, канцоўку.

**• Фармулёўка асноўнай думкі сачынення, падбор эпіграфа.**

**Настаўнік.** Прачытайце, калі ласка, выказванні, якія прапануюцца вам у якасці тэм сачынення, і эпіграфы. Падумайце, якая асноўная думка заключана ў іх. *(Вучні адказваюць, настаўнік абагульняе.)*

Любое памяшканне – ці гэта ўласны дом, пакой, ці пакой вашага сябра (маці, бацькі, сястры), ці школьны клас, ці кніжная гасцёўня – выяўляе адметныя рысы гаспадара (або сваё функцыянальнае прызначэнне). Трэба толькі

*Звесткі пра аўтараў змешчаны ў № 1.*

пастарацца заўважыць іх, і кожны дом шмат чаго цікавага раскажа пра сябе і пра свайго ўладальніка. Акрамя таго, той настрой, тая аўра, якая прысутнічае ў кожным доме, уздзейнічае (станоўча ці адмоўна) на душэўны стан, пачуцці наведвальніка.

Выказванні беларускіх паэтаў і празаікаў, прыказкі пераконваюць, што няма нічога лепшага і мацнейшага па сіле ўздзеяння за родны дом, за матчыну хату, дзе мы нарадзіліся, дзе прайшло маленства і юнацтва, бо менавіта з тым месцам звязаны самыя светлыя ўспаміны, самыя цікавыя падзеі і факты.

• **Складанне плана сачынення.**

**Настаўнік.** Мы ўжо ўспомнілі, што кожнае сачыненне-апавяданне пачынаецца з уступу. З чаго ж варта пачаць сачыненне-апавяданне, у якім ёсць апісанне памяшкання? Паслухайце, як пачынаюць свае апісанні вядомыя беларускія пісьменнікі. *(Настаўнік чытае тэксты.)*

1. *Чамусьці прыгадаўся дом у самым канцы пыльнай, з вузенькімі драўлянымі тратуарамі Маскоўскай вуліцы, што восенню 1875 года купіў Ілья Мікалаевіч.*

Павел Ткачоў. Быў месяц кастрычнік.

2. *Міхайлаўскае я наведаў пазалетась, у канцы жніўня шэсцьдзесят другога года, мокрым і яшчэ бязлюдным раннем.*

Янка Брыль. Трохі пра вечнае.

3. *Бібліятэка была ў тым жа будынку, што і кантора і клуб. Займала два пакойчыкі…*

Алесь Жук. Такая восень.

4. *Пакой быў невялікі, поўны мяккага змроку, здаецца, ад таполевага ценю на вуліцы, і ціхі, як бы знарок зроблены так, каб у ім хацелася думаць.*

Ян Скрыган. Некалькі хвілін чужога жыцця.

5. *Але зойдзем у хату, якой яна была яшчэ не так даўно, а часам сустракаецца і зараз.*

Уладзімір Караткевіч. Зямля пад белымі крыламі.

**Настаўнік.** Такім чынам, з чаго трэба пачаць сачыненне? *(Вучні адказваюць, настаўнік абагульняе.)*

На пачатку сачынення трэба ўзгадаць абставіны, якія прывялі ў той ці іншы дом, можна ўказаць месца, дзе ён знаходзіцца, прыгадаць час, калі пабывалі, перадаць агульнае ўражанне ад памяшкання, назваць вызначальную рысу (напрыклад, пакой, дзе хочацца думаць).

Пра што мы будзем пісаць у асноўнай частцы сачынення? *(Вучні адказваюць, настаўнік абагульняе.)*

Асноўная частка сачынення (самая вялікая па аб'ёме) – гэта і ёсць уласна апісанне, у якім вы павінны назваць істотныя і адметныя рысы аб'екта (памяшкання). Паслухайце, калі ласка, яшчэ некалькі тэкстаў, прасачыце за тым, як вядуць апісанне памяшканняў вядомыя майстры слова. *(Настаўнік чытае тэксты.)*

1. *Хата была прасторная і пабудаваная з адборнага матэрыялу. Значную частку хаты займала прысадзістая печ з ямкамі, пячуркамі, выступамі, карнізікамі і цэлымі катушкамі па баках, дзе хаваліся розныя рэчы хатняга ўжытку. Ад самай печы да процілеглай сцяны раскінуўся шырокі палок, такі шырокі, што на ім можна было класціся спаць упоперак. У галавах, як горы, высіліся шырокія падушкі, зложаныя на дзень суконныя коўдры ў клетку, посцілкі і прасціраллы хатняга вырабу… Побач з палком каля сцяны стаяў з гарбатым пакатым вечкам пакоўны куфар, акованы лістовым жалезам. У куфры хаваліся яшчэ дзявочыя Аўгініны ўборы і дабро, набытае за часы замужаства: палотны, абрусы, настольнікі, ручнікі, хусткі, паясы, кофты, спадніцы.*

Якуб Колас. Дрыгва.

2. *Хвядоскава Антоля ўвалакла ў хату тэлевізар, агледзела хату, як чужую, і завагалася: куды, куды яго паставіць? Трэ было знайсці самы найлепшы кут. Падумаўшы, Антоля панесла ў чыстую палавіну хаты – у залу.*

*Зала была заслана роўнымі дарожкамі даматканых палавікоў, стаялі ў кутках у вялізных, аднаму не падняць, кадушках зялёныя фікусы. Ля адной сцяны, дзе віселі ў драўляных фарбаваных рамачках карткі самой Антолі, Хвядоскі – яшчэ маладых, а таксама дзяцей, радні, як блізкай, так і далёкай, мясцілася шафа, у куце ля яе – вядомае ўсяму Жыціву "трымо". Процілеглую сцяну займалі жалезны бліскучы – самая мода – ложак з гарою падушак і канапа, якую нядаўна купіла Антоля на зайздрасць жыціўцам. На сцяне ля канапы вісеў папяровы дыван. Антоля яго купіла ў Бярозаве на рынку – на ім красаваліся лебедзі, што плавалі на возеры. І лебедзі, і вада ў возеры, і трава, і прыгожыя будынкі, якія выторкваліся з-за дрэў, былі намаляваны бела-чырвона-зялёнымі фарбамі, аж зайздрасць брала… Самы лепшы кут быў у зале…*

Васіль Гігевіч. Жыціва.

3. *У вузкім – з вузкімі высокімі вокнамі – пакоі было цемнавата. Ложак, на якім ляжаў хворы, быў адмысловы: упрыгожаныя ўсялякімі выразнымі ўзорамі спінкі яго былі таксама высокімі, асабліва тая, што была ў галаве хворага. І падушкі пад галавой Адверніка былі падбіты высока, і высокі посуд з нейкімі адварамі – густымі, цемнаватымі – высіўся на крэсле, прыстаўленым збоку да ложка. Другое крэсла стаяла воддаль. "Маргарыціна", – падумаў Скарына, адчуваючы ўсю незвычайнасць у гэтым пакоі крэсел, так*

*рэдкіх у дамах купцоў і недасяжных, як каралеўскі трон, не тое што купцу, але і літоўскім магнатам. Ды і крэслы тут былі не знакамі пыхі, раскошы, багацця, а… сведчаннем таго, што нічога ў гэтым доме не шкадавалі, каб лепш стала яго гаспадару, каб ён адно паправіўся, каб найвыразней адчуваў усю моц прагі дамашніх, спакутаванай жонкі перабіць тое, што ці праз вузкія вокны, ці праз вузкія дзверы, а ўсё ж у гэты пакой пралезла, праціснулася, зваліла яго гаспадара на пуховую пасцель…*

Алег Лойка.

Францыск Скарына, або Сонца маладзіковае.

**Настаўнік.** Прачытаныя апісанні ўваходзяць у буйныя празаічныя і публіцыстычныя творы. Апісваючы памяшканні, аўтары называюць тыя рэчы, прадметы, якія ў іх знаходзяцца, звяртаюць увагу на месца іх размяшчэння (*печ займала значную частку хаты, побач з палком, ля сцяны, у куце ля шафы, ля канапы, у галавах, збоку да ложка*), форму, памер, матэрыял (*шырокі палок, суконныя коўдры ў клетку, падушкі, як горы, вялізныя кадушкі, даматканыя палавікі, адмысловы ложак, выразныя ўзоры спінак*). Падкрэсліваюць адметнае, што характэрна для пэўнага памяшкання. З апісання Якуба Коласа відаць, што гэта была хата заможнага селяніна, апісанне Васіля Гігевіча насычана выразнай іроніяй, з апісання Алега Лойкі разумееш: абстаноўка памяшкання звязана з пэўнымі трагічнымі падзеямі, якія напаткалі сям'ю (хвароба гаспадара).

**Настаўнік.** А цяпер давайце прачытаем апісанне чэхаўскага доміка, зробленае Сяргеем Грахоўскім, і, абапіраючыся на яго, складзем план будучага сачынення. *(Настаўнік раздае тэксты; настаўнік або вучань чытаюць.)*

*Каб добра пазнаць чалавека, зразумець, чым ён жыве, трэба пабыць у яго дома. Кожная кватэра, кожны пакой мае сваё непаўторнае аблічча, свае асабістыя рысы, якія раскрываюць і характарызуюць іх гаспадара. Ялцінскі дом Чэхава – ад пачатку да канца – чэхаўскі дом. Невялічкі, просты, збудаваны з дзікага мясцовага камення, ён увесь пранізаны сонцам, сцены яго адліваюць мяккім блакітам, нібы складзеныя з цвёрдага цукру.*

*Тая ж прастата і асветленасць у кожным пакоі. Нічога крыклівага і шыкоўнага, нічога лішняга. Па вузкім калідоры адразу заходзіш у невялікую сталовую. Абедзенны стол накрыты кужэльным абрусам, просценькі буфет, гнутыя венскія крэслы, а ў кутку каля дзвярэй на веранду стаіць піяніна даўняй работы. Антон Паўлавіч сам не іграў, але вельмі любіў музыку. У яго доме былі частымі гасцямі не толькі славутыя пісьменнікі, але і музыканты, кампазітары, артысты, мастакі. На гэтым піяніна не раз ігралі свае творы Рахманінаў і Спендзіяраў, пад іх акампанемент спяваў "Дубінушку", "Тройку", арыі Мефістофеля і Сусаніна Фёдар Шаляпін. За гэтым сталом не раз сядзелі Горкі і Мамін-Сібірак, Купрын і Бунін, Андрэеў і Гіляроўскі. Тут былі заснавальнікі МХАТа Станіслаўскі і Неміровіч-Данчанка, славутыя акцёры Качалаў, Масквін, Арцём і ўся трупа праслаўленага тэатра, які так глыбока зразумеў і так натхнёна прачытаў усяму свету чэхаўскія п'есы.*

*Глядзіш праз вокны веранды, што прымыкае да сталовай, у невялікі дворык, а там ужо стаіць доўгая чарга экскурсантаў… Глядзіш і думаеш: вось яны, шчаслівыя нашчадкі тых пакутнікаў, што больш за паўвека назад пратапталі сцежку да дома шчырага чалавека, чулага доктара і вялікага пісьменніка. І гэтая сцежка да свелай памяці Чэхава ніколі не забудзецца і не зарасце.*

- **Праца з тэкстам.**

**Настаўнік.** Ці адпавядае тэкст кампазіцыйнай схеме сачынення? Знайдзіце і зачытайце кожную частку.

**Вучні.** Тэкст адпавядае кампазіцыйнай схеме, складаецца з трох частак: уступу (першы абзац тэксту), асноўнай часткі (другі абзац), канцоўкі (трэці абзац).

**Настаўнік.** Пра што піша Сяргей Грахоўскі ва ўступе?

**Вучні.** Уступ тэксту пачынаецца з разважання, у якім аўтар выказвае вельмі слушную думку пра тое, што кожны дом – адбітак, адлюстраванне характару, інтарэсаў, звычаяў, захапленняў свайго гаспадара.

**Настаўнік.** Ці заўсёды тып тэксту адпавядае апісанню? Як пабудавана яго асноўная частка?

**Вучні.** Асноўная частка тэксту спалучае ў сабе апісанне і апавяданне (паведамленне пра тыя падзеі, факты, што былі звязаны з чэхаўскімі рэчамі: піяніна, на якім ігралі Рахманінаў і Спендзіяраў; абедзенны стол, за якім сядзелі Горкі і Мамін-Сібірак, і інш.). Такое арганічнае спалучэнне розных тыпаў тэксту толькі ўзбагачае апісанне, дапамагае больш выразна ўявіць тую творчую атмасферу, якая панавала ў доме.

**Настаўнік.** Чым заканчваецца тэкст? Пра што піша аўтар у канцоўцы?

**Вучні.** У канцоўцы аўтар выказвае свае адносіны да асобы Чэхава, падкрэслівае неўміручасць яго творчасці для ўсіх пакаленняў.

**Настаўнік.** А цяпер, абапіраючыся на змест і кампазіцыю тэксту, складзем і запішам план сачынення.

**План**

1. Абставіны, пры якіх вы пабывалі ў памяшканні (калі пабывалі, у сувязі з чым, дзе знаходзіцца, каму належыць, найбольш істотнае, што кідаецца ў вочы).

2. Адметныя рысы (прыметы) памяшкання (прадметы абстаноўкі, рэчы, іх форма, памер, матэрыял, цікавыя падзеі і факты, звязаныя з гэтымі рэчамі).

3. Пачуцці і настрой, якія выклікае памяшканне.

4. Аўтарскія адносіны да памяшкання, яго ацэнка.

• **Лексіка-стылістычная праца.**

**Настаўнік.** Якімі словамі аўтар перадае агульнае ўражанне ад доміка Чэхава?

**Вучні.** Сяргей Грахоўскі на пачатку апісання звяртае нашу ўвагу на асноўныя, вызначальныя рысы, характэрныя для чэхаўскага дома, – прастату і асветленасць.

**Настаўнік.** Якім чынам вядзецца апісанне пакояў дома? Якія моўныя сродкі выкарыстоўвае пісьменнік пры апісанні?

**Вучні.** Апісанне насычана азначэннямі, якія дакладна перадаюць знешні выгляд дома: *невялічкі, просты, збудаваны з камення* і інш. Прыметнікі, выбраныя аўтарам для абмалёўкі абстаноўкі дома (*просценькі*, *кужэльны*, *невялікі*), наводзяць на думку – у такім звычайным месцы жыў чалавек незвычайнага таленту, і гэта паклала адбітак на ўсё аблічча дома.

**Настаўнік.** Якія вобразныя сродкі ўжываюцца ў тэксце?

**Вучні.** Каб перадаць сваю замілаванасць воблікам дома, аўтар выкарыстоўвае эпітэты і параўнанні (*мяккі блакіт, увесь пранізаны сонцам, сцены, нібы з цвёрдага цукру,* і інш.).

**Настаўнік.** Пры дапамозе якіх слоў аўтар перадае ўласную ацэнку творчасці Чэхава?

**Вучні.** Для таго каб перадаць свае адносіны да творчасці пісьменніка, аўтар выбірае, на першы погляд, самыя звычайныя і простыя словы (*шчыры чалавек, чулы доктар, вялікі пісьменнік*), але за імі – найвышэйшая ацэнка асобы Чэхава, яго генія.

• **Арфаграфічная і пунктуацыйная праца.**

*Настаўнік звяртае ўвагу на напісанне суфіксаў прыметнікаў, правапіс складаных прыметнікаў, на правілы пастаноўкі знакаў прыпынку пры аднародных і неаднародных азначэннях, параўнальных зваротах, адасобленых членах сказа.*

**IV. Замацаванне.**

• **Чытанне ўзорнага сачынення.**

*Настаўнік чытае вучням узорнае сачыненне, вучні рэцэнзуюць (выказваюць сваю ацэнку: чым сачыненне спадабалася і чаму).*

• **Вучні.** Такім чынам, сачыненне-апавяданне з апісаннем памяшкання мае тры кампазіцыйныя часткі, змест якіх павінен выяўляць адметныя рысы і перадаваць аўтарскія адносіны да аб’екта апісання.

**V. Падагульненне.**

• **Напісанне першага (чарнавога) варыянта.**

*Рэдагаванне і аналіз першага варыянта.*

• **Напісанне апошняга (чыставога) варыянта.**

*Рыхтуемся да алімпіяды*

# МЕСЯЦ У ПАЭТЫЧНЫМ ШМАТГРАННІКУ

## ЛІНГВІСТЫЧНЫ АНАЛІЗ ВЕРША “КВАДРЫ” АДАМА ГЛОБУСА

Як правіла, асноўным матэрыялам для лінгвістычнага аналізу тэкстаў служаць “невялікія літаратурныя творы (вершы, апавяданні, артыкулы або ўрыўкі з мастацкіх ці публіцыстычных твораў)” [2, с. 71]. У любым выпадку вершаваныя тэксты, прапанаваныя для аналізу, заўсёды павінны мець адметнасць у форме і змесце, у лексіка-граматычнай структуры, а сам твор, які трапіў “пад лінгвістычны мікраскоп”, трэба разглядаць як адзін са спосабаў адлюстравання духоўнага жыцця аўтара, яго пачуццяў, светаўспрыманняў. Напісанне і ўспрыманне мастацкага тэксту, у прыватнасці паэтычнага, мае трохступенны характар: вобразы, створаныя ў свядомасці чытача, вынікаюць з прамых і пераносных значэнняў слоў, выбраных, узятых аўтарам у выніку вербальных і невербальных, зрокавых, слыхавых, смакавых асацыяцый, якія рэалізуюцца на гукавым і лексічным узроўнях. Адбываецца як бы пазнанне свету, рэчаіснасці аўтарам (I ступень), трансфармацыя думкі, эмоцыі ў вобраз (II ступень), а затым адлюстраванне мастацкага вобраза ў свядомасці чытача (III ступень).

Верш “Квадры” Адама Глобуса патрабуе пільнай увагі з боку чытача, бо кожны новы радок –

новы вобраз, створаны пры дапамозе аказіянальных перыфраз, метафар, якія патрабуюць эмацыянальнай і разумовай “расшыфроўкі”. Прычым тлумачэнне кожнага вобраза, улічваючы індывідуальныя асацыяцыі як пісьменніка, так і чытача, будзе мець элемент суб’ектывізму: колькі чытачоў – столькі ўспрыманняў і прачытанняў аднаго тэксту. З мэтай павелічэння аб’ектыўнасці падчас аналізу вершаваных твораў варта спачатку растлумачыць значэнне малавядомых ці невядомых слоў; затым, звяртаючы ўвагу на гукапіс, прааналізаваць адметнасць тропаў кожнага радка і напрыканцы выявіць асаблівасці сінтаксісу. Увесь моўны аналіз набывае грунтоўнасць яшчэ і тады, калі ён праводзіцца з усведамленнем ідэйна-эмацыянальнага зместу, які можа быць цесна звязаны з назвай (пры яе наяўнасці) або з ключавымі словамі, з першымі ці апошнімі радкамі.

Твор “Квадры” Адама Глобуса мае словы, значэнне якіх трэба ўдакладніць. Напрыклад, само слова-назва абазначае кожную з чатырох фаз Месяца; Месяц – спадарожнік Зямлі, які можна назіраць няўзброеным вокам; маладзік – Месяц у першай квадры; поўня – тая фаза, у якой відаць увесь дыск Месяца; ветах – Месяц у апошняй квадры, на зыходзе; камертон – прылада ў выглядзе стальной вілкі з двума зубцамі, якая пры ўдары ўтварае гук пэўнай вышыні і выкарыстоўваецца пры настройцы музычных інструментаў [1, с. 141].

Успрыманне месяца і нябёсаў А. Глобусам шматграннае; тут месяц бачыцца пісьменніку ў розныя перыяды ў розных формах, а значыць, ён выклікае шэраг аказіянальных асацыяцый, “прадыктаваных” жыццёвымі сітуацыямі, дзеяннямі, учынкамі – вопытам самога аўтара. Прычым усе тропы, якія паэт стварае пры апісанні месяца (метафары, перыфразы інш.), заснаваны на пераносе назваў неадушаўлёных прадметаў на прадмет той самай тэматычнай групы – неадушаўлёны. Магчыма, гэта таму, што аўтар / лірычны герой адчувае сябе адзінокім у гэтым Сусвеце.

Цяжка аспрэчыць, што *Месяц – камень, магніт астранома*: як чалавек, ідучы па дарозе, натыкаецца на камень, так і астраном, узіраючыся ў зорнае неба, “натыкаецца” на Месяц-магніт, назірае за рознымі зменамі, звязанымі са спадарожнікам Зямлі там, у нябёсах.

Месяц – *несхаваная ў час навагодняя цацка*: месяц свеціцца, як несхаваная своечасова цацка з елкі. Чалавек сапраўды не спяшаецца хаваць дарагія яму рэчы, у тым ліку цацкі; яны застаюцца светлым (бліскучым) успамінам пра свята. Сярод дробнага іскрыстага зорнага россыпу месяц сапраўды выглядае адзінай вялікай цацкай-напамінам… Промні месяцовага святла хвалююць, абнадзейваюць: свята было, а калі памятаць пра цыклічнасць развіцця і ў квадрах, свята вернецца зноў.

Месяц – *танны згублены гузік салдацкі*. У адным сказе супастаўляюцца палярныя аўтарскія асацыяцыі: навагодняя цацка як рэч дарагая лірычнаму герою, рэч, якая абнадзейвае сваёй прысутнасцю, і раптам танны згублены гузік салдацкі. Відаць, што ў аснове гэтай аказіянальнай антытэзы – святло, бляск месяца: спачатку ён уяўляецца чытачу праз прызму ўзнёслых успамінаў-асацыяцый аўтара, а потым – у выніку зніжаных (тое, што таннае і згубленае, не ўзгадваецца і не выклікае патрэбы ў пошуку).

Месяц у першай квадры – малады, новы, ён – *маляваны святлом пачынальнік*. Індывідуальна-аўтарская перыфраза дазваляе чытачу ўявіць святло любога пачатку, а тым больш – пачатку месяцовага шляху; хоць гэтае святло і невялікае, пачатковае, за ім адкрыецца поўнае святло як сімвал росквіту. Аднак пакуль маладзік – *знак, які выпадкова пакінулі продкі*, як *чарапок археалагічнай знаходкі*. Як па месяцы можна прадказваць надвор’е і пэўныя падзеі жыцця (ён нібы падказвае чалавеку: на сход лячыся, бо сходзіць хвароба, а маладзіком спраўляй улазіны, перабірайся ў новае жытло, каб рос дабрабыт; у поўню трэба рабіць пакупкі, каб быў поўны росквіт, паўната жыцця), так і па археалагічных знаходках можна меркаваць пра мінулае.

*Скрылік лямпачкі з бібліятэчнай чытальні*… Дадзеная метафара адлюстроўвае яшчэ адну аўтарскую асацыяцыю: у бібліятэчных залах прыглушанае асвятленне, і толькі настольнай лямпай асвятляецца працоўнае месца, і тады месяц нагадвае формай і ў пэўнай ступені функцыяй менавіта скрылік (кавалачак) лямпачкі.

У наступную квадру месяц з’яўляецца поўняй – круглай і белай, як таблетка, як *сродак болесуцішальны*, з аднаго боку, а з другога – *поўня* не пакідае чалавека сам-насам: уначы пад святлом поўні “ажывае” асветленая частка зямлі. Прастора, напоўненая прадметамі, – рэчамі, дрэвамі, кветкамі, – не мае таго прыгнятальнага зместу, як суцэльная цемра.

Свеціцца *шкельца ад люстраных акуляраў* – свеціцца поўня ўначы, як вока Сусвету, праз якое не мы бачым Сусвет, а ён назірае за намі.

Поўня (*сподак ураўнаважаных шаляў*) таксама круглая і нерухомая, як сімвал спакою і гармоніі, ураўнаважанасці Сусвету, у якім Зямля ўсё ж круціцца вакол восі і жыццё працягваецца.

*Незагнаны ў сіло шар більярдны* – белая і круглая поўня на начным небе – більярдным стале.

*Сход – кавалак будзённага дзённага неба*: менавіта сход месяца сімвалізуе завяршэнне адной стадыі развіцця і пачатак другой, новай квадры. Так завяршэнне ночы прыводзіць новы дзень, так невялікае святло сходу – пачатак вялікага, будзённага, дзённага святла.

Перыфраза *сход – у ліловай атруце лімонная долька* створана аўтарам, магчыма, у выніку колеравых асацыяцый: як кантрастуе святло месяца і цемра ночы, так кантрастуе жыццядайная, абуджальна-кіслая, жоўтая долька лімона з халоднай, ліловай, смяротнай атрутай.

Золка, холадна чалавеку пры думцы, што ёсць сведкі яго падзенняў, слабасцей; сведка сведкаў начных спраў, падарожжаў, кур'ёзаў – месяц, у тым ліку і ў час сходу. А магчыма, палова поўні, як палова нечага цэлага, нагадвае чалавеку: палова шляху пройдзена… І гэта той напамін, які халодзіць душу.

Радок-перыфраза *сход – …луста хрумсткага паслясвяточнага хлеба* дазваляе чытачу ўявіць яшчэ раз сумнавата-светлы паслясвяточны настрой аўтара. Хлеб падсохлы пасля свята, хрумсткі, але такі ж салодкі і смачны.

*Ветах – дужка наступнага сказа, / Ад якога пачнецца народная казка,* – аўтарскі апісальны выраз сваёй паэтычнасцю і таямнічасцю перадае станоўчыя асацыяцыі пісьменніка: месяц у чацвёртай квадры формай і "зместам" нагадвае пачатак сказа, аздабляе гэты сказ малюнкам, абазначае пачатак казачнага дзейства, за якім шмат новага, шмат таямніц, але ўсе яны са шчаслівым завяршэннем, з вялікай мудрасцю народнай казкі.

*Ветах – …алавянага неба іртутная частка* – "жывая", рухомая частка алавянага, "нежывога", нерухомага неба. Відавочна, што ў аснове перыфразы – асацыяцыя, якая якраз і вынікае са статычнасці нябеснага фону і рухомасці месяца на ім.

*Ветах – …утаптаная ў ноч металічная каска*: аўтарская паралель яшчэ раз здзіўляе чытача нечаканасцю асацыяцый. Аскепак святла ветаха "штучны", няяркі, яго часам не хапае, як бракуе "жыцця" касцы, утаптанай у зямлю… Працяг асацыяцый, уяўленняў у кожнага чытача ўласны, аўтар пакідае яго на "дадумванне"; безумоўна, як каска – аскепак вайны, так ветах – аскепак месяца.

У заключных радках верша месяц у апошняй квадры бачыцца аўтару *камертонам арганіста, пакінуты брату на доўгую-доўгую памяць*. Форма і колер ветаха і камертона падобныя; і месяц, і камертон – спадчына, якая засталася ад продкаў. Спадчына, якую захоўвае памяць, – падмурак гмаху будучыні.

Структурна верш складаецца з пяці частак: чатыры сказы-чатырохрадкоўі і адзін сказ (апошні) – шасцірадкоўе. У такой амаль прапарцыянальнай структуры адлюстравана гармонія Сусвету, раўназначнасць і важнасць усіх частак цыклічнага развіцця з'яў. У шасцірадкоўі змяшчаецца вывад, ісціна, ахарактарызаваная намі вышэй. Кожная з частак інтанацыйна не завершаная, на што ўказваюць шматкроп'і ў канцы іх. Праз такі знак прыпынку пісьменнік запрашае чытача да разважанняў і над уласнымі асацыяцыямі, і да разумова-эмацыянальнага ўспрымання вобраза месяца ў чатырох квадрах, што павінна прывесці і прыводзіць да эстэтызацыі пачуццяў.

**Спіс літаратуры**


1. **Булыка, А. М.** Слоўнік іншамоўных слоў / А. М. Булыка. – Мінск : Нар. асвета, 1993.

2. **Янкоўскі, Ф. М.** Рэдакцыйны спіс твораў для лінгвістычнага аналізу / Ф. М. Янкоўскі, М. Ф. Гуліцкі // Лінгвістычны аналіз тэксту. – Мінск : МПІ імя А. М. Горкага, 1975. – С. 71 – 75.


**ТЭКСТ ДЛЯ ВОДГУКУ**

**Квадры**

Месяц – камень, магніт астранома,
Несхаваная ў час навагодняя цацка,
Учарашнія ўсёдаравальныя промні,
Танны згублены гузік салдацкі…
Маладзік – маляваны святлом пачынальнік,
Знак, які выпадкова пакінулі продкі,
Чарапок археалагічнай знаходкі,
Скрылік лямпачкі з бібліятэчнай чытальні…
Поўня – сродак болесуцішальны,
Шкельца ад люстраных акуляраў,
Сподак ураўнаважаных шаляў,
Незагнаны ў сіло шар більярдны…
Сход – кавалак будзённага дзённага неба,
У ліловай атруце лімонная долька,
Напамін, ад якога мне робіцца золка,
Луста хрумсткага паслясвяточнага хлеба…
Ветах – дужка наступнага сказа,
Ад якога пачнецца народная казка,
Алавянага неба іртутная частка,
Утаптаная ў ноч металічная каска,
Камертон арганіста, пакінуты брату
На доўгую-доўгую памяць…

Адам Глобус.


**Алена БАГАМОЛАВА,**
кандыдат філалагічных навук.

*Прэм'ера рубрыкі*

Сяргей НЕСЦЯРОВІЧ

# ЛІТАРАТУРНЫ ДЫКТАНТ

Часопіс "Роднае слова" пачынае цыкл публікацый настаўніка беларускай мовы і літаратуры вышэйшай кваліфікацыйнай катэгорыі ДУА "Гімназія № 10 г. Гомеля" Сяргея Несцяровіча. Аўтар прапануе распрацоўкі літаратурных дыктантаў па біяграфіі і творчасці пісьменнікаў для вучняў X класаў. Дыктанты складзены ў адпаведнасці са школьнай праграмай і будуць публікавацца ў наступным парадку: Васіль Быкаў, Эрнэст Хемінгуэй, Міхась Стральцоў, Ніл Гілевіч, Іван Чыгрынаў, Іван Навуменка, Рыгор Барадулін, Генрых Бёль, Яўгенія Янішчыц, Георгій Марчук, Аляксей Дудараў.

У дыктанты па біяграфіі пісьменнікаў уключаны найбольш істотныя і адметныя факты з іх жыцця і дзейнасці.

Дыктанты па асобных творах складаліся з улікам іх ідэйна-тэматычнага зместу. Шлях падбору фактаў супадае з аналізам "услед за аўтарам", праблемна-тэматычным ці павобразным. Такія дыктанты скіраваны на веданне вучнямі зместу канкрэтнага твора, уменне трапна, дакладна і хутка характарызаваць вобраз, прадмет, з'яву, дзеянне і інш.

Падобныя дыктанты могуць быць змястоўным апорным канспектам пры вывучэнні біяграфіі і творчай спадчыны пэўнага пісьменніка, а таксама дапамогуць рэалізаваць пазнавальную, развіццёвую і выхаваўчую функцыі навучання. Нарэшце, дадзены від работы спрыяе навучанню напісання сачыненняў.

На практыцы можна праводзіць дыктанты не толькі ў пісьмовай, але і ў вуснай форме як франтальнае апытванне.

У пісьмовай форме можна дыктаваць пачатак сказа, які вучні павінны закончыць. У такім выпадку заданне ацэньваецца як уласна дыктант і як творчая работа і выстаўляецца дзве адзнакі – па мове і літаратуры. Калі вучань запісвае толькі працяг выказвання, выстаўляецца адзнака па літаратуры.

Калі некаторыя заданні выходзяць за межы праграмы ці прадугледжваюць дадатковую самастойную работу вучняў, пачаткі сказаў можна прапанаваць у якасці дадатковага дамашняга задання.

Зразумела, што адказы вучняў неабавязкова цалкам павінны супадаць з прыведзенымі ў артыкулах варыянтамі адказаў. У першую чаргу, увага настаўніка скіроўваецца на якасць афармлення выказвання, на лагічнасць, паслядоўнасць, інфармацыйнасць, правільнасць структуры сказа.

Перад літаратурным дыктантам варта правесці работу па аналізе мастацкага твора, характарыстыцы герояў і інш. У некаторых выпадках мэтазгодна тэзісна ўзнавіць у памяці вучняў асноўную інфармацыю па творчасці пісьменніка, а працэс дыктоўкі можа суправаджацца пытаннямі і падказкамі, супастаўленнямі і інш.

Кожны настаўнік падыходзіць да распрацовак творча, вызначаючы для канкрэтнага класа адпаведны від работы, выбірае прыдатныя для яго заданні: на свой густ можа мяняць заданні-выказванні, штосьці спрашчаць, ускладняць.

Перавага літаратурнага дыктанта ў тым, што дадзены від работы ў параўнанні з тэстамі спрыяе развіццю маўленчых навыкаў вучняў.

*Літаратурны дыктант*

# БІЯГРАФІЯ І ТВОРЧАСЦЬ ВАСІЛЯ БЫКАВА (XI КЛАС)

**ЖЫЦЦЁВЫ ШЛЯХ ПІСЬМЕННІКА**

**1.** Васіль Быкаў – адзін з самых… *(папулярных, чытаных ва ўсіх краінах свету празаікаў).*

**2.** Доказам таленту Быкава з'яўляецца факт вылучэння яго на атрыманне… *(Нобелеўскай прэміі ў галіне літаратуры).*

**3.** Малая радзіма Васіля Быкава – … *(вёска Бычкі Ушацкага раёна Віцебскай вобласці).*

**4.** Прататыпамі герояў аповесці "Знак бяды" Петрака і Сцепаніды Багацькаў з'яўляюцца… *(бацькі пісьменніка).*

**5.** Васіль Быкаў адносіць сябе да "забітага пакалення", таму што… *(у час Вялікай Айчыннай вайны загінула 97% яго равеснікаў-франтавікоў).*

**6.** Уражанні і ўспаміны маленства пісьменніка бязрадасныя, таму што… *(трэба было вучыцца, а есці і апрануць не было чаго. Бацька хадзіў на сходы па аб'яднанні ў калгас, маці плакала па вечарах…).*

**7.** Аднойчы Васіль Быкаў шчыра пазайздросціў вясковаму таварышу, таму што… *(яго сям'ю раскулачылі, і яны паехалі са станцыі на цягніку).*

**8.** Да вайны некаторы час Быкаў жыў у горадзе… *(Віцебску).* Там ён… *(вучыўся ў мастацкім вучылішчы, зарабляў на жыццё афармленнем*



***Сяргей Уладзіміравіч Несцяровіч*** *– настаўнік беларускай мовы і літаратуры вышэйшай кваліфікацыйнай катэгорыі гімназіі № 10 г. Гомеля. Закончыў Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Францыска Скарыны (1987).*

*вітрын у крамах, потым набыў прафесію бетоншчыка-арматуршчыка ў школе ФЗН).*

**9.** Вайна застала хлопца ў горадзе… *(Шостка на Украіне)*, куды ён паехаў, каб… *(паступіць у індустрыяльны тэхнікум).*

**10.** У 1943 г. юнак скончыў… *(Саратаўскае ваеннае вучылішча, паскораны выпуск).*

**11.** У студзені 1944 г. у вёску Бычкі бацькам Васіля Быкава з фронту прыйшла… *("пахаронка").*

**12.** На фронце ад смерці пісьменніка ратаваў… *(ротны камандзір Пятро Міргарад)*, які… *(падбіў фашысцкі танк, што ледзь не наехаў на параненага Васіля Быкава).*

**13.** У запас Быкаў звольніўся ў… *(1955 г.).*

**14.** Апошнія гады пісьменнік жыў і працаваў у… *(Фінляндыі, Германіі, Чэхіі).*

**АГЛЯД ПРОЗЫ І АСАБЛІВАСЦЬ ТВОРЧАЙ МАНЕРЫ ПІСЬМЕННІКА**

**1.** Васіль Быкаў вырашыў заняцца літаратурнай працай усур'ёз пад уплывам… *(так званай "лейтэнанцкай прозы").*

**2.** Васіль Быкаў адзначаў, што гаварыць няпраўду пра вайну… *(не толькі амаральна, але і злачынна ў адносінах да мільёнаў ахвяр, у адносінах да будучыні).*

**3.** У часы нападак цэнзуры Быкава падтрымаў… *(Аляксандр Твардоўскі)*, які апублікаваў у часопісе… *("Новый мир")* аповесці… *("Мёртвым не баліць", "Праклятая вышыня", "Круглянскі мост").*

**4.** Дэбютная аповесць В. Быкава называлася… *("Жураўліны крык")*, яна была напісана ў… *(1959 г.).*

**5.** Васіль Быкаў часта казаў: "Расказваю пра вайну, бо… *(ненавіджу яе")*.

**6.** Тэрміны "аднавярстоўка вайны", "акопная проза" азначаюць… *(творы, для якіх характэрна лакалізаваная прастора, адсутнасць глабальных падзей, дзеянне ў канкрэтным месцы, увага да простага салдата, паглыбленне ў псіхалогію чалавека і інш.).*

**7.** Адметныя рысы "быкаўскай аповесці"… *(1-2 галоўныя героі, абмежаванасць у прасторы і часе, некалькі часавых планаў, наяўнасць рэтраспекцыі, экстрэмальныя ўмовы жыцця і крытычныя сітуацыі, трагічны фінал, дынамічны паказ дзеяння персанажаў, часам змрочныя, мінорныя апісанні прыроды, наваколля).*

**8.** Да аповесцей франтавога цыкла адносяцца… *("Здрада", "Трэцяя ракета", "Мёртвым не баліць", "Дажыць да світання", "Праклятая вышыня", "Яго батальён" і інш.).*

**9.** Да аповесцей партызанскага цыкла адносяцца… *("Сотнікаў", "Круглянскі мост", "Воўчая зграя", "У тумане", "Абеліск" і інш.).*

**10.** У сваіх творах Васіль Быкаў востра ставіць праблемы… *(выбару, гераізму, здрадніцтва і інш.).*

**АПОВЕСЦЬ "ЗНАК БЯДЫ"**

**1.** Аповесць "Знак бяды" – этапны твор у літаратурнай спадчыне Васіля Быкава, таму што… *(вайна ў аповесці паказана вачыма звычайнага селяніна, для якога непрымальныя зброя і забойства чалавека).*

**2.** Пра высокую ацэнку аповесці сведчала тое, што… *(у 1986 г. у Крамлі Васілю Быкаву была ўручана прэстыжная Ленінская прэмія).*

**3.** Галоўныя героі аповесці розныя па характары: Пятрок – … *(памяркоўны, непрактычны, ціхмяны, далікатны, чулліва, пакладзісты)*, Сцепаніда – … *(валявая, рашучая, з пачуццём абавязку, бескампрамісная).*

**4.** Багацькі яднаюцца перш за ўсё… *(глыбіннанародным разуменнем праўды жыцця, абвостраным пачуццём справядлівасці).*

**5.** Сцепаніда пакутліва шукае адказу на пытанні… *(за што забіты нават нямы Яначка, у чым іх грэх перад людзьмі і Богам, дзе вытокі страшнай бяды).*

**6.** Знакі бяды ў творы… *(мёртвы жаўрук, самагубства пана Яхімоўскага, спілаваны крыж на Галгофе, забітая варона, галава Бабоўкі, бомба).*

**7.** Фашысцкімі прыхаднямі нішчыцца гаспадарка… *(яны абтрасаюць недаспелыя яблыкі, страляюць курэй, выганяюць сям'ю ў істопку, забіваюць Бабоўку).*

**8.** Мясцовыя фашысты-нелюдзі, паказаныя ў аповесці, – гэта… *(Гуж, Каландзёнак, Недасека).*

**9.** Найбольш агідны і ненавісны з іх… *(Патап Каландзёнак – "няўклюда лягчоная")*, таму што… *(яму ўласціва паталагічная стараннасць забіваць, жахлівы аўтаматызм мыслення, бяздумнасць у выкананні загадаў).*

**10.** Каб выжыць у гэты час, Пятрок… *(прыстасоўваецца, дагаджае, улагоджвае нелюдзяў, спадзяецца на літасць, дзеліцца тытунём, частуе фашыстаў, грае на скрыпцы)*. Але і ён хутка пачынае разумець, што… *(фашызм – гэта смерць, з ім немагчыма змірыцца і суіснаваць).*

**11.** Асноўныя часавыя планы ў аповесці… – *(першыя дні фашысцкай акупацыі, час утварэн-*

*ня калгасаў)* – аб'ядноўваюцца вобразам… *(нямога Яначкі Ганчарыка).*

**12.** Выменена на… *(парсючка)* бомбай Сцепаніда хацела… *(узарваць мост)*, каб… *(не даць ходу вайне, фашызму, бо менавіта па мосце на хутар прыйшла вайна).*

### АПОВЕСЦЬ "СОТНІКАЎ"

**1.** Аповесць належыць да… *(партызанскага)* цыкла твораў пісьменніка.

**2.** Твор гэты быў экранізаваны рэжысёрам… *(Ларысай Шапіцькай)* пад назвай… *("Узыходжанне").*

**3.** У ім прысутнічаюць усе вызначальныя рысы быкаўскай аповесці… *(1-2 галоўныя персанажы, герой стаіць на раздарожжы, мінорныя апісанні прыроды падкрэсліваюць драматызм сітуацыі, экстрэмальныя абставіны, наяўнасць рэтраспекцыі, трагічны фінал).*

**4.** Спачатку чытач сімпатызуе Рыбаку, таму што… *(ён робіць уражанне бывалага, спрактыкаванага байца, спрытнага, кемлівага, фізічна здаровага, здольнага выканаць заданне партызанскага атрада).*

**5.** Па волі лёсу партызаны Рыбак і Сотнікаў атрымалі звычайнае, зусім "негераічнае" заданне… *(здабыць харч для атрада).*

**6.** Чытацкая ўвага трымаецца на пытанні… *(якім чынам героі выйдуць са складанай сітуацыі, хто змаладушнічае, хто праявіць высакародства).*

**7.** Героі аповесці пасля арышту стаяць перад жорсткім выбарам… *(здрадзіць таварышам, засведчыць сваю лаяльнасць фашысцкім уладам ці быць забітымі).*

**8.** У сваім рашэнні Рыбак спадзяецца на… *(кампраміс, бо «ён жа кемлівы і абхлусіць "нямецкую машыну", захавае сабе жыццё, уцячэ ад ворагаў, калі будзе зручна, ну, пабудзе трохі паліцаем…»).*

**9.** Уражвае высакародны ўчынак Сотнікава, які… *(падчас павешання сам – і гэта адчуў, зразумеў толькі Рыбак – выбівае цурбук з-пад сваіх ног).*

**10.** Гэтым учынкам Сотнікаў… *(не дае Рыбаку зусім запляміць свае рукі ў крыві, дае шанс застацца чалавекам).*

**11.** Каінава пячатка на Рыбаку застанецца на ўсё жыццё, бо… *(зразумеўшы, што нічога ў яго не атрымаецца, ён не ўцёк, чым засведчыў сваю здраду; удзельнічаў у павешанні, прайшоў строем з павязкай паліцая на вачах усяго мястэчка, не змог скончыць жыццё самагубствам).*

**12.** Зразумеўшы ўвесь жах сітуацыі, сутнасць становішча здрадніка, Рыбак хоча пайсці з жыцця… *(ён ідзе ў прыбіральню, шукае папружку, раменьчык, каб павесіцца, але не знаходзіць).*

**13.** На пытанне, што прывяло Рыбака да здрады, да падзення, можна адказаць такім чынам… *(ён змаладушнічаў, быў у жыцці непераборлівым, у ім адсутнічаў маральны стрыжань).*

**14.** Назваўшы аповесць імем Сотнікава, Васіль Быкаў сцвярджае… *(правільныя жыццёвыя прыярытэты і арыенціры, паказвае, хто здольны да сапраўды гераічнага, хто высокамаральны, чалавечны, гатовы з годнасцю пайсці з жыцця, калі абставіны вымагаюць гэтага).*

## КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТАЎ І ЮБІЛЕЙНЫХ ДЗЁН на 2010 год

ЛІСТАПАД

*Заканчэнне. Пачатак на с. 50, 71.*

**20 лістапада** – 80 гадоў з дня нараджэння Рыгора Ігнаценкі, празаіка

75 гадоў з дня нараджэння Мікалая Апіёка, жывапісца, графіка, сцэнографа, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі

**21 лістапада** – 110 гадоў з дня нараджэння Міхаіла Дзянісава (1900 – 1971), спевака, народнага артыста Беларусі

100 гадоў з дня нараджэння Міхаіла Судніка (1910 – 1995), мовазнаўцы, заслужанага дзеяча навукі Беларусі

100 гадоў з дня нараджэння Анатоля Шаг-Наважылава (сапр. Наважылаў; 1910 – ?), расійскага і беларускага артыста цырка, ілюзіяніста, заслужанага артыста Беларусі

**23 лістапада** – 170 гадоў з дня нараджэння Канстанціна Пушылава (1840 – 1897), рускага скрыпача, педагога

110 гадоў з дня нараджэння Ларысы Ярмолінай (1900 – 1984), актрысы, тэатральнага дзеяча, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі

100 гадоў з дня нараджэння Змітрака Астапенкі (1910 – 1944), паэта

100 гадоў з дня нараджэння Аляксандра Міронава (1910 – 1992), рускамоўнага празаіка, заслужанага работніка культуры Беларусі

**24 лістапада** – 105 гадоў з дня нараджэння Льва Любімава (1905 – 1979), расійскага і беларускага дырыжора, народнага артыста Беларусі

**25 лістапада** – 80 гадоў з дня нараджэння Анатоля Красінскага, кіназнаўцы

**26 лістапада** – 205 гадоў з дня нараджэння Яўстафія Янушкевіча (1805 – 1874), кнігавыдаўца, публіцыста, мемуарыста

85 гадоў з дня нараджэння Юрыя Семянякі (1925 – 1990), кампазітара, народнага артыста Беларусі

80 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Караткевіча (1930 – 1984), паэта, празаіка, драматурга, публіцыста, перакладчыка, кінасцэнарыста

**27 лістапада** – 110 гадоў з дня нараджэння Рыгора Пукста (1900 – 1960), кампазітара, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі

**28 лістапада** – 110 гадоў з дня нараджэння Аляксандры Асторынай (1900 – 1982), актрысы, заслужанай артысткі Беларусі

* * *

105 гадоў таму нарадзіўся Язэп Падабед (1905 – ?), паэт

*Паводле картатэкі БДАМЛМ.*

*Размова пра істотнае*

# ПАТРЫЯТЫЧНАЕ І НАЦЫЯНАЛЬНАЕ ВЫХАВАННЕ ЯК АСНОЎНЫЯ АСПЕКТЫ ФАРМІРАВАННЯ ДЗЯРЖАЎНАЙ ІДЭАЛОГІІ

## НА ПРЫКЛАДЗЕ ВЫВУЧЭННЯ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ Ў IX КЛАСЕ

Рэспубліка Беларусь – самастойная, незалежная, суверэнная дзяржава, якая імкнецца будаваць добрасуседскія, сяброўскія адносіны з усімі краінамі свету. Прыналежнасць да еўрапейскай цывілізацыі – аб'ектыўны факт гістарычнага жыцця і духоўнай культуры нашага народа.

Вядома, грамадства кансалідуецца сістэмай ідэй, якія аб'ядноўваюць розныя слаі насельніцтва, абумоўліваюць каштоўнасныя арыенціры, маральныя нормы, уклад жыцця, сацыяльную актыўнасць.

Адным з кірункаў сістэмы выхавання ў школе з'яўляецца фарміраванне ў вучняў грамадзянскасці і патрыятызму, здольнасцей да супрацоўніцтва ў розных сферах культурнай дзейнасці. Рэалізацыя гэтай задачы патрабуе ў сваю чаргу фарміравання сацыяльнай, грамадзянскай і прававой культуры.

Вырашыць праблему духоўнасці немагчыма без істотных змен у адукацыі. У іх аснове павінны ляжаць не проста сучасныя адукацыйныя тэхналогіі і веды, а веды духоўныя, прасякнутыя сэнсам культурных і рэлігійных традыцый, класічных вобразаў і вопыту. Неабходна звярнуць увагу на развіццё аспектаў грамадзянскага, патрыятычнага і нацыянальнага выхавання асобы.

Школьная праграма прадугледжвае засваенне вучнямі ведаў па гісторыі краіны, азнаямленне з культурай беларускага народа, яго звычаямі і традыцыямі.

На ўроках і ў пазаўрочны час вучні знаёмяцца з нацыянальнай культурай, літаратурай, мастацтвам. Грамадзянскае і патрыятычнае выхаванне становіцца адной з галоўных педагагічных задач. Настаўнікі беларускай мовы і літаратуры нясуць адказнасць за вырашэнне гэтай задачы. Навучыць дзяцей пісаць і чытаць – прафесійная задача; грамадзянскі абавязак – выхаваць чалавека, патрыёта, актыўнага дзеяча на ніве культуры Бацькаўшчыны.

Кожны прадмет, які вывучаецца ў школе, уздзейнічае на працэсы станаўлення ўнутранага свету вучняў, фарміраванне ў іх духоўных каштоўнасцей. Для ўдасканалення маральнага выхавання школьнікаў, забеспячэння неабходных умоў для развіцця іх прыродных задаткаў, сацыяльнай і культурнай самарэалізацыі, фарміравання сістэмы станоўчых адносін да сябе, да Радзімы, прыроды, мастацтва неабходна **мэтанакіравана** выкарыстоўваць не толькі ўрочны час, але і факультатыўныя заняткі, пазакласную работу з вучнямі.

Патрыятычнае і нацыянальнае выхаванне школьнікаў – гэта складаны і мнагагранны працэс. На яго ўплывае не толькі школа, але і сям'я, грамадства. Вельмі важна зацікавіць вучняў рознабаковымі калектыўнымі, групавымі і індывідуальнымі формамі выхаваўчай работы ў пазаўрочны час і арганізаваць гэта так, каб школа была цэнтрам работы з вучнямі, садзейнічала ўзбагачэнню іх вопыту камунікатыўных зносін.

Да неабходных умоў ідэалагічнага навучання і выхавання вучняў адносяцца:

– вырашэнне задач грамадзянскага, патрыятычнага і нацыянальнага выхавання настаўнікамі беларускай мовы і літаратуры ва ўзаемадзеянні з рознымі напрамкамі выхаваўчай работы;

– выкарыстанне разнастайных формаў, метадаў і спосабаў вучэбнай і пазакласнай дзейнасці;

– наяўнасць разнастайнага дыдактычнага матэрыялу і тэхнічных сродкаў навучання.

На наш погляд, праблема фарміравання ідэалогіі навучання і выхавання не новая, яе нельга раздзяляць у адукацыйным працэсе. Настаўнікі заўсёды аддавалі шмат увагі выхаваўчаму аспекту. Сёння істотна пашырыўся інфармацыйны паток, які значна ўплывае на гэтую праблему. Яна набыла на сучасным этапе **асаблівае** гучанне, бо разбураюцца папярэднія ідэалы, а новыя не паспяваюць сфарміравацца.

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь у сваім штогадовым пасланні зазначыў вастрыню гэтага пытання ў наступных словах: «Ідэалогія і культура з'яўляюцца неад'емнай часткай дзяржаўнага суверэнітэту. Замацаваныя ў ёй маральныя ўстаноўкі, мадэлі паводзін вызначаюць паспяховае развіццё асобы і народа ў цэлым. Гэта свайго роду "вакцына" супраць вірусаў духоўнай дэградацыі».

Нам хацелася з уласнай практыкі прывесці прыклады акцэнтацыі ўзнятай праблемы. Падкрэслім: ідэалагічнае выхаванне не можа і не павінна быць аднаразовым – яно павінна быць **сістэмным.**

Для прыкладу, прааналізаваўшы ўзроставыя і псіхалагічныя асаблівасці вучняў і змест праграмы IX класаў, можна прапанаваць наступную сістэму па ідэалагічным выхаванні вучняў.

**АСВЕТНІЦКА-МАТЫВАЦЫЙНЫ ЭТАП**

Асноўны напрамак працы на гэтым этапе – фарміраванне нацыянальнай самасвядомасці праз вывучэнне культурнай спадчыны беларусаў; падрыхтоўка вучняў да ўсведамлення значнасці грамадзянскай пазіцыі, да асэнсавання сябе як асобы, чалавека, адказнага за лёс і будучыню Бацькаўшчыны. Звяртаем увагу на тое, што Беларусь – дзяржава з такой жа цікавай гісторыяй, як Англія, Германія і інш. Ёсць кім і чым ганарыцца: вядомыя постаці, слаўныя традыцыі, багатая культурная спадчына.

Пры знаёмстве з постаццю Еўфрасінні Полацкай расказваем, што яе дзейнасць была свечкай на шляху развіцця беларускай старажытнай літаратуры. Падкрэсліваем, што ўжо ў 12 гадоў яна разумела сэнс служэння народу.

Для таго каб праца была сістэмнай, ужо на наступным уроку на прыкладзе жыцця і дзейнасці Кірылы Тураўскага паказваем вучням яшчэ адзін прыклад высокага служэння "айчыне і люду". Ён быў першы сярод усходніх славян манах, які здзейсніў духоўны подзвіг стоўпніцтва, гэтым ён умацоўваў свой дух і падсвядома быў прыкладам для іншых. Зазначаем, што для яго гэта было не проста словамі, а штодзённым існаваннем. Кірыла Тураўскі – адзін з найбольш вядомых і самых яркіх прадстаўнікоў старажытнага ўсходняга славянства; гэтага ён дасягнуў сваёй адукаванасцю, красамоўствам і праведным жыццём. Ён атрымаў самыя высокія тытулы народнага прызнання: яго называлі "блажэнным Кірылам", "Златоустом, паче всех воссиявшим нам на Руси". Яго творы і сёння захапляюць вобразнасцю і пранікнёнасцю, шчырым клопатам пра духоўную дасканаласць суайчыннікаў, што дазваляе з поўнай падставай лічыць яго адным з родапачынальнікаў славянскай духоўнасці.

У якасці рэфлексіі прапануем вучням пытанне: што дазволіла дзейнасці Еўфрасінні Полацкай і Кірылы Тураўскага прайсці выпрабаванне часам? У чым яны могуць быць прыкладам нам – пакаленню XXI стагоддзя?

Пры азнаямленні з "Летапісам вялікіх князёў літоўскіх" (урывак "Пахвала Вітаўту") выкарыстоўваем метад міні-праектаў, які дазваляе вучням убачыць, што асновай Вялікага Княства Літоўскага былі беларускія землі, што дзяржаўнай мовай зносін была беларуская мова – гэты факт замацаваны ў Статуце ВКЛ 1588 г. Не засяродзіць увагу навучэнцаў на гэтым дакуменце нельга, бо кодэкс законаў княства замацоўваў яго суверэнітэт, дзяржаўны і грамадскі лад, правы і абавязкі жыхароў, прынцыпы судовага ладу, заканадаўча сцвярджаў ідэю рэлігійнай талерантнасці, бараніў правы ўсіх жыхароў незалежна ад веравызнання; кодэкс ахоўваў таксама прыроду. Гэта быў адзін з найлепшых юрыдычных дакументаў таго часу ва ўсёй Еўропе, і сёння беларусам ёсць чым ганарыцца.

Пры вывучэнні жыцця і творчасці Францыска Скарыны (прадмовы да кніг "Псалтыр", "Іоў", "Юдзіф") падкрэсліваем, што ён застаўся ў гісторыі як беларускі і ўсходнеславянскі першадрукар, які служыў усяму народу, які пакінуў пасля сябе запавет: "Тое чыніці іншым усім, што самому люба ёсць ад іных усіх…"

Пры знаёмстве з асобай Сымона Буднага раскрываем сутнасць яго духоўнага падзвіжніцтва – друкарскую дзейнасць на беларускай мове: ён рашуча стаяў за абарону РОДНАЙ мовы ў прадмове да "Катэхізіса", адстойваў ідэі Рэфармацыі і гуманізму на беларускай зямлі, выступаў супраць рэлігійнага фанатызму.

Пры вывучэнні "Песні пра зубра" акцэнтуем увагу на гісторыі, веліччы і славе сваёй Айчыны. Выкарыстоўваем групавую форму работы і раскрываем праз змест заданняў і адказаў на іх прыгажосць роднага краю, характар беларусаў.

Напрыканцы асветніцка-матывацыйнага перыяду звяртаем увагу вучняў і на атрыманне Вільняй магдэбургскага права ў 1387 г., заснаванне Вялікага Княства Літоўскага, Грунвальдскую бітву, Статут Казіміра Ягайлавіча 1468 г., Люблінскую унію 1569 г., яе гістарычную ролю для беларускіх зямель, заснаванне Віленскага ўніверсітэта ў 1579 г., адкрыццё Полацкага езуіцкага калегіума. Усе гэтыя факты абуджаюць у вучняў пачуццё гонару за гісторыю свайго народа, разуменне значнасці яго культуры.

Вынікам гэтага этапу павінна быць сфарміраванае пачуццё павагі і любові да сваёй Радзімы (Еўфрасіння Полацкая, "Летапіс вялікіх князёў літоўскіх"), разуменне духоўнага подзвігу (Францыск Скарына і Сымон Будны), грамадзянскай адказнасці за будучыню свайго краю ("Песня пра зубра" Міколы Гусоўскага). Без папярэдняй падрыхтоўкі вучняў наступныя этапы не будуць такімі эфектыўнымі.

**ЭТАП АКТЫВІЗАЦЫІ ПАЗНАВАЛЬНАЙ ДЗЕЙНАСЦІ (ІНІЦЫІРАВАННЕ І КАРЭКЦЫЯ)**

На гэтым этапе неабходна актывізаваць вучняў на выказванне думак аб сваёй грамадзянскай пазіцыі. У той жа час школьнікі не адразу прыходзяць да асэнсавання патрыятычнага аспекту твораў, таму вельмі важна накіроўваць гэты працэс.

На прыкладзе асобы Кастуся Каліноўскага паказваем, што любоў да Радзімы, адданасць, вернасць, мужнасць з'яўляюцца не проста словамі, а вынікам жыцця і дзейнасці канкрэтнага чалавека – Кастуся Каліноўскага. Размову пра

яго пачынаем з радкоў верша Уладзіміра Караткевіча:

*Варты лепшага ў свеце кахання,*
*Рана скончыўшы мужны палёт,*
*Русы хлопец золкім світаннем*
*На высокі ўзышоў эшафот…*

Пытаемся, якія факты з біяграфіі сведчаць пра сілу духу гэтага чалавека, адданасць народу і роднай зямлі. У ходзе размовы прыходзім да высновы, што трэба працаваць над сабой, выхоўваць у сабе міласэрнасць, дабрыню, спачуванне, каб стаць такім жа высокамаральным чалавекам, як і Кастусь Каліноўскі. Нагадваем, што перад смерцю нацыянальны герой пакінуў толькі два пасланні: да беларускага народа і сваёй каханай. Пытаемся, каму б вучні маглі адправіць свае пасланні і з якім зместам. Цікавімся, чаму паўстанцы выбралі сабе такі пароль: "Каго любіш? – Беларусь! – Так узаемна!"

Пры вывучэнні творчасці Ф. Багушэвіча (прадмовы да зборнікаў "Дудка беларуская" і "Смык беларускі", вершы "Мая дудка", "Ахвяра", "Хмаркі", паэма "Кепска будзе!"), Цёткі (вершы "Мае думкі", "Суседзям у няволі", "Вера беларуса", "Мора") звяртаем увагу на тое, што пісьменнікі сваімі творамі імкнуліся абудзіць свядомасць сялян, заклікалі да актыўнага змагання за волю і родную мову: "…не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!" Просім растлумачыць сэнс цытаты і выбраць радкі з твораў Цёткі і Багушэвіча, якія б вучні змясцілі ў інтэрнэце, каб зацікавіць іх творчасцю грамадскасць.

Найбольш эфектыўныя для ідэалагічнага выхавання сітуацыі, якія патрабуюць ад вучняў адстойваць сваю думку; браць удзел у дыскусіях і абмеркаваннях; ставіць пытанні аднакласнікам і настаўнікам; рэцэнзаваць адказы сяброў; знаходзіць крэатыўныя рашэнні пазнавальных задач.

#### ПРАКТЫЧНА-ДЗЕЙНАСНЫ ЭТАП

Гэты этап мае на мэце звязаць тэорыю з практыкай, стварыць сітуацыю аналізу асабістых пазнавальных і практычных дзеянняў, паказаць розныя шляхі служэння Радзіме і ў той жа час – важнасць кожнага з іх.

Згадваем іншыя сферы дзейнасці пісьменнікаў, з творчасцю якіх мы пазнаёміліся раней, асаблівую ўвагу засяроджваем не на літаратурнай (пра гэта мы гаварылі на папярэднім этапе), а на іх грамадскай працы.

Прапануем вучням форму сакратаўскага дыялога па тэме "Вашы дзеянні на месцы кіраўніка паўстання 1863 года" для актывізацыі пазнавальнай дзейнасці і падрыхтоўкі свядомасці вучняў да наступнага этапу. Адказы бываюць розныя, але радуе тое, што выказваюцца канструктыўныя парады і прапановы па разглядзе некаторых пытанняў, якія маглі быць надрукаваны ў газеце "Мужыцкая праўда": напрыклад, пра далучэнне розных слаёў насельніцтва да паўстання, яго арганізацыю і вядзенне, нават пра асабістае жыццё кіраўніка. Гэта значыць, што матэрыял перажыты сэрцам, пакідае след у душы і думках. Яшчэ адно пытанне выклікае шмат спрэчак: чаму праз столькі гадоў пра Ф. Багушэвіча Рыгор Семашкевіч напісаў: *"На ўсю Беларусь мільён пракурораў – і толькі адзін, толькі ён адвакат…"* Падкрэсліваем, што Ф. Багушэвіч быў не толькі паэтам, а і народным заступнікам, які ў судзе абараняў правы простага люду.

Алаіза Пашкевіч вядомая не толькі літаратурнымі творамі, якія абуджалі народ, заклікалі да змянення становішча сялян. Яна выпускала газету, іграла ў вандроўным тэатры Галубка, выдала буквар для дзяцей-беларусаў, каб яны маглі вучыцца на роднай мове.

Разглядаючы жыццёвы і творчы шлях Максіма Багдановіча, пытаемся: 25 гадоў – гэта многа ці мала? Што можна зрабіць за гэты час, ведаючы, што ты смяротна хворы? Расказваем вучням, наколькі няпростым быў лёс паэта: хвароба, адарванасць ад Радзімы, трагічнае каханне і смерць удалечыні ад роднага краю.

Паказваем, колькі зрабіў паэт для развіцця беларускай літаратуры, для сваёй Бацькаўшчыны. І пытаемся, што мы самі можам зрабіць для Айчыны.

Пачынаем размову з выбару прафесіі (ролевая гульня "Аўкцыён прафесій"), ставячы за мэту фарміраванне ў маладога пакалення адказнасці за захаванне гісторыка-культурнай і прыроднай спадчыны краю, нацыянальных традыцый, бо з нацыянальнага пачынаецца ўсведамленне чалавека як грамадзяніна пэўнай дзяржавы з высокімі духоўнымі і маральнымі якасцямі.

Прыходзім да вываду, што ў кожнага чалавека незалежна ад прафесіі ёсць магчымасць паслужыць нацыянальнаму, сацыяльнаму і духоўнаму росту Бацькаўшчыны.

Напрыканцы хочацца адзначыць, што наш падзел на этапы дадзенай сістэмы ўмоўны. Вядома, кожны настаўнік – творца; ён можа выкарыстаць прапанаваны вопыт, а можа прапанаваць сваё бачанне. Работа стане паспяховай толькі ў тым выпадку, калі дзеянні настаўніка і вучняў будуць скаардынаванымі, прадуманымі, а праца будзе праводзіцца з поўным усведамленнем яе значнасці як ***сістэмы***.

**Антон КНЫШ,**
настаўнік беларускай мовы і літаратуры
ДУА САШ № 125 г. Мінска.



# КАЛІ ЗАКОНЧЫЎСЯ ЎРОК

*Беларусь – зямля святая*

## ЗЯМЛЯ ПАД БЕЛЫМІ КРЫЛАМІ

**СЦЭНАРЫЙ ШКОЛЬНАГА СВЯТА-ФЕСТЫВАЛЮ**

**Мэты:** пашырыць веды вучняў пра традыцыі беларускага народа; развіваць творчыя здольнасці вучняў; садзейнічаць выхаванню любові да роднага краю.

**ХОД МЕРАПРЫЕМСТВА**

**ЧАСТКА ПЕРШАЯ "УСТУПНАЯ"**

**Госці.** Добры вечар таму, хто ў гэтым даму! Цераз ваш дварок цячэ ручаёк! Масці кладачку, заві ў хатачку. Добра мы пяём, танна бяром.

**Гаспадыня.** Вітаю вас, даражэнькія госці, заходзьце, калі ласка, сядайце.

*Госці сядаюць, звяртаюць увагу на выставу вышыўкі, саломкі і г. д.*

**Гаспадыня.** Паглядзіце, мае даражэнькія, якія прыгожыя вырабы я сабрала сёння ў сваю хату, каб паказаць вам, каб парадаваць вашы вочкі дзіўнай прыгажосцю. Паглядзіце, якія прыгожыя вышыўкі, ручнікі ў хаце. Сапраўдны ж ручнік – гэта не кавалак тканіны, якім выціраюць твар і рукі. На Беларусі шмат звычаяў, звязаных з выкарыстаннем ручнікоў. На ручніку падносяць хлеб-соль, калі вітаюць дарагіх гасцей, таму што ручнік – гэта сімвал чысціні, цяпла беларускай зямлі і роднай хаты.

Паглядзіце, які прыгожы куфэрак стаіць у нас. З'явіліся гэтыя куфры даўным-даўно. Ужо ў XII ст. куфар займаў самае ганаровае месца ў хаце. Па яго прыгажосці меркавалі пра густ і майстэрства гаспадыні. Матулі захоўвалі ў куфрах пасаг сваім яшчэ незамужнім дочкам. Нездарма Уладзімір Караткевіч пісаў: "Праз куфар відаць жыццё чалавека".

**Дзяўчына.**

У пахучым куфры важка ўсё ляжала,
Што сама бабуля працай рук прыдбала.
Быццам водар з поля пранясло ля хаты,
Так запахла лугам, чабаром і мятай.

*Гучыць песня "Гуляць дык гуляць" (муз. В. Іванова, сл. У. Някляева).*

**Гаспадар.** Што такое ў нашай хаце? Што за тлум? Што за шум? Што за весялосць?

**Гаспадыня.** Сёння свята ў нашай хаце! Гасцей цэлая хата, на вячоркі прыйшлі, а ты недзе падзеўся.

**Гаспадар.** Затрымаўся я па важнай справе, даглядаў жывёлу ў сваім хляве.

**Госці.** А якую жывёлу вы даглядалі?

**Гаспадар.** Адгадайце мае загадкі, тады і даведаецеся, якую жывёлу я даглядаў!

Пасярод двара стаіць капа.
Спераду вілы, ззаду мятла. (*Карова.*)
Не кароль, а ў кароне,
Не гусар, а пры шпорах.
Гадзінніка не мае, а час знае. (*Певень.*)
Нос пятачком, хвост кручком,
Нічога не баліць, а ўсё стогне. (*Парсюк.*)
Усіх возіць, а сам пехатою ходзіць. (*Конь.*)
З людзьмі сябруе, хату вартуе,
Жыве пад ганкам, хвост абаранкам. (*Сабака.*)
Белыя, як снег, цэлы дзень у рэчцы,
А на бераг выйдуць сухімі. (*Гусі.*)

Малайцы! Адгадалі мае загадкі і даведаліся, якая жывёла жыве на нашым падворку. А цяпер і я магу з вамі адпачыць і павесяліцца.

**Гаспадыня.** Ну што ж, загадкі вы хутка адгадалі. А зараз пабачым, ці ўмееце вы працаваць, ці ведаеце прылады працы.

**Госці.** Канечне, ведаем.

**Дзяўчына.** Вось гэта часткі хатняга ткацкага станка – кроснаў, гэта калаўрот – прыстасаванне для ручнога прадзення кудзелі, воўны, а гэта валак – прылада, якой прасавалі бялізну, пазней з'явіліся вугальныя прасы, а гэта прылады для апрацоўкі лёну – церніца і трапло.

**Гаспадар.** Ну, хопіць-хопіць ужо. Відаць, што ведаеце. А ці так жа добра вы ўмееце спяваць і танцаваць?

*Танец "Полька беларуская".*

**Хлопец.** А што ж гэта мы ўсё спяваем ды танцуем? Нічога смешнага не расказваем. Вось я люблю жарты.

*Хлопцы па чарзе расказваюць жарты.*

**1-ы хлопец.** Унук пытае:

– Бабулька, а ці дорага каштуе дзірка ад абаранка?

– А нічога не каштуе, яе без грошай даюць, – кажа бабулька.

– Тады хай бы рабілі большыя дзіркі ў абаранка.

**2-і хлопец.** Адзін пан паслаў слугу па грушы і сказаў:

– Купі мне самых лепшых.

Слуга пайшоў у краму і папрасіў груш. Купец падаў яму. Але слуга сказаў:

– Не, дайце мне самых лепшых.

Купец кажа:

– Паспрабуй адну, тады пазнаеш, што ўсе добрыя.

– Як я пазнаю, – кажа слуга, – што яны ўсе добрыя, калі паспрабую толькі адну.

І слуга паадкусваў патрохі ад кожнай і прынёс іх пану.

**3-і хлопец.** Пытаецца дзед у бабы:

– Калі я памру, як ты мяне апранеш?

– Куплю сіні дарагі касцюм, – адказвае баба.

Дзед думае: “Дай жа праверу”. Узяў і прыкінуўся мёртвым.

Паплакала баба ды пайшла ў магазін глядзець, што купіць, каб дзеда апрануць. Прыйшла, паглядзела – усё дарагое. Тады яна падумала: “Што ж дарагое купляць?” – і купіла спартыўны касцюм і кеды. Апранула дзеда, села каля яго і плача.

– Куды ж ты, мой дзедухна, сабраўся?

А дзед устае і кажа:

– На стадыён у футбол гуляць.

**Гаспадыня.** Дзякуй вам, хлопцы-малойцы ды дзяўчаткі-кветачкі, што завіталі да мяне на вячоркі!

**Хлопец.**

Хопіць нам ужо, сябры,
Пець, рабіць, смяяцца.
Шкада, але трэба з вамі развітацца.

**Дзяўчына.**

Няхай вам часценька шанцуе на госці,
Ніхто каб ніколі не меў на вас злосці.

**Гаспадыня.** Дружна жывіце, хутка расціце, край свой любіце.

**Гаспадар.** Не таму любіце, што за ўсё цяплейшы і прыгажэйшы, а таму любіце, што за ўсё мілейшы, за ўсё даражэйшы.

*Гучыць песня пра родны край (на выбар настаўніка).*

### ЧАСТКА ДРУГАЯ “СМАЧНАЯ”

*Уваходзіць Сымоніха.*

**Лявоніха.** Ну што, спадабаліся вам вячоркі?

**Сымоніха.** А ты што тут робіш?

**Лявоніха.** Вось не ведаю, што ты тут робіш, а я асабіста на бабку да суседа прыйшла.

**Сымоніха.** Ты – на бабку да суседа? З чартапалохам? Вунь, цэлы кошык прынесла.

**Лявоніха.** Сама ты чартапалох. А ты што прывезла? Пакажы людзям.

**Сымоніха.** Гарбузы! Глянь, якія прыгожанькія, тоўсценькія, усе ў адзін.

**Лявоніха.** Ды якія ж гэта гарбузы? Гэта ж заморкі нейкія, а не гарбузы. Сама – во, а гарбузы – во! Гаспадыня знайшлася!

**Сымоніха.** Гаспадыня не гаспадыня, але такога, як у цябе, няма. Не было чаго ў госці прынесці, пустазелля з агарода насушыла.

**Лявоніха.** Якое гэта пустазелле? Хіба ты не ведаеш, навошта чартапалох у хаце? Ведама ж, каб нячыстую сілу адганяць.

**Сымоніха.** Людцы добрыя, дапамажыце! Дайце мёду атруціцца.

**Дзед** (*спыняе іх*). Хопіць сварыцца, заходзьце, калі ласка, у хату, а то бабка і дранікі стынуць.

**Сымоніха, Лявоніха, Дзед.** Запрашаем усіх на беларускую кухню.

*Вучні чытаюць верш “Хлеб – соль” С. Гаўрусёва, калі госці ўжо сядзяць за сталамі.*

**1-ы вядучы.** Дзе печ, там і тое, што з печы, – гарачая і смачная ежа. І ў першую чаргу – хлеб. Пшанічны ў нас пяклі радзей. Беларусы любяць чорны хлеб, але ўлетку, калі дарагая кожная хвіліна, пяклі праснакі (печыва з прэснага цеста ў выглядзе тоўстых аладак, коржыкаў). Любілі заўсёды і пірагі, асабліва з макам. Хлеб абагаўлялі. Кінуць яго – смяротны грэх. Хлеб надзённы дае сілу чалавеку для працы, жыцця. З даўніх часоў нашы продкі самі выпякалі хлеб.

**2-і вядучы.**

Радуюць сэрца сонца і травы,
Дзень мой праменны,
Дзень мой ласкавы,
Водар хваёвы,
Сіняе неба,
Кожнае ранне
Рады я хлебу.
Рады я ўсходам веснімі днямі
І як гамоніць
Ён каласамі,
Большай не маю
Сёння патрэбы –
Кожнае ранне
Рады я хлебу!

**3-і вядучы.** Хлеб у нас жытні, вельмі духмяны. Пяклі яго, калі печ выпалена і з яе вымецена вуголле. У дзежцы ставілі рошчыну. У цеста дабаўлялі вараную тоўчаную бульбу, каб хлеб быў мяккі і пульхны. Потым з цеста рабілі круглыя боханы, клалі іх на драўляную лапату, засланую кляновым, дубовым лісцем або аерам. За выпечкай трэба было абавязкова сачыць: спырскваць боханы вадой, каб яны не падгарэлі. Потым, зноў змочаныя вадой, боханы хлеба клалі на ручнікі. Хату напаўняў найлепшы ў свеце пах…

**4-ы вядучы.**

Пахне хлебная скарынка
Цёплым ветрыкам, хваінкай,

Летнім дожджыкам грыбным,
Лугам,
Полем аржаным,
І асенняй пазалотай,
І натхнёнаю работай.

**5-ы вядучы.** На Беларусі з даўніх часоў вядомы "другі хлеб" – бульба. Беларусы ведаюць каля тысячы страў з бульбы. Ад звычайнай, печанай, да клёцак. Апісаць усе стравы немагчыма. Кепска было, калі яшчэ не было бульбы. Замест яе была бручка ці параная рэпа.

*Гучыць песня "Бульба" (муз. А. Алешкі, сл. А. Лягчылава).*

**1-ы вядучы.** Беларусы заўсёды любілі, ды і цяпер любяць, смачна паесці. На куццю, да прыкладу, на стол ставілі дванаццаць, васямнаццаць, а то і дваццаць чатыры стравы. І ўсё гэта трэба было пакаштаваць.

Адной з асноўных страў была капуста. Потым ішлі поліўка (дужа тлусты гарачы суп, падпраўлены мукой), панцак (пярловы суп з грыбамі), булён (бульбяны суп, засквараны салам), елі таксама лапшу, халаднік з мясам і гуркамі, супы па сезоне – шчаўе, маладую крапіву з яйкамі. Былі малочныя супы. Сярод іх – гушча налiваная (пшанічная каша, залітая гарачым малаком). І нарэшце – квас, від баршчу.

**2-і вядучы.**

Спыніцца мушу я на квасе:
Ён колер меў чырванаваты;
Тут быў таран, мянёк пузаты,
Шчупак, лінок, акунь, карась,
Кялбок і ялец, плотка, ясь,
Яшчэ засушаныя з лета.
Але не ўсё яшчэ і гэта:
Аздоблен квас быў і грыбамі,
Выключна ўсё баравікамі,
Цыбуля, перчык, ліст бабковы –
Ну, не ўясісь, каб я здаровы!
Пільнуй – цішком скажу між намі, –
Каб і язык не ўцёк часамі.

**3-і вядучы.** Пілі нашы дзяды і прадзеды малако, салодкае і кіслае, кісялі, кляновік, бярозавік, віно з яблыкаў, піва, наліўкі. Любілі крупнік, звараны з мёдам, вострымі прыправамі, травамі і каранямі. Робяць беларусы ўсё гэта і цяпер.

**4-ы вядучы.** Беларусы любяць мачанку з блінамі, калдуны, яечню, верашчаку. Гатавалі нашы продкі таксама стравы з мяса, сала, птушкі, рыбы.

**5-ы вядучы.**

Кілбасы – скруткі, як падковы,
Між сцёган, сала і грудзінак
Красуе ўсмажаны падсвінак,
Чысцюткі, свежы і румяны,
Як бы паніч той надзіманы.

**1-ы вядучы.** Ва ўсім назіраецца непаўторнасць і адметнасць жыцця народа, нават у тым, што беларус умеў іранізаваць не толькі з некага, але і з самога сябе, са свайго апетыту. Успомніце, як піша пра гэта Уладзімір Караткевіч.

**2-і вядучы.** "Прадаў на рынку кабана, пайшоў закусіць. З'еў тры міскі капусты з боханам хлеба, сала хатняга з фунт. Тут купіў яшчэ тры порцыі смажанай каўбасы ды ўмяў. Пасля бульбы замамоніў міскі тры. Зноў баршчу міску ўбіў з булкай. А пасля як успомніў, што брат у салдатах, то як завязала".

**3-і вядучы.** Сярод шматлікіх нацыянальных беларускіх абрадаў найбольш вядомыя вясельны, радзінны, хрэсбінны, пахавальны і памінальны. Самы багаты вясельны стол. А сярод сямейных урачыстасцей, прысвечаных рэлігійным святам, вылучаліся Каляды і Вялікдзень. Стол тады ў кожнай сям'і быў таксама вельмі багаты і адрозніваўся ад паўсядзённага.

**4-ы вядучы.**

І вось вячэра зачалася!
За квасам елі верашчаку,
А потым блінчыкі на маку,
А там ламанцы – праснакі
З пшанічнай добрае мукі.
А макаў сок такі салодкі,
Ламанцы ў ім – ну, як калодкі,
Так добра макам праняліся:
У рот паложыш – абліжыся.
За праснакамі йшлі кампоты;
Кісель з мядоваю сытою,
Вячэру скончылі куццёю.

*Гучыць народная песня "А я ў печы не паліла".*

### ЧАСТКА ТРЭЦЯЯ «ЗАКЛЮЧНАЯ. "ЗЯМЛЯ ПАД БЕЛЫМІ КРЫЛАМІ"»

*Гучаць цымбалы.*

**Вядучы.** Узняўшы белыя ветразі крылаў, ляцяць буслы. Іх многа і многа тысяч. І таму зямлю нашу, Беларусь, часта называюць зямлёй пад белымі крыламі.

### Інсцэніроўка "Бусел і вучань"

**1-ы вучань.**
Бусел, бусел, клёка-клёка,
Дзе ты жыў?
**Бусел.**
Я жыў далёка:
За гарамі, за лясамі,
Там, дзе Ніл, на поўдні самым.
**1-ы вучань.** Што за Ніл?
**Бусел.**
Рака такая,
Быццам мора, гаманкая.
А ў тым Ніле, хлопча мілы,
Ёсць страшыдлы кракадзілы.
**1-ы вучань.** Як жа ты там, буслу, жыў?
**Бусел.**
Я не жыў, усё тужыў,

Дзе б ні быў, дзе б ні лятаў,
Родны край успамінаў.

*Гучыць песня “Бярозка” (муз. І. Лучанка, сл. А. Вялюгіна).*

**2-і вучань.** Што такое Бацькаўшчына, знаеш?

**Вучаніца.**

Гэта рэчка,
Сцежачка лясная,
Гэта ў лузе залатая пчолка,
А ў вачах тваіх – вясёлка.
Бацькаўшчына – гэта дом твой, школа,
Гэта песні, што звіняць наўкола…

**2-і вучань.** Вось яна (*вучань паказвае на карту*), наша Бацькаўшчына – Рэспубліка Беларусь. Сталіца краіны – горад Мінск. Тэрыторыя дзяржавы падзелена на шэсць абласцей: Брэсцкую, Мінскую, Віцебскую, Гродзенскую, Гомельскую і Магілёўскую.

**Вучаніца.**

Беларусь мяжуе з Польшчай,
Украінай, Расіяй, Латвіяй, Літвой.
Твой родны край, твая Айчына –
Жыццё тваё і гонар твой.
І ты яе запомні імя,
Як неба, сонца і зару.
Твая зямля, твая Радзіма
Названа светла –
Бе-ла-русь.

**3-і вучань.**

Як называецца дзіўна…
Ты пра яе раскажы.
Белая Русь – Радзіма
Перад табой ляжыць.
Крыкні – яна адгукнецца
Звонам гарачых кос.
Кропля з ліста сарвецца,
Ускалыхнецца плёс.

*Выконваецца танец “Люлечка”.*

**1-ы вучань.** Паглядзіце на карту Беларусі, і вы адразу ўбачыце, як шмат тут гарадоў і мястэчак.

**2-і вучань.**

Яны даспадобы мне, хай і старыя,
Не толькі ў гучанні іх добры змест.
Як многа гавораць мне назвы такія –
Мінск,
Пінск,
Брэст.
Калі паразважыш, няцяжка дазнацца,
Бо сведчаць на ўсю неабсяжную шыр,
Што продкі любілі спакойную працу –
Шклоў,
Клецк,
Мір.

**1-ы вучань.**

Горад Слонім ёсць на Шчары.
Ды чамусьці не сланы
Топчуць ля яго абшары,
А ласі і кабаны.
Мой таварыш –
Самы добры! –
Побліз Кобрына жыве.
Там вужакі, а не кобры
Выгінаюцца ў траве.

*Гучыць верш “Мая Пружанская зямліца” М. Засіма (пад музыку).*

**2-і вучань.**

Мая Пружанская зямліца,
Твае палі і сінь нябёс
Мне будуць бачыцца і сніцца,
Куды б мяне ні кінуў лёс.

Павер мне, мой бацькоўскі краю,
Як песні пра цябе пяю,
Здаецца мне – я засяваю
Насеўкам родную зямлю.

І словы-зерняткі глыбока
Кладуцца ў свежую раллю,
І ты жывым іх поіш сокам,
Гадуеш песню ты маю.

Мая ты родная зямліца!
Хто палюбіў цябе навек,
Таму ты – творчасці крыніца,
І той – шчаслівы чалавек.

**Вучань.** Як усё-такі добра, што мы нарадзіліся з табой у такой прыгожай краіне з такой дзіўнай назвай – Белая Русь, сярод такога таленавітага народа.

**Вучаніца.** І пакуль будзе жыць наш народ, датуль будзе зачароўваць нашу душу бабульчына казка, матуліна песня, саграваць нашы сэрцы вясёлы танец і трапны жарт.

*Пад музыку да песні “Ave, Maria” вучні чытаюць вершы.*

**Вучань.**

Я буду маліцца і сэрцам, і думамі,
Распетаю буду маліцца душой,
Каб чорныя долі з мяцеліцаў шумамі
Ўжо больш не шалелі над роднай зямлёй.

**Вучаніца.**

Малюся я небу, зямлі і прастору,
Магутнаму Богу – Ўсясвету малюся,
Ва ўсякай прыгодзе, ва ўсякую пору
За родны загон Беларусі.

**ЗАСЛОНА.**

**Людміла РАЗУМЕЙЧЫК,**
настаўнік беларускай мовы і літаратуры
вышэйшай кваліфікацыйнай катэгорыі
Параслянскай агульнаадукацыйнай сярэдняй школы
Пружанскага раёна,
**Аксана СОБАЛЬ,**
настаўнік беларускай мовы і літаратуры
першай кваліфікацыйнай катэгорыі
Параслянскай агульнаадукацыйнай сярэдняй школы
Пружанскага раёна.

*Вяртанне да вытокаў*

Анатоль СТАТКЕВІЧ-ЧАБАГАНАЎ

# СЫЦЬКО ГЕРБА "АСТОЯ"

Маму маёй прабабулі Наталлі Васільеўны Карафа-Корбут звалі Наталляй Стэфанаўнай, паходзіла яна з роду Сыцько.

Гаворачы пра знакамітасць роду Сыцько, яго шляхецкія карані, лепш за ўсё звярнуцца да дакументаў, якія сведчаць, што ўжо з XIV ст. прадстаўнікі сям'і займалі значныя пасады: "...1432 года датаваны месяца ліпеня 12 дня, а 1765 жніўня 6 дня ў земстве Навагрудскім актыкаваны прывілей на староства Цырынскае, народжанаму Севестрыяну Сыцко ад Уладзіслава трэцяга караля польскага выдадзены"*.

А вось прывілей караля польскага Стэфана, з якога даведваемся, што наш продак Стэфан Сыцько, якога мы лічым родапачынальнікам, за асабістую мужнасць атрымаў герб "Астоя", чын ротмістра і шляхецтва. Адбылося гэта ў час ваенных дзеянняў пад Псковам у 1581 г. Працытуем гэты ўнікальны дакумент:

"Божию милостью Стефан король польский, великий князь литовский, русский, прусский, мазовецкий, самошитский, киевский, волынский, подольский, лифляндский, смоленский, северский, черниговский и семигродской земли князь. Обращая внимание на долговременную усердную и отличную службу нотариуса при казне нашей Стефана Сыцки, не токмо в прочия, но и в нынешнею войну, продолжаемую под Псковом по сделанному нам г. великим войск царства нашего гетманом канцлером краковским старостою Иваном Замойским представлению за оказанное в военных противу русских действиях, отличие и именно за храбрость в сделанной ныне при осаде Пскова вослазнелуем ему, Сыцке, и законным наследникам право пользоваться дворянским достоинством со всеми относящимися к сему званию преимуществами, позволяя ему и



**Герб "Астоя" роду Сыцько.**

наследникам его за таковыя отличныя в ночное время с войском противу неприятеля опасныя действия употреблять навсегда герба Остоя, самого же его, нотариуса при казначействе, Стефана Сыцку в поощрение к службе и в пример другим производим в ротмистры войска нашего Великого княжества. В удостоверение сего собственноручно подписавшись, государственную печать к сей грамоте приложить мы повелели. Дан в обозе нашем при городе Пскове ноября 13 дня 1581 царствования нашего в 6 году"**.

Што ўяўляў сабою герб "Астоя", які прызначыў храбраму Стэфану сам кароль польскі?

Легенда пра ўзнікненне герба гаворыць: у часы Баляслава Храбрага варожыя войскі праніклі на тэрыторыю Кароны Польскай. Супраць іх быў пасланы палкоўнік Астоя з невялікім атрадам рыцараў. Ён, праявіўшы знаходлівасць, змог захапіць у палон некалькіх ворагаў і даведацца пра іх планы. Затым, аб'яднаўшыся з іншымі харугвамі, акружыў ворагаў і атрымаў бліскучую перамогу. У гонар рыцара каралём быў зацверджаны герб: "Два няпоўныя залатыя месяцы паўколамі

* **Нацыянальны гістарычны архіў Рэспублікі Беларусь (НГАРБ).** – Фонд 319. – Воп. 2. – Спр. 3177. – Арк. 190 – 194.

** **НГАРБ.** – Фонд 319. – Воп. 2. – Спр. 3177. – Арк. 42 – 47.

*"Роднае слова" працягвае друкаваць часопісны варыянт выбраных раздзелаў з кнігі "Я – сын Ваш"* ***Анатоля Статкевіча-Чабаганава****, першы том якой рыхтуецца да выдання. Ужо змешчаны матэрыялы з летапісу беларускай шляхты «Некрашэвічы герба "Любіч"» (2010, № 4), «Сацкевічы-Статкевічы герба "Касцеша"» (2010, № 5), «Карафа-Корбуты герба "Корчак"» (2010, № 6), «Татуры герба "Дамброва"» (2010, № 7), «Забэлы герба "Тапор"» (2010, № 8).*



**Пячатка з гербам "Астоя".** Пачатак XIX ст. Бронза. З калекцыі Анатоля Статкевіча-Чабаганава.

да сябе звернутыя, рагамі на бок, паміж імі белы зламаны меч рукаяткаю ўверх, у чырвоным полі, у шлеме пяць страусавых пёраў…"

Калі ў канцы XVIII ст. польская дзяржава была далучана да Расійскай імперыі, Мінскі дваранскі дэпутацкі сход вырашыў, што род Сыцько "ад самых старажытных часоў у польскім каралеўстве паселены, усіх прывілеяў і вольнасцей дваранскаму саслоўю законам дазволеных ужываў", і 13 ліпеня 1804 г. зацвердзіў дваранства.

Многія з адшуканых дакументаў, якія падкрэсліваюць шляхецкае паходжанне роду, датаваны XVIII ст. Вось выпіс з актавай кнігі Навагрудскага гродскага суда ад 12 студзеня 1707 г.: "Аршанскі падчашы Мікалай Крукоўскі і яго жонка Элеанора з роду Магільніцкіх прадалі Андрэю [праўнуку згаданага Стэфана] і Ганне Сыцько: 24 валокі, 24 моргі зямлі ў маёнтку Востраў Барок Навагрудскага ваяводства з пасевам 20 гарнцаў жыта, з сенакосамі, гаямі, лясамі, бортным дрэвам і карчмой Сасіноўкай на тракце Слуцк-Грэск, з пабудовамі за 4600 тынфаў з правам валодаць бесперашкодна, выплачваць рэспубліцы падаці, дзяліць пабудовы, пасяляць сялян, атрымліваць на ўплату падацей ад аднаго токма сялянскага двара падаці каму-небудзь даць, падарыць і залажыць без усякай… перашкоды". Гэты маёнтак упамінаецца ў шэрагу дакументаў. Частка яго зямель прадаецца, частка пераходзіць у спадчыну. Напрыклад, 8 ліпеня 1754 г. у рашэнні гродскага суда Навагрудскага ваяводства сказана: "Бацька Якава – Андрэй Сыцько, валодаючы ў Востраве Барку зямлёю ў 24 валокі і столькі ж моргаў, хаця частку прадаў, аднак палавіну, гэта значыць 12 валок, сыну Якаву ў спадчыну пакінуў".

Нам вядома, што Якаў разам з жонкай Кацярынай Жызнеўскай судзіўся з Паўлам і Іааннай, народжанай Статкевіч, Забэламі. Абвінавачваў іх у прысваенні скаціны на мяжы ўладанняў у маёнтку Востраў Барок. Якаў пакінуў у 1757 г. духоўнае завяшчанне, па якім спадчынны маёнтак Востраў Барок з сялянамі завяшчаў сынам, у тым ліку і нашаму продку Івану.

Іван Сыцько разам з братамі прадаў 5 сакавіка 1764 г. вотчынны маёнтак Аляксандру Мачульскаму, а амаль праз трыццаць гадоў, у 1793 г., ён напісаў духоўнае завяшчанне, "якім… адпісаў сынам сваім Рыгору, Стэфану і дачцэ Ганне Сыцько дзесяць тысяч злотых польскіх і іншую гаспадарчую маёмасць, а пляменнікам Фёдару Казіміраву і Пятру Фаміну Сыцькам па чорнай кабыле".

Міжволі ўзнікае пытанне: а дзе ж жылі нашы родзічы пасля продажу вотчыннага маёнтка? Прасочым гэта на жыццёвым шляху сына Івана Сыцько, Рыгора, які нарадзіўся 12 ліпеня 1758 г. яшчэ ў маёнтку Востраў Барок непадалёку ад засценка Вакшаты, дзе ў сям'і Іваноўскіх падрастала Кацярына, яго будучая жонка.

Па рэвізскіх сказках чыншавай шляхты за 1795 г. Рыгор Сыцько разам з сям'ёй значыўся ў засценку Меляшковічы, а затым да 1805 г. – у засценку Клешава Слуцкага павета на арэнднай зямлі князя Дамініка Радзівіла. Пазней сям'я вырашыла перабрацца ў Бабруйскі павет, дзе арандавала землі ў засценках Рудабелка і Заціша ў памешчыка, паручніка расійскіх войскаў Дамініка Лапы, з якім 23 сакавіка 1819 г. заключылі 10-гадовы арэндны кантракт.

Тут, у Зацішшы, сын Рыгора Сцяпан ажаніўся з Кацярынай з роду Ліпскіх. Сустрэча іх не была выпадковай, бо Ліпскія жылі побач у засценку Воўчы Бор. Там жа 24 лістапада 1816 г. у Сцяпана і Кацярыны нарадзілася дачка Наталля – мама маёй прабабулі Наталлі Васільеўны Карафа-Корбут. Хрысцілі нованароджаную ў парыцкай Раство-Багародзіцкай царкве 28 лістапада 1816 г.

Калі скончыўся дзесяцігадовы кантракт, сям'я Сцяпана пераехала на землі памешчыка Антона Навакоўскага ў маёнтак Каплічы Рэчыцкага павета, аднак мара пра сваю зямлю не пакідала іх.

Сыны Сцяпана Андрэй і Назар сумесна з дваранамі Забэламі, Іванам Корбутам і Вікенціем Статкевічам 23 красавіка 1847 г. купілі ў памешчыка Рагачоўскага павета Тэафіла Антонавіча Маліноўскага 300 дзесяцін зямлі ў двух надзелах у засценках Малінава і Ямянец, з правам раздзяліць паміж сабою на часткі. Пасля гэтага ўся сям'я Сцяпана перабралася на новае месца жыхарства ў Малінава, дзе яго дачка Наталля пазнаёмілася з Васілём Іванавічам Карафа-Корбутам. Вянчанне адбылося ў глускай Уваскрасенскай царкве.

Жывучы ў Малінаве, Андрэй і Назар Сыцько працягвалі купляць зямлю. Прывяду ў па-

цвярджэнне два дакументы. Першы з іх – купчая крэпасць ад 3 чэрвеня 1874 г., па якой браты набылі ўрочышча Востраў, якое "знаходзіцца ў Мінскай губерні Бабруйскага павета Глускай воласці, ад жонкі калежскага асэсара Вольгі Анастасьевай Сіцінскай". Пры ўвядзенні ў валоданне сведкамі былі Казімір Забэла і дваранін Вікенцій Статкевіч – мой прапрадзед. А другі дакумент – выканаўчы ліст Мінскай злучанай палаты крымінальнага і грамадзянскага суда, дзе гаворыцца пра пакупку надзелу зямлі ў абрубе Малінава і Ямянец 28 верасня 1893 г.

Знайшоўся ў архівах і яшчэ адзін цікавы дакумент – завяшчанне Андрэя Сыцько ад 9 лістапада 1910 г.: "У імя Айца і Сына і Святога Духа. Я, дваранін Андрэй Сцяпанаў Сыцько, знаходзячыся ў цвярозым розуме і цвёрдай памяці, па праве, дадзеным мне законам… уласны мой маёнтак… які складаецца з 125 дзесяцін зямлі ва ўрочышчы Востраў… і 101 дзесяціны зямлі пад сядзібай… завяшчаю палавіну ў неад'емную ўласнасць нявестцы маёй Алене Вікенцьевай Сыцько… другую ж палову азначаных угоддзяў у засценку Малінава і ўрочышчы Востраў завяшчаю сыну майму Самуілу Андрэеву Сыцько… Завяшчанне гэтае сілу і дзеянне павінна набыць пасля маёй смерці. Амінь. Што гэта завяшчанне напісана са слоў і па просьбе маёй, у тым распісваюся, дваранін Андрэй Сцяпанаў Сыцько".

Хацелася б патлумачыць, што згаданая ў тастаменце Алена Вікенцьеўна паходзіла з роду Сацкевічаў-Статкевічаў і даводзілася роднай сястрой майму прадзеду Івану Вікенцьевічу. Гэта яшчэ раз пацвярджае існаванне з'явы шматразовага яднання родаў, што жылі ў адной мясцовасці, імкненне дваран браць шлюб з дзяўчатамі свайго саслоўя.

Былі ў родзе Сыцько не толькі землеўладальнікі, але і купцы. Адзін з іх – Васіль Андрэевіч Сыцько – сустракаецца ў архіўных дакументах як запісаны ў купцы па Бабруйскім павеце. Сваю кар'еру ён пачаў у 1890 г.

Прадстаўнікі роду Сыцько прызнаваліся Сенатам спадчыннымі дваранамі і ў XIX ст., і ў пачатку XX ст. Апошні такі дакумент датаваны 12 мая 1915 г.

Род Сыцько знаходзіўся ў цеснай сувязі з родам Некрашэвічаў. Адна з сясцёр акадэміка Сцяпана Міхайлавіча Некрашэвіча Праскоўя выйшла замуж за Андрэя Самуілавіча Сыцько, які быў настаўнікам, працаваў дырэктарам школы.

У памяці нашчадкаў роду Сыцько жывуць вартыя ўвагі гісторыі, пра якія хацелася б расказаць.

Адну з іх я пачуў у 2005 г., пабываўшы ў Клетным, што ў Глускім раёне, ад Уладзіміра Пятровіча Сыцько, які паказаў магілу свайго трауроднага брата, чый лёс нагадвае лёс шэкспіраўскага Рамэа, і помнік яму.



**Праскоўя Міхайлаўна Сыцько (Некрашэвіч) з мужам Андрэем Самуілавічам.** 1930-я гг.

Гісторыя гэтага сумнага кахання такая. Мікалай Усцінавіч Сыцько паходзіў з заможнай дваранскай сям'і, якая мела ўласную зямлю і нават крухмальны завод, што сведчыла і пра багацце, і пра адпаведнае становішча ў грамадстве. Мікалаю ішоў ужо трыццаты год, а ён усё яшчэ хадзіў нежанаты, і вось нечакана закахаўся, па-юнацку страсна. Гэта было рамантычнае і вельмі моцнае пачуццё. На сваю бяду ён выбраў дзяўчыну іншага саслоўя – з сялян. Мікалай, многае перадумаўшы, усё-такі рашыўся прасіць блаславення ў бацькоў, аднак атрымаў адмову. Усцін Андрэевіч і Алена Вікенцьеўна былі аднной думкі: "Яна, сынок, табе не пара. Трэба берагчы дваранскую годнасць, захоўваць традыцыі". Мала-




**Помнік Мікалаю Усцінавічу Сыцько ў в. Клетнае (Малінава) Глускага раёна.**



**Алена Пятроўна Статкевіч (у дзявоцтве Сыцько).** 1940 г.

ды чалавек не здаваўся, не адмаўляўся ад каханай. Бацькі не змаглі яго пераканаць, а ён усё ўгаворваў і ўгаворваў іх. Пасля чарговай рэзкай размовы Мікалай не вытрымаў, грымнуўшы дзвярыма, выбег на двор, хутка запрог у павозку маладога гарачага жарабца і, пасцёбваючы яго, паімчаўся па няроўнай дарозе насустрач бядзе. І яна спаткала на крутым павароце. Смерць была імгненнай.

Прыбіты горам бацька спецыяльна паехаў у далёкі Пецярбург і прывёз адтуль важкі помнік: гранітны крыж на прыгожым пастаменце, які з той пары, з 1915 г., стаіць у Клетным як памяць пра трагічнае каханне.

А вось яшчэ адна гісторыя з летапісу роду Сыцько. Ішла Вялікая Айчынная вайна. Пачалася чарговая нямецкая блакада каля Зыслава і Малінава – у партызанскіх лясах, на мяжы Любанскага і Глускага раёнаў. Адсюль народныя мсціўцы наносілі сур'ёзныя ўдары па ворагу, прычыняючы яму значны ўрон. Немцы былі ў шаленстве, яны вырашылі назаўсёды расправіцца з "ляснымі бандытамі", а заадно і мясцовае насельніцтва запужаць, паставіць яго на калені – палілі вёскі, знішчалі ўсіх, хто дапамагаў партызанам. Мая сваячка Алена Пятроўна Сыцько, у замужжы Статкевіч, стала ахвярай фашысцкага зверства. Яе брат-партызан Уладзімір прыбег аднойчы і паведаміў трывожную вестку:

– Немцы пачалі наступленне, неабходна ўжо гэтай ноччу хутчэй уцякаць у лес. Прыйдуць – нікога не пашкадуюць, асабліва партызанскія сем'і. У паліцыі на кожную сям'ю – інфармацыя. Збірайся, Алена!

Але жанчына не паслухалася парады: яшчэ шмат чаго не зроблена па гаспадарцы, надыдзе раніца – будзе відаць. А раніцай ужо несліся крыкі па ўсёй вёсцы:

– Немцы! Немцы!

Людзі кінуліся да недалёкага ельніку, пабегла за імі і Алена Пятроўна разам з васьмігадовай пляменніцай Вандай, якая прыехала да яе на лета з Мінска. Але ельнік быў акружаны фашыстамі. Жанчына ўсё ўпрошвала паліцаяў:

– Папрасіце немцаў, каб нас адпусцілі. У мяне ж дзеці маленькія! Скажыце ім!

Яе ніхто не слухаў. Вяскоўцаў сагналі ў адну хату, успыхнула полымя, заглушыўшы крыкі і стогны…

А вось дзеці Алены Пятроўны засталіся жывыя. Яны ў той час былі ў бабулі і таксама кінуліся да таго ельніку, але, заўважыўшы фашыстаў, схаваліся ў склепе. Гэта і ўратавала іх.

Вярнуўся цэлым і здаровым дадому з вайны і муж Алены Пятроўны – Міхаіл Антонавіч Статкевіч. Ніводнага ранення! Ён меў мноства ўзнагарод і пражыў 97 гадоў.

Хацелася б расказаць і пра лёс Івана Андрэевіча Сыцько, які быў жанаты з Ганнай Сцяпанаўнай з роду Карафа-Корбутаў. Усю яго сям'ю саслалі на Далёкі Усход, на спецпасяленне. З Малінава тады выслалі ўсіх, хто жыў тут: і Карафа-Корбутаў, і Статкевічаў, і Забэлаў, і іншых былых "паўпамешчыкаў і дваран", як называлі іх новыя гаспадары жыцця. Усяго шаснаццаць сем'яў.

У жорсткіх умовах Хабараўскага краю Іван і Ганна Сыцько загінулі, а іх дзеці Павел і Марыя засталіся адны і выжывалі, як маглі. Бывала, начавалі ў стозе сена, каб не памерці ад холаду. Там і знайшоў іх выпадкова мясцовы жыхар і адвёз у найбліжэйшы дзіцячы дом. Галодныя, змучаныя і саслабелыя ад голаду дзеці не маглі ўспомніць сваё прозвішча. І тады выхавальнікі назвалі іх Дзецкімі, так і запісаўшы ў метрыкі. Прайшло некалькі гадоў, Павел і Марыя падраслі і папрасілі звярнуцца ў спецпасяленне, каб там дапамаглі аднавіць страчанае прозвішча. Ім пашанцавала: захаваўся спіс перасяленцаў, дзе яны ўзгадваліся разам са сваімі бацькамі. Так было вернута іх сапраўднае прозвішча – Сыцько.

Павел так і застаўся ў Хабараўскім краі, а Марыя выйшла замуж і пераехала на Украіну ў Харкаўскую вобласць. Там жыве яе дачка Валянціна разам з унукамі.

Але "два няпоўныя залатыя месяцы паўколамі да сябе звернутыя, рагамі на бок… у чырвоным полі" з герба Сыцько і сёння свецяць нашчадкам. Мінулае не забываецца…

*Пераклад з рускай мовы.*

*Працяг будзе.*

*Аўтар ахвяруе ганарар на развіццё часопіса.*

# СЛАВУТЫЯ ІМЁНЫ ПОЛАЦКА

Полацк – горад гістарычны, горад-легенда, адзін з найстарэйшых гарадоў на тэрыторыі Усходняй Еўропы. Яго гісторыя бярэ пачатак з 862 г., калі ён упершыню згадваецца ў летапісах. Заснаваны крывічамі на месцы, якое належала балцкай днепра-дзвінскай культуры, Полацк стаў калыскай для многіх знакамітых дзеячаў беларускай і сусветнай культуры. Еўфрасіння Полацкая, Францыск Скарына, Сімяон Полацкі – усе яны пачалі сваю асветніцкую дзейнасць у родным Полацку, тут яны заклалі трывалы падмурак для развіцця асветы ва ўсходнеславянскім рэгіёне.

Полацкая княжна, асветніца, першая канаізаваная беларуска, Еўфрасіння Полацкая – унучка князя Усяслава Брачыславіча (Чарадзея). Пастрыгшыся ў манашкі, дзяўчына пасялілася ў келлі Полацкага Сафійскага сабора, дзе перапісвала кнігі, магчыма, складала летапісы, перакладала з грэчаскай мовы. Сабраўшы манастырскую бібліятэку, Еўфрасіння Полацкая арганізавала невялікую школу, у якой вучыла грамаце маладых дзяўчат. Каля 1160 г. на свае сродкі пабудавала ў Полацку дзве царквы – Святога Спаса (цяпер Спаса-Праабражэнская) і Святой Багародзіцы, заснавала жаночы і мужчынскі манастыры, якія сталі цэнтрам асветы ў Полацкім княстве. У 1984 г. Еўфрасіння Полацкая была прылічана да Сабору Беларускіх Святых. Яна засталася ў памяці нашчадкаў як прадстаўніца культурна-асветніцкага руху не толькі ў Полацкім княстве, але і ва ўсім праваслаўным свеце свайго часу.



**Помнік Еўфрасінні Полацкай у г. Полацку.**
***Скульптар І. Голубеў, архітэктар У. Ягадніцкі.***
2002 г.

Асветніцкую справу Еўфрасінні Полацкай працягвала яе дваюрадная сястра Звеніслава (у манастве Еўпраксія) Барысаўна, дачка полацкага князя Барыса Усяславіча. На сродкі і каштоўнасці Звеніславы, якія яна перадала ў манастырскую казну, у Полацку быў пабудаваны Спаса-Еўфрасіннеўскі храм. У заснаванай Еўфрасінняй Полацкай школе Звеніслава вучыла грамаце дачок багатых палачан, бо з'яўлялася адной з самых адукаваных жанчын свайго часу. Звеніслава была сярод тых вернікаў, якія суправаджалі Еўфрасінню ў яе паломніцтве ў Іерусалім да Труны Гасподняй. Менавіта яна пазней узяла на сябе клопаты, звязаныя з пахаваннем Еўфрасінні. А калі вярнулася ў Полацк, то адразу пачала жыццеапісанне сваёй духоўнай настаўніцы.

Адзін з самых знакамітых палачан – Францыск Скарына. Ён увайшоў у гісторыю як беларускі і ўсходнеславянскі мысліцель-гуманіст, асветнік, настаўнік і пісьменнік эпохі Адраджэння. Сусветна вядомы беларускі першадрукар браў удзел у падрыхтоўцы Статута Вялікага Княства Літоўскага 1529 г., пракаментаваў і апублікаваў 23 кнігі Бібліі пад назвай “Библия руска, выложена доктором Франциском Скориною из славного города Полоцька, богу ко чти и людем посполитым к доброму научению”.

Пра сваё творчае і жыццёвае крэда Скарына казаў: “Як святло перавышае над цемраю, так і мудрасць над невуцтвам”, а расказваючы пра сябе, зазначаў, што “больш у навуцы і ў кнігах пакінуў славу і памяць сваю, чым у тленных царскіх скарбах”.

У 1629 г. у Полацку нарадзіўся Сімяон Полацкі, свецкае імя якога – Самуіл Емяльянавіч (па больш позніх крыніцах – Гаўрылавіч) Пятроўскі-Сітніяновіч. Пасля навучання ў Віленскай езуіцкай калегіі Самуіл вяртаецца ў Полацк, дзе ў 1656 г. прымае манаства ў полацкім Богаяўлен-

скім манастыры пад імем Сімяона. На полацкай зямлі ён пачаў сваю педагагічную і выхаваўчую дзейнасць. Намаганнямі асветніка ў Полацкай брацкай школе, дзе ён настаўнічаў, была пашырана праграма навучання: у дапаўненне да беларускай мовы былі ўключаны руская і польская, вялікая ўвага аддавалася граматыцы, засвойваліся рыторыка і паэзія.

Сімяон Полацкі шмат зрабіў для развіцця адукацыі на Русі. Сваёй культурна-асветніцкай і мастацка-творчай спадчынай упісаў яркую старонку ў гісторыю культуры беларускага і рускага народаў. Ён стаў заснавальнікам паэзіі і драматургіі як новых відаў літаратуры і ўсёй сваёй літаратурнай, выхаваўчай і асветніцкай дзейнасцю спрыяў росквіту славянскай культуры XVII ст. Асветнік-гуманіст прызнаваў велізарнае выхаваўчае значэнне кнігі і лічыў, што "свет гэты ўпрыгожаны кніга ёсць вялікая".

Родам з Полацка былі таксама царкоўныя дзеячы Рэчы Паспалітай Фларыян Грабніцкі і Цыпрыян (Кіпрыян) Жахоўскі. З сям'і святара паходзіў педагог, фізіёлаг і глебазнаўца Пётр Касовіч.

Полацк – радзіма публіцыста, дзеяча рэвалюцыйнага руху Івана Гласко, вядомага беларускага біёлага, арнітолага, папулярызатара прыродазнаўства і педагога Дзмітрыя Кайгародава, гісторыка і эканаміста Васіля Сямеўскага.

У Полацкім езуіцкім калегіуме вучыўся тэолаг, філосаф і літаратар Сігізмунд Лаўксмін, пазней ён выкладаў рыторыку, тэалогію і кананічнае права. Лаўксмін зрабіў значны ўнёсак у развіццё адукацыі на полацкай зямлі ў якасці рэктара Полацкага калегіума. З 1805 да 1807 г. у калегіуме вучыўся беларускі тэолаг, філосаф, крытык Вінцэнцій Бучынскі. У 1878 г. Полацкую ваенную гімназію скончыў гісторык і педагог, у далейшым прафесар Кіеўскага камерцыйнага інстытута і Віленскага ўніверсітэта Вітольд Навадворскі.

Жылі і працавалі ў Полацку ў розныя часы дзеячы культуры, імёны якіх малавядомыя нашым сучаснікам. Сярод іх Андрайкевіч (Ян Андрэй Гінтоўскі) – беларускі і польскі пісьменнік, педагог, царкоўны дзеяч, рэктар Полацкага езуіцкага калегіума, аўтар "Мемарыяла бессмяротнай памяці", у якім змешчаны партрэты і гербы вядомага беларускага роду Сапегаў. Выкладчыкам славеснасці ў Полацкім калегіуме працаваў рэлігійны дзеяч езуіт Ян Міхановіч. У сярэдзіне XVIII ст. рэктарам Полацкай езуіцкай акадэміі быў царкоўны прапаведнік і палеміст Адам Абрамовіч.

Маёнтак Будзькаўшчына Полацкага раёна – радзіма Браніслава Эпімаха-Шыпілы – фалькларыста, выдаўца і мовазнаўцы, ініцыятара




**Помнік Сімяону Полацкаму ў г. Полацку.**
***Скульптар А. Фінскі.*** 2003 г.

стварэння і аднаго з кіраўнікоў выдавецкай арганізацыі "Загляне сонца і ў наша аконца", фактычнага кіраўніка Беларускага навуковага літаратурнага гуртка студэнтаў у Пецярбургскім універсітэце.

На Полаччыне нарадзіўся асветнік, драматург і педагог XVIII ст. Ігнат Юрэвіч. Ён увайшоў у гісторыю айчыннай культуры як аўтар драматычных твораў для тэатра, што існаваў пры Забельскім дамініканскім калегіуме. Сярод іх – трагедыя "Крэз" і камедыя "Пышнагельскі". Нягледзячы на тое, што творы Юрэвіча напісаны па-польску, у іх адчуваюцца мясцовыя моўныя традыцыі, якія знайшлі адлюстраванне ў выкарыстаных аўтарам беларусізмах.

Полацкая зямля здаўна лічылася цэнтрам адукацыі і славянскай культуры. Яна вабіла да сябе тысячы наведвальнікаў, якія імкнуліся дакрануцца да яе святыняў. Дзякуючы знакамітым ураджэнцам і вядомым наведвальнікам Полацк стаў шырокавядомым месцам асветы на карце Еўропы. Найстаражытнейшы гісторыка-культурны цэнтр Беларусі і сёння з'яўляецца своеасаблівым сімвалам непахіснага духу беларускага народа, яго высокай духоўнасці і самабытнай культуры.

*Пераклад з рускай мовы.*

**Людміла СІДАРОВІЧ,**
кандыдат мастацтвазнаўства.

*Захавальнікі мінуўшчыны*

# З ГІСТОРЫІ ДЗЯРЖАЎНАГА ЛІТАРАТУРНАГА МУЗЕЯ ЯНКІ КУПАЛЫ

## ДА 65-ГОДДЗЯ З ДНЯ ЗАСНАВАННЯ

*Цяпер стаіць тут светлы дом,*
*Музей славутага паэта.*
Анатоль Астрэйка.

Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы – адзіны ў Беларусі музей, які даследуе, збірае, захоўвае і інтэрпрэтуе літаратурную спадчыну класіка беларускай літаратуры. Ён узнаўляе сувязь пакаленняў, генерыруе новыя культурныя веды, заснаваныя на глыбокім усведамленні сваіх нацыянальных каранёў і вытокаў. Музей імкнецца быць сапраўдным гасцінным домам для наведвальнікаў. Пры дапамозе цікавых калекцый, разнастайных выставак, адукацыйных праграм, публікацый ён знаёміць публіку з багаццем купалаўскай паэзіі, якая з'яўляецца духоўным стрыжнем і ўвасабленнем найлепшых здабыткаў беларускага народа.

Заснаваны музей 19 мая 1944 г. паводле пастановы № 268 СНК БССР. Адчынены 20 верасня 1945 г. у адпаведнасці з пастановай № 1139-292 ад 4 жніўня 1945 г. "Аб увекавечанні памяці Янкі Купалы".

Музей Янкі Купалы першапачаткова быў створаны пры Акадэміі навук БССР і да 1962 г. уваходзіў у яе сістэму. Першым дырэктарам 31 чэрвеня 1944 г. прызначана Уладзіслава Францаўна Луцэвіч, жонка Янкі Купалы, заслужаны дзеяч культуры БССР.

Навукова-даследчая дзейнасць музея ад самага пачатку скіравана на камплектаванне матэрыялаў і прадметаў музейнага значэння з мэтай фарміравання пастаяннага музейнага збору, стварэння экспазіцый і выставак і правядзенне навукова-даследчай работы, звязанай з жыццём і творчасцю класіка беларускай літаратуры. З першых гадоў існавання літаратурны музей Янкі Купалы разглядаўся як першакрыніца ведаў пра першага народнага паэта Беларусі і іх шырокай папулярызацыі сярод музейных наведвальнікаў.

Калекцыі музея пачалі фарміравацца ў 1944 г. Дзякуючы вялікім намаганням Уладзіславы Францаўны, супрацоўнікаў музея сабраны найкаштоўнейшыя матэрыялы. Наколькі складаным быў збор экспанатаў, можна бачыць на прыкладзе калекцыі рукапіснай спадчыны паэта.

Янка Купала надаваў вялікае значэнне свайму архіву, старанна зберагаў яго. Але склалася так, што рукапісная спадчына паэта яшчэ пры яго жыцці захавалася далёка не поўна. У 1928 г. Купала пісаў свайму біёграфу Льву Клейнбарту: «*Громадная часть написанного мною пропала. Это было так: когда я жил в деревне, много написанного я передавал Самойло… При обысках… или других обстоятельствах часть моих материалов пропала. Потом я массу посылал в Вильно в "Нашу ніву" революционных стихов, которых по цензурным тогдашним условиям печатать нельзя было. И они где-то с архивом "Нашай нівы" пропали. Так же часть моих материалов вместе с библиотекой пропала в Минске во время немецкой оккупации (перед выездом из Минска я оставил свой архив и библиотеку в Минске)*». Частка згаданых Купалам матэрыялаў пасля знайшлася, але і страты былі вялікія.

На пачатку 1920-х гг. паэт перадаў частку сваіх рукапісаў на захаванне ў Дзяржаўную бібліятэку БССР (зборнікі "Жалейка", "Шляхам жыцця", "Слова аб палку Ігаравым" і інш.). Бібліятэка фарміравала калекцыю Купалавых аўтографаў і не раз экспанавала іх на выстаўках, прысвечаных юбілеям паэта.

У першыя дні вайны дом паэта ў Мінску, а таксама дача ў Ляўках з бібліятэкай і архівам згарэлі. Рукапісы Янкі Купалы, што захоўваліся ў Дзяржаўнай бібліятэцы БССР, былі вывезены ў Германію.

Пасля смерці Янкі Купалы былі зроблены захады, каб сабраць і зберагчы яго рукапісную спадчыну. Спецыяльнай пастановай СНК БССР і Бюро ЦК КП(б) Беларусі ад 02.07.1942 г. "усе літаратурныя працы: кнігі, рукапісы, выдадзеныя і нявыдадзеныя, пісьмы, перапіска народнага паэта" абвешчаны дзяржаўнай уласнасцю.

Перш за ўсё былі сабраны рукапісы паэта перыяду вайны. Шмат матэрыялаў рознага часу паступіла ад дзеячаў культуры, з якімі быў звязаны Янка Купала. Пасля вайны адшуканы рукапісны зборнік "Шляхам жыцця". У свой час Я. Купала падарыў гэты рукапіс К. Душэўскаму, які ў 1930 г. перадаў яго на захаванне ў Беларускі музей у Вільні. Знойдзены аўтографы паэм "Сон на кургане", "Бандароўна", камедыі "Паўлінка". З Германіі вернуты ў Дзяржаўную бібліятэку БССР і пасля перададзены ў музей аўтарская карэктура зборніка "Шляхам жыцця", рукапісы перакладаў "Слова аб палку Ігаравым".

У Цэнтральным архіве Кастрычніцкай рэвалюцыі БССР сярод матэрыялаў, вернутых з Германіі, былі знойдзены 2 папкі, якія змяшчалі 70 аўтографаў Купалы. Частка аўтографаў Я. Купалы, вывезеных у Германію, была выяўлена ў падольскім філіяле Дзяржаўнай публічнай бібліятэкі АН Украіны і ў 1954 г. перададзена ў музей.



**Уладзіслава Луцэвіч з украінскімі паэтамі Тарэнем Масэнкам і Алексам Юшчанкам, а таксама калегамі па працы ў Літаратурным музеі Янкі Купалы па вуліцы Энгельса, 21.** Сярэдзіна 1950-х гг.

У фондах музея сабрана шмат аўтографаў пісьмаў і запісак Янкі Купалы да розных асоб, экзэмпляраў яго кніг і фотаздымкаў з дарчымі надпісамі паэта. Захаваўся машынапісны тэкст 22 вершаў песняра на польскай мове з аўтарскімі праўкамі і подпісам *"Пісаў у 1906 годзе І. Луцэвіч"*.

Важна адзначыць, што ўжо з першых дзён існавання музея ставілася задача зрабіць яго не толькі месцам захавання памяці паэта, але і рэтранслятарам духоўных каштоўнасцей усяго беларускага народа.

У 1944 г. музею быў адведзены трэці паверх Дома прафсаюзаў на плошчы Свабоды, 23. Тут 20 верасня 1945 г. адкрыта першая экспазіцыя, якая пазнаёміла з жыццём і творчасцю Янкі Купалы першых наведвальнікаў.

Асноўным напрамкам дзейнасці музея на этапе яго станаўлення было фарміраванне калекцый. Аднак гэта не азначала самаізаляцыю музея ад грамадства, хутчэй наадварот, на гэтым этапе музей развіваўся як поўнасцю адкрытая для знешняга ўзаемадзеяння сістэма. У публікацыях таго часу ставіліся задачы далучыць да камплектавання калекцый грамадскасць. Прадметы музейнага значэння, рукапісы Янкі Купалы, дакументы адшукваліся на ўсёй тэрыторыі Савецкага Саюза: у Маскве, Ленінградзе, Вільнюсе, Днепрапятроўску і іншых гарадах. Да пошуку далучаліся жонка паэта і яго сваякі, пісьменнікі і грамадскія дзеячы, архіўныя і музейныя работнікі. Усё гэта характарызавала літаратурны музей Янкі Купалы як установу з выразна акрэсленай арыентацыяй на цесны кантакт з сацыяльным акружэннем. Музей заўсёды вызначала імкненне далучыць да сваёй дзейнасці як мага больш саюзнікаў і партнёраў.

У гэтых рысах, закладзеных на пачатку існавання музея, можна бачыць перадумовы яго эвалюцыі. Устаноўка літаратурнага музея Янкі Купалы на адкрытасць для шырокага супрацоўніцтва – гэта традыцыя, якая фарміравалася на розных этапах музейнай гісторыі і падтрымліваецца на сучасным этапе развіцця.

Летам 1949 г. прынята пастанова Савета Міністраў БССР пра перавод музея Янкі Купалы ў асобны будынак па вул. Энгельса, 21. Пасля рамонту ў гэтым будынку ў маі 1951 г. была створана першая стацыянарная музейная экспазіцыя, якая прадэманстравала матэрыялы, сабраныя ў час Вялікай Айчыннай вайны і ў першыя пасляваенныя гады. Экспазіцыя атрымалася дастаткова схематычнай і ілюстрацыйнай, насіла больш асветніцкі, чым навуковы характар, і адпавядала тагачаснаму ідэалагічнаму ўзроўню. Ад музейных работнікаў патрабавалася выбраць тыя творы Янкі Купалы, цытаты, якія б падкрэслівалі моц і непераможнасць савецкай улады, усlaўлялі сацыялістычную рэчаіснасць.

Аднак у экспазіцыі былі і дакументальныя гістарычныя матэрыялы, якія дастаткова шырока раскрывалі перад наведвальнікам жыццёвы і творчы шлях Янкі Купалы. Вялікая ўвага, у першую чаргу, аддавалася матэрыялам ушанавання памяці паэта: тэксты ўрадавых пастаноў, мерапрыемствы, звязаныя з імем Янкі Купалы.

Выразна і шырока паказвалася сяброўства Янкі Купалы і Якуба Коласа. Гэта было таксама патрабаваннем часу – прадстаўляць двух паэтаў-класікаў як адзінае цэлае, не раскрываючы постаці Янкі Купалы як Прарока беларускага Адраджэння.

У новай экспазіцыі Купала-творца паказваўся ў разнастайных жанрах мастацтва: у жывапісе, паэзіі, музыцы, скульптурных партрэтах і кампазіцыях, тэатральным мастацтве. У экспазіцыі было размешчана каля тысячы экспанатаў: ад асабістых рэчаў, дакументаў паэта да вершаўпрысвячэнняў.

Яшчэ 4 жніўня 1945 г. Пастановай Савета Міністраў БССР было вырашана пабудаваць асобны будынак для музея Янкі Купалы. Аднак толькі ў 1956 г. будаўніцтва музея было ўключана ў генеральны план забудовы Мінска. Музей планавалася пабудаваць побач з тым месцам, дзе да вайны стаяў аднапавярховы драўляны дом паэта. Згодна з планам побач з музеем павінны былі быць узведзены альтанка, гараж для машыны і павільён для экспанавання машыны "Шэўрале", якую падараваў паэту ўрад БССР. Але будаўніцтва гэтых аб'ектаў пасля было забаронена.

9 лістапада 1959 г. літаратурны музей Янкі Купалы пераехаў у спецыяльна пабудаваны для яго будынак па вуліцы Янкі Купалы. Новая экспазіцыя стваралася пры непасрэдным удзеле У. Луцэвіч, пісьменнікаў К. Крапівы, М. Лынькова, П. Глебкі, П. Броўкі. Тэматыка-экспазіцыйны план выставы абмяркоўваўся ў Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР і ў Інстытуце сусветнай літаратуры імя М. Горкага АН СССР (Масква).

25 лютага 1960 г., калі праца над экспазіцыяй ішла поўным ходам і была ўжо на стадыі завяршэння, памерла Уладзіслава Францаўна. 18 мая 1960 г. музей у новым будынку ўрачыста адкрыты для наведвальнікаў. На адкрыцці прысутнічалі віцэ-прэзідэнт АН БССР, акадэмік К. К. Атраховіч (Кандрат Крапіва), сакратар ЦК КПБ П. М. Машэраў, міністр культуры БССР Р. Я. Кісялёў, намеснік старшыні СП БССР М. І. Калачынскі, пісьменнікі, навукоўцы, журналісты, мастакі і інш. Экспазіцыя музея, адкрытая ў 1960 г., праіснавала да пачатку 1970-х гг.

У 1973 г. пачалася работа над распрацоўкай новага тэматыка-экспазіцыйнага плана музея. Асноўнай прычынай перабудовы экспазіцыі былі знаходкі і даследаванні вучоных-купалазнаўцаў, што давалі магчымасць па-новаму асвятліць жыццё, літаратурную і грамадскую дзейнасць Янкі Купалы, унесці ў экспазіцыю пэўныя ўдакладненні, папоўніць яе новымі матэрыяламі, паказаць акружэнне пісьменніка.

Сучасная экспазіцыя Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы складаецца з 7 залаў і мемарыяльнай часткі. Створана яна ў 1976 г. па праекце Эдуарда Агуновіча, вядомага мастака і дызайнера; на пачатку 1990-х мадэрнізавана.

Перамены, якія перажывала грамадства ў гэты час, далі магчымасць па-новаму паглядзець на творчую спадчыну Янкі Купалы, а дакладней, гэты час адкрыў нам шмат невядомага пра літаратурную і грамадскую дзейнасць паэта.

З пастудленнем раней невядомых матэрыялаў і дакументаў паўстала пытанне аб стварэнні раздзелаў экспазіцыі, якія б раскрывалі сапраўдную сутнасць творчай спадчыны Янкі Купалы. Таму ў 1994 г. навукова-экспазіцыйным аддзелам была распрацавана тэматычная структура новых раздзелаў экспазіцыі, дзе паказвалася яго літаратурная і грамадская дзейнасць у 1920 – 1940-я гг. У экспазіцыю былі ўведзены раздзелы і тэмы, якія раскрываюць малавядомыя старонкі дзейнасці песняра гэтага перыяду, асобныя драматычныя штрыхі да яго біяграфіі (смаленскі перыяд, пабудова дзяржаўнасці Беларусі, гады сталінскіх рэпрэсій).

Не знікае цікавасць да актуальнай, прарочай творчасці Янкі Купалы, да яго дзейнасці і асабліва да загадкавай і трагічнай смерці 28 чэрвеня 1942 г. у гасцініцы "Масква". Апошнім часам на старонках друку з'явілася шмат публікацый і даследаванняў пра смерць паэта, яго жыццё і творчасць у гады вайны. У 2003 г. па ініцыятыве музея пры дапамозе Пасольства Рэспублікі Беларусь у Маскве да нас паступілі фрагменты інтэр'ера вестыбюля і хола гасцініцы "Масква", дзверы пакоя 414, дзе жыў паэт, міжпакаёвыя дзверы і акно, часткі парэнчаў і прыступак лесвіцы 10-га паверха, на якім правёў апошнія хвіліны жыцця Янка Купала. Доўгія гады тэма трагічнай смерці паэта была амаль не паказана ў экспазіцыі музея. Таму да 125-гадовага юбілею паэта і 65-годдзя смерці быў створаны новы тэматычны раздзел "Жыццё і творчасць Янкі Купалы ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Таямніца смерці". Гэты раздзел праз экспазіцыйныя комплексы і ўнікальныя экспанаты расказвае пра апошнія дзесяць дзён жыцця Янкі Купалы.

Мадэрнізацыя экспазіцыі ў асобных яе залах працягваецца і сёння. Асалівым настроем прасякнуты мемарыяльныя пакоі, якія з вялікай дакладнасцю адноўлены паводле ўспамінаў родных паэта: гасцёўня ўтульнага і адкрытага для ўсіх дома, кабінет Купалы з дубовым сталом, за якім ён любіў працаваць, любімыя кнігі на ім, лямпа з зялёным абажурам, каменьчыкі на падлозе, якія паэт прывозіў з адпачынку на поўдні і



**Фрагмент экспазіцыі музея. Кабінет Янкі Купалы.**

часамі перабіраў, магчыма, думаючы над ідэяй чарговага твора…

Стацыянарная экспазіцыя Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы адносіцца да тыпу класічных музейных экспазіцый. І хоць да сённяшняга часу яна не страціла навуковай і мастацкай вартасці і запатрабавана рознымі катэгорыямі наведвальнікаў, але наспела патрэба стварэння новай экспазіцыі з выкарыстаннем інфармацыйных і інтэрактыўных тэхналогій, зон "жывой камунікацыі", без якіх немагчыма дакрануцца да самога кантэнту творчасці пісьменніка (тэксту) і без якіх немагчыма ажыццявіць суперажыванне яго наведвальнікамі. Ёсць і іншы бок гэтай праблемы. Гаворачы словамі Тараса Палякова, аўтара музея У. Маякоўскага ў Маскве, якімі б геніяльнымі ні былі музейныя інсталяцыі, наступае непазбежнае стамленне, прадметна-мастацкае асяроддзе здаецца аднабаковым, цяжкім. У кожным сучасным музеі наспела неабходнасць стварэння спецыяльных рэкрэацыйных паўз. Падчас экспазіцыйнага агляду імі могуць быць так званыя зоны жывой камунікацыі. І перад нашым музеем таксама стаіць гэтая задача. Сёння ў музеі працуе рабочая група па стварэнні канцэпцыі новай профільнай экспазіцыі.



**Міністр культуры Рэспублікі Беларусь Павел Латушка і дырэктар Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы Алена Мацевасян на прэзентацыі аўтамабіля "Шэўрале", які належаў паэту.** 16 красавіка 2010 г.

За 65 гадоў існавання Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы супрацоўнікамі ўсіх пакаленняў праведзена грунтоўная праца па фарміраванні музейных калекцый. У зборах музея захоўваюцца рукапісы і дакументы Янкі Купалы, асабістыя рэчы і фотаздымкі паэта, сфарміраваны вялікі кніжны фонд (каля дзесяці тысяч адзінак), з якіх амаль паўтары тысячы – з творамі паэта, музей валодае багатай калекцыяй твораў выяўленчага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, кінаархіў музея захоўвае відэа- і фоназапісы выступленняў Янкі Купалы і інш. Сёння асноўны фонд музея налічвае больш за 38 тысяч музейных прадметаў.

На матэрыялах музейных фондаў створаны чатыры філіялы музея Янкі Купалы: "Вязынка" (1948), "Ляўкі" (1978), "Акопы" (1992), "Яхімоўшчына" (2001). Пры метадычнай дапамозе супрацоўнікаў музея і на аснове яго збораў створаны Музей Янкі Купалы ў Пячышчах (Татарстан), музей у сярэдняй школе № 3 (цяпер гімназія № 1) імя Янкі Купалы ў горадзе Мазыры, выстаўка на цеплаходзе "Янка Купала" Дунайскага параходства, музеі ў Сенніцкай і Бяларуцкай школах, дзе некалі вучыўся Янка Купала.

Многія дзесяцігоддзі Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы з'яўляецца вядучым літаратурным музеем рэспублікі, які мае багатыя традыцыі ў правядзенні культурна-адукацыйнай дзейнасці: экскурсіі і музейна-педагагічныя заняткі, выезды ў школы з лекцыямі і мультымедыйнымі прэзентацыямі выставак, творчыя сустрэчы і конкурсы, Купалаўскія чытанні і міжнародныя навуковыя канферэнцыі. Традыцыйнымі сталі святы паэзіі ў дзень нараджэння песняра, злёты студэнтаў-філолагаў на радзіме паэта ў Вязынцы і ў філіяле "Акопы", свята "Купалле" ў Яхімоўшчыне і "Купальская ноч у Купалавым доме".

У практыцы музея з'яўляюцца новыя сучасныя формы работы. На дадзены момант у музеі распрацаваны дзве паўнавартасныя музейна-педагагічныя праграмы: для малодшых школьнікаў "У гасцях у Янкі" і праграма для старшых школьнікаў і студэнтаў "Эстэтыка кахання".

Цягам апошніх гадоў пры музеі паспяхова працуюць два музейныя клубы – суполка маладых паэтаў "Літаратурнае прадмесце" і музычнае аб'яднанне "Спроба актавы". Ствараючы гэтыя аб'яднанні, мы ставілі перад сабой задачу звярнуць увагу таленавітай моладзі на купалаўскі музей, зрабіць яго эксперыментальнай пляцоўкай для творчай моладзі. Пры гэтым удзельнікі абодвух музейных клубаў сталі не проста сябрамі музея, але і надзейнымі памочнікамі.

Сваю місію Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы бачыць не толькі ў тым, каб захоўваць і зберагаць спадчыну вялікага паэта, але і далучаць да яе шырокае кола наведвальнікаў, і перш за ўсё моладзь.

**Алена МАЦЕВАСЯН,**
дырэктар
Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы.

*Актуальная тэма*

# ПРАБЛЕМЫ ВЫВУЧЭННЯ МІФАЛОГІІ Ў СУЧАСНАЙ ФАЛЬКЛАРЫСТЫЦЫ

Сёння чытач, зацікаўлены традыцыйнай народнай культурай, знаходзіць шмат даследаванняў, прысвечаных розным яе сферам. Міфалогія беларусаў як сістэма поглядаў на свет, функцыянальнасць асобных міфалагічных вобразаў, іх "прысутнасць" у сучаснай культурнай прасторы – тэмы актуальныя ў навуцы і запатрабаваныя грамадствам. Можна пагадзіцца з І. Швед, якая піша: "Праблемы глыбокага разумення адметнасцей міфалагічнага мыслення, культурных канцэптаў, узнаўлення глыбінных сэнсаў і сімвалічных уяўленняў, спецыфікі культурнай трактоўкі сімвалаў, ролі сімвалічнага свету ў функцыянаванні традыцыйнай культуры пэўнага народа маюць прынцыпова фундаментальны характар" [10, с. 5].

Пачынальнікамі асэнсавання беларускай міфапаэтычнай спадчыны з'яўляюцца прадстаўнікі міфалагічнага кірунку ў беларускай фалькларыстыцы XIX ст.: П. Шпілеўскі, А. Кіркор, П. Бяссонаў, П. Шэйн, а таксама А. Багдановіч, М. Доўнар-Запольскі, Я. Ляцкі, М. Нікіфароўскі. Не ставячы на мэце аналіз іх досведу (гістарыяграфію міфалагічнага кірунку ў беларускай фалькларыстыцы складаюць працы В. Бандарчыка, У. Васілевіча, К. Кабашнікава, Г. Каханоўскага, А. Ліса, М. Піліпенкі, А. Фядосіка, І. Цішчанкі і інш.), адзначым, што тэарэтычных даследаванняў, прысвечаных уласна міфалогіі, фалькларыстамі-міфолагамі створана не было. Прычына гэтага, верагодна, у асаблівасцях станаўлення беларускага нарадазнаўства. Акрамя таго, трэба ўлічыць, што міфалагічныя даследаванні XIX ст. адыгрывалі інтэгравальную ў адносінах да асобных дысцыплін ролю. Навуковае асэнсаванне міфа з'яўлялася, паводле А. Тапаркова, "толькі часткова звязаным з даследаваннем уласна міфалогіі і архаічных вераванняў. <…> Найбольш значныя даследчыкі міфалогіі і фальклору XIX – пачатку XX ст. былі таксама ці лінгвістамі, ці гісторыкамі літаратуры, ці этнографамі" [8, с. 17]. Неабходна дадаць, што значная доля міфалагічных напрацовак сярэдзіны XIX ст. змешчана ў кантэксце публіцыстыкі і краязнаўства.

Да 1960-х гг. савецкая фалькларыстыка традыцыйна існавала ў межах ідэалагічна заангажаванага літаратуразнаўства, і пытанні, звязаныя з вывучэннем архаічных перыядаў народнай культуры, не былі для яе прыярытэтнымі. У беларускай савецкай фалькларыстыцы на доўгі час замацавалася ацэнка міфалагічнага кірунку як рэакцыйнага [1, с. 52].

Міфалогія як самастойны аб'ект навуковага вывучэння ўпершыню стала разглядацца ў канцы 1960 – пачатку 1970-х гг. у межах даследчыцкага кірунку, які ставіў на мэце выкарыстанне ў грамадскіх навуках, і перш за ўсё ў лінгвістыцы, метадаў структурна-семіятычных даследаванняў. Маскоўска-тартуская школа, што "больш за іншыя галіны савецкай гуманітарыстыкі <…> арыентавалася і на дасягненні сусветнай навукі, прычым далёка не толькі структурна-семіятычнай", вылучыла рэвалюцыйную канцэпцыю другасных мадэлюючых сістэм, вывучэнне якіх "было па вызначэнні міждысцыплінарнай галіной, што ўключала ці не ў першую чаргу міфалогію і фальклор, з-за сваёй спецыфікі асабліва прыдатны для структурна-семіятычных даследаванняў" [6, с. 56].

У пачатку 1980-х гг. балта-славянская духоўная культура плённа вывучалася супрацоўнікамі Маскоўскага інстытута славяназнаўства (Інстытута славяназнаўства і балканістыкі) АН СССР. Створанае ў гэты час В. Іванавым, М. Талстым, С. Талстой, А. Тапарковым, Т. Цыўян і іншымі пазней стане метадалагічным арыенцірам для айчынных даследчыкаў архаічнай культуры.

Энцыклапедыя "Міфы народаў свету" (Т. 1 – 2; 1980 – 1981), у якой структурна-семіятычная інтэрпрэтацыя міфалагічнага матэрыялу заняла найважнейшае месца, сведчыла, паводле С. Няклюдава, пра ўсталяванне прынцыпаў "новай", структурнай фалькларыстыкі як сінтэзу традыцыйна-фалькларыстычных падыходаў з метадалогіяй сумежных дысцыплін, што інтэнсіўна развіваліся, – культурнай антрапалогіі, лінгвістыкі, семіётыкі. Значэнне названай энцыклапедыі ў тым, што ў наступны перыяд «структурна-семіятычныя парадыгмы і аналітычныя прыёмы <…> робяцца практычна "ўсеагульным здабыткам" вучоных, якія займаюцца вуснай славеснасцю» [6, с. 60]. [Такое ж значэнне мелі выдадзеныя пазней энцыклапедычны слоўнік "Славянская міфалогія" (1995) і этналінгвістычны слоўнік "Славянскія старажытнасці" (Т. 1 – 2; 1995 – 1999)].

Аналіз народнай культуры праз прызму этнаграфіі ў матэрыялах А. Байбурына, Б. Пуцілава, К. Чыстова і іншых, выдадзеных Інстытутам этнаграфіі АН СССР, таксама значна паўплывалі на развіццё беларускіх даследаванняў у галіне міфалогіі славян. З сярэдзіны 1980-х гг. на старонках часопіса "Савецкая этнаграфія" (1984) адбываецца дыскусія па тэарэтычных праблемах рэканструкцыі славянскай духоўнай культуры. Акрэсліць тыя з іх, якія "абысці" ў сучасных даследаваннях архаічных пластоў традыцыйнай культуры немагчыма.

Удзельнікамі дыскусіі прызнавалася, што рэканструкцыя духоўнай культуры славян, як і этнагенез, высвятленне месца гістарычнай прарадзімы славян, з'яўляюцца ў навуцы праблемамі канчаткова не вырашанымі. Не высветленымі, паводле знакамітага расійскага археолага У. Сядова, застаюцца станаўленне і пачатковы этап развіцця праславянскага этнасу, не знойдзены наслаенні, звязаныя з наступнай гісторыяй праславян і абумоўленыя ўзаемадзеяннем іх з кельтамі, германцамі, іранцамі, балтамі і іншымі этнічнымі групамі [7, № 4, с. 67].

Славянскае этнакультурнае адзінства існавала толькі ў глыбокай старажытнасці, калі плямёны, з якіх фарміраваліся славяне, жылі ў аднолькавых бытавых і геаграфічных умовах (паводле У. Сядова, гэта 400 – 100 гг. да н. э.). Пазней этнакультурнага адзінства ў славян ужо не было, славянскі этнакультурны тып паступова знік, гэтаму садзейнічалі міграцыі на тэрыторыі рассялення скіфа-сарматаў, балтаў, фракійцаў і іншых старажытных плямён, а таксама інфільтрацыя ў старажытны славянскі арэал кельтаў і германцаў. (З улікам гэтага В. Іванаў ставіў задачу "высвятлення адноснай храналогіі развіцця славянскай культуры", "высвятлення яе гіпатэтычных перыядаў" [7, № 4, с. 64].)

Адзінства протаславянскага пантэона, як сцвярджаюць даследчыкі, было парушана "пастаяннымі кантактамі славян у канцы I тысячагоддзя да н. э. і ў першай палавіне I тысячагоддзя н. э. з кельтамі, германцамі, скіфа-сарматамі, балтамі. <…> Так з'явіліся, напрыклад, у паўднёва-ўсходняй частцы рассялення славян *Хорс* і *Сімаргл* ці на паўночным захадзе – свяцілішчы кельцкага паходжання. Ні пра якую маналітнасць славянскага язычніцтва ў сярэдзіне сярэднявечнай эры гаварыць ужо не даводзіцца" [7, № 4, с. 68]. Гэты тэзіс падзяляюць М. Талстой і С. Талстая: "Гаварыць пра адзіны славянскі пантэон цалкам немагчыма, таму што нават простае параўнанне двух дастаткова позніх лакальных пантэонаў – кіеўскага і паморскага – сведчыць пра два розныя структурныя тыпы ў моўных, міфалагічных і рэлігійных адносінах" [7, № 4, с. 77]. Высновы Э. Зайкоўскага, зробленыя на падставе археалагічных знаходак дрыгавічоў, пацвярджаюць гэтае меркаванне: да X ст. існавала некалькі племянных разнавіднасцей язычніцтва [3, с. 371 – 372]. Такім чынам, у 1980-я гг. у савецкай навуцы сцвердзілася ідэя пра значную архаічнасць усходнеславянскіх міфалагічных вераванняў, пры гэтым дыскусійным прызнавалася пытанне існавання агульнай усходнеславянскай функцыянальна-іерархічнай сістэмы бостваў.

У канцы 1980-х гг. сярод беларускіх навукоўцаў назіраўся рост цікавасці да міфапаэтычнай народнай спадчыны. "Піянерамі" навуковай рэканструкцыі і асэнсавання беларускай міфалогіі сталі ўдзельнікі спецсемінара цэнтра этнакасмалогіі "Крыўя", сярод якіх даследчыкі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі і некалькіх вышэйшых навучальных устаноў Беларусі і Польшчы [2, с. 4]. (Большасць удзельнікаў пазней склалі аўтарскі калектыў энцыклапедычнага слоўніка "Беларуская міфалогія" – першага семіятычнага даследавання традыцыйнай культурнай спадчыны беларусаў.) У 1990-я – пачатку 2000-х гг. з'явіліся працы па міфалогіі А. Ненадаўца, У. Васілевіча, У. Конана, Э. Зайкоўскага, І. Казаковай, Т. Шамякінай.

Галоўнай цяжкасцю ў вывучэнні ўсходнеславянскага язычніцкага пантэона і ніжэйшай міфалогіі застаецца адсутнасць ці недастатковая інфарматыўнасць крыніц. У. Тапароў вызначае іх як крыніцы «"ўнутраныя", што прадстаўляюць саму язычніцкую традыцыю» [9, с. 161]. Вучонымі-філолагамі неаднаразова сцвярджалася, што пісьмовыя крыніцы, якія выкарыстоўваюцца даследчыкамі для верыфікацыі сваіх гіпотэз славянскага язычніцтва, з'яўляюцца другаснымі ці нават прызнаюцца фальсіфікатамі ["Рукапісы, якіх не было: Падробкі ў галіне славянскага фальклору" (2002)].

У беларускай навуцы сёння ў той ці іншай ступені крытычнага асэнсавання фігуруюць крыніцы, "адкрытыя" ў XVIII – XIX стст. – перавыдадзеныя на нямецкай, чэшскай, польскай мовах сярэднявечныя пісьмовыя тэксты, славянскія летапісы, старажытныя тэксты з узгадваннем славянскіх багоў і інш. Напрыклад, у рэканструкцыі асобных фрагментаў славянскага пантэона айчынныя даследчыкі абапіраюцца пераважна на "Аповесць мінулых гадоў" – галоўную крыніцу інфармацыі пра кіеўскі пантэон князя Уладзіміра Святаслававіча. Аднак яна, як вядома, характарызуецца недастатковай інфарматыўнасцю, што абумоўлівае поліварыянтныя тлумачэнні міфалагічных вобразаў.

Сярод гіпотэз паходжання ўсходнеславянскіх багоў найбольш абгрунтаваным прызнаецца тэзіс, выказаны У. Тапаровым і В. Іванавым: у жывой народнай традыцыі захаваліся толькі *Пярун*, *Вялес* і *Макош*, якія "паддаюцца частковай рэканструкцыі з мінімальнай доляй сумнення". А адзіным усеагульным, поўным і добра прадстаўленым культам, які дапускае канкрэтную рэканструкцыю, з'яўляецца культ памерлых [7, № 4, с. 77 – 78]. У якасці персанажаў, чыя "боскасць" выклікае сумненне, У. Тапароў называе *Ярылу, Купалу, Марэну, Ладу, Леля, Пазвізда-Пахвіста, Траяна, Рода* і інш. [9, с. 169], справядліва заўважаючы, што некаторыя з названых персанажаў могуць адыгрываць значную ролю ў славянскай міфалогіі на іншых яе ўзроўнях.

Пра спрэчныя моманты вызначэння "боскага статусу" *Сварога*, *Дажбога*, *Лады* сведчаць артыкулы энцыклапедычнага слоўніка "Беларуская міфалогія". Гэтыя вобразы вызначаюцца адпаведна: "адно са славянскіх божышчаў", "адзін з багоў усходніх славян", "адна з багіняў славянскага дахрысціянскага пантэона" [2, с. 453, 131, 275].

Трэба канстатаваць, што тэарэтычна абагульніць вялікі фактычны матэрыял па ніжэйшай міфалогіі беларусаў вельмі складана. Аглядаючы багацце беларускай міфапаэтычнай спадчыны, яшчэ ў 1997 г. У. Конан пісаў: "У беларускім фальклоры <…> самабытна выявіліся, напрыклад, арфічныя матывы, міфалагемы Раю і Пекла, Культурнага героя і Трыкстэра, Сусветнага дрэва і Жывой вады, урэшце, іншыя ўніверсальныя архетыпы сусветнай культуры" [4, с. 42]. Вялікая варыятыўнасць назваў аднаго і таго ж персанажа і ў той жа час агульнасць рыс і функцыянальных характарыстык розных персанажаў ствараюць заканамерныя цяжкасці ў вывучэнні ніжэйшай міфалогіі. Айчыннымі даследчыкамі прызнаецца, што вобразы ніжэйшай міфалогіі ўсходніх славян (у адрозненне ад скандынаўскіх, дзейнасць якіх звязана з падземным светам) лакалізуюцца часцей за ўсё на паверхні зямлі. Прырода іх амбівалентная. Шкодныя дзеянні ў дачыненні да чалавека могуць быць нейтралізаваны пры дапамозе замоў, ахвярапрынашэнняў, пэўных магічных прыёмаў.

Стала агульным месцам у гістарыяграфіі, што многія міфалагічныя персанажы, апісаныя ўпершыню міфолагамі ХІХ ст., з'яўляюцца ўзорамі так званай кабінетнай міфалогіі. У сувязі з гэтым вядомая крытыка прац многіх даследчыкаў. Аднак пра поўнае адмаўленне спадчыны міфолагаў ХІХ ст. гаварыць нельга, бо яна рэпрэзентуе пачатковы стан навуковых даследаванняў і змяшчае шмат таго, што будзе развівацца ў навуцы пазней. У якасці аднаго з нешматлікіх, але пераканаўчых прыкладаў "рэабілітацыі" міфалагічнага персанажа, прыведзенага ў зборніку П. Бяссонава, можа служыць артыкул С. Санько "Сопуха" з энцыклапедычнага даведніка "Беларуская міфалогія" [2, с. 480 – 481].

Вырашэнне праблем міфалогіі на сучасным этапе аб'ектыўна патрабуе распрацоўкі адпаведнага катэгарыяльнага апарату. Так, вельмі актуальная сёння ў беларускай навуцы тэарэтычная распрацоўка катэгорый *карціна свету, мадэль свету, код, фальклорны сімвал, фальклорны вобраз, міфалагема*, без чаго немагчыма глыбокае спасціжэнне агульнаславянскага пласта міфалагічных уяўленняў. Напрыклад, паняцці *карціна свету* і *мадэль свету* трактуюцца многімі даследчыкамі непаслядоўна і часта ўжываюцца як сінонімы. Упершыню іх навуковую дыферэнцыяцыю, а таксама распрацоўку дэндралагічнага кода беларускага фальклору як элемента традыцыйнай карціны свету беларусаў ажыццявіла І. Швед у працах "Космас і чалавек у дэндралагічным кодзе беларускага фальклору" (2006), "Дэндралагічны код беларускага традыцыйнага фальклору" (2007). Даследаванню семантыкі і сімволікі *міфалагем* як самастойных структураўтваральных элементаў беларускай міфалогіі прысвечаны працы І. Казаковай.

Рэлікты іхтыяморфнай і арнітаморфнай *мадэлей свету*, касмаганічныя матывы паходжання Сусвету з яйка, "падняцця зямлі з мора", узнікнення свету з частак першацела / першаэлемента выяўлены на матэрыяле беларускай традыцыі І. Казаковай, А. Ненадаўцом, Т. Шамякінай, І. Швед. Пры гэтым канцэпцыя Сусветнага дрэва з'яўляецца самай навукова абгрунтаванай канцэпцыяй славянскай міфалагічнай *мадэлі свету*. (Аднак, нягледзячы на прызнанне важнасці канцэпта Сусветнага дрэва, гэты канцэпт трактуецца навукоўцамі па-рознаму.) *Структура* названай *мадэлі свету* разглядаецца як чатырохчасткавая ў гарызантальным і трохчасткавая ў вертыкальным вымярэнні. Аб'ектамі вывучэння сёння з'яўляюцца *асноўныя кампаненты* гэтай *структуры*, якімі прызнаюцца паветра, зямля, вада, агонь.

У рэчышчы семіятычных даследаванняў Ю. Лотмана класіфікацыйныя мадэлі *прасторы* канструююцца беларускімі даследчыкамі ў парадыгме *сваё* / *чужое*. У. Лобач трактуе *прастору* ў міфапаэтычных уяўленнях беларусаў як "неаднародную (гетэрагенную), перарывістую (дыскрэтную) і адухоўленую" [5, с. 16].

Неабходна адзначыць, што суаднясенне Космасу з чалавечай сядзібай з'яўляецца ўніверсальным для земляробчых народаў. Расшыфроўкай мегатэксту, чым з'яўляецца ў міфапаэтычнай *карціне свету* беларусаў хата, займаюцца Т. Валодзіна, У. Лобач, Т. Шамякіна і інш. Даследаванню знакавых характарыстык прадметаў штодзённага ўжытку і іншых элементаў хатняга начыння прысвечана спецыяльная праца Т. Валодзінай "Семантыка рэчаў у духоўнай спадчыне беларусаў" (1999). Вялікае кола праблем беларускай міфалогіі канструктыўна вырашаецца айчыннымі навукоўцамі Г. Барташэвіч, У. Васілевічам, Л. Дучыц, Т. Івахненкай, Р. Кавалёвай, А. Лісам, В. Новак, Л. Салавей, С. Санько, У. Сівіцкім і іншымі.

Напрыканцы трэба адзначыць, што сістэмнае вывучэнне беларускай народнай культуры немагчыма без асэнсавання вялікага фактычнага матэрыялу, назапашанага вучонымі і збіральнікамі ХІХ – ХХ стст. Галоўнае, у чым праяўляецца пераемнасць і развіццё ідэй, сфарміраваных яшчэ ў ХІХ ст., гэта параўнальна-гістарычны метад аналізу з'яў традыцыйнай культуры, названы

яшчэ ў 1969 г. В. Іванавым асноўным сродкам рэканструкцыі індаеўрапейскай міфалогіі.

Міждысцыплінарныя даследаванні ў вывучэнні ўсходнеславянскага язычніцтва ўвогуле і міфалогіі ў прыватнасці пачалі фарміравацца ў айчыннай навуцы ў канцы 1980-х гг. і сёння вызначаюцца як асноўная стратэгія. Відавочнай з'яўляецца, на нашу думку, перспектыўнасць далейшага прымянення метадаў этналінгвістычнага даследавання, у межах якога сінхроннае апісанне таго ці іншага аб'екта духоўнай культуры дазваляе падысці да дыяхранічнага тлумачэння з'яў гэтай культуры.

Пры даследаванні комплексу "беларускай" міфалогіі неабходна ўлічваць, што гэты комплекс утварыўся ў выніку складаных інтэграцыйных і сімбіёзных гістарычных працэсаў, пра што сведчаць расплывістасць і няўстойлівасць міфалагічных формаў і праяўленняў. Спецыфіку беларускага язычніцтва складае яго біэтнічнасць (балтаславянскасць).

Адной з самых дыскусійных на сёння – праблема асэнсавання "боскага статусу" асобных міфалагічных персанажаў і выяўленне прадуктаў так званай кабінетнай міфалогіі.

**Спіс літаратуры**


1. **Бандарчык, В. К.** Гісторыя беларускай этнаграфіі XIX ст. / В. К. Бандарчык. – Мінск : Выд-ва Акад. навук БССР, 1964. – 280 с.

2. **Беларуская міфалогія** : энцыкл. слоўн. / С. Санько, Т. Валодзіна, У. Васілевіч [і інш.]. – Мінск : Беларусь, 2004. – 592 с.

3. **Зайкоўскі, Э. М.** Язычніцтва ў светапоглядзе беларусаў / Э. М. Зайкоўскі // Гуманітарныя і сацыяльныя навукі на зыходзе XX стагоддзя / уклад. В. К. Шчэрбін [і інш.]. – Мінск, 1998. – С. 371 – 373.

4. **Конан, У.** Славянская міфалогія ў кантэксце беларускай культуры. Міфалагемы / У. Конан // Мастацтва. – 1997. – № 4. – С. 41 – 43.

5. **Лобач, У. А.** Свет людзей і свет багоў : прастора ў міфапаэтычнай карціне свету беларусаў / У. А. Лобач // Беларускі гістарычны часопіс. – 2009. – № 3. – С. 12 – 17.

6. **Неклюдов, С. Ю.** Российская фольклористика и структурно-семиотические исследования / С. Ю. Неклюдов // Славянская традиционная культура и современный мир : сб. материалов науч.-практ. конф. – М., 1999. – Вып. 3. – С. 54 – 62.

7. **Теоретические проблемы реконструкции древнейшей славянской духовной культуры** : дискуссия // Советская этнография. – 1984. – № 3. – С. 51 – 63; № 4. – С. 64 – 80.

8. **Топорков, А. Л.** Теория мифа в русской филологической науке XIX века / А. Л. Топорков. – Рос. акад. наук, Ин-т мировой лит. им. А. М. Горького. – М. : Индрик, 1997. – 455 с.

9. **Топоров, В. Н.** Боги древних славян / В. Н. Топоров // Очерки истории культуры славян / Институт славяноведения и балканистики РАН. – М. : Индрик, 1996. – С. 160 – 174.

10. **Швед, І. А.** Космас і чалавек у дэндралагічным кодзе беларускага фальклору / І. А. Швед. – Брэст : Выд-ва БрДУ, 2006. – 129 с.



**Анастасія ГУЛАК,**
старшы выкладчык кафедры этналогіі і фальклору
Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта
культуры і мастацтваў.


*Артыкул рэкамендаваны да друку доктарам філалагічных навук І. В. Казаковай.*

*Нацыянальны вобраз свету*

# СІМВОЛІКА СТРУКТУРНЫХ АДЗІНАК СУТАК У МІФАПАЭТЫЧНАЙ СПАДЧЫНЕ БЕЛАРУСАЎ

У гісторыі традыцыйнай беларускай культуры сталася так, што самая малая адзінка вымярэння часу ў структуры календара – **суткі**, або **дзень** і **ноч**, – аказалася бадай што самай складанай для разумення яе сутнасці і самай шматфункцыянальнай ва ўзаемаадносінах з іншымі структурнымі адзінкамі каляндарнага часу. Асаблівым статусам пазначаны *дзень* нараджэння чалавека, *дзень* яго вяселля, *дзень* смерці каго-небудзь з родных, святая велікодная *ноч* і святая *ноч* Божага нараджэння; першая шлюбная *ноч*.

Беларуская міфапаэтычная спадчына мае даволі разгалінаваную сістэму прадпісанняў і рэгламентацый, забарон і абмежаванняў, якія тычацца аднаго асобна ўзятага дня (сутак) у структуры каляндарнага года. У гэтую сістэму ўключаны не звычайныя дні, напоўненыя побытавым зместам (фактычна кожны дзень года можна лічыць незвычайным хоць бы ўжо таму, што ён не падобны да іншых, напрыклад, дзень смерці каго-небудзь са сваякоў або дзень нараджэння дзіцяці можа зрабіць яго неардынарным для сям'і і роду), а перш за ўсё надзеленыя высокім абрадавым статусам. Гэтыя дні ёсць у кожнай пары года, у кожным месяцы і нават у структуры кожнага тыдня. Яны з'яўляюцца адпаведнай кропкай адліку для вызначэння аптымальнага часавага калідору ў той ці іншай сферы гаспадарчай дзейнасці. Вектар накіраванасці такога прадпісання заўсёды арыентаваны наперад, а вось інтэрвал спалучанасці

візуалізаванай з'явы (прычыны) і меркаванага выніку (адпаведнасці прадказанням = наступствы) заўсёды рухомы і можа вар'іравацца ў прамежку ад аднаго дня і да года ў календары, а таксама на працягу жыцця чалавека або нават некалькіх пакаленняў у цыкле сямейна-родавых абрадаў.

Дзень уяўляе для нас цікавасць не толькі сваёй сістэмнай уключанасцю ў глабальныя касмапланетарныя адносіны, але і з пазіцый яго ўнутранай структуры. Суткі – адзін з тых адрэзкаў часу, якім чалавек карыстаўся найчасцей, а таму ён быў структураваны найбольш выразна і дэталёва [20, с. 27]. Гэта, напэўна, самая дынамічная часавая адзінка, якая грунтавалася на процістаянні светлавой (дзень) і цёмнай (ноч) частак: *"Брат сястру даганяе, а сястра ад брата ўцякае"* [7, с. 62 – 63]. Бінарная апазіцыя, сфакусіраваная ў вядомай рускай прыказцы *"день и ночь – сутки прочь"*, прызнае прыродную раўнавагу паміж двума складнікамі, якія ўтвараюць адзінае цэлае. Яна з'яўляецца мікракосмам, які адлюстроўвае макракасмічныя характарыстыкі светапогляднага процістаяння. Суткі – адбітак або мікрамадэль не толькі самых маштабных адрэзкаў часу, напрыклад года, чалавечага веку, але і значна меншых часавых адзінак – поўнага цыкла фаз месяца, у нейкай ступені і тыдня. С. Д. Домнікаў перакананы ў тым, што "гадавы цыкл толькі аднаўляе свой касмічны прататып: сутачны цыкл. Дзённы час дэманструе тыя ж этапы развіцця: ранішняе нараджэнне, якое перамагае цемру ночы, паўдзённы росквіт і вячэрняе заміранне перад канчатковым апусканнем у Хаос ночы, неабходнай для аднаўлення сіл і новага нараджэння" [5, с. 107]. Становіцца зразумелым, што ў аксіялагічным плане суткі зусім неаднародныя на ўсім сваім працягу. Процістаянне дня і ночы практычна факусіруе ў сабе асноўны комплекс бінарных апазіцый, якія ахопліваюць розныя сферы чалавечага жыцця або розныя культурныя коды. Сегментацыя сутак у адпаведнасці з прыроднымі прынцыпамі парадкавання сведчыць пра тое, што кожны адрэзак часу надзяляўся сваёй непаўторнай характарыстыкай і займаў адпаведнае месца ў сістэме каштоўнасных арыентацый.

**Усход сонца** лічыцца самым сакралізаваным у структуры сутак. Маштабы прадстаўленасці ў корпусе фальклорных тэкстаў і абрадавай практыцы сведчаць пра тое, што ён стаў своеасаблівым культуралагічным каталізатарам, вакол якога канцэнтруецца найбольшая колькасць сітуацыйна-абрадавых кантэкстаў. У аснове такіх адносін ляжыць фундаментальны прынцып выключнай, знакавай пашаны моманту *пачатку* як адпраўнога, зыходнага пункту адліку таго старажытнага міфалагічнага часу, які быў самым непасрэдным чынам звязаны з пачаткам тварэння свету. Якраз гэты час, час першатварэння, быў тым абсалютным часам, які вылучаўся трансфармацыяй прыроднага хаосу ў культурна-гістарычную гармонію, для якой была характэрна сітуацыя спакою, ураўнаважанасці, суразмернасці і суаднесенасці.

Менавіта гэтыя абставіны і адначасова ўмовы ператваралі момант нараджэння новага дня ў найбольш спрыяльны для выканання самых розных абрадавых дзеянняў аздараўленча-прафілактычнай накіраванасці. У практыцы народных лекараў і каляндарных абрадах усход сонца і час непасрэднай блізкасці да яго (перад усходам сонца) з'яўляюцца ключавым момантам. Па шматлікіх сведчаннях інфарматараў, ад якіх у розны час (другая палова XIX – XX ст.) запісваліся замовы, лячэбныя сеансы лепш за ўсё праводзіць або двойчы на дзень (усход – захад), або тры разы (раніцай, апоўдні, вечарам): *«Перад усходам, па захадзе Сонца і зноў назаўтра перад самым усходам улазіць на вароты і гучна тройчы за кожным разам заспяваць: "Кукарэку, заспяваю…"»* [8, с. 510]; пры лячэнні спуду *"замоўленую ваду даваць піць і ёю абмываць твар і грудзі тры разы перад усходам і заходам сонейка"* [8, с. 541]; *"ад вогніку: загаворваць трэба раніцай, калі яшчэ сонца не ўсходзіла"* [9, с. 288].

У казачным эпасе беларусаў шырока прадстаўлены яшчэ адзін матыў статуснай выключнасці **ўсходу сонца** або **раніцы**, сутнасць якога адлюстравана ў прымаўцы, што стала светапогляднай сентэнцыяй: *"Вутра будзе мудраней вечара"* [22, с. 26].

Асаблівым рытуальным статусам надзелены ўзыход сонца ў дні вялікіх народных ці хрысціянскіх святаў. Выключнымі лекавымі ўласцівасцямі валодае вада і раса вясенне-летняга цыкла святкаванняў, узятая ці сабраная на золку, *"некранутая"* вада, узятая ў Чысты чацвер перад самым узыходам сонца (*"пакуль воран варанят не купаў"*), таму хворым людзям раілі пакупацца ў крыніцы менавіта на ўзыходзе сонца ці за гадзіну да яго [6, с. 575 – 576].

Не менш папулярнай з'яўляецца і ранішняя зара Юр'ева дня, калі *"Святы Юр'я – божы пасол… / Адамкнуў зямлю сырусенькую, / Пусціў расу цяплюсенькую / На Белую Русь і на ўвесь свет"* [3, с. 53]. З усходам сонца на Юр'е звязаны звычай выганяць у поле на жыта статак, *"як кажуць, на росу, каб говяда пашчыпала рунь. Думаюць, што ад таго жыта добра зародзіць, а говяда бу-*

*дзе вельмі спаснае, бо яму не зашкодзіць ніякая ліхая трава і ніякая нездаровая вада"* [6, с. 426].

Усход і захад сонца для селяніна былі *"Божай мерай працы ў полі"* [10, с. 256]. Рытуальная "чысціня" моманту ўзыходу сонца ў сукупнасці з адсутнасцю псіхаэмацыянальных напластаванняў робіць яго самым спрыяльным і ў шматлікіх побытавых кантэкстах: *"Перад сяўбою селянін мыецца, надзявае чыстую кашулю – каб жыта было чыстае…"* [10, с. 261]; *"…трэба сеяць пшаніцу раніцай, пакуль куры сядзяць на сядле, тады яны не будуць псаваць палетак"* [10, с. 256 – 257]; *«На Івана Купалу трэба ўстаць перад усходам сонца і тройчы адкасіць касою травы, прыгаворваючы: "Дай, Божа, спор, су ўсіх трох поль"»*. Траву сушылі і аддавалі на корм коням і карове. Лічылася, што тады недахопу кармоў не будзе [6, с. 484]. У канцы XIX ст. бытавала павер'е: на Купалле або ў дзень святога Яна, перад усходам сонца, у мурашніку можна знайсці кавалак масла, які па форме і памерах нагадваў гусінае яйка. Але шукаць яго неабходна было толькі на світанні, да з'яўлення першага промня сонца [16, с. 414; 18, с. 337]. А. Я. Багдановіч пісаў: *"Ёсць павер'е, што перад надыходам усенародных бедстваў зямля стогне штораніцы, перад узыходам сонца…"* [4, с. 21].

Прыведзеныя прыклады пераканаўча сведчаць пра тое, што статус пачатку быў адным з найбольш значных у традыцыйнай культуры, і дазваляюць зрабіць наступную выснову – час узыходу сонца валодае самай высокай ступенню сакральнасці, калі адкрываюцца нябёсы або нетры зямлі: *"…плакала яна дзень, плакала ноч, а з усходам сонейка, чуць было золак на ўсходзе займаўся, са слёз яе з-пад каменя прабілася крыніца, Вяльяна богу душу аддала"* [14, с. 368].

Агульная ацэнка **поўдня** ў традыцыйнай культуры ўсходніх славян у большай ступені негатыўная. Па-першае, поўдзень не ўспрымаецца як самадастатковая адзінка часу, а знаходзіцца ў непарыўнай сувязі са сваёй супрацьлегласцю – поўначчу. Па-другое, стрыманасць ацэнак і прыхаваная непраяўленасць у этнакультурным плане дае магчымасць праводзіць некаторыя паралелі астракасмічнага характару, напрыклад супастаўляць з поўняй, якая, як вядома, адмоўна ўплывае на стан здароўя [20, с. 27].

Рытуальна-абрадавыя кантэксты сведчаць, што поўдзень быў своеасаблівым паваротным пунктам у выкананні абрадаў пераходнага тыпу. Цікавую расстаноўку акцэнтаў у структураванні часу і яго напоўненасці адпаведнымі справамі мы знаходзім у прымаўцы: *"На Радаўніцу да абеду пашуць, па абедзе плачуць, а к вечару скачуць"* [15, с. 101]. У славян існавала павер'е пра тое, што часам панавання русалак на зямлі з'яўляецца поўдзень або поўнач [6, с. 603].

Кола абмежаванняў, прымеркаваных да поўдня, зусім невялікае: *«…"зашчыпаная" апоўдні пагоднага дня, цыбуля хутка пажоўкне і не дасць дробныя галоўкі»* [10, с. 331]; *"…калі б хто жаў збожжа перад полуднем на дзень Спаса ці дзень св. Пятра, у таго Пярун спаліць збожжа ў бабках ці ў копах…"* [10, с. 271]; *"…хто будзе сеяць штонебудзь, акрамя пшаніцы, апоўдні, усё пасеянае прападзе"* [10, с. 256].

Шматлікія фальклорна-этнаграфічныя матэрыялы сведчаць, што **захад** дзённага нябеснага свяціла ў семантычным і сімвалічным аспектах з'яўляецца супрацьлегласцю яго ўзыходу. Калі ўзыход успрымаўся пачаткам жыцця, то захад атаясамліваўся з фазай завершанасці, згасання прыродных і жыццёвых сіл, стану набліжэння да смерці. Гэты семантычны аспект знайшоў адлюстраванне ў лексічным фондзе славянскіх моў, асабліва ў тых словах, якія зафіксавалі адносіны да моманту пераходу дня ў ноч: *змрок*, *змярканне*, *прыцемак*, вечаровае *марава* (корань, утвораны ад старажытнаславянскай назвы багіні Мараны – багіні смерці); беларуская міфалагічная багіня *Мара*. Гэтыя сэнсавыя характарыстыкі заканчэння дзённага перыяду часу і сталі асновай для ўзнікнення шэрагу рэгламентацый і нават забарон у абрадавых і побытавых паводзінах нашых продкаў: дажынкі неабходна закончыць да захаду сонца, інакш поле магло страціць свае пладаносныя сілы ў будучым, таму сяляне і дапамагалі адзін аднаму, каб паспець [10, с. 283; 17, с. 98]. Выключэннем з'яўлялася пасадка агуркоў. Увечары, пасля таго, як гаспадыні падояць кароў і жывёла ляжа адпачываць, *"так будуць ляжаць агуркі новага ўраджаю на градах"*.

Успрыманне **поўначы** ў традыцыйнай культуры ўсходніх славян найбольш складанае (менавіта з гэтым прамежкам часу звязана ці не самая вялікая колькасць магчымых абрадавых дзеянняў) і супярэчлівае (таму што каштоўнасная арыентацыя рытуальнай практыкі гэтага часу мае фактычна ўзаемавыключны характар). З аднаго боку, у поўнач у храмах адбываецца хрэсны ход на Вялікдзень, а з другога – гэта час разгулу сіл, якія супрацьстаяць духоўнаму свету чалавека: *"…кажуць, што ў поўнач даводзілася многім чуць у Грыбунце нейкі піск, віск… Гэта чэрці весяліліся"* [14, с. 364]. Апоўначы *"за прыхільнасць дзявочую пабажыўся Сцяпан душу хрышчоную аддаць нячыстаму"* [14, с. 368]. Менавіта ў поўнач "ажываюць" могілкі, і можна ўбачыць прывіды даўно памерлых нябожчыкаў

[14, с. 255]. У магічнай практыцы шырока выкарыстоўваецца перапаленая ў поўнач соль, а хлебная дзяжа разам з лапатаю, па меркаванні нашых продкаў, у Вялікі чацвер апоўначы *"перад самім Богам споведзь трымаюць"* [10, с. 558]. Каб хлопцы ехалі ў сваты, дзяўчатам трэба было *«апоўначы выйсці на скрыжаванне дарог, пакласці падмазку на дарогу, якую загадзя непрыкметна ўкралі… і сказаць: "Едзьце, хлопчыкі, да нас, мы дарогу вам падмазалі"»* [9, с. 25].

Найбольшую цікавасць у славян і іншых еўрапейскіх народаў выклікае поўнач самай кароткай на працягу ўсяго года – Купальскай – ночы (*"Купальна ночка невялічка…"*), якая па статусе рытуальнай значнасці параўнальная толькі з калpoints: калятнымі вечарамі. Купалле маркіравала асаблівую вяху ў гадавым, прыродна-жыццёвым цыкле: адзін раз на год, у купальскую поўнач, цвіце папараць-кветка – надзея чалавека на лепшую долю [14, с. 205 – 209; 6, с. 478 – 480]. У час паміж першай і трэцяй куццёй забараняўся шырокі спектр гаспадарча-сямейных заняткаў [6, с. 354, с. 355]. Разам з тым лічылася, што ўсе сялянскія справы (прасці, ткаць, віць вяроўкі, нарыхтоўваць лучыну і да т. п.) неабходна пачаць (зачаць) у поўнач Поснай куцці, каб усе гэтыя справы лёгка даваліся ўвесь год. Святочныя варожбы на Каляды і іншыя гадавыя святы, як правіла, распачыналіся роўна ў поўнач [12, с. 60 – 63].

Складанасць і супярэчлівасць успрымання поўначы – зусім не выключэнне з традыцыйных агульнакультурных правілаў, а, хутчэй за ўсё, з'ява заканамерная, абумоўленая статусам пераходнасці, маргінальнасці, амбівалентнай двухсастаўнасці. Да такіх сітуацый у народзе заўсёды ставіліся з перасцярогай. Так успрымаўся момант сустрэчы Новага года, стан цяжарнай жанчыны, вясельны поезд, што знаходзіўся на шляху паміж домам і храмам; шэраг перасцярог існаваў і ў адносінах узаемадзеяння з чалавекам, які памірае, у апошні перадсмяротны момант [2, с. 107].

Такім чынам, сімволіка асноўных структурных сегментаў сутак цалкам разгортвалася ў рэчышчы касмагоніі сонца, што прывяло да ўзнікнення такіх тыпалагічна блізкіх параметраў часавага злічэння, як каляндарны год і суткі. Пры гэтым пачатак года і пачатак дня надзяляліся статусам сакральнасці і мелі мадэлявальны характар. Гэтая акалічнасць прывяла да ўзнікнення вялікай колькасці этнакультурных рэгламентацый, якія выразна адлюстраваны ў фальклорных творах, прадпісаннях, звязаных з абрадавай практыкай і гаспадарчай дзейнасцю беларусаў.

**Спіс літаратуры**

1. **Агапкина, Т. А.** Мифопоэтические основы славянского народного календаря. Весенне-летний цикл / Т. А. Агапкина. – М. : Индрик, 2002. – 816 с.
2. **Байбурин, А. К.** Ритуал в традиционной культуре / А. К. Байбурин. – СПб. : Наука, 1993.
3. **Барташэвіч, Г. А.** Беларуская народная паэзія веснавога цыкла і славянская фальклорная традыцыя / Г. А. Барташэвіч. – Мінск : Навука і тэхніка, 1985. – 184 с.
4. **Богданович, А. Е.** Пережитки древнего миросозерцания у белорусов : этнографический очерк / А. Е. Богданович. – Гродно, 1895. – 160 с.
5. **Домников, С. Д.** Мать-земля и Царь-город. Россия как традиционное общество / С. Д. Домников. – М. : Алетейа, 2002. – 672 с.
6. **Жыцця адвечны лад** : беларускія народныя прыкметы і павер'і / уклад., прадм. і пер. У. Васілевіча. – Кн. 2. – Мінск : Маст. літ., 1998. – 607 с.
7. **Загадкі** / склад. М. Грынблат, А. Гурскі. – Мінск : Навука і тэхніка, 1977. – 448 с.
8. **Замовы** / уклад., сістэм. тэкстаў, уступ. арт. і камент. Г. Барташэвіч. – Мінск : Навука і тэхніка, 1992. – 597 с.
9. **Замовы** / уклад. : У. Васілевіч, Л. Салавей; уступ. арт. Л. Салавей. – Мінск : Беларусь, 2009. – 519 с.
10. **Зямля стаіць пасярод свету** : беларускія народныя прыкметы і павер'і / уклад., прадм., пераклад, бібл. У. Васілевіча. – Кн. 1. – Мінск : Маст. літ., 1996. – 591 с.
11. **Зямная дарога ў вырай** : беларускія народныя прыкметы і павер'і / уклад., прадм., пераклад і паказ. У. Васілевіча. – Кн. 3. – Мінск : Маст. літ., 1999. – 654 с.
12. **Катовіч, А. В.** Зімовыя святы : нарысы / А. Катовіч, І. Крук. – Мінск : Маст. літ., 2004. – 119 с.
13. **Катовіч, А. В.** Летнія святы : у 2 кн. / А. Катовіч, І. Крук. – Кн. 1. – Мінск : Адукацыя і выхаванне, 2009. – 368 с.
14. **Легенды і паданні** / склад. М. Грынблат, І. Гурскі; рэд. А. Фядосік. – Мінск : Навука і тэхніка, 1983. – 544 с.
15. **Лозка, А. Ю.** Феномен Новага года ў беларускім фальклоры / А. Ю. Лозка. – Мінск : БДПУ, 2004. – 165 с.
16. **Пяткевіч, Ч.** Рэчыцкае Палессе / Ч. Пяткевіч; уклад., прадм. У. Васілевіча. – Мінск : Беларус. кнігазбор, 2004. – 672 с.
17. **Сержпутоўскі, А. К.** Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў / А. К. Сержпутоўскі. – Мінск : Універсітэцкае, 1998. – 301 с.
18. **Славянские древности** : этнолингвистический словарь : в 5 т. / под общей ред. Н. И. Толстого. – М. : Междунар. отношения, 2004. – Т. 3: К (Круг) – П (Перепелка). – 704 с.
19. **Сысоў, У. М.** Структурны аналіз абраду : функцыі рытуальных і вербальных кампанентаў / У. М. Сысоў // Сямейна-абрадавая паэзія. Народны тэатр / рэд. К. П. Кабашнікаў. – Мінск : Беларус. навука, 2001. – С. 277 – 345.
20. **Толстой, Н. И.** Переворачивание предметов в славянском погребальном обряде / Н. И. Толстой // Исследования в области балто-славянской духовной культуры : (Погребальный обряд). – М. : Наука, 1990. – С. 119 – 128.
21. **Толстой, Н. И.** Язык и народная культура. Очерки по славянской мифологии и этнолингвистике / Н. И. Толстой. – М. : Индрик, 1995. – 512 с.
22. **Чарадзейныя казкі** / рэд. В. Бандарчык. – Мінск : Навука і тэхніка, 1978. – Ч. II. – 696 с.

**Аксана КАТОВІЧ,**
аспірантка Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя Кандрата Крапівы НАН Беларусі.

*Артыкул рэкамендаваны аддзелам фалькларыстыкі і культуры славянскіх народаў ІМЭФ НАН Беларусі.*

Наталля ШАРАНГОВІЧ

# *"ПЕРШЫ КРЫК ДУШЫ САМЫ ШЧЫРЫ…"*

Лёс Уладзіміра Крываблоцкага для сённяшняга часу і характэрны, і па-свойму ўнікальны. Мастак існуе ў пастаянным дыялогу з часам і самім сабой, ён адначасова адкрыты свету і замкнёны ў сабе. Але як майстра яго нельга ўспрымаць адназначна. Манументальнае і станковае ў яго творчасці актыўна ўзаемадзейнічаюць. Манументальныя аб'екты мастака закранаюць грамадска значныя тэмы. Аднак і ў станковым жывапісе У. Крываблоцкі будуе складаныя прасторавыя кампазіцыі, манументальныя па гучанні, абагульнена-дэкаратыўныя па пластычнай будове. У іх адлюстравана вызначаная жыццёвая філасофія мастака, дзе асноўнае месца займаюць пытанні бягучага і вечнага, зямнога і нябеснага, мінулага і сучаснага. У яго палотнах няма побыту, але ёсць быццё, ёсць твары людзей, якія жывуць у духоўнай згодзе з сабой. Гэты свет узвышаны, ён адарваны ад дробнага і нязначнага. У манументальных роспісах, на жывапісных палотнах У. Крываблоцкага адчуваецца подых стагоддзяў. Каранёвая сістэма яго мастацтва складаная, але ў творчасці няма герметызму (які немагчымы тут па вызначэнні), не адчуваецца нават імкнення да яго.

"Усё, што не мае традыцыі, становіцца плагіятам", – пісаў нямецкі філосаф Э. д'Орс-і-Равіра. Гэтае выказванне асабліва важнае ў адносінах да сучаснага мастацтва. У апошнія дзесяцігоддзі агрэсіўнае мноства створаных мастацтвам вобразаў стала амаль перамагаць рэальную прыроду. І сапраўды, нічога цалкам вольнага ад традыцый сёння стварыць немагчыма – усё іншае застаецца толькі прамым запазычваннем або самападманам. "Спазнаўшы правілы, дасягнеш поспеху ў зменах", – гаварыў кітайскі жывапісец Шы-тао.

Школа Г. Вашчанкі і А. Кішчанкі, якую прайшоў У. Крываблоцкі, дала яму свабоду незалежнага пошуку, бо толькі прафесіянал, які ведае сваё рамяство да дробязей, вольны ў выбары ўласнай выяўленчай мовы. Дзіцячыя ўражанні ад вясковага жыцця, заняткі ў тэатральна-мастацкім інстытуце, шматгадзінныя штуды з выкладчыкамі кафедры манументальна-дэкаратыўнага мастацтва, складаныя пошукі самога сябе – сінтэз усяго гэтага даў моцны падмурак для станаўлення асобы мастака.

*"Я заўсёды шмат працаваў. І сёння лічу: мастак не можа здзейсніцца ў творчасці, калі не працуе па дванаццаць гадзін у суткі. Памятаю, як бацька гаварыў, што чалавека характарызуюць тры асноўныя рысы: працалюбства, прыстойнасць, адносіны з асяроддзем, у якім ён жыве. Словы гэтыя як запавет запалі мне ў душу".*

Уладзімір Крываблоцкі – прыхільнік вялікага стылю, маштабнай карціны, якая захоўвае рыторыку, значнасць матыву, несумненную прадметнасць. У яго творах адчуваецца повязь з культурай мінулага, якая натуральна сінтэзуецца з дакладным і вострым пачуццём сучаснасці. Той сучаснасці, якую трэба разумець не як кола модных прыёмаў, а як уменне рэзаніраваць сённяшнім кодам, захоўваць уласную змястоўную і пластычную інтанацыю.

Усё гэта ярка выявілася падчас персанальнай выставы У. Крываблоцкага, якая адбылася ў 2007 г. у Палацы мастацтваў. У экспазіцыі гледачы маглі пазнаёміцца з манументальнымі творамі: фотаздымкамі аб'ектаў і эскізамі да вітража "Чалавек і прырода", мазаік на тарцах жылых дамоў у Брэсце і Салігорску, роспісаў "Дзеля жыцця на зямлі" музея Народнай славы г. п. Ушачы Віцебскай вобласці, Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, а таксама са шматлікімі жывапіснымі палотнамі, большасць з якіх выстаўлялася ўпершыню. Відавочна, што мастак адносіцца да станковай карціны як да складанага візуальнага аб'екта. У. Крываблоцкі карыстаецца такімі кампазіцыйнымі хадамі, рытмам, прасторай, змадэляванай святлом і ценем, дзякуючы якім найбольш шчыльна і выразна выяўляецца пластыка твараў, чалавечых цел. Водгукі магутнага "сезанаўскага" адлюстравання жыцця (Поль Сезан, па сутнасці, адкрыў трыумфальны ўваход у найноўшае мастацтва) адчуваюцца ў патаемнай глыбіні яго карцін. Пры ўсёй колеравай дэкаратыўнасці каларыстыка першаасновы палатна, асабліва ў рашэнні фону, валодае той суровай гушчынёй, моцным "гулам" цяжкіх чырванавата-барвовых, зеленавата-вохрыстых адценняў, якія звычайна будуюць "сезанаўскую" гаму. Менавіта гэтая агульнасць каранёвай сістэмы жывапісу У. Крываблоцкага з прынцыповымі кодамі трансеўрапейскай мастацкай культуры дае адчуванне сугучнасці яго творчасці з сусветнымі

*Звесткі пра аўтара змешчаны ў № 1.*

працэсамі. Стылістыка некаторых твораў выклікае асацыяцыі з працамі сімвалістаў. Аднак і тут устойлівая карцінная плоскасць ператварае яго жывапіс у самастойную каштоўнасць, незалежны мастацкі мікрасусвет, які жыве па ўласных мастацкіх законах.

З цягам часу храматызм работ мастака становіцца ўсё больш моцным і стрыманым, ён будуе каларыстычныя рашэнні палатна на рэзкіх, нават рызыкоўных спалучэннях нямногіх прыглушаных, але моцных, гатовых для выбуху колеравых плямах, часта выкарыстоўвае лакальныя плоскасці. Абрысы гэтых плоскасцей дакладна выверaны і прыўносяць у творы велічны, сканцэнтраваны і нават урачысты рытм. Мастак часам ставіць перад сабой складаныя каларыстычныя задачы. Прафесіяналы ведаюць, як цяжка згарманізаваць у палатне зялёныя адценні. У. Крываблоцкі робіць гэта віртуозна. Напрыклад, у карціне "Зялёны месяц", якая адрозніваецца сталым майстэрствам і завершанасцю: тут валадараць ізумрудна-попельныя і бірузовыя колеры, што ствараюць уражанне застылага маўклівага трыумфу, здзяйснення.

Работы мастака нават у рэпрадукцыях выглядаюць велічнымі – гэта сведчанне манументальнага, маштабнага кампазіцыйнага мыслення. Але і ў рэальнасці яны велізарныя па памерах, а ў экспазіцыйнай прасторы яшчэ больш візуальна павялічваюцца, аваладваюць позіркам, прыкоўваюць яго да сябе…

Ёсць у творчасці У. Крываблоцкага дзве важныя тэмы – Вялікая Айчынная вайна і чарнобыльская трагедыя. З гадамі ён усё больш адчувае трагізм рэальнасці, што не так лёгка разгледзець жывапісцу, які ўспрымае найперш прыгожы бок жыцця. Гэты трагізм выяўляецца не толькі ў сюжэтах (іх у мастака на дзіва нямнога, нават мастацкі прыём, аднойчы знойдзены, ён паўтарае і адпрацоўвае ў розных варыянтах шмат разоў), а ў пластычнай мове, якую Дзмітрый Меранкоўскі называў "рэчывам паэзіі". Тут ёсць апакаліптычны колеравы выбух, калі знаёмыя зеленавата-жамчужныя кобальтавыя плямы разарваны палымяна-багровымі водбліскамі нябачнага агню, жахлівага ў сваёй першабытнай моцы. Сюжэт палатна кожны расшыфроўвае па-свойму. Тыя, хто імкнецца ўбачыць у гэтых творах абыдзены матыў, прачытваюць жаночыя і мужчынскія вобразы; гледачам, надзеленым асацыятыўным мысленнем, можа ўявіцца сам Харон, які вядзе людзей у царства смерці; перад шукальнікам глабальных абагульненняў паўстануць сімвалы пачатку і заканчэння жыцця. Галоўнай застанецца плазма фарбавага слоя, якая ўнушае кожнаму гледачу высакародную трывогу, абуджае ўяўленне і адкрывае шлях у патаемныя глыбіні мастацтва.

Аднак пры гэтым не трэба прыпісваць мастаку залішнюю драматычнасць. Ён застаецца захавальнікам зямной радасці быцця. На многіх палотнах драматычная тэматыка саступае месца алегарычнасці, дзе ёсць прыгажосць жаночага цела, святочная яркасць пладоў з іх жыватворнай рэчавасцю, кветкі, візуальнасць пялёсткаў, разварот сцяблін. Усё гэта таксама натуральна існуе ў яго творчасці. Проста мастак ведае іншую старонку жыцця з яе памяццю пра непазбежны боль, зыход, і гэта надае яго аптымізму асаблівую, нейкую выпакутаваную значнасць.

Уладзімір Крываблоцкі, які пераступіў сваё пяцідзесяціпяцігоддзе, – майстар, які не імкнецца аблегчыць сабе жыццё. Ён кожны раз ставіць перад сабой новыя задачы, "выкладваецца" ў працы цалкам. Мастак знайшоў свой стыль, аднак ён не стаў яго пакорлівым даннікам. Ён пасезанаўску "рэалізоўвае свае ўяўленні". Складана сказаць, ці будзе ў творцы ў будучым змяняцца бачанне свету, выяўленне яго на палатне. Але, гледзячы на работы У. Крываблоцкага, можна дакладна зазначыць, што талент мастака, яго няўрымслівы характар шукальніка працягнуць яго творчы шлях.

*"Аднойчы заўважыў: колькі б ні рабіў варыянтаў адной і той жа працы, амаль заўсёды вяртаюся да першага накіда. Відаць, першы крык душы самы шчыры. У будучым мне хацелася б больш выкарыстоўваць выяўленчую, а не фармальную мову пластыкі. І ў манументальных роспісах, і ў станковых творах. Натхнення я сёння шукаю ў класічных узорах, там ёсць і граматная падача малюнка, і далікатны колер, закладзена глыбокая думка. Там прысутнічае дабро, выяўлена прыгажосць людзей і зямлі, на якой яны жывуць, прыгажосць прыроды. Нікому не навязваю сваё меркаванне, тым больш што і сам пэўны час з задавальненнем рабіў рытарычныя, дэкаратыўныя кампазіцыі. А сёння хачу рабіць чалавека пазнавальным, пісаць выразныя твары. Калі адбылася мая персанальная выстава, упершыню разгубіўся. Адчуў, што многія тэмы мною выказаны ўжо дастаткова глыбока і поўна. Напрыклад, тэма вайны. Дзе ж тады сёння мой шлях? Калі вярнуўся дадому, разгарнуў папкі з нязздзейсненымі накідамі. Там – кентаўры, зубры, што вязуць на спінах Вясну… Буянне колеру, эмацыянальны выбух, тады і падумалася – вось мой новы шлях…"*

*Падзея*

# *"У ІМЯ БУДУЧЫНІ, У ІМЯ ЖЫЦЦЯ"*

## ДЗЕНЬ БЕЛАРУСКАГА ПІСЬМЕНСТВА Ў ХОЙНІКАХ

"У якіх бы выпрабаваннях ні быў, я заўсёды любіў жыццё. Мне было як шчасце бачыць любое харраство жыцця: сіняе – звычайнае – неба, палі, лугі. Я адужваў усе цяжкасці ў імя будучыні, у імя жыцця", – гэтыя словы Івана Мележа сталі своеасаблівым эпіграфам да свята беларускага пісьменства, якое сёлета адбылося ў Хойніках. Летапісная гісторыя горада пачалася ў 1512 г., калі дзяк Кніцічаў запісаў, што прыкладна за 20 вёрстаў ад Брагіна, з трох бакоў акружанае балотамі і лясамі, размешчана мястэчка Хвойнічак.

Хойніччына – край, які мяжуе з адселенай і неадселенай тэрыторыямі Чарнобыльскай АЭС, але, нягледзячы на гэта, сучасныя Хойнікі – невялікі, прывабны сваёй простасцю і гасціннасцю горад, дзе размяшчаюцца гімназія, 4 сярэднія, спартыўная і музычная школы, дамы культуры, Дом рамёстваў, бібліятэкі, краязнаўчы музей. У горадзе працуе шэраг прамысловых прадпрыемстваў, прадукцыя якіх вядома не толькі ў нашай краіне, але і за яе межамі.

"Каб зразумець паэта, трэба наведаць яго краіну", – сказаў некалі Іаган Гётэ. Сімвалічна, што Дзень беларускага пісьменства пачаўся менавіта на малой радзіме народнага пісьменніка Беларусі Івана Мележа – у вёсцы Глінішча, дзе 4 верасня прайшло пасяджэнне круглага стала на тэму "Літаратура як сродак міжкультурнага дыялога" з удзелам замежных гасцей (у гэтым годзе свята наведалі творцы з 11 краін – Расіі, Украіны, Малдовы, Літвы, Польшчы, Чарнагорыі і інш.), а таксама навукова-практычная канферэнцыя "Хойніцкія чытанні". Тут жа быў закладзены сад на 20 гектараў – падарунак "бацькоўскай зямлі" Івана Мележа.

За сямнаццаць гадоў Дзень беларускага пісьменства стаў святам нацыянальнага маштабу, у аснову канцэпцыі яго пакладзена ідэя пераемнасці духоўных традыцый. Таму нездарма першай урачыстай падзеяй, якая адбылася 5 верасня, была Божая літургія ў саборы Праабражэння Гасподняга. Таксама Хойнікі сталі апошнім пунктам навукова-асветніцкай экспедыцыі з Благадатным агнём ад Труны Гасподняй "Дарога да святыняў", што пачалася ў Мінску 31 жніўня і менш як за тыдзень наведала святыя мясціны Міншчыны, Брэстчыны і Гомельшчыны.

Месцамі правядзення свята былі абраны плошча і гарадскі парк з сядзібным комплексам XIX ст. Відаць, у той дзень не было ніводнага жыхара, які не апынуўся б у эпіцэнтры свята. Дзяцей вабілі атракцыёны, кропкі продажу цацак і сувеніраў. Дарослыя захапляліся "Горадам майстроў", дзе былі шырока прадстаўлены вырабы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва Гомельшчыны. Побач – каля будынка краязнаўчага музея-сядзібы – прайшоў мастацкі пленэр: на вачах гасцей маладыя творцы працавалі над карцінамі на тэму "Хойніччына сучасная". А чароўны, напалову казачны кірмаш "Сельскія сядзібы" вабіў гасцей спакуслівымі пахамі палескіх прысмакаў і незвычайнымі ўказальнікамі. Гаспадыні з розных рэгіёнаў палескага краю не толькі праявілі свае кулінарныя здольнасці, але і наладзілі сапраўдную гастранамічную выставу з дэгустацыяй. *"Чалавеча, паспытай настоечкі сапраўднай, вазьмі блінчык са смакатой!"*, – толькі і чулася з розных бакоў. І вочы разбягаліся. Кожная гаспадыня спецыялізавалася на пэўных стравах: хтосьці прапаноўваў вэнджанае маладое парася, хтосьці – засмажанага шчупака, хтосьці частаваў блінамі з рознымі поліўкамі, хтосьці запрашаў да стала з гарбузовай кашай, клёцкамі, кісялямі, пірагамі… Здавалася, звычайная ежа, аднак смак – свой, адметны, палескі.

Калі ўваходзіш у парк ад цэнтральнай вуліцы горада, то праходзіш праз цудоўную белую браму ў стылі неакласіцызму. За ёй адбываўся традыцыйны фестываль кнігі і прэсы, на якім была прадстаўлена экспазіцыя "Кнігі Беларусі", разгарнуліся тэматычныя выставы, прэзентаваліся перыядычныя выданні краіны, новыя кнігі беларускіх выдавецтваў, праходзілі сустрэчы з пісьменнікамі, выдаўцамі, журналістамі. Усе гэтыя мерапрыемствы падмацоўвалі старт Рэспубліканскай акцыі "Чытаем па-беларуску", мэта якой – зацікавіць жыхароў краіны літаратурай на беларускай мове і павысіць ролю мастацкай кнігі ў культурным жыцці Беларусі.

Урачыстая цырымонія адкрыцця свята Дня беларускага пісьменства прайшла на сцэне, размешчанай на цэнтральнай плошчы. Там жа адбываліся выступленні мастацкіх калектываў Гомельскай вобласці. Яскравым і запамінальным атрымалася тэатралізаванае прадстаўленне паводле трылогіі Івана Мележа "Палеская хроніка", а таксама твораў беларускіх пісьменнікаў, літаратурная дзейнасць якіх прысвечана Палессю і яго жыхарам.

На сцэне летняга амфітэатра ў гарадскім парку адбылося ўзнагароджанне пераможцаў Нацыя-

нальнага конкурсу "Мастацтва кнігі" і Рэспубліканскага конкурсу на лепшыя творы ў галіне паэзіі, прозы, драматургіі, літаратурнай крытыкі, дзіцячай літаратуры. Гран-пры 50-га конкурсу "Мастацтва кнігі" атрымала выданне "Ніколі не забудзем", падрыхтаванае ў выдавецтве "Мастацкая літаратура". У намінацыі "Проза" дыпломам І ступені і статуэткай "Залаты Купідон" за кнігу "Палёт над зямлёй" узнагароджаны Аляксандр Сакалоў, а ў намінацыі "Паэзія" найлепшай стала кніга Рыгора Сакалоўскага "Афганскае рэха". Найлепшым дзіцячым выданнем 2009 г. прызнаны "Сонечны кошык" Міколы Чарняўскага, літаратуразнаўчым – "Сто асоб беларускай гісторыі" Анатоля Мяснікова. У намінацыі "Публіцыстыка" перамогу атрымаў Васіль Шырко, а самым вясёлым сатырыкам і гумарыстам журы конкурсу прызнала Міхася Сліву (Кавалёва) за кнігу "Віртуальнае каханне". Ірына Масляніцына з п'есай "Крыж Еўфрасінні Полацкай" перамагла ў намінацыі "Драматургія", а ў намінацыі "Песенны жанр" дыплом І ступені і статуэтка за цыкл песень "Словы прызнання" ўручаны Людміле Кебіч.

Не засталося без увагі і кінамастацтва: паказы беларускіх фільмаў прайшлі ў нядаўна адрамантаваным кінатэатры "Юбілейны".

Адкрыццё помнікаў у сталіцы Дня беларускага пісьменства – даўняя традыцыя. Не сталі выключэннем і Хойнікі. 5 верасня 2010 г. горад афіцыйна стаў уладальнікам скульптурнай кампазіцыі "Па старонках твораў Івана Мележа" работы Валерыя Кандрацэнкі. Героі "Палескай хронікі" – знакамітага мележаўскага твора – Ганна, Васіль, Хведзька і маці Васіля Алена, – адлітыя ў бронзе, будуць сустракаць тых, хто наведае гарадскі парк. Скульптура размешчана за пабудаваным у XIX – пачатку XX ст. сядзібным домам. Гэты комплекс атрымаў другое жыццё ў XXI ст. – у адрэстаўраваным будынку разгарнулася пастаянная экспазіцыя Хойніцкага краязнаўчага музея: першая зала расказвае пра гісторыю сядзібы Аўраамавых і іншых маёнткаў Хойніччыны, наступная прысвечана прыродзе, археалогіі і этнаграфіі краю, далей – зала Вялікай Айчыннай вайны, зала сучаснай гісторыі і зала прадукцыі прадпрыемстваў раёна. Другі паверх музея прапануе выязную экспазіцыю Гомельскага палацава-паркавага і Веткаўскага ансамбляў, музычную гасцёўню і карцінную галерэю. Падчас урачыстага адкрыцця сядзібнага дома тут жа, на другім паверсе, ганаровымі гасцямі свята была пагашана паштовая марка "Герб горада Хойнікі", уведзеная ў зварот Міністэрствам сувязі і інфарматызацыі і выдадзеная тыражом 45 тыс. экзэмпляраў. Дарэчы, пасля пераезду ў новы будынак плошча музея павялічылася больш як у тры разы і цяпер займае каля 1 тыс. *кв. м.*



**Скульптурная кампазіцыя "Па старонках твораў Івана Мележа" ў г. Хойнікі.**
Фота К. Лісецкага.

Фінальным акордам Дня беларускага пісьменства стала прэм'ера абноўленай версіі рок-оперы "Курган" па матывах аднайменнай паэмы Янкі Купалы, твора, які сёлета адзначыў стагадовы юбілей. У аснове музычнага спектакля – кантата Ігара Лучанка для хору, салістаў і сімфанічнага аркестра, напісаная каля 50 гадоў таму, і версія паэмы-легенды ансамбля "Песняры", удзельнікі якога звярталіся да яе ў 1980-я гг.

Па традыцыі сталіцамі Дня беларускага пісьменства становяцца гарады, з якімі звязана жыццё і творчасць славутых дзеячаў Беларусі розных часоў. На зыходзе першай восеньскай нядзелі Хойнікі і Гомельшчына развіталіся са святам і перадалі ганаровую эстафету Ганцавічам і Брэсцкай вобласці. Ганцаўшчына – радзіма знакамітага беларускага вучонага-этнографа і фалькларыста Аляксандра Сержпутоўскага, які жыў на хутары паблізу Пярэвалак. Недалёка, у Люсіне, на пачатку XX ст. настаўнічаў Якуб Колас…

Верым, наступнае свята Дня беларускага пісьменства таксама будзе насычана паэзіяй, музыкай і любоўю да роднага слова – "у імя будучыні, у імя жыцця".

**Ніна ВАНІЦКАЯ.**

|  |  |  |  |  |  |  |  |  |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
|  |  |  |  |  |  |  |  |  |
| Саюз, аб'яднанне |  | Доктар, урач |  | Пладовае дрэва |  |  |  |  |
|  |  |  |  |  |  |  |  |  |
| Частка бінокля |  | Спецыяліст па святле |  | Галоўны каталік |  |  |  |  |
|  |  |  |  |  |  |  |  |  |
| Духмянае рэчыва | Нахіл набок (судна, самалёта) |  |  |  |  | Член узброенай групоўкі |  | Вузкая, доўгая выемка |
|  |  |  | Гук удару аб бляху | Скос, закругленне на краі дошкі |  |  |  |  |
|  | Зала для адпачынку гледачоў |  |  |  | Шырокая праезная дарога |  | Прыбор, прыстасаванне |  |
|  |  |  |  |  |  |  | Прыгнёт, няволя |  |
|  | Аб'ектыўная рэальнасць, катэгорыя філасофіі |  | Лісты ў пераплёце; крыніца ведаў |  | Кругавы рух вады ў рацэ |  |  |  |
|  | Мадэль, папярэдні ўзор |  |  |  |  |  |  |  |
|  |  |  |  |  | Выканаўца смяротнага прысуду |  |  |  |

**Адказы**

Саюз, аб'яднанне: **альянс**. Доктар, урач: **лекар**. Пладовае дрэва: **яблыня**. *На малюнку:* **скрыпка**. Частка бінокля: **акуляр**. Спецыяліст па святле: **электрык**. Галоўны каталік: **папа**. Духмянае рэчыва: **фіміям**. Нахіл набок (судна, самалёта): **крэн**. Член узброенай групоўкі: **баявік**. Вузкая, доўгая выемка: **паз**. Гук удару аб бляху: **ляск**. Скос, закругленне на краі дошкі: **абза**. Зала для адпачынку гледачоў: **фае**. Шырокая праезная дарога: **тракт**. Прыбор, прыстасаванне: **апарат**. Прыгнёт, няволя: **іга**. Аб'ектыўная рэальнасць, катэгорыя філасофіі: **матэрыя**. Кругавы рух вады ў рацэ: **вір**. Мадэль, папярэдні ўзор: **макет**. Лісты ў пераплёце; крыніца ведаў: **кніга**. Выканаўца смяротнага прысуду: **кат**.

Склаў **Сяргей СІВЫ.**

Установа «Рэдакцыя часопіса "Роднае слова"». Заснавальнік – Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйны нумар часопіса 561.
220035, г. Мінск, пр. Пераможцаў, 47, кор. 1, пад'езд 2 (уваход з вул. Гвардзейскай, код на ўваходзе: 43 + званок).
Р/р № 3015702170012 у аддзяленні № 527 ААТ "Белінвестбанк" г. Мінска, код 739, УНН 190241571, ОКПО 37551965.

*Тэлефоны:* галоўнага рэдактара **(017) 203-35-17**, намесніка галоўнага рэдактара **(017) 203-24-69**,
рэдактараў і галоўнага бухгалтара **(017) 203-34-79**, адказнага сакратара і загадчыка прыёмнай **(017) 203-07-40**,
факс **(017) 203-07-40**.
E-mail: **rodnaje_slova@tut.by**
**www.rs.unibel.by**

Падп. да друку 09.09.2010. Фармат 60х84 1/8. Папера афсетная. Гарнітура "Minion Pro". Афсетны друк. Ум.-друк. арк. 11,02.
Ум.-фарб. адбіт. 12,07. Ул.-выд. арк. 13,2. Тыраж 3339 экз. Зак. 2280.
Надрукавана ў Рэспубліканскім унітарным прадпрыемстве «Выдавецтва "Беларускі Дом друку"».
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 79. ЛП 02330/0494179 ад 03.04.2009.